Бібліятэка Бацькаўшчыны

КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

*Людзі Беларусі*
КНІГА III

Рыгор Барадулін

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 11*

*2007–2014*

Смаленск
Інбелкульт
2022

УДК 821.161.3.09+929 Барадулін
ББК 83.3(4Беи)
Б24

Укладанне, прадмова, тэксталагічная падрыхтоўка і заўвагі
Наталлі Давыдзенка

Фота Яўгена Пясецкага, Сяргея Шапрана, Глеба Лабадзенкі,
Наталлі Давыдзенка, Алеся Пацёмкіна і з архіва Рыгора Барадуліна

*У тэксце захоўваюцца некаторыя асаблівасці аўтарскай мовы.*

Том выдадзены за асабістыя сродкі Наталлі Давыдзенка.

**Барадулін, Р.**
**Б24** Дзённікі і запісы. Выпуск 11. 2007–2014 / Рыгор Барадулін ; укл., прадм., Н. Давыдзенка. — Смаленск : Інбелкульт, 2020. — 328 с. [4] с. : іл. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі : кн. 3).
ISBN 978-5-00076-051-2.

Адзінаццаты том (выпуск) завяршае друкаванне «Дзённікаў і запісаў» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна, якія ён распачаў у далёкім 1951 г. Том дзённікавых запісаў дапоўнены самымі нечаканымі падборкамі, якія яскрава падсвечваюць разнастайнасць і шматбаковасць творчай спадчыны Паэта.

**УДК 821.161.3.09+929 Барадулін**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-5-00076-051-2**

## Ад укладальніка

*Адзінаццаты том «Дзённікаў і запісаў. 2007–2014» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна завяршыў шматгадовае выданне своеасаблівага летапісу асабістага і творчага жыцця, роздумаў і водгукаў паэта на бег часу. Распачаты па нейкім натхненні 1 верасня 1951 г. школьны дзённічак працягваўся да 19 студзеня 2014 г. — на працягу больш 62-х гадоў. Так, здараліся доўгія перапынкі, запоўненыя запісамі аб шматлікіх паездках, кароткімі рабочымі зацемкамі ў «Аднадзённіках», асобнымі эмацыйнымі запісамі ў незлічонай колькасці рабочых блакнотаў. Але, сабраныя разам, запісы гэтыя красамоўна дамалёўвалі і дапаўнялі «летапіс» жыцця паэта. А ў канцы 80-х гадоў мінулага XX ст. дзённікавыя запісы зрабіліся яму неабходнымі, як сталая размова чалавека з самім сабою…*

*Запісы апошніх сямі гадоў, на жаль, ужо больш скупыя і не вызначаюцца душэўным спакоем. Частыя хваробы, «галаваболь», трывогі і роспач адбіраюць жыццё паэта. Ён цярпліва змагаецца, як можа. «Як вярнуцца ў сябе, якому ўсё цікава, якому верыцца, што ўсё зменіцца ў лепшы бок. Якому здаецца, што ты патрэбны некаму й самому сабе. Якому радасна прачынацца?» І магчымасць жыць, адчуваць цяпло існавання ён бачыць толькі ў паэзіі, у слове: «Толькі й жыву, калі нешта пішацца. Ды яшчэ вушацкія, маміны словы лечаць… Калі перабіраю вушацкія словы, як бурштыновы ружанец, зноў жыву, зноў дома, зноў родныя й суседзі жывыя. Хай бы Звышні дазволіў мне ў спакоі дапісаць тое, што магу, што вінен…»*

*Ён радуецца сустрэчам і душэўнай цеплыні маладых сяброў — Алеся Камоцкага, Сяргея Шапрана, мастакоў майстэрні «Коўня», усім кантактам з выдаўцамі ягоных кніг. І ўсё больш цягнецца за родных Ушачаў. «Дажыць бы да вясны. Можа, у Вушачы крыху ачуняю». Бо самае галоўнае для паэта менавіта «Космас, сагрэты вуснамі вушацкіх людзей. Родны, блізкі й недасяжна высокі». І калі ўдаецца пабыць ў родным доме, цешыць душу самае звычайнае: «У нас цэлая жывая ферма пад хатай. Вожык з жонкай і дзіцяткам. Вуж. Пяць катоў, сінічка, вераб'і, сарока, дзяцел, які абстуквае яблыні. Душа ажывае». І чуйна ўслухоўваецца ў родныя з дзяцінства гукі: «Як нязвычна звыкла чуць пеўня, сабачы брэх, бачыць жывога каня з ягонымі жывымі клопатамі». Роднае слова лечыць душу: «Гаю боль словамі». Вось гэткая «вершатэрапія».*

*Нягледзячы на часта цяжкі стан здароўя, Рыгор Іванавіч шмат пісаў і перакладаў. Дарэчы, у склад дзённіка ўвайшлі амаль 270 вершаў і шчодра дараваных сябрам прысвячэнняў, якія не друкаваліся ў зборніках паэта, не лічачы тых, якія пазначаны толькі назвай. (Несупадзенне назваў вершаў у тэксце і зносках — не памылкі, а праўкі аўтара.)*

*Думаецца, няма на свеценіводнага творцы, які б не бедаваў, што вынікі працы не такія ўжо багатыя. Рупнасцю розных і горача адданых укладальнікаў і выдаўцоў за гэтыя гады пабачылі свет самыя разнастайныя і арыгінальныя выданні паэта. «Гуканне паэзіі Усходу: Пазыкі» і «Малітва ветру» (на японскай мове; 2007), «Дажыць да зялёнай травы... Ліставанне Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна. 1960–2003» і «Выбранае» (2008), «Выпаў грук ў грома з рук» (вершы для дзетак), «Паслаў бы табе душу...: Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай. 1954–1971», «Навошта: Вершасказы» (2009) і «Ксты» (выд. 3, 2009; выд. 4, 2013), «Перакуленае / Опрокинутое» (на рускай і беларускай мовах), «Халодная памяць вады» і рэпрынтнае выданне першага зборніка паэта «Маладзік над стэпам» (2010), «Вяльмуе Бог абраньнікаў сваіх»: Паклон пашаны Блаславёнаму Яну Паўлу ІІ», «Аніта» і «Толькі б яўрэі былі...: Кніга павагі і сяброўства» (2011) і «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным» (на аснове інтэрв'ю, запісаных С. Шапранам; 2012), «Воз вёз воз: Хуткамоўкі», «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна» і «Лепей: Рукапісы 1952–2013» (разам з наборам фотаздымкаў і кружэлкай; 2013).*

*Адзінаццаты том складаецца не толькі з дзённікавых запісаў. Узнікла вялікая патрэба і спакуса дапоўніць яго самымі разнастайнымі матэрыяламі, захаваць тое, што магло надоўга знікнуць у архіве творцы. Том дапоўнены падборкамі «Артыкулы і роздумы», «Адным словам» і «Здубавецця» — гарэзлівымі замалёўкамі аўтара «з натуры», напісанымі пазней аднайменнага зборніка 1996 г., а таксама падборка хуткамовак і вясёлая нізка «Вершаванак да гарэлачных налепак», замоўленых некалі паэту гаспадаром вядомага Музея старажытных рамёстваў Я. Будзінасам.*

*Цікавымі стануцца публікацыя кнігі ў кнізе «Ішоў я слядамі дажджоў...: Вершасказы» (сабраных па блакнотах аднасказаў, па ўзору ягонага зборніка «Навошта») і «Гісторыя «Concerto Grosso (Віяланчэль)» — задуманы, але не спраўджаны альбом графічных прац народнага мастака Беларусі Арлена Кашкурэвіча і вершаў да іх Рыгора Барадуліна, замоўленых мастаком. (Пасля нечаканага адыходу майстра ў іншы свет у жніўні 2013 г., выдаўцу І. Віркоўскаму, які пазней наважыўся выдаць задуманы альбом, знайсці дакладную падборку графічных работ у архіве мастака не ўдалося.)*

*За свой доўгі творчы шлях Рыгор Барадулін пераклаў на самым высокім узроўні столькі, што хапіла бы на вялікі шматтомнік. Таму нельга было не прадставіць хаця б невялічкую падборку перакладаў, якія раскіданы па розных выданнях ці так і засталіся ў блакнотах.*

*У свой час Рыгор Іванавіч спадзяваўся выдаць пераклады з О. Мандэльштама двухмоўнай кнігай, але задума не была ажыццёўлена, а падрыхтаваны тэкст «патануў» у залежах хатняга архіва паэта і быў знойдзены толькі ў 2020 г.*

*Асабліва хочацца звярнуць увагу на незвычайную падборку «Пястачкі». Слова гэтае быццам на будучае занатаваў сам аўтар. Пястачка — нешта драбнюткае, што бяруць трыма пальцамі, — дробачкі ці чуток каліва. У разбэрсаных завалах «творчых папер» залеглі асобныя лісткі, а то і выпадковыя абрыўкі паперак, а ў блакнотах запісаныя наспех і забытыя фразы, замалёўкі, параўнанні. Каб падборка была больш поўнай, падалося разумным паўтарыць асобныя запісы ранейшых гадоў, якія ўжо друкаваліся ў першых тамах дзённікаў, пазначаныя трыма зорачкамі.*

*У 2005 г. быў выдадзены ладны зборнічак песень «Сама пайду дарогаю, голас пушчу дуброваю…: Песьні матчыны з Вушаччыны», запісаных Рыгорам Іванавічам за мамаю і родзічкай Марыяй Рыгораўнай. Але па-за ім засталіся нявыкарыстаныя запісы, і даць ім згубіцца ў архіве было б недаравальна.*

*Завяршаюць (у «Дадатку») апошні том дзённікаў паэта абразкі ягонай дачкі Ілоны, вольнай мастачкі. У апошнія гады яна жыла ў Ізраілі і на сучасны лад занатоўвала ў інтэрнэце па-руску і па-беларуску тое, што ляжала на душы. Вядома, што толькі мастакі, якія валодаюць яшчэ і словам, здольныя словам маляваць. Дачка Паэта гэтым дарам, як бачна, валодала. Аднойчы Рыгор Іванавіч расказаў забаўны выпадак: у школе было дадзена заданне напісаць сачыненне «Мая любімая кніга». Ілона напісала, прыдумаў неіснуючых і аўтара, і аповесць, і атрымала добрую адзнаку. Настаўніца выдумку не распазнала… (Выбраныя абразкі друкуюцца з дазволу аўтара, дадзенага ўкладальніку тома ўвосень 2019 г.)*

*8 снежня 2019 г. Ілона Рыгораўна Барадуліна пакінула гэты свет. Рыгор Іванавіч усе гады сумаваў па маме, непакоіўся за дачку і чакаў сустрэчы з ёй. І ён, і ўсе мы, кожны з нас, спадзяемся на сустрэчу ў іншым жыцці з дарагімі нам, блізкімі людзьмі, стараючыся сумленна завяршыць на зямлі свае, наканаваныя нам, справы. Да будзе так…*

Наталля ДАВЫДЗЕНКА

## 2007

*1 студзеня, панядзелак*

Дзень добры, 2007! Будзь спагадлівы! Дазволь нешта зрабіць!

Абед у Чырвоным касцёле. Айцец Уладыслаў[1] — дар Звышняга нашай зямлі! Дзякуй яму! Дзякуй рупліўцы Але[2]!

*2 студзеня, аўторак*

Да Інсара[3]. Потым галаўны боль і радкі, каб страха не паехала: «Сваякі», «Зазімак»[4], «Жыць!»[5], «Дарма...: Гады маладыя...» [у дзённіку].

*3 студзеня, серада*

Да Інсара. І ўрачы таксама хворыя, што не могуць выказаць сябе.

*4 студзеня, чацвер*

Як утрымацца? [...]. Хаця б мог хадзіць, дык на паветры паздаравеў бы. Пра што б ні падумаў, блага робіцца. Рука не піша. «Паехалі»[6]. Толькі лёг, Ілонка[7]. Загнаная. Уся не ў сабе. [...]. Мне яе шкада. Яна мне баліць. З сябе мне не выскачыць. Толькі туды. [...].

*Трымаюць...*

На замок замыкае лёс
Кутыя з цярплівасці путы.
Сведчыў укрыжаваны Хрыстос:
На Зямлі нас трымаюць пакуты...

---

[1] Завальнюк Уладзіслаў Мацвеевіч (н. 1949), беларускі каталіцкі святар, душпастыр; гісторык, перакладчык, публіцыст, выдавец, культурна-грамадскі дзеяч. Доктар тэалогіі. Пробашч касцёла свсв. Сымона і Алены (з 1989).

[2] Сакалоўская Ала Станіславаўна (н. 1937), беларускі філолаг, выкладчык Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (МДЛУ). Кандыдат філалагічных навук (1967).

[3] Інсар Бэй, урач традыцыйнай кітайскай медыцыны.

[4] Гл.: Сваякі; «І сам, яшчэ напалову ў сне...» (2.01.07) // Барадулін Р. Халодная памяць вады. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2010. С. 429; 296.

[5] Гл: Жыць! (2.01.07) // Тамсама. С. 414. Верш прысвечаны Ф. Сокалавай. *Сокалава* Францішка (н. 1947), чэшская беларусістка, перакладчыца; доктар філалогіі.

[6] Гл.: Паехалі (4.01.07) // Барадулін Р. Выпаў грук у грома з рук. Мінск: «Радыёла-плюс», 2009. С. 46.

[7] Барадуліна Ілона Рыгораўна (1962–2019, Тэль-Авіў, Ізраіль), дачка; мастачка.

*5 студзеня, пятніца*

Ледзь адышоў ад сустрэчы з Іланай. А ўсё роўна канчаткова дрэнна.

*6 студзеня, субота*

Ніяк не могуць супакоіцца з Нобелеўскай прэміяй. Мазгі савецкія, а яне папракаюць, што былі вершы пра саўідалаў. Як той Патаранскі[1]. А ў Караткевіча[2], бачце, не было. Былі ў Валодзі «Лені[3] калыша дзяцей».

*7 студзеня, нядзеля*

Да Інсара. Прыходзіла Ілона з Косцем[4]. Каляды. […]. «Змаркочанае»[5].

*8 студзеня, панядзелак*

Да Інсара. А спачатку ў Лечкамісію, здаў кроў. Пазванілі — гемаглабін–80. Будуць гаспіталізаваць.

*9 студзеня, аўторак*

Да Інсара. Ён не раіць класціся ў Лечкамісію. Пятро раіць. Відаць, лягу.

*10 студзеня, серада*

У прыродзе нейкае вар'яцтва. Каб у студзені было 10 градусаў цяпла, якраз 10 студзеня. У галаве маёй так, як і на вуліцы. Ці гэта ужо канец?

*11 студзеня, чацвер*

Дзесяць дзён іголак скончыліся. Буду ўсё-ткі класціся ў Лечкамісію. […].

*12 студзеня, пятніца*

На тым тыдні выйдзе «Гуканне паэзіі Усходу». Дзякуй Але, айцу Уладыславу, а найперш святому Касцёлу, які паслаў мне збаўцаў. Бог быў заўсягды са мной. Мая святая Мама[6] даручыла мяне Усявышняму. Дзякуй, Мама! «Стараецца…»[7]

---

[1] Патаранскі Сяргей Сяргеевіч (н. 1976), беларускі пісьменнік, рэжысёр, перакладчык.

[2] Караткевіч Уладзімір Сямёнавіч (1930–1984), беларускі паэт, празаік, драматург, нарысіст, публіцыст, крытык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1983), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1984, пасмяротна).

[3] Ленін Уладзімір Ільіч (сапр. Ульянаў; 1870–1924), расійскі палітычны і дзяржаўны дзеяч, стваральнік Савецкай дзяржавы.

[4] Клімін Канстанцін Васільевіч (н. 1960), муж Ілоны.

[5] Гл.: Змаркочанае (7.01.07) // Халодная памяць вады. С. 246.

[6] Барадуліна Акуліна Андрэеўна (1909–1971).

[7] Гл.: «Рана…» (12.01.07) // Халодная памяць вады. С. 192.

*13 студзеня, субота*

Зноў святкуем Новы год, толькі ўжо стары. Запрасілі ў «Коўню»[1]. Не магу хадзіць далёка. Галаву ломіць. Ногі пачало ламіць. Сумна. Не ведаю, як буду ў бальніцы сябе пачуваць. Хочацца яшчэ шмат чаго зрабіць, а сілы мала, стамляюся, раздражняюся. Галоўны клопат Вушацкі слова-збор. «Мне светла...»[2]

*14 студзеня, нядзеля*

За што так пакараў мяне Бог? [...]. Патэлефанаваў светлай душы Міколу Аўрамчыку[3]. Яму сёння 87. Дай Бог яму моцы! «Перадзім'е»[4]. Госпадзе! Злітуйся. Не дай звар'яцець. Перад сном накруцілася: «Затое»[5].

*15 студзеня, панядзелак*

Толькі стаў прыходзіць у сябе, як пазваніла Ілона. Прэтэнзіі, плач. Усё са сваім [Косцем] не можа разабрацца. Даб'юць датэрмінова мяне.

*16 студзеня, аўторак*

У Лечкамісію залёг. Цяжка ляжаць, калі ўключаны тэлевізар. «Усё пра яго й трошкі пра надвор'е». Абалваньванне йдзе грунтоўнае.

*31 студзеня, серада*

«Пажадаецца...»[6]

*1 лютага, чацвер*

Па-ранейшаму ў Лечкамісіі. Зрэдчас заходзяць сябры. Часта Ала. Дзякуй ёй за клопат. Выйшла «Гуканне паэзіі Усходу»[7]. Дзякуй айцу Уладыславу, святому касцёлу, Але! Якая гэта радасць — трымаць у руках кнігу, пра якую марыў колькі гадоў!

*3 лютага, субота*

«Каб не мялела...»[8]

---

[1] «Коўня» — творчая суполка мастакоў (з 1991).

[2] Гл.: Мне светла... (13.01.07) // Халодная памяць вады. С. 70.

[3] Аўрамчык Мікола (Мікалай Якаўлевіч; 1920–2017), беларускі паэт. Заслужаны работнік культуры БССР (1980). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

[4] Гл.: Перадзім'е (14.01.07) // Халодная памяць вады. С. 426.

[5] Гл.: «Дарагія мясціны наведаць...» (14.01.07) // Тамсама. С. 350.

[6] Гл.: Пажадаецца... (31.01.07) // Тамсама. С. 314.

[7] Гуканне паэзіі Усходу. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2007. Пер. Р. Барадуліна.

[8] Гл.: Каб не мялела... (3.02.07) // Халодная памяць вады. С. 51.

*4 лютага, нядзеля*

«Пакуль...»[1]

*5 лютага, панядзелак*

Дома! Слабы, але нейкі ўпэўнены, што яшчэ нешта зраблю... Дзякуй Усявышняму!

*6 лютага, аўторак*

Ні дома, ні ў гасцях. Такое адчуванне, што развальваюся. Па частках.

*7 лютага, серада*

Выцягнуўся на вуліцу. Забраў 20 экз. «Гукання паэзіі Усходу». Дзякуй айцу Уладыславу і Але!

*8 лютага, чацвер*

Званіў Генадзь[2]. Усіх нас павыкідалі са школьных праграм. Затое [Чаргінца[3]] праходзяць у школе на курсе рускай літаратуры. 2 гадзіны, амаль як Пушкіна[4]. [...]. Самотна й сумна. Усё жыццё працаваў як мог, а спакою на схіле дзён не зарабіў. [...].

*9 лютага, пятніца*

Валянціну Тарасу[5] 77.

Наш неспакойны юбіляр!
Нічога для сябе не скнар.
Лі, каб лілося цераз край,
На свет праз шклянку пазірай.
Як дзед ты надта не стары,
Яшчэ трымайся дваццаць тры.
Твары, гары, ды не згарай —
У ямінах дарога ў рай.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Пакуль я збіраўся... (4.02.07) // Халодная памяць вады. С. 461.

[2] Бураўкін Генадзь Мікалаевіч (1936–2014), беларускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980).

[3] Чаргінец Мікалай Іванавіч (н. 1937), беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2002). Заслужаны работнік МУС СССР (1977).

[4] Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799–1837), рускі паэт.

[5] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930–2009), беларускі і рускі паэт, празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

*10 лютага, субота*

Да пана Вішнеўскага[1]. Маладзенькая мастачка з Полацка Кацярына Корабава. Мне ў школе дужа падабалася Зіна Корабава. Ёй напісаў верш «Світанняў я з табой не сустракаў…»[2]. Хадзіла ў школу з Цялічына. Цікава распавяла каталійка [?]. Вёска Дубовы Лог на Барысаўшчыне. Мужчыны раней былі ўсе праваслаўнымі, а жанчыны — каталічкі. Відаць, вёска была з аднакрэўнікаў. Каб не жаніліся аднакрэўнікі, каб род не зводзіўся.

*11 лютага, нядзеля*

Напісаў верш Яўгену Шатохіну[3] — цікаваму мастаку й чалавеку:

*Не забываецца…*

*Яўгену Шатохіну*
*на 25 лютага 2007 г.*

Парыж, як спарыш
Мастакоўскіх сноў,
Дзе з караня вышыня расце.
І на палях Елісейскіх палешуку
Бачыцца поле ў шаўку
Валачомістых туманоў
На прысталай вярсце.
Не забываецца ранне,
Дзе на сняданне
З гарачай жмені кацёл
Бульбу сопкую сыпаў
На голы, чысцюткі стол,
І бульбіны ў малечых руках
Дыміліся, быццам зоркі.
…Дасюль гэты Млечны Шлях
Ад першай слязы салёны,
Ад успаміну горкі,
Ад атавы расстання зялёны…

---

[1] Вішнеўскі Уладзімір Мікалаевіч (н. 1955), беларускі мастак-графік, кніжны ілюстратар, скульптар, педагог. З 1996 г. заг. кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

[2] Гл.: «Світанняў я з табой не сустракаў…» (1957) // Барадулін Р. Маладзік над стэпам. Мінск, 1959. С. 49.

[3] Шатохін Яўген Сяргеевіч (1947–2012), беларускі мастак, педагог, грамадскі дзеяч. Ганаровы грамадзянін г. Альберт (Францыя).

*12 лютага, панядзелак*

Як вярнуцца ў сябе, якому ўсё цікава, якому верыцца, што ўсё зменіцца ў лепшы бок. Якому здаецца, што ты патрэбны некаму й самому сабе. Якому радасна прачынацца? «Радасць»[1].

*13 лютага, аўторак*

Беспрабудны галаўны боль. У паветры вісіць нейкае чарноцце. «Свае»[2].

*14 лютага, серада*

Сёння 70 Міхасю Стральцову[3], самаму вытанчанаму, самаму інтэлігентнаму валадару слова. А як даўно яго няма тут. Хай там будзе яму зорна. Бо тут было болей пакутаў, чымся радасці.

*15 лютага, чацвер*

Не чую натуральнай роднай мовы ні на вуліцы, ні дома, хоць хатнія мову ведаюць. Расейская цісне. «Пачаў...»[4].

*Але Сакалоўскай*
*(на «Гуканні паэзіі Усходу»)*

Гэтай кнігі ты — суаўтарыца,
Ты над ею працавала дбала.
Дык дазволь перад табой схіліцца,
Адчуваю, маю слоў замала,
Каб табе аддзячыць, пані Ала.

*16 лютага, пятніца*

Беспрасвецце. Ці вытрымаю. А ў імя чаго?

*17 лютага, субота*

У майстэрню Сітніцы[5]. Сустрэча з доктарам Жмярко[6]. Кіпу лекаў даў. Жмярко распавёў вясёлы выпадак. У Расіі за 5 ці за 10 тысяч даляраў армянін купляе дыплом урача. Ён пытаецца: «А як жа працаваць будзеш?» Армянін адказвае: «А я ўрачом і не буду, я буду галоўным урачом».

---

[1] Гл.: Радасць (12.02.07) // Халодная памяць вады. С. 358.

[2] Гл.: Свае (13.02.07) // Халодная памяць вады. С. 421.

[3] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987), беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1988, пасмяротна).

[4] Гл.: Чужы... (14–15.02.07) // Халодная памяць вады. С. 209.

[5] Сітніца Рыгор Сымонавіч (н. 1958), беларускі графік, паэт. З 1983 г. выкладчык Беларускага каледжа мастацтваў. З 2007 г. намеснік, у 2013–2019 гг. старшыня Беларускага саюза мастакоў. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі ў галіне выяўленчага мастацтва (2018).

[6] Жмярко Яўген, беларускі ўрач-тэрапеўт і фітатэрапеўт.

*18 лютага, нядзеля*

[…]. Жыць не хочацца. Суровая яна, боская кара. Галава скіпаецца.

*19 лютага, панядзелак*

Уладзімер Сіўчыкаў[1] перадаў свежы том «Беларуская літаратура і свет». Гэта з'ява. А наогул, хачу памерці Рыгорам Барадуліным. Ці дазволіць Усявышні? Такая цемра навокала. Такая цемра на душы. Беспрагляднасць. Толькі ў сне, здаецца, і жывеш. За што мне такая боская кара? Нічога не змяніць. Нічога не з'іначыць. З Ілоны толку не будзе. А як выжыве Дамінічка[2]? «Шчырасць»[3]. «Дрэва цягнецца ўгору…» [у блакноце].

*20 лютага, аўторак*

Развітальны настрой. Як быццам я ўжо не тут.

*21 лютага, серада*

Званіў Генадзь Асташонак[4]. Хлопцы хочуць сабрацца ў «Коўні» 24-га. Дзякуй ім. Толькі ці буду я?

*24 лютага, субота*

Некалькі дзён мне здавалася, што я сплю, але сон нейкі незвычайны. Нават прыйшоў радок: «Мне снілася рэальнасць». Калі трохі прыйшоў у сябе, запытаўся: дзе я? Урачы адказалі — у рэанімацыі. Потым я па запісах Алы накрэсліў верш, які мне дні два як бы сніўся. Усё баяўся — прасснуся й забудуся. «Як па сухому»[5].

*18 сакавіка, нядзеля*

Адляжаў у лякарні. Сутыкнуўся з апорай [Лукашэнкі[6]]. Страшная гэта сіла, бо бязмозглая. Званіў Сёмуха[7]. Да яго не дазваніцца. Цікава ён недзе

---

[1] Сіўчыкаў Уладзімір Мікалаевіч (1958–2021), беларускі празаік, паэт, перакладчык, драматург, мастак, выдавец.

[2] Кліміна Дамініка Канстанцінаўна (н. 1989), унучка.

[3] Гл.: Шчырасць (15–19.02.07) // Халодная памяць вады. С. 400. Верш прысвечаны А. Сакалоўскай.

[4] Асташонак Генадзь Адамавіч (1955–2012), беларускі мастак-рэканструктар зброі.

[5] Гл.: Як па сухому… (24.02.07, рэанімацыя) // Барадулін р. Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2009. Выд. 3, дапоўненае. С. 168.

[6] Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч (н. 1954), беларускі дзяржаўны дзеяч. Прэзідэнт РБ (з 1994).

[7] Сёмуха Васіль Сяргеевіч (1936–2019), беларускі перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1992), Літаратурнай прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1996), узнагароджаны ордэнам Трох зорак (Латвія; 1998).

вычытаў, што паміраюць, адвярнуўшыся да сцяны. Прыйшлі радкі: «Дрэмле сон…»[1]

*19 сакавіка, панядзелак*

[…]. Усё беларускае нішчыцца.

*21 сакавіка, серада*

Каб зусім страха не паехала, пішу: «Недарэмна…», «Адказаць…»[2]. Трохі пахадзіў па вуліцы. Сцэнка. Шапік. Маладая дамачка купляе пачак цыгарэтак. Малы просіць: «Купі цукерку». Маці ў адказ: «Няма грошы…»

*22 сакавіка, чацвер*

*

Не голад і не пятля,
А зямля халодная
Вечна галодная.

*25 сакавіка, нядзеля*

Хадзіць не магу. Ні на які мітынг. Заўтра да ўрача. Галіна Сямёнава[3], якая вышыла мне кашулю: *«Няхай здароўе не перашкаджае Вам жыць!»* «Пярэстая бліскавіца»[4].

*26 сакавіка, панядзелак*

Сёння Звеставанне. Недзе бусел прыляцеў і пакружыўся над былой Верасовачкай[5]. [«Ахвярынка»[6]]. Прасвятлілі галаву — узроставыя адхіленні. Страшнага нічога няма.

*1 красавіка, нядзеля*

Не мог заснуць. Вярзлася муць: даганяю парсючка, а ён уцякае. Кажу, каб спыніць, што «ты антысаветчык». А парсючок кажа — «я савецкі» — і кладзецца на спіну. Я раструшчваю яго. «Дасюль…»[7] Ала і Сяргей[8] разгружаюць завалы ў кабінеце. Я на падхопе.

---

[1] Гл.: Дрэмле сон… (18.03.07) // Халодная памяць вады. С. 114.

[2] Гл.: Недарэмна…; «Перш чым тленам зрабіцца…» (21.03.07) // Тамсама. С. 37; 283.

[3] У кашулі, з захаванага вытканага мамай палатна, вышыванай Г. Сямёнавай, Рыгор Іванавіч і быў пахаваны, як і запавяшчаў (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[4] Гл.: Пярэстая бліскавіца (25.03.07) // Халодная памяць вады. С. 313.

[5] Верасоўка, радзінны хутар, на якім нарадзіўся паэт.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Раўнавазе трэба… (26.03.07) // Халодная памяць вады. С. 461.

[7] Гл.: Дасюль… (1.04.07) // Халодная памяць вады. С. 334.

[8] Шапран Сяргей Уладзіміравіч (н. 1968), беларускі філолаг, журналіст, даследчык літаратуры. Працаваў у газ. «Знамя юности», «Имя», «Белорусской деловой газете»,

*5 красавіка, чацвер*

Дзядзька пасвіць карову каля возера. Выйшла на траву. Пытаюся, чаму худая? Адказвае: «Яна цяжарная». Забыліся ўжо нармальныя словы. Цельная… Цяліцца. Гэта калі дама, як карова, яна раджае.

*19 красавіка, чацвер*

Прыйшоў верш, калі выйшаў на вуліцу: «Расце трава…»[1]

*22 красавіка, нядзеля*

Учора ў [санаторый] «Крыніцу». […].

*23 красавіка, панядзелак*

«Крыніца». Мне блага. […]. У мяне ўжо мала сілы.

*Цяжка…*

Цямнее неяк падазрона,
Журба наўколле акаляе.
На ўзлеску мокрая варона
Сама сябе перакрыўляе.
І цяжка выцыганіць мрою
У адсырэлага настрою.

*24 красавіка*

*27 красавіка, пятніца*

Сумна насмяшыла медсястра. Ветлівая, шустрая беларуска. «А Вы ўсе беларускія словы знаеце? Прывыклі. І дома па-беларуску размаўляеце? Цікавы наш беларускі язык».

«Даспадобы…»[2]].

*28 красавіка, субота*

Тут хутчэй захварэеш, а не паздаравееш. Скрозь расейшчына і наездная, і свая, люмпенізаваная. Пачаў ратавацца вершамі. «Шукае…», «Той…»[3].

---

«Новы час», час. «Дзеяслоў», «Абажур» і інш. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2011).

[1] Гл.: «Расце трава…» (19.04.07) // Халодная памяць вады. С. 298.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Нам даспадобы… (27.04.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 471.

[3] Гл.: Шукае… (28.04.07); Той… (27.04.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 434; 415.

*1 травеня, аўторак*

Раніцой зірнуў у вакно — усе дрэвы ў снезе, бялюткія. Днём прыязджаў Вал. Тарас. Распавёў, як ехаў з […] Скарынкіным[1]. Той пытаўся, чаму няма фота мяне з бацькам. Хай бы зірнуў у Збор твораў. Гэта намёк, што бацька габрэй, можа. А бацька мой напалову расеец, а напалову крывіч. Ды, урэшце, што гэта вызначае, што магу я пісаць? Проста хоць за пятку ўкусіць марацьі […].

*3 травеня, чацвер*

Прыйшоў верш: «Можаце…»[2]

*8 травеня, аўторак*

Жыву сярод электарату [Лукашэнкі]. Вусцішна. Ратуюся вершамі: «Непадуладны…», «Чорна-белы…»[3].

*11 травеня, пятніца*

Заўтра адзін дзень я ў «Крыніцы», а паслязаўтра пан Вішнеўскі забярэ мяне. Трохі падрамантавалі. Дабіла бравурнасць травеньскіх святаў. Бяздарны канцэрт глядзеў па тэле, каб слова беларускае. Хаця б тыя «Бярозы ды сосны»[4]. Партызан і не ўспомнілі. […].

Валтузня вакол Эстоніі. […].

*12 траўня, субота*

«Калі адчуеш…»[5]

*13 траўня, нядзеля*

Пан Вішнеўскі забраў мяне з «Крыніцы».

---

[1] Скарынкін Уладзімір Максімавіч (н. 1939), беларускі паэт, перакладчык.

[2] Гл.: Можаце… (3.05.07, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 373.

[3] Гл.: «Жыццё рыфмуе…» (6–8.05.07); Чорна-белы… (8.05.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 42; 433.

[4] «Лясная песня», муз. А. Алоўнікава, сл. А. Русака. *Алоўнікаў* Уладзімір Уладзіміравіч (1919–1996), беларускі кампазітар; педагог. Прафесар (1980). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1957). Народны артыст БССР (1970). *Русак* Адам Герасімавіч (1904–1987), беларускі паэт-песеннік, музыкант. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1964).

[5] Гл.: Як зразумееш… (12.05.07, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 252.

*15 траўня, аўторак*

Прыходзілі Абламейкі[1], айцец Андрусь і «свабодавец», Андрусь з сынам. «Вусціш»[2].

*18 траўня, пятніца*

З Алесем[3] да дактароў. Нічога суцешнага. Але жыць трэба. Хоць для сябе. Вакол ўсе чужыя. «Яшчэ далёка…»[4]

*19 траўня, субота*

Галава скіпаецца. Усё раздражняе. Перабіраю паперы. Можна нешто пра што напісаць. А для чаго? У дадатак рука не піша. «Шчырэць…»[5]

*23 траўня, серада*

Які ўжо дзень Беларусь — філіял Сахары. Мазгі плавяцца. А як падумаеш, што век дажываць жабраком, — тэмпература скача ўгору. «Гузікі» [накід]. Толькі й жыву, калі нешта пішацца. Ды яшчэ вушацкія, маміны словы лечаць. Такі вушацкі *шчыраслоў.*

*25 траўня, пятніца*

Аддаў Дубоўскаму[6] пераклад паэмы Дарагастайскага[7]. З ім у «Коўню» да хлопцаў. Хоча душой адпачыць. […]. Дарабіў верш: «Гузікі»[8]. Распавядаў адзін з «коўнаўцаў». Новыя калхознікі нешта заказваюць мастацкае. Ім кажуць цану. Яны: «Я за гэтыя грошы 4 самазвалы шчэбеня куплю».

---

[1] Абламейка Андрэй Паўлавіч (н. 1970), святар грэка-каталіцкай царквы. У 1998–2009 гг. пробашч парафіі св. Язэпа ў Мінску, пратапрасвітэр Цэнтральна-Заходняга дэканату Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Абламейка Сяргей Паўлавіч (н. 1962), беларускі журналіст, эсэіст. Доктар гістарычных навук. З 1995 г. жыве ў Празе, карэспандэнт Радыё «Свабода».

[2] Гл.: Вусціш (13.05.07) // Халодная памяць вады. С. 345.

[3] Камоцкі Алесь (Аляксандр Ерамеевіч; н. 1958), беларускі паэт, бард.

[4] Гл.: Яшчэ ляцець… (18.05.07) // Халодная памяць вады. С. 255.

[5] Гл.: Шчырэць… (18–19.05.07) // Тамсама. С. 73. У дзённіку верш прысвечаны «Айцу Аляксандру Надсану са светлай нагоды». *Надсан* Аляксандр (сапр. Бочка; 1926–2015), уніяцкі святар, рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч беларускага замежжа. Магістр тэалогіі. Дырэктар Беларускай бібліятэкі і Музея імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ураджэнец Беларусі.

[6] Дубоўскі Валерый Леанідавіч (н. 1948), беларускі паэт, выдавец. З 1995 г. заснавальнік, кіраўнік, гал. рэдактар, старшыня схода акцыянераў выдавецтва і друкарні «Юніпак».

[7] Дарагастайскі Крыштаф Мікалай (1562–1615), граф, вялікалітоўскі дзяржаўны дзеяч, вялікі маршал літоўскі. Доктар медыцыны.. Гл.: Дарагастайскі К.-М. Гіпіка, альбо Кніга пра коней. Мінск: «Юніпак», 2007. Пер. з пол. С. Ішчанка, пер. паэмы «Лямант Маці Рэчы Паспалітай пасля раз'езду з бязладнай элекцыі (1587)» Р. Барадуліна. *Ішчанка* Святлана, беларуская журналістка, рэдактар гісторыка-краязнаўчага аддзела газ. «Культура».

[8] Гл.: Гузікі (23–25.05.07) // Халодная памяць вады. С. 48.

*26 траўня, субота*

Плавяцца мазгі, якіх і так не багата засталося. Мне цяжка.

*27 траўня, нядзеля*

Забягаўся Алесь Камоцкі. У яго 5 чэрвеня аўтарскі вечар. Як дасць Бог здароўе, абавязкова пайду. «Цяжка…», «Да партрэта навальніцы»[1]. «Натхнёнец: Натхнёнца слухаюцца гукі…» [А. Камоцкаму; у дзённіку].

*28 траўня, панядзелак*

Як улез у стагі для Вушацкага словазбору, так цэлы дзень і праседзеў. Век бы не вылязаў. Гэта мяне ратуе ад усяго, ад думак пра безвыходнасць і жабрацтва, ад думак пра сям'ю […]. «Як быццам проста…»[2]

Калі перабіраю вушацкія словы, як бурштыновы ружанец, зноў жыву, зноў дома, зноў родныя й суседзі жывыя. Хай бы Звышні дазволіў мне ў спакоі дапісаць тое, што магу, што вінен […]. «Без»[3].

*Усходні матыў*
*(Ёсць варыянт)*

Пагаманіць сышліся дрэвы ў сад.
І за гаворкай іх зіма застала…

Знайшоў у накідах верш. Трохі прыскроб:

*Галасы слядоў*

Мох непрымусова расце.
Быццам дратвою
Прашываюць валёнкі.
На верасовай вярсце
Цішу кранае лямант сойкі.

Мох пад расою расце.
А пад туманам,
Як паганскі святар пад расаю,
Баравік у сваёй таўстаце
Перад сном
Думае пра нешта ласае.

Галасы слядоў
Глухнуць у мосе.

---

[1] Гл.: Цяжка…; Да партрэта навальніцы (27.05.07) // Халодная памяць вады. С. 342; 318.
[2] Гл.: «Закон жыцця…» (28.05.07) // Тамсама. С. 281.
[3] Гл.: Без (28.05.07) // Тамсама. С. 338.

Радуюцца дзікі:
«Хоць жалудоў наямося…»

*29 траўня, аўторак*

Нешта пайшлі радкі. «Як быццам проста…» Заблыталася галава, перапісваю адны й тыя ж радкі.

*31 траўня, чацвер*

У Лечкамісію. Аналіз крыві і даведку, што я хворы, каб здаць білет на Рым. Мяне хацелі выправіць у Рым. Але куды пры такой спёцы і здароўі.

Якая містыка! У маёй мамы і Алеся Камоцкага дзень нараджэння 9 чэрвеня, а ў Алесевай мамы й мяне–24 лютага. У мамы ўсё-ткі 10!

*1 чэрвеня, пятніца*

У БНФ выстава з Бычкоўскага плэнэру. Шмат цікавых працаў. Невялікі вечар. А наогул, усе гэтыя плэнэры М. усёй сям'ёй робіць […]. Буклеты я мусіў купляць. На развітанне адзін падарыў як вялікую ласку. Хоць на выданне буклета давала грошы амерыканская беларуска. А плэнэры — М. доіць шчырую Аду Райчонак[1]. Адраджэнцы ці адрачэнцы ад сумлення?

*2 чэрвеня, субота*

Ляжаў калодай. Адчуванне, што зараз мазгі не вытрымаюць галаўнога болю й некуды паедуць. […]. І раптам паплыло. На стале васількі. «Васільковае», «Аж пакуль…», «І следам…»[2].

*4 чэрвеня, панядзелак*

З раніцы ў Лечкамісію. Афармляць 2-ю групу інваліднасці. Адскакаў Рыгорка. А беларусы ў Беларусі яшчэ ёсць. Неўрапатолаг маладога веку на чысцюткай мове крывіцкай гаворыць. Гародка[3] Руслан, Людвігаў сын. Чытае нашу прэсу. У курсе літпадзей. А наогул, на душы, як у нас казалі, хоць га.но сушы. Адчуў вакол сябе паветра. Няма дзе зарабіць. А на пенсію не разгонішся. Дамінічка бездапаможная, Ілона не думае пра жыццё. […]. На ўсіх і злосць, і шкада ўсіх. Прывык працаваць і нешта мець у перспектыве. Галава не вытрымлівае. Толькі як нешта крэмзаю, забываюся

---

[1] Райчонак Ада Эльеўна (н. 1937), беларуская грамадская дзячка, настаўніца; заснавальніца Музея Я. Драздовіча (1995) і Музея М. Райчонка (яе сына; 2005). Лаўрэат прэміі імя В. Быкава «За свабоду думкі» «Руху за Свабоду» (2010).

[2] Гл.: Васільковае; «Мінулае…»; Следам… (2.06.07) // Халодная памяць вады. С. 428; 50; 242.

[3] Гародка Руслан Людвігавіч, урач-неўролаг.

на ўсё і адчуваю сябе чалавекам яшчэ жывым, хоць сябе самому патрэбным. Старэць і хварэць, хварэць і старэць — сумная непазбежнасць.

*5 чэрвеня, аўторак*

Канцэрт Алеся Камоцкага. Шчыры, беларускі. Людзей было, успрымалі й прымалі добра. Не даюць беларускамоўную абсягу. Заціснутыя беларускія спевакі й мастакі. Маскалізацыя.

*6 чэрвеня, серада*

Праўлю паэму ксяндза. Цяжка. Галава цяжкая. Але паплыло: «Вынік»[1] [1-я страфа].

*7 чэрвеня, чацвер*

Патроху выпісваю словы для Вушацкага словазбору. Колькі забылася, калькі пайшло назад, адкуль прыйшло! Як класічна гучыць *цьмер* — гэта значыць цемра. А *напіцца да зялёных мятлікаў.* Даюць абнову й жадаюць: *насі і Бога прасі!* Космас, сагрэты вуснамі вушацкіх людзей. Родны, блізкі й недасяжна высокі. І прабіўся верш: «І я там…»

*І я там…*
*[Пашыраны тэкст]*

Чым далей,
Тым смялей уцякае дарога.
Адчуваю, што я ўжо
Не йду, а вяду
Ператомленага сябе самога.

Прапануе развага
Прыцішыць хаду.
Памаўчаць
Ля пакрыўджанага парога,
Што чакае і помніць
Мяне маладога,
Адагнаўшы гады
У бяду-лебяду.

А на лузе ўспамінаў
Зялёнастога
Смутак дрэмле.
І я там прытулак знайду.

---

[1] Гл.: І я там… (6.06.07) // Халодная памяць вады. С. 244.

Не ўсё ж сумнаватыя вершы пісаць. Знайшоў у паперах і весялейшае[1]. А гэта ўжо іншае[2].

*9 чэрвеня, субота*

А час, як спрактыкаваны злодзей, не заўважыш, калі ён прайшоў. Сёння Алесю Камоцкаму — 49. «Алесь! Вы наш залаты запас» [у дзённіку].

*10 чэрвеня, нядзеля*

Сёння Маме 98. А даўно няма на зямлі. А са мной яна заўсёды. Усім абавязаны Маме. Вінаваты перад Мамай.

*12 чэрвеня, аўторак*

Заўтра ехаць у Вушачу. І хочацца, і страшнавата. Блага мне. «Адпаведна»[3].

*13 чэрвеня, серада*

*Вушача!* Усё роднае, але ўжо халоднае. Бо Мамы няма. І суседзяў таксама. Уночы выйшаў у сад. Здаецца, і не ад'язджаўся нікуды. Во, зараз пачую мамін голас. Навошта ад'язджаў? Што набыў, акрамя хвароб? Усіх згубіў, хто душы родны. Раніцай недзе адна курыца закудактала. Паехалі ў Ваўчо да Валі Быкавай[4]. Яна ў лякарні ў Наваполацку. Да яе. Назвы вёсак у памяці ўсплываюць, пра іх казала і мама, і бабуля Малання[5]. Усё сваё. Нават сосны як радня. Няхай сабе і далёкая. Заехаліся на паклон да Сафійкі. «Даганяючы вякі»[6].

*17 чэрвеня, нядзеля*

[Мінск.] Утульная вечарына Алеся ў кавярні ягонага сябра.

*Экспромт*

Спытаў аднойчы Зеўс —
Аддаць ён мусіць моц каму?
І летуценная паненка муза,
Якая марна выбірала мужа,
Сказала: — Толькі мудраму
Камоцкаму!

---

[1] Гл.: За вамі… (Аптымістычнае) (13.05.99) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 9. 1998–2002. Смаленск: «Інбелкульт», 2021. С. 160.
[2] Гл.: Снілася… (20.07.01, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 344.
[3] Гл.: Адпаведна (10.06.07) // Тамсама. С. 31.
[4] Быкава Валянціна Уладзіміраўна (1926–2016), сястра В. Быкава.
[5] Гайко Малання Несцераўна (1887–1947), бабуля па маці.
[6] Гл.: Даганяючы вякі (15.06.07) // Халодная памяць вады. С. 202.

*19 чэрвеня, аўторак*

Дзень нараджэння Васіля Быкава[1]. Не змог пайсці на клады. Ледзь хаджу. Галава, як трэснуты звон. Як у нас казалі: прыйшлі канцы к гародам.

*20 чэрвеня, серада*

Не магу прыйсці ў сябе. За ўсё жыццё не зарабіў спакою. Хворы. Знерваваны. Непатрэбны. Трохі адыйшоў ад сябе, разбіраючы словы для Вушацкага словазбору. Яшчэ ад Мамы запісаныя. Як супакоіцца? Нешта прыйшло:

*Незабытае*

*(N.)*

Каханая —
Радасць, небам пасланая,
Абражаная зямлёю.
Каханая —
Кніга недачытаная,
Украдзеная імглою.

Каханая —
Раніца дачаканая,
Якая ўцякла ад ночы.
Каханая —
Рэха недагуканае.
Што хоча пачуцца
Аднойчы…

*21 чэрвеня, чацвер*

Шалёны боль. Роспач. Няўжо гэта штодня будуць магнітныя буры? Прыйшлі радкі: «На вуліцы…»[2] Грэюць душу вушацкія словы, яшчэ ад мамы запісаныя. Як з мамаю гавару. Чую яе. Толькі гэтая праца й ратуе. А так — хоць у вір галавой. «Вясціны»[3].

*22 чэрвеня, пятніца*

Сёння чарговая сумная гадавіна. Адышоў Васіль. З ім адышла цэлая эпоха.

---

[1] Быкаў Васіль Уладзіміравіч (1924–2003), беларускі пісьменнік, палітычны і грамадскі дзеяч. Народны пісьменнік БССР (1980). Герой Сацыялістычнай Працы (1984). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміі СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1978), Ленінскай прэміі (1986).

[2] Гл.: Сустрэліся… (21.06.07) // Халодная памяць вады. С. 326.

[3] Гл.: Вясціны (21.06.07) // Тамсама. С. 142.

*23 чэрвеня, субота*

Хадзіў забіраць акуляры. Менск чужы яшчэ больш зрабіўся. І я чужы яму. Узаемна. Данішчаюць рэшткі неданішчанай камуністамі даўніны. Чужая мова, чужыя твары новых калхознікаў. Жыву ў Вушачы, якая жыве ўва мне.

«Крэўнае», «Зялёна…»[1].

*27 чэрвеня, серада*

Днямі забягаўся Бартосік[2]. Аддаў яму пераклады з Высоцкага[3]. Трэба яму Вярцінскага[4].

«Нанізаць…», «Іду…»[5].

*28 чэрвеня, чацвер*

Прачнуўся з радкамі: «Жыццё з такімі хітрымі вачыма…»[6]

*30 чэрвеня, субота*

Апошні дзень месяца хвароб, трывог, роспачы. Трошкі адрываюся ад усяго гэтага, калі нешта пішу, перакладаю, выпісваю словы для Вушацкага словазбору. А так — хоць у вір галавой. Усё йдзе на спад. Здароўя няма. Зарабіць няма дзе. З Ілонай толку няма. Дамініка расце, усё трэба, а дзе ўзяць? Для Бартосіка пераклаў тры песні Вярцінскага. Дзікавата на сённяшні дзень гучаць. Напісаўся верш: «Лічыцца»[7].

*1 ліпеня, нядзеля*

Пачаўся месяц традыцыйна галаўным болем. І ён не галоўны. Баліць душа па ўсіх маіх, па ўсім крывіцкім, якое нішчыцца. Застаўся сам з сабой, як воўк. Толькі на поўню выць застаецца. Адна суцеха — раніцай пад ваакном шчабеча сарока. Траскоча й траскоча.

---

[1] Гл.: Крэўнае; Зялёна… (23.06.07) [Халодная памяць вады. С. 132; 245.

[2] Бартосік Зміцер Валер’евіч (н. 1968), беларускі бард, пісьменнік. Лаўрэат прэміі імя Е. Гедройца (2017), Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2017).

[3] Высоцкі Уладзімір Сямёнавіч (1938–1980), рускі паэт, празаік, бард, сцэнарыст, актор тэатра і кіно. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987, пасмяротна). Пераклад песень «Белая бязмоўнасць», «Шторм», «Райскія яблыкі».

[4] Вярцінскі Аляксандр Мікалаевіч (1889–1957), рускі артыст эстрады. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1951). Пераклад песень «Над морам ружовым…» (сл. Г. Іванова), «Жоўты анёл», «За кулісамі» (муз. і сл. А. Вярцінскага). *Іваноў* Георгій Уладзіміравіч (1894–1958, Францыя), рускі паэт, празаік, мемуарыст, перакладчык, крытык.

[5] Гл.: Нанізаць…; Іду (27.06.07) // Халодная памяць вады. С. 137; 207.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Жыццё… (28.06.07) // Тамсама. С. 455.

[7] Гл.: «Не трызнячы…» (30.06.07) // Тамсама. С. 349.

*2 ліпеня, панядзелак*

Ратуюся, выпісваючы словы для Вушацкага словазбору. «Маміна слова»[1].

*4 ліпеня, серада*

Прагледзеў «Дзеяслоў» новы. Някляеў[2] пра Купалу[3] — цуда. А так хлопцы да маразму даходзяць. Сцяпан[4] дапісаўся, што пасля Багдановіча[5], Сыса[6] і Г. нікога з маладых не бачыць. Хадзіў у парк. І да мяне прыйшлі радкі: «Дзень — імяніны Сонца…» [у дзённіку]. «Не маючы…»[7]

*5 ліпеня, чацвер*

Сёння Дамініцы 18. […]. Па дарозе з Лечкамісіі прыйшло слова *электронутый*. Гэта пра сучасную моладзь. Прыходзілі Алесь з Маяй[8]. Пасядзелі. Папілі зялёнае гарбаты. Дамінічка ваўчыцца. Прыйшлі радкі: «SOS»[9].

*7 ліпеня, субота*

Дождж. Золь. Адпаведна й на душы. «Хто?»[10], «Чарга»[11].

*8 ліпеня, нядзеля*

Званіў Алесю. Ён быў у мастакоў. Шмат моладзі робіць наколкі. І якія! […] Пагоня! Падспудна рака цячэ. Рана ці позна прарвецца з-пад крыг!

---

[1] Гл.: Маміна слова (2.07.07) // Халодная памяць вады. С. 188.

[2] Някляеў Уладзімір Пракопавіч (н. 1946), беларускі паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1979), Дзяржаўнай прэміі РБ імя Я. Купалы (1998), прэміі імя Е. Гедройца (2013), Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2014), прэміі імя Н. Арсенневай (2017). Намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

[3] Купала Янка (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч; 1882–1942), беларускі паэт, драматург, публіцыст. Народны паэт БССР (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941).

[4] Сцяпан Уладзімір (сапр. Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч; н. 1958), беларускі пісьменнік, кінасцэнарыст, журналіст, мастак.

[5] Багдановіч Максім Адамавіч (1891–1917), беларускі паэт, перакладчык, крытык, літаратуразнавец.

[6] Сыс Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.

[7] Гл.: Не маючы… (4.07.07) // Халодная памяць вады. С. 55.

[8] Камоцкі Алесь і Грыбоўская Мая Ціханаўна (н. 1964; урач-стаматолаг), хросныя бацькі Дамінікі.

[9] Гл.: SOS (5.07.07) // Халодная памяць вады. С. 57.

[10] Гл.: Хто? (7.07.07) // Выпаў грук у грома з рук. С. 66.

[11] Гл.: Лічыць… (7.07.07) // Халодная памяць вады. С. 240.

*Дзе яна?*

Дзе яна,
Што да скону дзён
Будзе любай, шалёна адзінай?
Пасміхаецца кепліва кон,
Пал умомант халодзіць ільдзінай,
Што з ракі забыцця сплыла,
З той, што плача ў рукаў спакою.
Да адзінай, як да святла.
… Паўтарыцца лягчэй трапяткою…

*Дзякуй жыццю…*

Я не чакаю тваёй пахвалы,
Проста табой невылечна хворы.
Я без цябе, як лук без стралы.
Я без цябе, як гук без прасторы.

Дзякуй жыццю,
Што была, што ёсць,
Дзякуй, што будзеш са мною.
Кожны ў краіне кахання госць,
Шчыра прыняты маною.
Вызваліцца не спрабую з ярма,
З ласкай журбу дакараю.
Мне без цябе на волі турма —
Ад небакраю да небакраю.

*9 ліпеня, панядзелак*

У Лечкамісію па лекі да Гародкі. Добра, што паспеў, ён у адпачынак збіраецца. Хадзіць мне цяжка. Сёння дзень народзінаў Валі[1]. Нічога талковага купіць не магу. Купіў глінянага зайчыка. […]. Для касцёла пісаў: «Хвала пчале»[2].

*

Хоць вязне з пахвале,
Як у смале,
Але так слухаць хочацца.
Але…

[1] Барадуліна Валянціна Міхайлаўна (н. 1939), жонка. Хатняя мянушка Заяц.
[2] Гл.: Хвала пчале (9.07.07) // Халодная памяць вады. С. 84.

*10 ліпеня, аўторак*

Адмовіўся ад аперацыі. Як выжыць ад гэтага болю галавы? «Чым?»[1]

*Прагнецца…*

Дачушка — галінка кволая
Прагне́цца
І ад сняжынкі лёткай,
Якую пашле людская завея.
А сэрцу пра́гнецца
Лютага полымя,
Якое надзеяй грэе.
…Але яно далёка…

*Рой мрой*

Сны сасны.
Разлука лука.
Нямечча меча.
Рухі скрухі.
Воз вос.
Трайніцы крыніцы.
Ластаўка ля стаўка.
Завушніцы бліскавіцы.
Прамень правей.
Лявее ля веі…

*13 ліпеня, пятніца*

Як нешта пішу, забываюся на ўсё, што наўкол. А наогул, адчуваю марнасць свайго клопату. Амерыканізацыя. «Каралева пчолаў»[2]. Пайшоў пад дождж з хатняга антыраю (наверсе яшчэ новы калхознік усё рушыць, каб шык зрабіць). Цікавы чалавек, хоча захапіць як болей прасторы. А ў выніку — паўтара метра. Зямля схалодзіць гарачы лоб. «Пад парасонам», «Пачынаем…»[3].

*14 ліпеня, субота*

Няпэўнасць. Роспач. Ніколі не думаў, што так прывязаны я да ўсяго высокага й дробязнага. Самая сэнсавая рыфма *пакуты — прыкуты*. Не з гэтага я часу. А мой час там, дзе яго ўжо няма. Я добраахвотны раб крывіцкасці ва ўсім. А дзе яна, крывіцкасць? Дзе крывіцкая мова? Глуха! «Пытанне»[4].

---

[1] Гл.: Чым? (10.07.07) // Выпаў грук у грома з рук. С. 67.
[2] Гл.: «Светлая апякунка раёў…» (13.07.07) // Халодная памяць вады. С. 85.
[3] Гл.: Пад парасонам; «Пры няпрошанай ростані…» (13.07.07) // Тамсама. С. 359; 282.
[4] Гл.: Пытанне (14.07.07) // Тамсама. С. 249.

*17 ліпеня, аўторак*

Ратуюся толькі словазборам вушацкім. Як дамоў вяртаюся да мамы, да сваіх. «Як сляза…», «Куды?..»[1].

*18 ліпеня, серада*

Сёння Ілоне — 45. Забягалася. Недагледжаная. Галодная. Згубленая. Як хапіла сэрца — дасюль не магу адысці. Даменіка хаміць, дзеўчыцца. А ў мяне няма чым яе гадаваць. Як бы ўтрымацца, каб скончыць Вушацкі словазбор. […]. Божа, за што мне ўсё гэта? «Не кожнаму…»[2]

*20 ліпеня, пятніца*

Шалёныя прыступы галаўнога болю. Ратуюся вушацкімі словамі. Як быццам гутару з мамай, з Марушкай[3]. Яшчэ радкі ў галаву лезуць:

* * *

Ранішнія каханыя,
Як аблачынкі закалыханыя,
Адплываюць далёка.
І ўжо не хапае вока
Ахапіць хаця б успамінам.
А вырай журбы
Жураўліным клінам
Ляціць высока.

«Сны сасны»[4], «Стомлены», «Краявід з Рысікам»[5].

* * *

І крыўды ў зааблоччы,
Як сцежкі, размінуцца.
Адны і тыя ж вочы
І плачуць, і смяюцца.

Адны і тыя ж рукі
Люляюць і страляюць.
Адны і тыя ж мукі
І прэчаць, і трымаюць.

---

[1] Гл.: Як сляза…; Куды?.. (17.07.07) // Халодная памяць вады. С. 353; 239.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Не кожнаму… (18.07.07) // Тамсама. С. 478.

[3] Трафімава Марыя Рыгораўна (1902–1997), стрыечная сястра па бацьку.

[4] Гл.: Сны сасны (20.07.07) // У неба пехатою: Апошнія вершы. Мінск: «Медыял», 2014. С. 100.

[5] Гл.: Стомлены; Краявід з Рысікам (20.07.07) // Халодная памяць вады. С. 344; 331.

І сны сасны аднойчы
З ракі вясны нап’юцца.
Дзень уцячэ ад ночы
Аднойчы[1].

*22 ліпеня, нядзеля*

Зноў Вушацкі словазбор. І радкі: «А ўсё-ткі…»[2]

*23 ліпеня, панядзелак*

У касцёл. З пчалярамі. Які шчыры і наіўны айцец Уладзіслаў! А ўсе наўкол дураць яго.

«Ці шмат…»[3]

*28 ліпеня, субота*

*[Ушачы.]* Прывёз пан Юры з касцёла. Гарод зарос. На яблынях каб яблык які. Душа не на месцы. Зноў, калі ехалі, як у сне, гучалі радкамі нябеснай паэмы назвы вёсак і рэк. Гучалі яны маміным голасам.

*30 ліпеня, панядзелак*

Пад вечар дождж спорны. А на падваконні верабейка схаваўся ад дажджу. Калі хадзіў на пошту, каб уключылі тэлефон, заўважыў, што бальшына гародаў засеена травой. Каб ляха якая, каб баразна бульбы. Ні вёска, ні горад. Сялянскі райцэнтр. На нашай вуліцы дамы засталіся, а суседзяў няма. Сумна. Самотна. Няўтульна. Схадзіў на возера, на старыцу ног маіх няма. Гутару са старымі яблынямі ў садзе…

«Ноч у дарозе…»[4]

*31 ліпеня, аўторак*

Няма маіх вушацкіх. А простых советских людей поўна. Спітыя, апушчаныя. На хаду ў мяне з халадзільніка ўкралі кілбасу й сыр. Добрая закусь. Панская. Ім жа трэба хоць калі паласавацца.

[«Ахвярынка»[5].]

*1 жніўня, серада*

Зноў вушацкі жнівень. Неяк прыладжваем хату, бо мае прыехаць айцец Уладыслаў.

---

[1] Параўн.: «Сны сасны» (гл. зноску 2).

[2] Гл.: А ўсё-ткі… (22.07.07) // Халодная памяць вады. С. 272.

[3] Гл.: Ці шмат… (23.07.07) // Тамсама. С. 341.

[4] Гл.: Ноч у дарозе… (30.07.07, Ушачы) // Тамсама. С. 150.

[5] Гл.: Ахвярынкі: Восені хапае неспакою (31.07.07, Ушачы) // Тамсама. С. 476.

*2 жніўня, чацвер*

Адвячоркам выйшаў у сад. Цішыня. Хата мне падабаецца. Праўда, колькі жыць у ёй, толькі Богу вядома. [«Ахвярынка»], «Шпакоўня»[1].

*3 жніўня, пятніца*

Заязджаўся па дарозе з Полацка ў Менск Пятро Васючэнка[2]. Са сваёй мамай. Прывёз такога полацкага сыру, якога нідзе ў свеце няма. А ўночы йшлі радкі: «У дварах местачковых паснулі цені...»[3].

*4 жніўня, субота*

Вечарам падумаў, што каля ганка жыве жабка. Адчыніў дзверы, а яна скок у хату і зашылася пад тумбачкай. Наогул, я й тут напалову жывы. [«Ахвярынка»[4].]

*12 жніўня, нядзеля*

Днямі хадзіў у краму. У касіркі не было дробнай рэшты, дала мне карабок запалак. Нагадала, як дорага было здабыць запалкі. Калі была электрычнасць, выкручвалі лямпачку, у дзве трэсачкі бралі вугалёк і торкалі ў патрон. На міг гасла святло, павольна і ўміг вугалёк рабіўся чырвоным. З яго выдзімалі агонь. Сустрэў паштарку, якая прыносіла маме лісты й пераводы. Казала, як мама была рада. Учора ў лазні ў Васіля Бялевуша[5] мыўся. Ён хоць і п'е залішне, але з гонарам казаў, як Быкаў хваліў ваду з ягонай студні: як мінеральная...

Раніцай заходзіў вушацкі мужчына. Між іншым, казаў, што ён дабіваўся перад мясцовым начальствам, каб вуліцу Савецкую перайменавалі ў вуліцу Васіля Быкава. Зайшоў у хату і кажа: «Пастаўце аўтограф хоць на руцэ». Даў яму «Ксты». Любіць паэзію, цытаваў «Трэба дома бываць часцей». А яго тут ненармальным лічаць. А суседка Лена [Бялевуш] распавяла пра мой палёт з гарышча[6]. Яна пасварылася з Васілём і начавала на двары. Гадзін каля 4-х раніцы ў адных трусах, абабіты, у зямлі, прыйшоў і прашу, каб Васіль ўзяў тапор і пайшоў са мной адчыніць хату. Разбудзілі Васіля, ён тапор і са мной да нашай хаты. Пагрукаў у вакно — Валя адчыніла хату. Вось такі быў палёт. Яшчэ трошкі засталося маёй любай Вушачы, можна сказаць, акравачкі.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Здаецца, слухаю ўпершыню... (2.08.07); Шпакоўня (30.07.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 464; 117.

[2] Васючэнка Пётр Васільевіч (1959–2019), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, драматург. Кандыдат філалагічных навук (1983). З 1997 г. выкладаў у МДЛУ.

[3] Гл.: Зямляцкі трыпціх: [3] У дварах местачковых паснулі цені... (3.08.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С.181.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Крокі *зачакаліся* касца (4.08.07, Ушачы) // Тамсама. С. 465.

[5] Бялевуш Васіль Апанасавіч (1947–2017), сусед.

[6] Начны «палёт» Рыгора Іванавіча з проймы на гарышчы здарыўся 4 жніўня 2004 г.

*15 жніўня, серада*

Сусед Васіль Бялевуш, які адзін застаўся з родных суседзяў, любіць і чарку, і паэзію не чытае, а прыйшоў, каб я падпісаў якую-небудзь кніжку для ўнука на памяць. Неяк днямі прачынаюся з радкамі: «вачыма катафалка». Званю Алесю. Той кажа, што цікавы вобраз. Сёння, пакутуя ад спякоты, склаў: «Прапанова: Падкову трымае Мазоль вухналя»[1] [першыя 2 радкі; у дзённіку].

*16 жніўня, чацвер*

Будзяць пеўні. Спаць кладуць сабакі і сваім смехам, і сваімі спрэчкамі, і сваім жалем. «І халодны камень не стрымае слёз…»[2] [«Ахвярынка»[3].]

*17 жніўня, пятніца*

Спёка. Чытаю паэму айца. «Жне цішу маладзіковы серп»[4]. Прысвячэнне вушацкім сабакам.

*22 жніўня, серада*

Прыехаў айцец Уладыслаў. Правіў імшу ў нашым касцёле. Вечарам на Менск.

*27 жніўня, панядзелак*

[Менск.] Прыйшла магчымасць Дамініцы вучыцца ў Польшчы. А яна заўпарцілася, не хоча. […]. Даб'юць. Хоць бы закончыць Вушацкі слоўазбор. Наверсе над намі на трох паверхах рамонт. […]. Ні хвіліны спакою.

*29 жніўня, серада*

Учора ўвечары шукаў верш, які я быццам чытаў Алесю. А гэта мне ў сне прысніўся верш. Сёння ледзь не цэлы дзень успамінаў, пісаў па той прыснёнай схеме.

*Раяць…*

Не ўмее старэць бліскавіца —
Улюбёная падчарка хмар.
Глядзіць,
Як бы чым пажывіцца,
Заўсёды галодны пажар.

---

[1] Параўн.: Прапанова (15.08.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 284.

[2] Гл.: Зямляцкі трыпціх: (1) І халодны камень не стрымае слёз… (15.08.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 181.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Хоць жаўталісце долу б'е паклоны… (16.08.07, Ушачы) // Тамсама. С. 465.

[4] Гл.: Зямляцкі трыпціх: (2) Жне цішу маладзіковы серп (17.08.07, Ушачы) // Тамсама. С. 181.

І час спакараецца міту.
Знявер'ю сябе не шкада.
Люляе ўспаміны нябыту
Калыска жывога — вада.

Зялёнаму раяць абшару
Не недта зважаць на гады
Гарачыя вочы пажару,
Халодная памяць вады…[1]

*31 жніўня, пятніца*

Апошні дзень месяца, у якім я пабыў у Вушачы. Трохі адпачыў душой. Хапіла і нерватузання. Асабліва з Дамінікай. Вырасла нейкае стварэнне, як усе сучасныя дзеці вуліцы. А гэтулькі песцілі. Ратуюся словазборам.

*1 верасня, субота*

Дамініка нікуды не пайшла вучыцца. Адчуванне, што галава лопне. Безвыходнасць. […]. Прыйшлі радкі: «Вяртаюся…»[2]

*3 верасня, панядзелак*

Прыйшлі радкі: «Ніхто…»[3]

*7 верасня, пятніца*

Прыехаў Шапран. Заходзіў. Збіраюся ў Вушачу. Тут — філіял апраметнай у малых маштабах. […]. Дамініка не вучыцца, не працуе. Дзеўчыцца. Божа, пацярпі мяне. Дазволь закончыць Вушацкі словазбор.

*8 верасня, субота*

Збіраюся ў Вушачу. Ноччу прыйшлі радкі: «Стараецца…»[4]

*9 верасня, нядзеля*

*Вушача!* Усё-ткі верш, які я шукаў у Менску, не прысніўся мне, а я яго запісаў у падстрэшшы [«Спаконна першыя»]. Атрымалася два варыянты на адну тэму. Зараз не ведаю, які лепей даваць. Па-ранейшаму змагаюся з болямі. Хадзіць цяжка. Прачынаешся са страхам, што галава лопне.

[1] Параўн.: Спаконна першыя (12.08.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 398.
[2] Гл.: «Адбыўшы блуканняў рату…» (1.09.07) // Тамсама. С. 333.
[3] Гл.: «Уткнуцца ў бераг…» (3.09.07) // Тамсама. С. 310.
[4] Гл.: «У прысталай сасны…» (8.08.07) // Тамсама. С. 321.

*12 верасня, серада*

Нешта прыйшло ў галаву: «Калі пастарацца...»[1], « — Мама...»[2] Тут усё цісне. Пазвоніш дамоў — прэтэнзіі. Няма дзе душы прыхінуцца. Такое ўражанне, што перажыў сябе самога, нікому не патрэбны. Скончыць Вушацкі словазбор няма ўмоў. Гэта трэба рабіць у Менску, а там як на дратах высокай напрузе вісіш. Аж прыходзіш да дакорлівай думкі.

«Застаўся...»[3]

*13 верасня, чацвер*

«Ад адзіноты старэе сад»[4].

*19 верасня, серада*

Галава, сэрца, ногі. Усё баліць. Роспач з пачатку дня да ночы. Не магу пісаць, а гэта яшчэ больш дабівае. Бо пісанне — гэта хвароба, якая завецца шызафрэнія. Яна лечыцца толькі сырой зямлёй. Выйшаў у цёмную ноч, і нешта зварухнулася: «Там айчына душы...»[5]

*21 верасня, пятніца*

Настрой той жа. Калі ў маладыя гады выраз: як бы ні мучыўся, абы добра памёр — успрымаўся як жарт, то з гадамі разумееш усю глыбню. «Бліжэю сэрцам да зямлі...»[6]

*26 верасня, серада*

Прыходзяць радкі, каб хоць трохі вывесці мяне з запою болю. Галава, як крышталёвая ваза, дакраніся — разаб'ецца на дробныя цурачкі. «Хто?»[7] За ўвесь дзень пачуў «добры дзень» ад двух міліцыянтаў. А так «здравствуйте». Нават вучні, якія прыходзілі па аўтограф. Ала распавяла, як праўнук майго ўлюбёнага Фадзея Францавіча Багдановіча[8] на ейнай лекцыі ў ін'язе пра беларускую мову: «Забавно...» Вынішчэнне беларускасці на генетычным узроўні. «Багацейшы...»[9] Цікава, як маладзіца ў гадах ўбачыла некага з мабільнікам і зрабіла выснову: «Дайшоў, сам з са-

[1] Гл.: Ахвярынкі: Калі пастарацца... (12.09.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 473.
[2] Гл.: «— Мама...» (12.09.07, Ушачы) // У неба пехатою. С. 95.
[3] Гл.: Застаўся... (12.09.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 193.
[4] Гл.: Ахвярынкі: Ад адзіноты старэе сад (13.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 466.
[5] Гл.: Ахвярынкі: Там айчына душы... (19.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 453.
[6] Гл.: Бліжэю сэрцам да зямлі... (21.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 293.
[7] Гл.: «Спачатку прачнуўся дзень...» (26.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 296.
[8] Багдановіч Фадзей Францавіч, настаўнік беларускай мовы Ушацкай школы.
[9] Гл.: Багацейшы... (26.09.07, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 333.

бой размаўляе». Прагрэс вясёлы і сумны. Так здавён. «А…», «Дзень хоча замаліць…», «Вогнішча сівое…»[1].

*27 верасня, чацвер*

«Дзе суцішыцца…», «Настрою светла», «Дзякуй…», «Трымаюць…»[2].

*28 верасня, пятніца*

Дзе ўзяць настрой? Вакол цемра й немата.

«Карацее…»[3]

*30 верасня, нядзеля*

Апошні дзень залатога верасня. Два дні засталося ў Вушачы быць. Дзякуй, Верасень, што дазволіў мне пабыць у мамінай хаце! Нейкія радкі нашапталіся: «Над долам вясёла ўзвіліся…»[4]

*1 кастрычніка, панядзелак*

Добры дзень, Кастрычнік! Жадаю табе добрага настрою. А ты мне трошкі пазыч упэўненасці й незатуманенае галавы. Увесь двор, увесь сад у жаўталісці. Вяз бацькаў — гэта ўжо графіка.

«Пытаецца…»[5]

*2 кастрычніка, аўторак*

Прыходзілі дзяўчаткі шасцікласніцы па аўтограф. Кожная са слоікам марынаваных памідораў, агуркоў, капусты. З голаду не памёр бы ў роднай хаце. Вось і скончылася мая сёлетняя Вушаччына. Заўтра ў Менск. Госпадзі, дазволь яшчэ пабыць, пажыць у мамінай хаце.

*3 кастрычніка, серада*

4 гадзіны раніцы. Дождж. Па шыфернай страсе б’е. Быццам хоча замацаваць лісты шыферу, але цвікі ягоныя гнуцца. Як утульна ў мяне ў падстрэшшы! Каб ясная галава яшчэ была. А так… Агульна пражыў я два месяцы ў ГПУ (гарадскі пасёлак Ушачы). Вечарам у Менск.

---

[1] Гл.: Журба нерастрачаная; «Дзень хоча замаліць…»; Ахвярынкі: Вогнішча сівое… (26.09.07, Ушача) // Халодная памяць вады С. 200; 316; 471.

[2] Гл.: «Дзе суцішыцца…», «Настрою светла», «Дзякуй…», «Трымаюць…» (27.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 289; 326; 348; 324.

[3] Гл.: Карацее… (28.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 351.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Над долам вясёла ўзвіліся… (30.09.07, Ушачы) // Тамсама. С. 471.

[5] Гл.: Пытаецца… (1.10.07, Ушачы) // Тамсама. С. 339.

*7 кастрычніка, нядзеля*

[Мінск.] У Чырвоным касцёле імша й прэзентацыя маіх кніг, выданых касцёлам. Выступаў пасол Японіі[1], Швецыі[2]. Народу шмат было. Як не 4 гадзіны падпісваў кнігі. Каб яшчэ крыху здароўя. А так роспач, боль, боль, боль.

*8 кастрычніка, панядзелак*

Чакаю, што пазвоняць з лякарні, каб легчы. Надвор'е сырое, настрой яшчэ сырэйшы. «Куды?»[3]

*9 кастрычніка, аўторак*

У лякарню.

*24 кастрычніка, серада*

На які тыдзень дамоў. Слаба папраўляецца дурная галава. Хворы, жабрак, не патрэбны нікому. Але дзякуй Усявышняму, што жыў, што нешта змог сказаць па-крывіцку. У лякарні лезлі ў галаву нейкія радкі не дужа актыўна.

*25 кастрычніка, чацвер*

Уночы пагрукаліся ў хворую галаву радкі: «Не зарасце…»[4]

*27 кастрычніка, субота*

Нейкія радкі прыйшлі ў хворую галаву: «Трывожнай ахвотай…», «Крутабег»[5].

*31 кастрычніка, серада*

Абнашчыў душу выдатнейшым даследаваннем Уладзімера Някляева пра Коласа[6] ў «Дзеяслове» (№ 29). Каб мог, даў бы яму акадэміка. Глыбіня й палёт думкі. Зусім іншы Колас, чым яго звычайна іконаставяць, ці абразя́ць. У гэтым жа нумары й чарговая […] Ніла[7], падспуднае ныццё, што не далі акадэміка. У дэбютантах дзесяцікласнік Руслан Юсупаў —

---

[1] Магчыма, аташэ Пасольства Японіі Косіна Го.

[2] Эрыкссан Стэфан (н. 1962), шведскі дыпламат. У 2005–2008 гг. Паўнамоцны міністр Пасольства Швецыі ў Расіі, кіраўнік аддзялення ў Мінску, у 2008–2012 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Каралеўства Швецыі ў РБ.

[3] Гл.: «Праз гады…» (8.10.07) // Халодная памяць вады. С. 282.

[4] Гл.: Не зарасце… (25.10.07) // Тамсама. С. 346.

[5] Гл.: Трывожнай ахвотай…; Крутабег (27.10.07) // Тамсама. С. 225; 317.

[6] Колас Якуб (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; 1882–1956), беларускі пісьменнік. Народны паэт БССР (1926). Акадэмік АН БССР (1928). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1944).

[7] Гілевіч Ніл Сымонавіч (1931–2016), беларускі паэт, фалькларыст, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1963). Прафесар (1978). Народны паэт БССР (1991). Заслужаны дзеяч

напорыстыя вершы. Беларусь збеларушвае мусульманаў (хай і напалову такіх), а беларусы абмаскальваюцца. «Тры словы»[1].

*1 лістапада, чацвер*

Пабыў у «Коўні». Трохі забыўся на клопаты, на хворасць. Выйшаў на вуліцу — цяжка йсці. Дома перачытваў неацэннага й неацэненага Міхася Стральцова. Талант чыстай пробы. Прыйшлі радкі: «Назусім...»[2]

*4 лістапада, пятніца*

[...]. Не вытрымаю. [...]. «Ахвярынкі»[3].]

*5 лістапада, субота*

«Усіх...»[4]

*6 лістапада, нядзеля*

На валяр'янцы, на валідоле, на сонных. Ілона йдзе на дно. Дамініка нічога не робіць, не вучыцца. Толькі музыка й тусоўкі. Грошы няма. Ніякія лякарні не дапамогуць. Хоць да вясны датрываць. А там — у Ушачу. Божа, за што такая кара? Уцячы б з хаты хоць на вуліцу. Дык не магу хадзіць. Усё ў вачох кругамі. Падаю. «Трэба!»[5], «Дасведчаная дабрыня»[6].

*9 лістапада, пятніца*

Лякарня.

*Самая...*

Самая раўнівая на свеце,
Самая цярплівая на свеце,
Самая жахлівая на свеце —
Старасць.

*21 лістапада*

---

навукі БССР (1980). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1980), Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева (1986).

[1] Гл.: Тры словы (31.10.07) // Халодная памяць вады. С. 448.

[2] Гл.: Назусім... (1.11.07) // Халодная памяць вады. С. 348.

[3] Гл.: Ахвярынкі: І выццё...; На небе ці на зямлі... (4.11.07) // Халодная памяць вады. С. 474; 456.

[4] Гл.: Усіх... (5.11.07) // Халодная памяць вады. С. 49.

[5] Гл.: Трэба! (6.11.07) // Халодная памяць вады. С. 299. Па першаму радку гл.: Ахвярынкі // Anima. Мінск: Рымска-Каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2011. С. 134.

[6] Гл.: Дасведчаная дабрыня (6.11.07) // Тамсама. С. 91. Верш прысвечаны Ю. Стулаву. *Стулаў* Юрый Віктаравіч (н. 1945), беларускі мовазнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук. Заг. кафедры замежнай літаратуры МДЛУ.

*22 лістапада, чацвер*

«Яна»[1].

*26 лістапада, панядзелак*

«Звіняць…»[2]

*28 лістапада, серада*

Дамоў. Адляжаў, як мех з бульбай. Калолі. Круцілі. Як у нас казалі: памагло не памагло, а ад сэрца адлягло.

*29 лістапада, чацвер*

Нейкія радкі ідуць на хворую галаву: «Жыта жыцця»[3]. З кожным днём нешта гняце мяне. Цісне да зямлі. Безвыходнасць. Роспач. Толку няма ні з Ілонай, ні з Дамінікай. Баюся прачынацца. «Болей…»[4]

*30 лістапада, пятніца*

Канец месяца, які я болей пражыў у лякарні. «На памяць…»[5]

*1 снежня, субота*

Вітанне, Снежань! Сагрэй цёплым снегам маленства. Прасвятлі ваколле. Дыктую Але вершы. Колькі ў яе цярпення! Дзякуй ёй ад Менска да Вушачы!

*2 снежня, нядзеля*

Хізры[6] прынёс пуцёўку ў «Крыніцу» на 14 дзён. Адпачну ад хатніх праблемаў. Можа, што напішацца. «Сваякі»[7]. Ніякіх запісаў не раблю. У галаве боль і гуд. Не магу пераносіць гультайства Дамінікі. Толькі спіць, бегае на нейкія сборышчы і балбоча па тэлефоне. Дзеўчыцца.

*9 снежня, нядзеля*

Праз боль напісалася: «Хоць…»[8]

---

[1] Гл.: Яна (22.11.07) // Халодная памяць вады. С. 303.
[2] Гл.: Звіняць… (26.11.07) // Тамсама. С. 220.
[3] Гл.: Жыта жыцця (29.11.07) // Тамсама. С. 449.
[4] Гл.: «Чалавек…» (29.11.07) // Тамсама. С. 311.
[5] Гл.: На памяць (29.11.07) // Тамсама. С. 278.
[6] Асадулаеў Хізры (н. 1956), каратынскі паэт, перакладчык, мастак, скульптар, кампазітар. Заснавальнік сучаснай каратынскай літаратуры. Заслужаны мастак Рэспублікі Дагестан. Жыве ў Мінску.
[7] Гл.: Сваякі (1.12.07) // Халодная памяць вады. С. 429.
[8] Гл.: Хоць… (1–9.12.07) // Тамсама. С. 66.

*10 снежня, панядзелак*

З хворай галавы ідуць радкі: «Але…»[1]

*Івану Бурсаву*[2]
*(да васьмідзесяцігоддзя)*

Родны Янка!
Вяльможнейшы Бурсаў!
Хай фартуна не будзе скупая,
Хай жыццёвых і творчых рэсурсаў —
У цябе да стагоддзя хапае.
Любім, помнім цябе і Рыту
І ў каханні жадаем спрыту!

*11 снежня Валя і Рыгор*

*14 снежня, пятніца*

Заходзілі Сяргей Шапран і Глеб Лабадзенка[3]. Глеб ужо дарослы. А мне ўсё здаецца, што ліцэіст.

*15 снежня, субота*

«Крыніца». Можа, трохі адпачну, стане галава на месца й ногі пойдуць.

*17 снежня, панядзелак*

У рэдкіх хвілінах перапынку болю йдуць радкі. Дакладней, прарываюцца праз мой знявер, праз маю роспач.

*Дагэтуль…*

Імем тваім адчыняю
Дзверы свайго настрою,
Каб сонца смела ўзышло.
Дзверы зямнога раю
За ўвечарэлай гарою,
Дзе нам было з табою
Цёпла дзяліць святло,
Не зачыненыя дагэтуль…

---

[1] Гл.: «Жыццё сабой занятае…» (10.12.07) // Халодная памяць вады. С. 38.

[2] Бурсаў Іван Цяренцьевіч (1927–2019), рускі паэт, перакладчык. Ураджэнец Беларусі. З 1965 г. жыў у Маскве.

[3] Лабадзенка Глеб Паўлавіч (н. 1986), студэнт журфака БДУ (2004–2009). У 2004–2008 гг. карэспандэнт газ. «Комсомольская правда» в Белоруссии», у 2009–2011 гг. газ. «Звязда». Лаўрэат прэмій «Вольнае слова» (2009), «Дэбют» імя М. Багдановіча (2013), «За свабодную думку» імя В. Быкава (2018).

«Відаць…», «Нашчадкі»[1]. А гэты верш учарашні: «Не паверыць…»[2]

Вакол раённыя мадонны. Партработнікі даношваюць пыжыкавыя шапкі. Зрэдку ў размовах гэтых адпачыванцаў прарываюцца беларускія словы. […]. За стол села адна настаўніца з раёна, хоць яна можа па-беларуску гаварыць. І то толькі са мной. Ды яшчэ адна маладзічка падышла. А ў Менску заязджалася адна з Амерыкі. Ейны сябра на пытанне, што прывезці з Беларусі, адказаў: «Кнігу Барадуліна». Хоць гэта наіўна грэе ў прагматычны і няшчадны час.

*20 снежня, чацвер*

Прыйшлі радкі: «Пазмылі…»[3]

*21 снежня, пятніца*

«Яны…»[4]

*24 снежня, панядзелак*

Святы вечар. Сяджу адзін у сваёй санаторнай камеры. Днём заязджаўся Алесь. Званілі з «Коўні». Галава ў абручах. «Й…», «На плячы ў нецярпення»[5]. Знайшоў у нататніку: «Прыціхла ганарыстае «ніколі»…»[6]

*25 снежня, аўторак*

Прыязджаў Алесь з Вілі Элбертам[7] — немцам з Украіны. Выдатна гаворыць па-беларуску. Нават мае радкі цытаваў.

*26 снежня, серада*

Дабываю апошнія дні ў «Крыніцы».

«Прызімак»[8].

*28 снежня, пятніца*

Сёння дамоў.

«Не спяшаюцца…»[9]

---

[1] Гл.: Відаць…; Нашчадкі (17.12.07, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 33; 444.

[2] Гл.: Не паверыць… (16.12.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 10.

[3] Гл.: Слядамі дажджоў (20.12.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 230.

[4] Гл.: Яны… (19–21.12.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 442.

[5] Гл.: Й…; На плячы ў нецярпення (24.12.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 437; 360.

[6] Гл.: «Прыціхла ганарыстае «ніколі»…» (9.11.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 329.

[7] Элберт Віллі, супрацоўнік Пасольства ФРГ.

[8] Гл.: «Зоркі зябка…» (26.12.07, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 331.

[9] Гл.: «Слёз на ўсіх хапае…» (28.12.07, «Крыніца») // Тамсама. С. 299.

*29 снежня, субота*

Прачнуўся з радкамі: «Тым і жыву...»[1] Ляжаў пластом. Пазваніла Васілёва сястрычка Валя з Ваўча. Чую нашу гаворку: «Хвароба як учэпіцца, цяжка ад яе адчапіцца...» І палягчэла. Трымаюся на валаску. [...].

*31 снежня, панядзелак*

Канец года. Дзякуй Усявышняму за ўсё, за ўсё, за ўсё! Госпадзе, дазволь яшчэ затрымацца, хоць трохі давяршыць з пачатага, з задуманага...

[1] Гл.: Ахвярынкі: Тым і жыву... (29.12.07) // Халодная памяць вады. С. 461.

## 2008

*1 студзеня, аўторак*

Добры дзень, Новы год! Будзь не чэрствы да мяне. Дай набыцца ў Вушачы.

«Хто?..»[1]

*2 студзеня, серада*

У касцёл. Добра было з айцом Уладыславам. А хвароба не хоча мяне адпускаць.

*4 студзеня, пятніца*

Заходзіў Ганад[2]. Цікава распавядаў пра курдскае вяселле ў Расіі.

*5 студзеня, субота*

Галава разломваецца. [...]. Даменіка зусім ад дому адбілася — не вучыцца, не працуе. [...]. Рукі апускаюцца.

«?»[3]

*7 студзеня, панядзелак*

Усё, як і ў старым годзе. Як вытрываць? Можа, па вясне Вушача дапаможа. Прыходзілі Ілона з Косцем. Відаць, вялікі грэшнік я, што заслужыў такую сямейку. Каб які прасвет. Хворы жабрак. Даміника Ілону пераплюне. Гультайка [...]. Жыву толькі там, у Вушачы, дзе жывыя мама, бабуля Маланння, суседзі. «Кола жыцця: Шпак. Грак» [у дзённіку].

«Штодзённасць»[4].

*10 студзеня, чацвер*

У хворую галаву лезуць радкі: «Зоркі не паміраюць...»[5] Як прыкінеш, дык няма чаго брыкацца, на восьмы дзясятак ідзе. Дзякуй Усявышняму, што дазволіў затрымацца ў гэтым жыцці. Цяпер самая верная каханая пані — роспач.

---

[1] Гл.: «Хто адкажа...» (1.01.08) // Халодная памяць вады. С. 301.

[2] Чарказян Ганад Бадрыевіч (1946–2021), курдскі паэт, празаік. У 2004–2009 гг. дырэктар будаўнічай фірмы ТСТ.

[3] Гл.: «Якія сняцца самоце сны?» (5.01.08) // Халодная памяць вады. С. 349.

[4] Гл.: Штодзённасць (7.01.08) // Тамсама. С. 306.

[5] Гл.: «Зоркі не паміраюць...» (10.01.08) // Тамсама. С. 341.

*13 студзеня, нядзеля*

Круцілася слова «вершапраходцы»: «Вершапраходцы»[1]. Ноччу ўлезла ў галаву: «Колькі яму дасцё…»[2]

*15 студзеня, аўторак*

Сніўся Міхась Стральцоў. І цікава: Хрушчоў[3] даў мне тры шчупакі. Цэлыя прыгоды з імі. Што толькі ў хворую галаву не лезе. Прысніліся радкі: «Сон мае вочы памяці…»[4] А яшчэ ўлезла ў галаву: «Да славы цягнецца з пялёнак…» [у дзённіку].

*21 студзеня, аўторак*

Усе дні галаболю й роспачы. Дажыць бы да вясны. Можа, у Вушачы крыху ачуняю. Там і да мамы блізка. Валянціна Якімовіч прыслала мне вышыванку. Ёй радкі:

*Валянціна Якімовіч*

У далёкай Амэрыцы,
Узгадаўшы радзіму сноў,
Вышываю кашулю,
Як маці вышывала калісьці.
Маланкі чырвоных нітак
Жагнаюць белую туманіну.
І чуюцца галасы
Яравых перуноў.
На вуха начы шэпча сакрэт
Лівень кляновага лісця.
Журба аддае самоце даніну.

Хмурынка залапіла
Прадраны нябесны строп.
Недаткнёнкам зоркам
Спавядаецца сорам.
І просіць шчыруху
Акіян-губашлёп,
Каб вышыла я
Кашулю яму
Беларускім узорам…

[1] Гл.: Вершапраходцы (13.01.08) // Халодная памяць вады. С. 407.
[2] Гл.: Ахвярынкі: Колькі яму дасцё… (13.01.08) // Тамсама. С. 478.
[3] Хрушчоў Мікіта Сяргеевіч (1894–1971), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. 1-шы сакратар ЦК КПСС (1953–1964).
[4] Гл.: Ахвярынкі: Сон… (15.01.08) // Халодная памяць вады. С. 470.

*22 студзеня, серада*

Прыехаў Сяргей Шапран з Рыгі. Там ёсць беларуская школка, а ў Гародні ніводнага беларускага класа.

«Звар’яцелае пытанне»[1].

*29 студзеня, аўторак*

У 10-ю лякарню. Дапамог Сарокін[2]. Кропельніцы. Уколы. Пад спудам беларуская мова пачынае гаварыць — адказваюць па-беларуску і ўрачы, і сёстры.

*1 лютага, пятніца*

Добры дзень, мой месяц. Зноў я ў лякарні. Ужо як традыцыя.

«Ці ў часе мы…»[3]

*3 лютага, нядзеля*

«У небе начным…»[4] Краем вока падчас глядзеў тэлевізар. Бяздарнае замбірванне, нахабная пахвальба.

«Усё жывое…», «Адыходзячы з гэтага свету…»[5].

*8 лютага, пятніца*

Патроху ідуць радкі: «Першы гром вітае…»[6]

*11 лютага, панядзелак*

У рэстаране — усе п’яныя, у лякарні — усе хворыя. З вокан лякарні ўжо на вуліцы здаровыя людзі да зайздрасці.

* * *

Каханыя не старэюццъ,
А прывідна растаюць
У імгле забытае.
Дзе яны цяпер —
Не адкажа імгла,
Як яе ні выпытвай…

---

[1] Гл.: Звар’яцелае пытанне (22.01.08) // Халодная памяць вады. С. 343.
[2] Сарокін Ігар Георгіевіч, урач-неўрапатолаг 10-й клінічнай бальніцы.
[3] Гл.: «Ці ў часе мы…» (1.02.08) // Халодная памяць вады. С. 302.
[4] Гл.: «У небе начным…» (3.02.08) // Тамсама. С. 277.
[5] Гл.: «Усё жывое…»; «Адыходзячы з гэтага свету…» (6.02.08) // Тамсама. С. 34; 294.
[6] Гл.: «Першы гром вітае…» (8.02.08) // Тамсама. С. 312.

*17 лютага, нядзеля*

«Ступаецца ўпэўнена...»[1].

*19 лютага, аўторак*

«На чужыне...»[2]

*22 лютага, пятніца*

Дома. Усё, як было. Дамініка адбіваецца ад рук. Ілона вачэй не паказвае.

*24 лютага , нядзеля*

Вось мне і 73. Хай бы ўсё было наадварот. На колькі хвілін заходзіўся з жонкай Мілінкевіч[3] павіншаваць. У Алесевай знаёмай невялікі збор. Алесь спяваў. Яшчэ адна маладзіца з мужам спявалі. Гарбтата, кава. Усё прайшло светла. Дзякуй Алесю. Якраз сёння дзень народзінаў ягонай мамы. Хаджу па клініках.

*28 лютага, чацвер*

«Курку топча певень...»[4] Нешта яшчэ ў галаву лезе. Каб не звар'яцець, пішу. [...]. Няма спакою. Хадзіў да гематолага.

*1 сакавіка, субота*

На двары дождж. Як з песні. Прыходзіла мілая Наташа[5]. Яна карэктарам «кнігазбораўскага» тома[6]. Дзякуй ёй, шчыра ўсё зрабіла. Аж у мяне ад галавы адлягло. Потым прыходзіла мая балючая дачушка Ілоначка. На развітанне пасварылася са сваёй маці. [...] . Даў мне Усявышні выпрабаванне. Дамініка не начуе дома. Не робіць і не вучыцца. [...]. У людзей сем'і. У людзей дзеці як дзеці, унукі як унукі. А тут нешта незразумелае. Хадзіць не магу. Галава налітая болем.

Званок. Голас незнаёмы, старанна вымаўляе расійскія словы, быццам замежнік. А гэта сынок Бачылы[7]. Бацьку 90 гадоў. Ці не магу я з'ездзіць

---

[1] Гл.: «Ступаецца ўпэўнена...» (17.02.08) // Халодная памяць вады. С. 357.

[2] Гл.: «На чужыне...» (19.02.08) // Тамсама. С. 342.

[3] Мілінкевіч Аляксандр Уладзіміравіч (н. 1947), беларускі навуковец, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1976). У 2005–2007 гг. старшыня Рады Аб'яднаных дэмакратычных сіл, у 2006–2016 гг. узначальваў праваабарончае грамадска-асветніцкае аб'яднанне Рух «За Свабоду». Лаўрэат прэміі Еўрапарламента імя А. Сахарава.

[4] Гл.: «Курку топча певень...» (28.02.08) // Халодная памяць вады. С. 144.

[5] Давыдзенка Наталля Аляксееўна (псеўд. Наталіч Марына; н. 1950), руская і беларуская паэтэса, празаік, перакладчык.

[6] Барадулін Р. Выбраныя творы. Мінск: «Кнігазбор», 2008.

[7] Бачыла Алесь (Аляксандр Мікалаевіч; 1918–1983), беларускі паэт, лібрэтыст, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1967).

у Мар'іну Горку на вечар памяці бацькі. Двух слоў па-беларуску не можа сказаць. [...].

*7 сакавіка, пятніца*

Прыходзіў Сарокін. Рабіў укол жалеза. Дзякуй яму за ўсе клопаты! Круціліся ў галаве радкі: «Расце...»[1]

*8 сакавіка, субота*

Адваляўся з галавой. Усё няміла. Жыву надзеяй пабыць ў Вушачы. Усё жыццё — вяртанне да сябе. Не спазніцца б. Гняце безвыходнасць, фактычна галеча. Калі загнуся, дык і хаваць, відаць, будуць у складчыну. Нікому непатрэбны, нават сабе самому, такі нямоглы. Каб хоць якая праблісцінка. Тыя хвіліны й жыву, калі ідуць радкі. Хочацца кінуць усё, забыцца на ўсё. А куды дзецца? Нават сны на таблетках нейкія хворыя. Але ж не я гаспадар свайго жыцця. Пад вечар прыйшлі радкі: «Душа не лічыць...», «Жабрак бяздомны...», «Доўжыцца...»[2].

* * *

Пад лёдам падталым рэчка
Чакае сустрэчы з чоўнам.
Доўжыцца даўняя спрэчка
Белага з чорным...

*10 сакавіка, панядзелак*

Прыходзіў Ігар Сарокін. Зрабіў укол. Пасля разгаварыліся. Ён шмат цікавага распавёў. А бацька ягоны навэлу некалі казаў пра беларуса з Віцебшчыны. Раскулачылі. Саслалі ў Расею. Ён аброс гаспадаркай. Зноў раскулачылі. Саслалі, дзе халадней. І там ён стаў кулаком. Зноў раскулачылі. Саслалі ледзь не на самы край Паўначы. Прысылае ў родныя мясціны ліст і фота, ён з казой стаіць. Не можа без працы. Без гаспадаркі.

*11 сакавіка, аўторак*

У Лечкамісію. Далі таблеткі жалеза. Каб трохі палепшылася. «Дома»[3].

*12 сакавіка, серада*

Не падняць галавы. Каб не звар'яцець ад хатніх, пішу: «Святары Чырвонага касцёла»[4].

---

[1] Гл.: «Не горбяцца сосны...» (7.03.08) // Халодная памяць вады. С. 440.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Душа не лічыць...; Жабрак бяздомны...; «Сакавіковыя крокі...» (8.03.08) // Тамсама. С. 462; 457; 371.

[3] Гл.: «Страх на гарышчы заціх...» (11.03.08) // Тамсама. С. 173.

[4] Гл.: Святары Чырвонага касцёла (12.03.08) // Anima. С. 10.

*13 сакавіка, чацвер*

Рухацца цяжка. А ў хаце можна звар'яцець. [...] унучачка толькі гуляе. Каб за кніжку. Добра ўладкаваліся. А ў мяне мусіць балець галава, як выжыць. Дамініцы знайшлі рэпетытара па гісторыі (хоць гэта марны занятак, нікуды яна не паступіць). Ён сёння меўся прыйсці, а яна — на канцэрт.

*Аж...*

І сустрэць аднойчы,
Каб пасля
Жыць адзінай,
Што паслана доляй.
Аж пакуль раўнівая зямля
Стрымліваць сябе
Не зможа болей...

*16 сакавіка, нядзеля*

На вечар Алеся пайсці не змог. Ломіць усяго. Кепска гэта — залежыць ад надвор'я і ўласнага настрою. Пісаў верш: «Будзіў...»[1]

*19 сакавіка, серада*

Нікому непатрэбны, хворы, ратуюся хіба вершамі, каб з глузду не з'ехаць: «Невядома...», «Ні страла не адкажа, ні лук...»[2].

*22 сакавіка, субота*

Прыйшлі радкі: «Замятае снягамі сыпучымі...»[3]

*Красавік*

Ліпеў. Быў на краі. Жыццё зрабілася прэсным. Нікому непатрэбны. Даганяў уласны цень. А ён кпіў з мяне. Перажыў самых дарагіх сяброў. І, здаецца, сябе.

*21 красавіка, панядзелак*

Санаторый «Крыніца». Дзякуй айцу Уладыславу! Святы касцёл у асобе айца Уладыслава трымае мяне. Дзякуй Усявышняму, што дазваляе затрымацца!

---

[1] Гл.: Будзіў... (16.03.08) // Халодная памяць вады. С. 35.
[2] Гл.: Невядома...; Ахвярынкі: Ні страла не адкажа, ні лук... (19.03.08) // Тамсама. С. 267; 473.
[3] Гл.: «Замятае снягамі сыпучымі...» (22.03.08) // Тамсама. С. 347.

*22 красавіка, аўторак*

Трохі прыходзяць радкі: «Засмягне рэха баравое», «І не было супыну сцежцы...»[1].

*23 красавіка, серада*

«Захопнік і абаронца»[2].

*Травень*

У «Крыніцы» сустракаю новы месяц. А ў нататніку вершы з красавіка.

*24 красавіка, чацвер*

«Веснавое...»[3]

*25 красавіка, пятніца*

* * *

Баюся запытаць: — Калі?
Сум пазнаю па мяккіх кроках.
Бліжэю сэрцам да зямлі,
А думкі пасвяцца ў аблоках...

*28 красавіка, панядзелак*

«Сарамлівы адвячорак...»[4]

*5 траўня, панядзелак*

«Мова камянёў»[5].

*20 траўня, аўторак*

«Галодная праўда...»[6]

*25 траўня, нядзеля*

«Толькі...»[7]

---

[1] Гл.: «Засмягне рэха баравое»; «І не было супыну сцежцы...» (22.04.08, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 277; 280.

[2] Гл.: Захопнік і абаронца (23.04.08, «Крыніца») // Тамсама. С. 430.

[3] Гл.: «Веснавое...» (24.04.08, «Крыніца») // Тамсама. С. 374.

[4] Гл.: «Сарамлівы адвячорак...» (28.04.08, «Крыніца») // Тамсама. С. 332.

[5] Гл.: Мова камянёў (5.05.08) // Тамсама. С. 22.

[6] Гл.: «Галодная праўда...» (20.05.08) // Тамсама. С. 290.

[7] Гл.: «Не пакінуць...» (25.05.08) // Тамсама. С. 226.

*26 травеня, панядзелак*
«І вецер не ведае, дзе…»[1]

*30 траўня, пятніца*
«Саромеюся…»[2] Сігнал у «Кнігазборы». Дзякуй усім, хто прыхінуўся!

*1 чэрвеня, нядзеля*
Месяц Васіля. Месяц мамы. Алесю 10-га — 50!

*3 чэрвеня, аўторак*
«Жыццё — турма…»[3]

*5 чэрвеня, чацвер*
«Б'ецца ў мулкія сцены…» [у дзённіку].

*7 чэрвеня, субота*
Зноў нешта пра муху прыйшло ў галаву: «Прыляцела муха ў МУС…» [у дзённіку].

*8 чэрвеня, нядзеля*
Стома. Загнанасць. Безвыходнасць. Толькі б не мучыцца доўга. Галава ў абручах. Ногі не йдуць. Падумаю пра Ілону — месца сабе не знаходжу. Гляну на Дамініку — сэрца заходзіцца. […].

*9 чэрвеня, панядзелак*
Сёння Алесю — 50! Дай Бог яму яшчэ столькі ж!

* * *

Шчасце звіта не з адных праменняў.
Розная ў любой бяды замашка.
Без радзімы, без знаёмых ценяў
Нават ветру дыхаецца цяжка…

*10 чэрвеня, аўторак*
Сёння Маме — 99. Пакуль я жыву, жыве яна на зямлі. А там сустрэнемся, тады ўжо не расстанемся.

*12 червеня, чацвер*
Хутка Васілёў дзень.

---

[1] Гл.: «І вецер не ведае, дзе…» (21–26.05.08) // Халодная памяць вады. С. 20.
[2] Гл.: Саромеюся… (30.05.08) // Тамсама. С. 420.
[3] Гл.: Жыццё — турма… (3.06.08) // У неба пехатою. С. 94.

*19 чэрвеня*

Слова пакідае зорны след,
Бо яго святарыць Бог паклікаў.
Сёння ведае вяльможны свет:
Беларусь дзяржавіць
Там, дзе Быкаў...

*16 чэрвеня, панядзелак*

Прэснае нейкае жыццё. Відаць, хутка трэба на капітальны рамонт. А ён там, куды ўсе ідуць.

«Спадчыннай маўклівасці запас...»[1]

*19 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень народзінаў Васіля Вялікага! Алесь завёз нас з Валяй у Вушачу. Па дарозе да сястрычкі Васілёвай — зязюлькі баравой. Потым да мамы на Бутаўшчыну. Пабылі трошкі ў хаце. Сад стары, як і я. А як душы ўтульна тут. Маладзееш і думкай, і крокам. Па дарозе назад ішлі радкі.

*20 чэрвеня, пятніца*

«Па страле адляцелай...», «Сама сябе шкадуе знямога...», «Лясны магільнік»[2].

*23 чэрвеня, панядзелак*

Вушача! Усё роднае, блізкае. Сад зарос травой — можна схавацца. Тут я і ў Менску жыву.

*26 чэрвеня, чацвер*

*Бычкі.* Далі прэмію «За свабоду думкі» Паўлу Севярынцу[3], абавязкова Уладзімеру Арлову[4] й мне. Хоць па сутнасці думка — яна свабодная. У Купалы: «Не скуеш толькі дум ланцугамі»[5]. Дзякуй спадару Мілінкевічу за ўвагу. Хоць шмат каго пабачыў. Бо сяджу дома і тут і там, у Менску, як воўк.

---

[1] Гл.: «Спадчыннай маўклівасці запас...» (16.06.08) // Халодная памяць вады. С. 296.

[2] Гл.: «Па страле адляцелай...»; «Сама сябе шкадуе знямога...»; «Запалі магіл утравелыя грудзі...» (20.06.08, Ушачы) // Тамсама. С. 304; 352; 155.

[3] Севярынец Павел Канстанцінавіч (н. 1976), беларускі моладзевы хрысціянскі палітык, публіцыст, пісьменнік. З 2005 г. сустаршыня партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя».

[4] Арлоў Уладзімір Аляксеевіч (н. 1953), беларускі паэт, празаік, перакладчык, гісторык. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), прэміі імя Е. Гедройца (2018).

[5] Радок з паэмы Я. Купалы «Курган».

*27 чэрвеня, пятніца*

Закончыў верш, яшчэ ў Менску пачаты: «Пачынаю…: Я пачынаю цемру разумець»[1]. Такое адчуванне, што, як у нас казалі, зажыўся (лішняе жыву). А ўсё роўна жыць хочацца, як ні круці. Колькі Бог дасць…

*1 ліпеня, аўторак*

І яшчэ адзін месяц перагарнуў. Спёка. А на душы халаднавата. Чакаю Алеся Камоцкага — меўся прыехаць. «У садзе старым…»[2]

*2 ліпеня, серада*

Галава баліць. Хадзіць цяжка. Але асвойтваюся. «Засохлая ігрушына…»[3]

*5 ліпеня, субота*

З Віцебска праездам хор касцёла з айцом Уладыславам. Праспявалі і па-латыні, і «Sto lat», і «Многае лета». Ледзь хата змясціла. Чалавек 30. Але затое якая веліч! Сёння Дамініцы 19. А нічога не адказана, што, як, калі.

*6 ліпеня, нядзеля*

Нейкія радкі лезуць у хворую галаву: «Местачковая шляхта»[4].

*Пытанні*

Спытаўся ў дзеда хітры ўнук,
А ці баіцца мух павук,
Ці носяць вожыкі плашчы,
Калі ідуць дажджы?
Ці сам сябе дагоніць след,
Ці можа стаць адзінкай нуль?
Чакае, што адкажа дзед.
Дасюль…

*13 ліпеня, нядзеля*

Прыязджалі Кася Камоцкая[5], ейны цяперашні муж[6], Алесь Камоцкі. Трохі здымалі. Ездзілі ў Бычкі. Заязджаліся ў Селішчанскі касцёл. Веліч,

---

[1] Гл.: Яшчэ не ноч…: І цемры хочацца прытулак мець (27.06.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С.13. Папраўлены першы радок.
[2] Гл.: «У ранішнім садзе…» (1.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 335.
[3] Гл.: «Засохлая ігрушына…» (2.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 148.
[4] Гл.: «Мітуслівая шляхта…» (6.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 145.
[5] Камоцкая Кася (н. 1963), беларускі музыкант, бард, журналіст, прадзюсер.
[6] Корзун Віктар, беларускі рэжысёр-дакументаліст.

магутнасць, якая не хоча паддавацца разбурэнню. Яшчэ можна аднавіць. Але каму? А раней напісаліся радкі: «Суседзі»[1].

*16 ліпеня, серада*

На колькі гадзін заехаўся айцец Уладыслаў. Рамантык, поўны планаў. Узнёслая душа. Святар, пакліканы Богам.

*17 ліпеня, чацвер*

Правіў верш. «Каб…»[2] У нас цэлая жывая ферма пад хатай. Вожык з жонкай і дзіцяткам. Вуж. Пяць катоў, сінічка, вераб'і, сарока, дзяцел, які абстуквае яблыні. Душа ажывае.

*18 ліпеня, пятніца*

Сёння дзень нараджэння Ілоны. Недзе знікла са сваім [Косцем]. Не дазваніцца. Якая гэта кара, калі няма толку ў дзецях. А тут яшчэ і ўнучка не дасць забыцца, што такое роспач. Ратуюся вершамі. А галава скіпаецца. «Зялёнае людства»[3]. Яшчэ радкі прыйшлі ў садзе, калі сачыў, як вожыкі збіраліся на вячэру: «Яблык упаў…»[4]

*19 ліпеня, субота*

Ад Ілоны ні гуку. А яшчэ збіраюцца з'язджаць. Каму яны там патрэбныя? «Я прашу шаноўную цішыню…»[5] Час ад часу весяляць навіны. На Славянскім базары […] Кабзон[6] сказаў, што [Лукашэнка] вучыў яго спяваць «А я лягу-прылягу…»[7] […].

*23 ліпеня, серада*

Збіраюся ў думках у дарогу, у Менск. Тут мне блага, а там будзе яшчэ блажэй. Не магу змірыцца з тым, што я нямоглы, нікому непатрэбны жабрак. Беспрытульная (у сэнсе працы, нейкага заробку) мая балючая дач-

---

[1] Гл.: Суседзі (10.07.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 149.

[2] Гл.: «Вуж… (7–17.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 221.

[3] Гл.: Зялёнае людства (17.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 129.

[4] Гл.: «Яблык упаў…» (18.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 336.

[5] Гл.: «Я прашу шаноўную цішыню…» (19.07.08, Ушачы) // Тамсама. С. 211.

[6] Кабзон Іосіф Давыдавіч (1937–2018), расійскі эстрадны спявак; педагог, палітычны і грамадскі дзеяч. Прафесар (1992). Народны артыст СССР (1987), народны артыст УССР (1991). Заслужаны чалавек Малдовы (2007). Герой Працы РФ (2016). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1976), прэміі Урада РФ (2011).

[7] Песня «Вы шуміце, бярозы», муз. Э. Ханка, сл. Н. Гілевіча. *Ханок* Эдуард Сямёнавіч (н. 1940), беларускі і рускі музыкант і кампазітар. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1982). Народны артыст РБ (1996).

ка. Унучка невядома як будзе жыць. Мне, відаць, засталося мала. Прачынаюся і адразу ў жах: што, як. Толькі й хвіліны, калі нейкія радкі ідуць.

*24 ліпеня, чацвер*

Учора сядзеў на пні спілаванай яліны ў канцы гарода. «Таксама...»[1] Пачытаў Алесю — яму верш спадабаўся. Як для радасці трэба мала — і мой настрой пайшоў угору. Заўтра ў Менск. А на двары спёка.

*25 ліпеня, пятніца*

Менск. Горы клопатаў. Ледзь адышоў ад дарогі. Тут нада мной вісіць адчай, безвыходнасць. У Вушачы на гарышчы прыйшлі радкі. Тут крыху прыгроб: «Сінічкі раннія спевы...»[2]

*27 ліпеня, нядзеля*

«Коўня». Генадзю Асташонку ўчора дзень народзінаў. Анекдот: яўрэй стрыжэ пацыента і кажа: «Лукашэнка будзе яшчэ 8 гадоў і яшчэ 10 гадоў». Пацыент пытаецца, навошта ён гэта кажа. А цырульнік: «У Вас валасы становяцца дыбам, і мне лягчэй стрыгчы».

*1 жніўня, пятніца*

Яшчэ хапае сонца на вуліцы. А ў душы цемнавата. Патроху ў думках збіраюся ў Вушачу.

«Доўга помніцца доўгачаканы...» [у дзённіку].

*4 жніўня, панядзелак*

Вушача!Усё сваё, усё, што снілася. Няма спакою душы. Баліць Ілона. Адчай, як таго авадня, не выганіш нічым. Як бы гэта нырнуць на нейкае дно спакою, каб не чуць, не бачыць нічога. Каб прыйсці ў сябе!

*5 жніўня, аўторак*

«Ноч кроіла цемру на...»[3]

*9 жніўня, субота*

У падстрэшшы прыходзяць радкі: «У падстрэшшы мамінай хаты...»[4]

---

[1] Гл.: Таксама... (24.07.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 139.

[2] Гл.: «Сінічкі раннія спевы...» (25.07.08) // Тамсама. С. 141.

[3] Гл.: «Ноч кроіла цемру на...» (5.08.08, Ушача) // Тамсама. С. 231.

[4] Гл.: «У падстрэшшы мамінай хаты...» (9.08.08, Ушачы) // Тамсама. С. 182.

*17 жніўня, нядзеля*

Перакладаю Хізры. Цяжка. Не ў маім гэта гусце. Але даў слова. Прыйшлі радкі: «Зорку пачуць…»[1]

*20 жніўня, серада*

«З намі…»[2]

*23 жніўня, субота*

Прыязджаў Алесь Камоцкі з сябрамі. Паехалі да Валянціны Уладзімераўны, у *Бычкі,* на Вечалле.

«Даланю…»[3]

*25 жніўня, панядзелак*

Закончыў Хізры. У Менску толькі перадрукаваць ды падчысціць.

*26 жніўня, аўторак*

[…]. «Свет аб'ехаўшы…»[4] Званіў Ілоне. Знерваваная, разгубленая, згубленая. Баліць яна мне, крывінка мая адзіная. І дапамагчы нічым не магу. Як на вогнішчы пякуся. Каб хоць калі спакой адведаў мяне ў лякарні жыцця.

*27 жніўня, серада*

Апошнія дні ў Вушачы. А там Менск з ягоным тлумам і тузаннем. Перачытваў Су Дун-по[5]. «Узысці на нябеснай ніве…»[6] Прыходзілі два хлопчыкі па аўтографы. Адзін Марозаў, другі Суслёнак. Казалі, калі гавораць па-беларуску, дзеткі ср.ных начальнікаў называюць «деревня, кресты». Зэкаўская лексіка. Дажыліся, каб на Вушаччыне была такая знявага крывіцкае мове.

*28 жніўня, чацвер*

У Менск. У клопаты. У яшчэ мацнейшы галаўны боль. Па дарозе ехаць адна асалода. Назвы вёсак гучаць маміным голасам. Як Млечны Шлях апусціўся на зямлю.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Зорку пачуць… (17.08.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 454.

[2] Гл.: З намі… (20.08.08, Ушачы) // Тамсама. С. 19.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Даланю… (23.08.08, Ушачы) // Тамсама. С. 475.

[4] Гл.: Ахвярнықі: Свет аб'ехаўшы… (26.08.08, Ушачы) // Тамсама. С. 459.

[5] Су Дун-по (Су Шы; 1036–1101), кітайскі паэт, палітычны дзеяч эпохі Сун.

[6] Гл.: Прачынаемся… (27.08.08, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 18.

*29 жніўня, пятніца*

Менск. Без клічніка. У хаце такі-сякі рамонт. Робіць Косця. Рысік дужа рады, што я прыехаў.

«Дома, ці Вушача»[1].

*1 верасня, панядзелак*

Дамінічка пайшла вучыцца. Філфак. Беларускае аддзяленне. У «Коўню». Адзначылі 70 год Дубатоўку[2] — ён цяпер у Мексіцы.

*4 верасня, чацвер*

Адкачаўся з галавой. Сёння ў галаву ўлезлі радкі: «Што?»[3]

*5 верасня, пятніца*

Уночы круціўся ад дурных думак пра безвыходнасць. І разам з тым круціліся радкі: «Арэлі»[4]. І раптам пад раніцу прысніўся Васіль Быкаў. Нешта мне дапамагаў майстраваць. Чытаў кавалак нейкага верша. Прачнуўся, стала чорна й самотна.

*6 верасня, субота*

Апускаюцца рукі. Планавае знішчэнне ўсяго беларускага. [...] «І нагадвае...», «Каб вышыню спасцігнуць...»[5]. З Наташай Давыдзенкай працуем над перапіскай з мамай. І сорамна, і балюча, і светла, і цёмна. Усплываюць дэталі. А чаго варта, да прыкладу, мамін сон. Я ўваліўся ў калодзец. А яна шукае таўсцейшую вяроўку, каб рукі не парэзаў.

«Усё жыццё мітусіцца...»[6]

*11 верасня, чацвер*

Да Сарокіна. Прапісаў новыя лекі. Можа, з мяне трывогу выганяць. Я ўжо, як мама казала некалі, не чалавек, а паўчалавека.

«Дык як адгадаць загадку...»[7]

---

[1] Гл.: Дома, ці Вушача (29.08.08) // Халодная памяць вады. С. 334.

[2] Дубатоўка Мікалай Уладзіміравіч (н. 1938), беларускі мастак.

[3] Гл.: Што? (4.09.08) // Халодная памяць вады. С. 425.

[4] Гл.: «Мой цень карацее, ніцее» (5.09.08) // Тамсама. С. 294.

[5] Гл.: І нагадвае...; Ахвярынкі: Каб вышыню спасцігнуць... (6.09.08) // Тамсама. С. 15; 469.

[6] Гл.: Ахвярынкі: Усё жыццё мітусіцца... (10.09.08) // Тамсама. С. 455.

[7] Гл.: «Дык як адгадаць загадку...» (11.09.08) // Тамсама. С. 289.

*15 верасня, панядзелак*

Пачынаю разумець пенсіянераў, якія п'юць. Нікому непатрэбныя жабракі без перспектывы, з дзецьмі парадку няма. Прачынацца з думкай, як выжыць? Толькі й жыву, як нешта пішацца. «Хто бачыў...»[1]

*19 верасня, пятніца*

Забягаўся Барыс Забораў[2]. Малады, бадзёры, натуральны. Аж у мяне на душы пасвятлела. «Не прыдумалі яшчэ калёс...»[3]

*28 верасня, нядзеля*

Ці жыву, ці дажываю. Як у космасе. Роспач.

*

Лета памінаючы,
Гаротна
Дагарае свечка дзьмухаўца.

*29 верасня, панядзелак*

Да прафесара кардыёлага. Нічога радаснага. «Ты пад сэрцам насіла мяне...», «На вуха ветру...», «Льга ашукаць...»[4].

*1 кастрычніка, серада*

Слота на душы, як і на вуліцы. Як бы гэта хоць дзе пазычыць настрой. Адагнаць трывогу. Штодня горш і горш. А што чакае?

*3 кастрычніка, пятніца*

«На шалях дабра і зла»[5].

*4 кастрычніка, субота*

Завыць бы ваўком, ды не ўмею. Ці гэта пані Старасць, ці паненка Роспач? Хто мяне болей упадабаў? «Хоць яму...», «Пытанне-назола...»[6]. [...].

---

[1] Гл.: «Хто бачыў?...» (15.09.08) // Халодная памяць вады. С. 439.

[2] Забораў Барыс Абрамавіч (1935–2021), беларускі мастак і скульптар. Ганаровы акадэмік Расійскай акадэміі мастацтваў і ганаровы акадэмік Фларэнтыйскай акадэміі выяўленчых мастацтваў. З 1980 г. жыў у Францыі.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Не прыдумалі яшчэ калёс... (19.09.08) // Халодная памяць вады. С. 456.

[4] Гл.: Ахвярынкі: Ты пад сэрцам насіла мяне...; На вуха ветру...; Льга ашукаць... (29.09.08) // Тамсама. С. 481; 471; 452.

[5] Гл.: На шалях дабра і зла (1–3.10.08) // Тамсама. С. 17.

[6] Гл.: «Вусы падрыгваюць...»; Ахвярынкі: Пытанне-назола... (4.10.08) // Тамсама. С. 253.

*5 кастрычніка, нядзеля*

Лезуць у галаву ахвярынкі: «Урач дзіцячы…», «Завыць бы ваўком…», «Душы нашыя…»[1]. Званіў Някляеў. Учора паміналі Будзінаса[2]. Прасіў напісаць верш памяці Ірыны Казулінай[3] (прасіў Казулін[4]). «Адданасць: Быць каханай — значыцца, адданай» (Памяці І. Казулінай).

*6 кастрычніка, панядзелак*

Апрача роспачы й галаўнога болю — нічога. Адно радкі нейкія прыходзяць: «Каханне — хвароба…»[5]

*10 кастрычніка, пятніца*

Знайшоў нейкія радкі ў нататніку з лякарні: «Напомніць…», «Гонар і голад», «Не першы прыйшоў я…», «Пераходзяць па мне…»[6], «Свой клопат і ў праталін босых…»[7]

Перачытваю. Як нанова чытаю Міхася Стральцова. Гэтулькі светлай тугі, гэтулькі маладое мудрасці. Каб лішні гук. Ягонае эсэ «Загадка Багдановіча»[8] — гэта і спроба разгадаць сябе самога. Ён і ў сваім часе, і па-над часам. Вытанчанасць, глыбіня, першароднасць.

* * *

Адсоўваюцца небасхілы.
Свяжэе дол. Ніжэюць высі.
І толькі родныя магілы
У родным краі засталіся.

*12 кастрычніка*

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Урач дзіцячы… (5.10.08); Завыць бы ваўком… (4.10.08); Душы нашыя… (12.09.01) // Халодная памяць вады. С. 458; 474; 460.

[2] Будзінас Яўген Дамінікавіч (1944–2007), рускі пісьменнік, публіцыст, стваральнік музейнага комплексу старажытных рамёсел і тэхналогій «Дудуткі» каля в. Пціч Пухавіцкага раёна Мінскай вобл. (з 1994).

[3] Казуліна Ірына (1959–2008), беларускі грамадскі дзеяч, нам. кіраўніка грамадскай арганізацыі «У промнях надзеі» (дапамогі жанчынам, хворым на рак); жонка А. Казуліна.

[4] Казулін Аляксандр Уладыслававіч (н. 1955), беларускі вучоны, педагог, грамадскі і палітычны дзеяч. Кандыдат фізіка-матэматычных навук (1988). Доктар педагагічных навук (1996). Прафесар. Акадэмік Акадэміі адукацыі РБ. Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) ( 2005–2007). Адзін з кандыдатаў у прэзідэнты, асуджаны «за арганізацыю беспарадкаў» пасля выбараў (2006–2008).

[5] Гл.: Ахвярынкі: Каханне — хвароба… (6.10.08) // Халодная памяць вады. С. 477.

[6] Гл.: «Напомніць…» (5.04.08); Гонар і голад (10.04.08); «Не першы прыйшоў я…» (11.04.08); «Пераходзяць па мне…» (17.4.8) // Тамсама. С. 288; 417; 216; 234.

[7] Гл.: «Свой клопат і ў праталін босых…» (18.10.08) // У неба пехатою. С. 106.

[8] Стральцоў М. Загадка Багдановіча. Мінск, 1968.

*14 кастрычніка, аўторак*

Абадзін дзень у Вушачу. Трохі яблыкаў апалых сабралі. Дзякуй Алесю. Аж нялоўка ехаць на ім.

*15 кастрычніка, серада*

У 10-ю лякарню.

* * *

Усё, як першы і апошні раз, —
І цішыня, і верхал вераб'іны,
І сарамлівасць гронкай арабіны,
І бліскавіцы агнявіты пас.
Пакуль гасцінны свет прымае нас,
Чакаюць анямела дамавіны.
Старэе радасць, горбяцца правіны,
Усё, як першы і апошні раз.

*20 кастрычніка*

*23 кастрычніка, чацвер*

«Калі я аднойчы...»[1]

*13 лістапада, чацвер*

Выйшаў з лякарні. За гэты час столькі плётак і чутак вакол кніжак з аўтографамі[2]. Усё перакруцілі ў прэсе і ў інтэрнэце. Жабрак трапіў на языкі. А яшчэ з Дамінікай ніякой рады няма. Сумны мой заход. Увесь на нервах. Толькі сырая лякарня і супакоіць. Што ж. Дзякуй Усявышняму за ўсё, за кожную імгнінку тут, на гэтым свеце!

*17 лістапада, панядзелак*

Да прафесара з сэрцам. Жыць можна.

*23 лістапада, нядзеля*

Санаторый «Крыніца». У асноўным старыя. Мне мілыя бабулькі, якія нагадваюць вушацкіх. Ёсць і «ўдзельнікі штурму Зімняга». Кэдэбісцкія сапселыя бульдогі. Пракідаюцца паўугалоўнікі, якія сталі бізнесоўцамі. А наогул, пад старасць выяўляецца сутнасць. Хто на сабаку падобны, хто на ваўка, хто свінню. Дужа мала — на людзей. Шмат расійскай саранчы. Нахабныя. Усё думаюць, што яны старэйшыя браты. Сапраўды, як у нас казалі: чым поршы, тым горшы.

---

[1] Гл.: Каб мог... (23.10.08) // Халодная памяць вады. С. 213.
[2] Глеб Лабадзенка арганізаваў распаўсюджванне кніг паэта з аўтографамі.

** * **

Першы снег, як першае каханне,
З неба выдыхнутая светлыня,
Выбірае сцежку на спатканне
Радасці і маладога дня.
Пашчадрэе ў лета даланя.
Сум утуманелы светлым стане.

*Лістапад*

*17 снежня, серада*

Дамоў. Слаба палепшала. Галава па-ранейшаму дурная.

*21 снежня, нядзеля*

Баяўся, што ўжо не буду пісаць вершы. Але нешта ў галаву ўлезла: «Аблавухі вятрак…»[1]

*22 снежня, панядзелак*

Нешта пачало прыходзіць у галаву. А наогул, адчуванне, што ты выпаў са свайго часу. Мярзотнае. Ці, дакладней, час пайшоў далей, а ты застаўся тут.

«Вушацкая сасна»[2].

*24 снежня, серада*

Святы вечар. Ісці ў касцёл не магу. Цяжка мне рухацца. Галава адсутнічае, то так ломіць, што хоць на сцену лезь.

*Кальварыя*

Кальварыя — бяседа душ.
Вякі змяняюцца, як хвілі.
Хто целам слаб,
Хто духам дуж,
Усе тут вечным сном спачылі.

Каб не сурочыць цішыню,
Спыніўшыся, маўчаць аблокі.
Усё тут, як упершыню,
Маркота чуе ў небе крокі.

---

[1] Гл.: «Аблавухі вятрак…» (21.12.08) // Халодная памяць вады. С. 179.
[2] Гл.: Вушацкая сасна (22.12.08) // Тамсама. С. 146.

Свой клопат маюць карані.
Высока зорка трапяткая.
Ні зайздрасці, ні мітусні.
Кальварыя чакае…

*27 снежня, субота*

*

Бліжэюць нябесныя ляды.
Усмешкамі зорак грэецца дол.
Каляды.

*31 снежня, серада*

Апошні дзень года. Дзякуй году за ўсё, за тое, што ён быў і маім! У асноўным хварэў, упадаў у роспач. Але былі й хвіліны, у якія нешта пісалася. Усё роўна тое, што задумана, не завершыцца. «Знябытае, забытае…»[1]

Раптам пазваніў Чаргінец, пытаючыся, ці не трэба мне лекі. Можа дапамагчы. І калі буду гуляць, зайсці ў Дом літаратара, паглядзець, як яны ўлаштаваліся, які парадак навялі. Падзякаваў, каб не разводзіць г[….].

[1] Гл.: «Забытае, знябытае…» (31.12.08) // Халодная памяць вады. С. 270.

## 2009

*1 студзеня, чацвер*

Добры дзень, Новы год! Будзь спагадлівы, будзь шчодры! Аж не верыцца, што гэтулькі гадоў сустрэў. Дзякуй, дзякуй Усявышняму!

*Зміцеру Вайцюшкевічу*[1]

Цямяць супермаркет і сельмаг:
Зміцер Вайцюшкевіч — супермаг.
Песні яго славу засупонілі
Ад палескіх даляў да Японіі.

*11 студзеня*

*3 студзеня, субота*

Прыйшлі радкі: «Каса й сякера...»[2] Здзек з мовы. Здзек з беларусаў, якія імі засталіся. [...]. Добра вар'ятам. Ім ўсё спакойна, яны шчаслівыя. Ці шызікам, якія сябе геніяльнымі лічаць [...].

*30 студзеня, пятніца*

Прасілі напісаць успаміны пра Юрыя Багушэвіча[3].

*Светлы*

*Памяці Юрыя Багушэвіча*

Вясёлым быць — таксама праца,
Яна не лёгкая зусім.
Усмешку сватаць і змагацца
З адчаем і з сабой самім.

Быць светлым — хітрае мастацтва,
Яно жадае плёну тым,
Хто хоча для сябе застацца
І для ўспамінаў — маладым!

---

[1] Вайцюшкевіч Зміцер (н. 1971), беларускі спявак, музыкант, кампазітар, заснавальнік гурта «WZ-Orritstra».
[2] Гл.: «Каса й сякера...» (1–3.01.09) // Халодная памяць вады. С. 123.
[3] Багушэвіч Юрка (Георгій Канстанцінавіч; 1917–1983), беларускі празаік, кінасцэнарыст.

Месяц ідзе на спад. Увесь быў з трывог, з боляў. Але дзякуй Усявышняму за ўсё! Тут лепей, чымся там.

****

Ходзікі на сцяне
Запамінаюць,
Як будзе па латыні вада,
Паўтараючы:
Ac-va, ac-va…[1]

*12 жніўня 2006*

*1 лютага, нядзеля*
І яшчэ адзін мой родны месяц. Добры дзень! Не будзь лютым да мяне. «Яшчэ я на гэтым свеце…»[2]

*

Не прачынацца нельга.
А прачынаешся
У абдымкі пакутаў…

*4 лютага, серада*
«Здаровы мароз…»[3]

*5 лютага, чацвер*
«Памяці Аляксандра Абрамавіча Дракахруста»[4].

7 лютага, субота
«Пытаюся ў ракі…»[5]

[1] Параў.: Каб не забыцца… (12.8.06, Росіца) // Халодная памяць вады. С. 335.
[2] Гл.: «Яшчэ на гэтым свеце…» (1.02.09) // Тамсама. С. 218.
[3] Гл.: «Здаровы мароз…» (4.02.09) // Тамсама. С. 323.
[4] Гл.: Памяці Аляксандра Дракахруста (5.02.09) // Толькі б яўрэі былі!.: Кніга павагі і сяброўства. Мінск: «Кнігазбор», 2011. *Дракахруст* Аляксандр Абрамавіч (1923–2008), рускі паэт, перакладчык.
[5] Гл.: «Пытаюся ў ракі…» (7.02.09) // Халодная памяць вады. С. 314.

*15 лютага, нядзеля*

* * *

А лесу не патрэбна пахвалА.
Люляе ўсё вакол самотны доЛ.
Але і ў цемры бачыць след стралА[1].

*19 лютага, чацвер*

Зноў лякарня. З чыноўнікамі розных рангаў, з цяперашнімі бізнесоўцамі. Варочаюць мільёнамі, а хвароба спыняе. Не хочуць задумацца. Адна задача — паспець ухапіць. Адзін страх — [Лукашэнка] пасадзіць. Сярод іх адчуваеш сябе дужа няўтульна. Нічога ў цябе няма. Усё, што ты рабіў, нікому ўрэшце не трэба. Усё беларускае нішчыцца. Калхозны сацыялізм, дакладней, калхозны капіталізм. Няма гарантыі, што заўтра не будзеш бамжом.

* * *

Рахманыя, не ўпартыя,
Адзін аднога вартыя,
Мы ўсе — адзін калгас.
Кіруе намі партыя
І думае за нас.

Дазвол ёсць жыць у лагеры
Сацыялізму ўсім.
Дарма буржуі звягаюць,
Мы не зайздросцім ім!

На волю нам не хочацца,
Мы рушым свет стары.
І вораг не праточыцца
Праз цвёрдыя муры.

Дакладна кожны ведае —
Быў камуніст Ікар.
Для мар пра заўтра светлае
Хапае голых пар.

*[Запіс 2009]*

---

[1] Параў.: «Лесу не патрэбна пахвала» // У неба пехатою. С. 96.

*

Толькі спакой разумее шаленства.
Толькі адчай разумее вар’яцтва.

*Люты 2009*

*1 сакавіка, нядзеля*

Вясна! А я ў бальніцы.

*3 сакавіка, аўторак*

«Абсягу адсутна і нема»[1].

*23 сакавіка, панядзелак*

Званіла Ілона. Толькі расхвалявала. Здаецца, вясёлая. Не стаў доўга гаварыць. Бо яна нагаварвае грошы, а потым будзе галодная. На душы такі асадак. Хацелася пагаварыць нармальна. Не выйшла.

Дамініка не вучыцца. Жыву, як у камеры. Хадзіць куды цяжка. Вар’яцею ад болю галавы й думак. Хоць верш прыйшоў:

*Вынік*

Задумаўся наіў,
Што значыць шлях твой з дому.
І ўсё, што ты зрабіў,
Не трэба ўжо нікому.

Нямую крыўду льга
Даверыць толькі болю.
Прыйшла твая чарга.
Настаў канец застоллю.

Са стомленай вярсты
Смялей глядзець на строму,
Пакуль патрэбен ты
Яшчэ сабе самому…

*24 сакавіка, аўторак*

Хочацца светлай галавы, добрага настрою. А іх няма. Сапраўды, жыццё, як у казцы: чым далей, тым страшней. «Пацьвердзяць і меч, і аловак…»[2]

---

[1] Гл.: «Абсягу адсутна і нема» (3 .03.09) // Халодная памяць вады. С. 179.

[2] Гл.: «Пацьвердзяць і меч, і аловак…» (24.03.09) // Барадулін Р. Навошта: Вершасказы. Мінск: «Медысонт», 2009. (Без нумарацыі. Далей зноскі з пазнакай «Навошта» ў тэксце.)

*29 сакавіка, нядзеля*

Замовілі як бы рэкламу. Знайшлося такое:

* * *

Досыць сніць чужыя сны
З ласымі спакусамі.
Цвёрдымі, як валуны,
Будзем беларусамі!

Алесь здорава паправіў:

Пачынаючы з вясны,
Будзем беларусамі!

*1 красавіка, серада*

І вясна. А на душы зіма. У нататніку знайшоў верш:

* * *

Мама ведала па імю кожную зёлку,
Па голасу — кожны гром,
Па ўсмешцы — кожную зорку.

Сын паціху забываць пачынае.
Унучка яшчэ тое-сёе помніць.
А праўнучцы ўсё гэта не ў галаве —
Яна ў прыдуманым свеце жыве.
Прагрэс.

*30 сакавіка*

*12 красавіка, нядзеля*

Хрыстос уваскрос! Валя зрабіла Вялічка. Некалі ў гэты дзень ішоў па чырвонае яечка да маткі хроснай[1]. Заходзіўся Някляеў з Казуліным. Хочуць арганізаваць супольнасць «Беларускі дом».

*14 красавіка, аўторак*

У Чырвоны касцёл да айца Уладыслава. Вячэра. Хочуць зрабіць фільм пра мяне. А мне ўжо так дрэнна, што хочацца ўслед за Караткевічам сказаць: «Мне хочацца легчы і ціха сканаць…» Роспач. Трывога. Вяласць. Пра што ні падумаю — ужо не хочацца рабіць. Калі куды ісці — загадзя не хочацца. Наўкола і ў душы неспакой. Усё, што рабіў, не патрэбна нікому. І сам сабе ўжо амаль непатрэбны.

---

[1] Міклашэўская Феліцыя Антонаўна, хросная маці Р. Барадуліна.

*18 красавіка, субота*

Айцец Уладыслаў купіў пуцёўку ў «Крыніцу». Патроху збіраюся. Хоць цяжка і з галавой, і з ціскам. А тут яшчэ ад дзетак сюрпрызы. Узялі ў крэдыт [на пракат] кампутар, паехалі, не здалі і не заплацілі арэнду.

** * **

Услухаюся ў нябесную цішыню.
Раптам пачую,
Як Усявышні ступае.
Толькі крокі Ягоныя,
Як дыханне…[1]

*19 красавіка, нядзеля*

«Крыніца». Зноў я тут. Вучуся хадзіць у сталоўку і са сталоўкі. Кармлю сінічак, вераб'ёў, шпакоў і нават вяльможных варон.

*21 красавіка, аўторак*

Нейкія радкі ідуць: «Веснавая бярэзіна…»[2] Сустракаю знаёмага бэнэфаўца. Ён кажа на мяне: «Яшчэ можна пазнаць…» […].

*24 красавіка, пятніца*

«Збіраючыся, затрымацца…»[3]

*28 красавіка, аўторак*

«Усё цяжэй насіць свае гады…»[4]

*1 траўня, пятніца*

«Мурашкі разумнейшыя за нас»[5].

*15 траўня, пятніца*

«Ты сабе, душа…»[6]

---

[1] Гл. таксама: «Шчадруе ціша скупая» (3.03.11) // У неба пехатою. С. 13.
[2] Гл.: «Веснавая бярэзіна…» (21.04.09, «Крыніца») // Халодная памяць вады. С. 316.
[3] Гл.: «Збіраючыся, затрымацца…» (24.04.09, «Крыніца») // Тамсама. С. 236.
[4] Гл.: «Усё цяжэй насіць свае гады…» (28.04.09, «Крыніца») // Тамсама. С. 223.
[5] Гл.: «Мурашкі разумнейшыя за нас» (1.05.09, «Крыніца») // Тамсама. С. 327.
[6] Гл.: «Ты сабе, душа…» (15.05.09, «Крыніца») // Тамсама. С. 191.

* * *

Я там,
Дзе ўжо няма мяне.
Але туды яшчэ вярнуся,
Скаруся
Чорнавокай скрусе
У незабытай старане.
Зноў буду слухаць цішыню
Нясмела, як упершыню…

*5 чэрвеня, пятніца*
«Конь…»[1]

*12 чэрвеня, пятніца*
*[Ушачы.]* «Сухарукі сад…»[2], «У зорак позіркі заімгляцца…»[3].

*13 чэрвеня, субота*
«А трэба ня шмат…»[4].

*24 чэрвеня, пятніца*
Самы высокі ганарар. Учора падпісваў дзецям кніжкі. Сёння прыйшлі дзве дзяўчынкі й прынеслі мне палову шакаладкі. Адну палову па дарозе зласавалі. Кранула да слёз. Вядома, шакаладку вярнуў ім… Потым прыходзяць сельгаслэдзі (твары адпаведна чырвоныя), даць аўтограф… Адна кажа: «Гэта мой сын, калі быў малы, залез да вас у хату (яго падгаварылі)». Падпісваю «Ксты». Валя праводзіць, адна (просіць) тры рублі — «сыну на віно»… А летась прыходзіў сімпатычны хлопец, вялікі аматар Быкава, прасіў аўтограф на далані. Падпісаў кнігу.

*16 ліпеня, чацвер*
Збіраюся ў Вушачу. Настрой кепскі. Здароўе, як казалі ў нас, як га.но кароўе. З Дамінікай няма зладу. Галава скіпаецца. Хачу перапісаць з нататніка колькі вершаў. «Стаіўся смех», «З галінкі спадае кропля…», «Перакуленае», «Ля чмяля…», «Прыгадвае свой цень…», «Над журбой крыніцы…»[5].

[1] Гл.: «Конь…» (5.06.09) // Халодная памяць вады. С. 160.
[2] Гл.: «Сухарукі сад…» (12.06.09, Ушачы) // Тамсама. С. 176.
[3] Гл.: «У зорак позіркі заімгляцца…» (13.06.09, Ушачы) // Тамсама. С. 285.
[4] Гл.: «А трэба ня шмат…» (13.06.09, Ушачы) // У неба пехатою. С. 10.
[5] Гл.: «Стаіўся смех» (13.05.09, «Крыніца»); «З галінкі спадае кропля…» (15.06.09, Ушачы); «Перакуленае» (21.06.09, Ушачы); «Ля чмяля…» (25.06.09, Ушачы); «Прыгадвае свой

Нешта апошнім часам цягне да магільнікаў. Добра, што да стагоддзя мамы прылюдзілі магілу. І якраз выйдзе кніжка ліставання «Паслаў бы табе душу». Дзякуй залатой Наташы Давыдзенчысе! «На лясным магільніку…»[1], «Хай будзе ўсё, як будзе…» [«Навошта»]. Напісаў такі верш: «Птах вёслакрылы…»[2]. Можа, хай і гэты будзе да кучы: «У маленстве радасць…»[3]

*18 ліпеня, субота*

З'езд беларусаў свету. Не змог пайсці. Прыходзіў Сарокін. Раіў, як быць здаровым. З Наташай разбіралі нататнікі. Знайшоў верш, напісаны ў Вушачы: «Забытая хата»[4].

*20 ліпеня, панядзелак*

Сёння дзень народзінаў Вайцюшкевіча. Напісаў, Алесь прачытае, дзякуй яму. «Мудзёр будзь і хіцёр, Маэстра Зміцер…» [у дзённіку].

*22 ліпеня, серада*

Ад'езд у *Вушачу*. З намі кіношнікі. Айцец Уладыслаў асвяціў маміну магілку. Дзякуй яму! Рабіліся некаторыя кадры.

*23 ліпеня, чацвер*

Кіношнікі рабілі кадры. Ездзілі па Вушачы. Падышоў да хаты маткі хроснай. Бульба цвіце ў гародзе. Прыйшлі радкі: «Я забыўся…»[5]

*24 ліпеня, пятніца*

Імша ў касцёле. Потым да айца Ежы. Працуе як чорнарабочы, парадчыць і касцёл, і наўкол. Дасціпны, трошкі іранічны. З Польшчы. Імша ідзе па-беларуску. Біблію талкуе, тлумачыць і па-расейску, і па-беларуску. Вернікаў трохі ёсць. Галоўнае, што маладыя. Можна было здымаць яшчэ фільм, як здымалася Ала. Дажджы, дажджы. Напісалася: «Вушацкі дождж…»[6] Пісаў віншаванку Някляеву на 9.VI.09: «І як бы хто Яго ні лаяў…» [у дзённіку].

---

цень…» (3.07.09); «Над журбой крыніцы…» (4.07.09) // Халодная памяць вады. С. 286; 318; 319; 313; 157; 314.

[1] Гл.: «На лясным магільніку…» (6.07.09) // Тамсама. С. 180.

[2] Гл.: «Птах вёслакрылы…» (15.07.09) // Тамсама. С. 171.

[3] Гл.: «У маленстве радасць…» (4.03.09) // Тамсама. с. 153.

[4] Гл.: Забытая хата (2.07.09, Ушачы) // Тамсама. С. 293. Гл. варыянт: Забытая хата // У неба пехатою. С. 70.

[5] Гл.: «Я забыўся…» (23.07.09, Ушачы) // Тамсама. С. 128.

[6] Гл.: Вушацкі дождж (23.07.09, Ушачы) // Тамсама. С. 316.

*25 ліпеня, субота*

Пазваніла са «Свабоды», каб напісаў на помніку яе маці, шчырай беларусцы: «Ларысе Солтыс: Змаганне з цемрай па зямлі вяло. Жыла святлом і адышла ў святло».

Нешта пісалася:

* * *

Я хачу разміну-
цца
Са сваімі га-
дамі.
А яны хала-
дамі
Дыхаюць мне ў спі-
ну.
Хітрых я не
Спы-
ню.

*27 ліпеня, панядзелак*

І хварэю, і патроху пішу. Дзякуй спадару Пятру Варатынскаму[1], што давялі да парадку маміну магілу, бабулі Маланні Несцераўны, Марыі Рыгораўны і Пятра Аляксандравіча Трафімавых[2] — апошніх крэўнікаў. У мяне цяпер на радзіме толькі родныя магілы, а так чуж-чужына вакол. Наогул, Вушача цяпер — зусім чужая. Толькі вымаўленне трасянкі, галасы вушацкія. А тая, якая мне помніцца, — сон салодкі. Аж сорамна прачынацца. У садзе астарэлыя яблыні ўсё тыя, пакуль жывуць. «Люляюць старыя яблыні...»[3]

*28 ліпеня, аўторак*

З былых суседзяў застаўся толькі Васіль Бялевуш. Майстра на ўсе рукі. Любіць выпіць, часам дужа. Жонка [Алена ...]. А ён ведае антычную міталогію. Помніць маю маму. Неяк папрасіў паглядзець замок у дзвярах. Змазаў і падасуміў: «Жанчына любіць ласку, а жалеза любіць змазку». [...]. Што рабіць на раёне на пенсіі, як не піць. А з Васілём атрымліваецца кепска. Ён нешта дапаможа. Дасі яму колькі. Вып’е, і скандал. Лена на нас.

---

[1] Варатынскі Пётр Юльянавіч (н. 1953), беларускі спартсмен, трэнер Дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. Майстар спорту.

[2] Трафімаў Пётр Аляксандравіч (1924–1998), стрыечны пляменнік.

[3] Гл.: «Люляюць старыя яблыні...» (27.07.09, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 152.

* * *

Сусед Васіль, старажыл апошні
На нашай Каменскай вуліцы
(Дзе, дарэчы, уцалела крыху брукаванка),
Прынёс мне ў шапцы ранетак.
Прынёс з маленства,
Дзе так панадна
Лазілася ў чужыя сады.
Бяру ранеткі і цешуся,
Што яшчэ не растаў
Разам з ранішнім туманом…

*29 ліпеня, серада*

Як прыхопіць боль [ў] галаву, як возьме адчай, пачнеш разумець, што, відаць, не тады трэба было ўсё рабіць. Прывязаны да хаты, не можаш сысці ў лес ці на возера. А тут яшчэ званкі і ў Вушачы. Хоць бы дзень спакою, не думаць, як пражыць. Няма ладу з Дамінікай. Ілону шкада. […]. Адна зорка — мама. «Мама ткала…»[1], «Парада»[2].

* * *

Рукастаму дрэву хапае галля,
Каб слёзы залевы ўцерці.
Радзіма — гэта тая зямля,
Дзе хочацца жыць і памерці…

* * *

Разбураюць старую хату.
Абураюцца вокны —
Сонца, узыходзячы, затрымаецца
На імгненне,
Каб паглядзець ў шыбіны.
Абураецца комін —
Не заікнецца хмурынка ў дыму
Абураецца хатнік —
Куды мае пераходзіць?

Знойдзеная пад лавай сякера
Так стараецца ў працы,

[1] Гл.: «Мама ткала…» (29.07.09, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 185.
[2] Гл.: Парада («Шчупака льга наўпрост…») (29.07.09, Ушачы) // У неба пехатою. С. 82.

Ажно сябе не чуе —
Адчула эмансіпацыю.

*30 ліпеня*

*1 жніўня, субота*

Канец лета. А маім хваробам толькі пачатак. Як выжыць? Усё ад настрою. «Сонца прачнулася»[1]. У нататніку знайшліся радкі: «Накід»[2].

*3 жніўня, панядзелак*

Нейкі японскі й кітайскі восеньскі настрой. «Выходжу на ганак…»[3]

*11 жніўня, аўторак*

Прыехаў Глеб. Клапоціцца пра Валянціну Уладзімераўну Быкаву. Ездзілі ў Бычкі, у Глыбокае. Заязджаліся ў Селішчанскі касцёл, дакладней, сцены разбураныя. «Пераждагнаўшы абсяг…»[4]

*13 жніўня, чацвер*

Родны прыцемак. Знаёмы голас дажджу. «Прыспаны змрок…»[5]

*17 жніўня, панядзелак*

Зноў прырос да родных мясцін. Зноў трэба адрываць душу ад іх. Няма спакою душы. «Праз яшчэ зялёны…»[6]

*21 жніўня, пятніца*

Бегаў-бегаў — не набегаўся. Мітусіўся-мітусіўся — не намітусіўся. І цяпер пад канец няма раўнавагі. Толькі тады й забываюся, што хворы, што жабрак, што нічога радаснага наперадзе, калі нейкія радкі ідуць. «У прыхмараным небе…»[7]

*22 жніўня, субота*

Узяўся за касу — адкасіў сваё. Ні касіць, ні кляпаць касу, ні трапа́чкай вайстрыць. «Спрэчка»[8].

---

[1] Гл.: «Сонца прачнулася» (1.08.09, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 174.
[2] Гл.: Накід (29–30.07.09, Ушачы) // Тамсама. С. 317.
[3] Гл.: «Выходжу на ганак…» (3.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 172.
[4] Гл.: Ля Селішчанскага касцёла (11.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 100.
[5] Гл.: «Прыспаны змрок…» (13.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 138.
[6] Гл.: «Праз яшчэ зялёны…» (17.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 140.
[7] Гл.: «У прыхмараным небе…» (21.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 143.
[8] Гл.: Спрэчка (22.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 156.

*25 жніўня, аўторак*

Месяц пад канец, усё пад канец. Сум. «Галоўнае ў гэтым жыцці…»[1]. Як нязвычна звыкла чуць пеўня, сабачы брэх, бачыць жывога каня з ягонымі жывымі клопатамі. Толькі тут чуеш, што да цябе жылі й жылі натуральна. «Певень голас падае…»[2] Гляджу на малых, і ўсё плыве. «Адвячорак той самы…»[3]

*27 жніўня, чацвер*

* * *

Распранаюць Агату-хату.
Ускрылі страхý,
Каб не было, дзе
Хавацца страху.
Яшчэ трываюць
Сцены і сцені.
Бярвенне трымае
Сваё найменне,
Сашчапіўшы ў далоні
На вуглах
Прыімшоныя пальцы.
Знойдзеная пад лавай сякера
Так стараецца ў працы,
Ажно не чуе сябе.
Адчула эмансіпацыю.
А нада усім тырчыць
Пачырванелы не ад сораму
Фалас коміна з цэглы.
Буграваты канец у яго
Белы ад сквапнай вапны…

Смутак збіраецца ўпрочкі.
Хатнік задумаўся,
Ці заставацца.
Жыццё доўжыцца…

*1 верасня, аўторак*

Лічба адзін — радня клічніку. Першае верасня. Школьнікі з заплечнікамі па нашай Каменскай. Нават крок у іх на трасянцы.

---

[1] Гл.: Ахвярынкі: Галоўнае ў гэтым жыцці… (25.08.09, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 456.

[2] Гл.: «Певень голас падае…» (25.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 161.

[3] Гл.: «Адвячорак той самы…» (25.08.09, Ушачы) // Тамсама. С. 147.

Ксёндз заказаў песню для фільма. «Вы песен хотите, их есть у меня!» «Вякі і землякі»[1]. У свой час у Максіма Танка[2] быў верш «Выканана партыі заданне», які гучаў па радыё несупынна. Я выканаў заданне айца Уладыслава з песняй. Знайшоў у нататніку:

*Традыцыйнае*

Сабака аж заходзіцца.
Узыходзіць сонца.
І што яшчэ трэба
У роднай старонцы?..

*3 верасня, чацвер*

Ад'езд у Менск. Лена сапсавала настрой. Бачце, Васіля спайваем. Да нас як быццам хлопчык на пэнсыі не піў. Ледзь злавілі Рысіка. Дзякуй Алесю, у яго хапіла цярпення чакаць. Дзякуй яму за дапамогу. «Асланяе брамку ў родную хату...»[3]

*4 верасня, пятніца*

Звыкаю да тлуму. Да холаду места. «На золку...»[4] Радкі прыходзяць. Не ведаю, ці яны добрыя, ці благія. Але пакуль пішу — жыву. Жыву крывіцкім словам. «Калі люляўся ў пупышцы...»[5]

*16 верасня, серада*

Няма мне нідзе спакою. Дзён застаецца мала, і тыя спакойна не правядзеш. Хатнія мае, як па Бібліі, ворагі мае. Толькі й жыву, калі сплю. За нейкія грахі адбываю кару. Учора хадзіў у «Коўню», хоць душу адвёў. А так блізка і да вар'яцтва ці да самазагубства. Пішу, стараюся нешта сказаць. А каму ўсё гэта патрэбна? Кампутарызацыя, мабільнізацыя. Рысік плача, хоча ў Вушачу. І душа мая там, дзе маміны сляды параслі травою. Няма мамы, няма мяне. «А самыя смелыя...»[6]

---

[1] Гл.: Вякі і землякі (30.08–1.09.09, Ушачы) // Халодная памяць вады. С. 208.
[2] Танк Максім (сапр. Скурко Яўген Іванавіч; 1912–1995), беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1968). Акадэмік АН БССР (1972). Герой Сацыялістычнай Працы (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1948), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1966), Ленінскай прэміі (1978).
[3] Гл.: «Асланяе брамку ў родную хату...» (3.09.09) // Халодная памяць вады. С. 135.
[4] Гл.: «На золку...» (4.09.09) // Тамсама. С. 330.
[5] Гл.: «Калі люляўся ў пупышцы...» (4.09.09) // Тамсама. С. 195.
[6] Гл.: «Асамыя смелыя...» (16.09.09) // Anima. С. 361.

Сёння прыязджалі кіношнікі. Алесь Матафонаў[1] — дзіва! У парку прыйшлі радкі: «Па далані ліста…»[2]

*18 верасня, пятніца*

У музеі літаратуры[3] вечар па маёй кнізе «Паслаў бы табе душу…». Што радуе — шмат моладзі. Толькі на іх спадзеў. Ці выстаяць супроць абмаскальвання, супроць знішчэння беларусаў як народа, як нацыі? На такіх вечарах нейкі глыток паветра, а потым яшчэ большая роспач. А тут яшчэ й здароўе памагае роспачы. Дзякуй Госпаду за ўсё! Дзякуй, што дазволіў пабыць, пабачыць, адчуць!

*22 верасня, аўторак*

Пазваніла Ілона — грошы прыслаць. Адкуль яны ў мяне, яна не думае. Дамініка не вучыцца, пра працу й не думае. Загоняць яны мяне ў казіны рог.

*23 верасня, серада*

Перакладаю Ганада. Настрой паганы. «А мне баліць недабінтаваная бярэзіна…» [«Навошта»].

*1 кастрычніка, чацвер*

Надвор'е псуецца. Настрой адпаведны. Не магу прыйсці ў сябе. Любая дробязь кранае. Стаў крыўдлівы, бо нямоглы. Адзін самотны, як нуль. Нешта на мяне ціасне. Усё разражняе. Хаця б страха не паехала.

*3 кастрычніка, субота*

Прыходзіў Віктар Корзун даздымаць фільм, які яны з Касяй Камоцкай задумалі. Такі мілы, чулы, шчыры беларус. Душой адпачыў.

*4 кастрычніка, нядзеля*

Адчай. Галава шчапаецца. Як утрымацца? Нейкія радкі прыйшлі: «Першы снег…»[4]

---

[1] Матафонаў Алесь (н. 1977), беларускі кінарэжысёр. У 1998–2011 гг. супрацоўнік Тэлерадыёкампаніі.

[2] Гл.: «Па далані ліста…» (16.09.09) // Халодная памяць вады. С. 323.

[3] Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры.

[4] Гл.: «Першы снег…» (4.10.09) // Халодная памяць вады. С. 322.

*9 кастрычніка, пятніца*

Сніўся Васіль. Нейкія грошы збіралі на падарунак. Я вырашыў падараваць нататнік. Потым чамусьці выбіраў на базары мачалку яму ў лазню. Раніцай круціліся радкі: «А што за істота жах?»[5]

*10 кастрычніка, субота*

Алесь робіць кніжку. Якая ў яго галава, якое сэрца! Я б загнуўся без яго. Хоць ведаю, дакучаю яму.

«Гарачы град з вачэй…»[6], «Недарэчы неба раку…»[7], «Яшчэ не сымшоны зруб…» [у дзённіку].

*12 кастрычніка, панядзелак*

Прыехаў Джон[8]. Алесь трохі паправіўся, быў дужа хворы. Збіраліся ў Паліны[9], у яе сёння дзень народзінаў. «Спадарыня!» [у дзённіку]. Джон фатаграфаваў мяне ў каўказкай форме. І Алеся. Сам чамусьці адмовіўся. Толькі ў панскай шапцы і з жазлом, што мне зрабілі ў «Коўні».

*18 кастрычніка, нядзеля*

Якое гэта шчасце, што ёсць Алесь. Без яго іншым разам мне канец быў. Сапраўдны крывіч!

*19 кастрычніка, панядзелак*

Сёння дзень народзінаў Наташы: «Нічога не забудзе забыццё…»[10]

*20 кастрычніка, аўторак*

Кола звужаецца. Прачынаюся са страхам. І сны нават нейкія абрывістыя. Дамініка і не вучыцца, і не працуе. Відаць, страха паехала. Жабрак жабраком. Памерці спакойна нельга. Божа, дзякуй за ўсё! Відаць, мне варта так. Ні хвіліны спакою. Калі б мог хадзіць куды. А так, як у клетцы. Адпаведна ў галаву ўсё лезе.

---

[5] Гл.: «А што за істота жах?» (9.10.09) // У неба пехатою. С. 83.

[6] Гл.: «Гарачы град з вачэй…» (10.10.09) // Халодная памяць вады. С. 304. Гл. пад назвай: Пытаньне // У неба пехатою. С. 83.

[7] Гл.: «Недарэчы неба раку…» (10.10.09) // Тамсама. С. 82.

[8] Кунстадтэр Джон, амерыканскі дыпламат (нам. пасла ЗША ў РБ у 2000–2001) у адстаўцы (з 2005) і прафесійны фатограф. Супрацоўнічае з Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры.

[9] Лісюк Паліна, супрацоўніца Пасольства ЗША.

[10] Гл.: «Нічога не забудзе забыццё…» (19.10.09) // У неба пехатою. С. 31.

*21 кастрычніка, серада*

Снілася Вушача. Хачу пакупацца. Рэчка высока ў берагах. Паказваю малым, якая яна, Вушачка нашая, была глыбокая раней. Прыходзіць Васіль. Мне так светла робіцца.

Пад вечар прыйшлі вершы самі. Не ведаю, якія. «Шкло Хваляй жывой было…» [у дзённіку], «Ці падацца, як цень, у карчы…»[1].

* * *

У адчая на худым гарбе
Ездзіць пачала мая трывога.
Я ў лясах гадоў згубіў сябе,
Бесклапотнага і маладога.

Колькі ні гукаю —
Цішыня
Голасу не падае,
Нямая.
І куды ўцяклі сады?
Каня,
Каб дагнаць уцекачоў,
Не маю…

*23 кастрычніка, пятніца*

Быў у «Коўні» ў хлопцаў. Хоць троху забыўся на свой адчай.

*24 кастрычніка, субота*

Каб троху адпусціў мяне адчай са сваіх абдымкаў, стараюся чытаць і пісаць, калі пішацца. «Хмараў горы…»[2]

*Алесю Камоцкаму*

Ды ведайце: дружба чыстая ў нас,
Як белыя аблачыны…

*Вай Вэй*[3]

Сяброў пасылае лёс.
А лёс на паслугах у часа.
На недагнаны пракос
Нябыт пазірае ласа.
Баіцца прыстаць карга
З'іржавай сваёй касою.

---

[1] Гл.: «Ці падацца, як цень, у карчы…» (21.10.09) // Anima. С. 363.
[2] Гл.: «Хмараў горы…» (24.10.09) // У неба пехатою. С. 34.
[3] Ван Вэй (Моцзе; 699 ці 701–759 ці 761), кітайскі паэт, мастак, каліграф і музыка.

Па ўсмешку расце чарга,
Па ўсмешку з русай касою.

Заблытае сцежкі бядзе,
Настрой твой пахмеліць сябра.
Хай чарка па чарадзе
Ідзе,
Каб душа не зябла…

*26 кастрычніка, панядзелак*

Быў у «Коўні». Сёння Анатолю Сысу 50. Знайшоў у нататніку: «Анатоль Сыс»[1].

*27 кастрычніка, аўторак*

Цэлы дзень, пачынаючы з раніцы, абміраю, а пад вечар крыху ачомваюся. Ішлі радкі: «І заўтра, і сёння…»[2]

* * *

Ля мамы
Мяне пахавайце, прашу,
Пад соснамі
На пасівелым капішчы.
Над рэчкай, нядаўна глыбокаю,
Каб яшчэ па дарозе апошняй
Пачуў я душу.

Каб спагадліва мне
Нагадала яна
Мае грахі
І правіны нявінныя.

Каб мама сустрэла
Самоту сынаву,
І зрабілася
Бязважкай труна

З сасны,
Якая яшчэ расце,
Каб замаўчаць
У хаце мамінай
На куце…

---

[1] Гл.: Анатоль Сыс (15.03.94) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 7. 1994–1995. Смаленск: «Інбелкульт», 2020. С. 45. *Сыс* Анатоль Ціханавіч (1959–2005), беларускі паэт.

[2] Гл.: «І заўтра, і сёння…» (27.10.09) // Anima. С. 311.

Такі настрой апошніх год. Што далей — цямней.

Хакаская піяла заўсёды са мною. Кожны раз усплывае паездка ў Туву, у Хакасію[1]. Робіцца цяплей і маладзей.

*****

З хакаскай піялы
Зялёную гарбату
Смакую па глытку.
І стэп з далечыні,
З гарачыні
Зайшоў у нашу хату
І сеў за стол.
На шорсткай далані
Вузельчык вогнішча
Яшчэ трымае,
Што завязала цемра,
Каб хутчэй
Загаварыла цішыня нямая.
Каб слёзы ў сонца
Пырснулі з вачэй.

Сваю з нас кожны
Адбывае рату.
А ўвогуле, наш свет
Такі малы.

Сядзім. Маўчым.
Зялёную гарбату
Смакуе стэп
З калмыцкай піялы.

*1 лістапада, нядзеля*

Кляновыя вогнішчы. Халодныя. Вабныя. Смутак і нейкая радасць. Развітанне і чаканне. Усё, як заўсягды. Верш маёй Валі. Мама мая, бывала, казала: Валюта. «Я без цябе…»[2]

*5 лістапада, чацвер*

Чытаю японцаў уперамежку з Някляевым. Здорава!

[1] Паездка па Сібіры адбылася ў ліпені 1964 г. Гл.: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 1. 1951–1969. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 163.

[2] Гл.: «Я без цябе…» (1.11.09) // Халодная памяць вады. С. 422.

* * *

Мы гэты свет
Вітаем першым крыкам,
Маўкліва адыходзячы на той.
Рака не давярае першым крыгам.
Маўклівы бераг шэпчацца з вадой.

Жыццё глядзіць заспанымі вачыма,
Як змоўца, момант напінае лук.
На шыбельні вякоў крычыць маўчанне,
Заццаца хоча ўкрыжаваны гук…

*10 лістапада, аўторак*

З Віцебска прыязджаў Барадулін, з нашых краёў. Відаць, крэўнік. «Лёс…»[1], «Калі гады апошнія прыйшлі…» [у дзённіку].

*15 лістапада, нядзеля*

Акулін[2] хоча пачаць нейкі часопіс для моладзі. Прасіў некалькі радкоў напісаць.

Даваць парады маладым —
Занятак смеху варты.
Лепей пажадаць,
Упартым, ім
Піць неба з поўнай кварты.

Умець патрэбна маладым
Наставіць чорту рогі.
Хай пан Інтым,
Хай сэр Экстрым
Не ведае знямогі!

*Калісьці малады Р. Б.*

Прыходзіў, забраў вершы. Нейкі ён увесь дранько-майсючысты. […].

*25 лістапада, серада*

З Алесем заехаліся да Ірыны Міхайлаўны[3]. Кабінет Васіля. Нейкі аглухлы, ніякаваты. Бо гаспадара чакаць стаміўся. Усё пачынае аддаваць музейнасцю. Хоць быкаўскі дух жыве.

---

[1] Гл.: «Лёс…» (10.11.09) // Anima. С. 310.
[2] Акулін Эдуард Аляксандравіч (н. 1963), беларускі паэт, перакладчык, бард.
[3] Быкава Ірына Міхайлаўна (н. 1927), жонка В. Быкава.

*30 лістапада, панядзелак*

У надвор'і няпэўнасць. На душы таксама. Толькі за радкі і трымаюся. «Павук хацеў бы пахваліцца…»[1], «Не загадаюць журбе…»[2].

*1 снежня, аўторак*

Vivat, зімовы месяц з плюсавое тэмпературай!

*2 снежня, серада*

З Алесем у *Навагрvärldак*. Вечар у школе і ў бібліятэцы. Людзі скрозь добрыя, чулыя. Толькі мне цяжкавата. Але трэба цярпець, каб дачасна не загнуцца. Старасць — няўмольная суперніца смерці.

*6 снежня, нядзеля*

З Наталачкай варочалі папяровыя горы. Дакладней, яна варочала, а я глядзеў, колькі я перавёў паперы марна!

*7 снежня, панядзелак*

Сёння год «Будзьма!»[3]. З Алесем пайду. «Будзьма!: Будзьма не шарахацца ў кусты» [у дзённіку]. З-за свінячага грыпу з'езд перанеслі. Тады пісаў:

*Будзьма!*

Ані ў страхі нам патопы,
Войны з землятрусамі.
Беларусь — чало Еўропы.
Будзьма беларусамі!

Прайшоў вечар. Добра Алесь. Звышсучасны ансамбль па-беларуску. Халтурна Лявон Вольскі[4]. Зміцер Вайцюшкевіч зношваецца. Увогуле, патыхае капуснікам. […].

---

[1] Гл.: «Павук хацеў бы пахваліцца…» (30.11.09) // У неба пехатою. С. 85.

[2] Гл.: Не загадаюць журбе…» (30.11.09) // Халодная памяць вады. С. 297.

[3] «Будзьма беларусамі!» — грамадска-культурніцкая кампанія, скіраваная на папулярызацыю беларускай культуры (з 2008).

[4] Вольскі Лявон (Зэйдэль-Вольскі Леанід Артуравіч; н. 1965), беларускі дзеяч культуры, гітарыст, вакаліст, паэт, мастак, радыёвядучы; адзін са стваральнікаў групы «Zet» (з 2001). Лаўрэат міжнароднай прэміі «FreeMuse Awards» (2016). Сын А. Вольскага і С. Яўсеевай. *Вольскі* Артур Вітальевіч (Зэйдэль-Вольскі; 1924–2002), беларускі паэт, драматург, перакладчык. *Яўсеева* Святлана Георгіеўна (н. 1932), руская паэтэса і перакладчыца.

*10 снежня, чацвер*

Учора з Наташай цэлы дзень варочалі горы паперы, якая завецца архівам. «Высокие горы сдвигае советский простой человек!»[1] Яшчэ помню. Дужа ўбівалі ў мазгаўню. Каб не звар'яцець [...], нешта занатоўваю: «Калі выкруціць цемру...», «Хто збярэ?: Дзень вёз святло...» [у дзённіку].

*14 снежня, панядзелак*

У «Коўню». Хоць адпачыў душой. У «Халодную памяць вады» яшчэ: «Талент...»[2] Пераглядаў пераклады Ясеніна[3] для «выбраных». Наш Анатоль Сыс, толькі ў іншым часе, чымсьці паўтарыў лёс Сяргея Ясеніна. А тут Гілевічы пішуць муць і пыжацца. Хоць зараз нікому не трэба паэзія. «Нанова вучыцца поле...»[4]

Рукі ўжо не хочуць слухацца мяне. Заадно — галава і ногі. Прыехаў [Лабадзенка]. У Рагачове адкрываюць помнік на магіле любай бабулі (як ён на ўкраінскі лад казаў — бабці) Уладзімера Караткевіча.

* * *

Карані караля беларускага слова,
Князя духу крывіцкага —
Уладзімера Караткевіча
Прараслі ў днепраступнасці
Усмешлівага Рагачова,
Каб у гордага края
Болей сталася велічы...

Аддаў Глебу, ён мітусіцца.

*16 снежня, серада*

Напалову жывы. Толькі й жыву, калі нешта пішацца.

*Тры*

Б'юць хвалі ў ладкі
Самі сабе.
У гняздзе непаладкі
Сняцца сабе.

---

[1] Радок з песні «Советский простой человек» (1937), муз. С. Германава, сл. В. Лебедзева-Кумача. *Германаў* Сяргей Леанідавіч (Гарбенка-Германаў; 1899–1976), рускі кампазітар. *Лебедзеў-Кумач* Васілій Іванавіч (Лебедзеў; 1898–1949), рускі паэт. Лаўрэат Сталінскай прэміі (1941).

[2] Гл.: «Талент...» (14.12.09) // Халодна памяць вады. С. 304.

[3] Ясенін Сяргей Аляксандравіч (1895–1925), рускі паэт.

[4] Гл.: «Нанова вучыцца поле...» (14.12.09) // Халодная памяць вады. С. 291.

Ціха наўкола —
Хоць закрычы.
Голас полымя
Сніцца начы.

Водар няўстойліва
У заўтра дзьме.
Лепшая доля
Сніцца зіме…

*17 снежня, чацвер*

Хоць раз за апошні час снежань апраўдаў сваё імя, і мароз не паскупіўся. Клясычная зіма. А мае камусьці летнія асацыяцыі: «Смутак — прывідны, як туман…»[1]

*19 снежня, субота*

Наташа падаўжае маё жыццё. Без яе не даў бы я рады маім залежам. Дзякуй ёй! А за ліставанне з мамай не ведаю, чым аддзячыць.

* * *

Дзе было
Сённяшняе было?

Ці ёсць
Учарашняе ёсць?

Кім будзе
Паўсюднае будзе?

*25 снежня, пятніца*

Здароўя няма. Рукі не хочуць служыць. Нешта пішацца: «Перш чым ступіць на ганак…»[2]

*29 снежня, аўторак*

Загрымеў у кардыялогію. Быў на валаску.

*31 снежня, чацвер*

Сніўся Васіль. Раздаваў аўтографы. А на яго з усіх бакоў налеглі прыхільнікі. А наогул, роспач. Нічога не міла. І паміраць страшна, і жыць не смачна…

[1] Гл.: «Смутак — прывідны, як туман…» (17.12.09) // Халодная памяць вады. С. 294.
[2] Гл.: «Перш чым ступіць на ганак…» (25.12.09) // Тамсама. С. 297.

## 2010

*1 студзеня, пятніца*

Новы Дзясяты! Дзень добры! Будзь спагадлівы!

[1.1.10] Тры адзінкі і нуль. Як тры слупы і разяўленая пятля. Хай на слупах вісіць павешаныя боль, роспач, вынішчэнне ўсяго крывіцкага.

*Першы дзень*

Ветру ў вуха рэха ўляцела.
Грэе прыцемкі белы агмень.
Пастарэла на дзень завіруха.
Пасвятлела варона на цень…

Па лякарнях. Не вылажу з іх. Прыходзяць радкі часам. Толькі ад нянечак і пачуеш беларускае слова. А так, як у нейкай расійскай правінцыі.

** * **

Ягамосць Злосць!
Даруй,
Што часта турбую цябе,
Знерваваную
І немаладую.

Паненка Мілосць,
Лагодная і трапяткая,
Ад мяне
Далёка ўцякае.

А ты заўсягды
Поблізу ёсць,
Бязлітасная
Ягамосць Злосць…

*7 студзеня, лякарня*

*23 студзеня, субота*

«Наступны дзень…»[1] На душы трывога. Усё абражае, усё крыўдзіць.

«Абразок»[2].

*Люты 2010*

Па традыцыі дурной праваляўся ў шпіталях. Дзень народзінаў у рэанімацыі.

* «Сон дасынае курган» (у рэанімацыі), «І страх не адкажа…» (у рэанімацыі), «У лістападзе…»[3].

*Сакавік 2010*

З сярэдзіны месяца дамоў трапіў. Усё роўна баліць галава. Як некалі мама казала: паўчалавека.

*24 сакавіка, серада*

*

Спачатку Слова было.
А святло?..

Спачатку была пятля.
Гальштук пасля?..

*28 сакавіка, нядзеля*

Віктар Корзун з Касяй Камоцкай зрабілі цудоўны фільм. Усё на мейсцы — і акцэнты, і кадры. «Трохкутнік»[4]. Някляеў прасіў напісаць верш пра свабоду. У шпіталі нешта начырыкалася: «Праўдзіва: Не ўмее баяцца, таіцца» [5.03.10; у дзённіку].

*Красавік*

Добры дзень, Вясна! Будзь спагадлівай. Дай мне ачомацца. Каб хоць трошкі ў галаве пасвятлела.

---

[1] Гл.: «Наступны дзень…» (23.01.10) // У неба пехатою. С. 27.

[2] Гл.: Абразок (20.01.10) // Тамсама. С. 27.

[3] Гл.: «Сон дасынае курган» (у рэанімацыі); «І страх не адкажа…» (у рэанімацыі); «У лістападзе…» (28.02.10; пад назвай «У рэанімацыі» гл.: У неба пехатою. С. 84) // Барадулін Р. Лепей: Рукапісы 1952–2013. Мінск: Выдавец Ігар Віркоўскі, 2013. С. 74; 75; 76.

[4] Гл.: «Жыццё — надзея» (28.03.10) // У неба пехатою. С. 38.

*3 красавіка, субота*

Праз сілу нешта раблю, каб страха не паехала.

«Стаміўся ў родным краі жыць…»[1], «Надзейны…»[2].

*8 красавіка, чацвер*

Галава пустая, як бочка, у якой нядаўна піва было.

«З мінулага»[3].

*10 красавіка, субота*

«Лагічна»[4].

*11 красавіка, нядзеля*

Ніколі не было такога адчування сваёй непатрэбнасці, безвыходнасці. Як жыць? Хворы жабрак. Сапраўды — лучше быть богатым и здоровым, чем бедным и больным.

«Жыццё міне і не заўважыць…»[5]

*12 красавіка, панядзелак*

На падножцы трамвая часу пакуль што трымаюся. Прыходзяць радкі: «А можа, у пушчах?..»[6]

*18 красавіка, нядзеля*

Заходзіўся Алесь з Рэгінай[7]. Трохі пасядзелі. Пагаманілі. Боль адступіўся.

«Вечар цеціву…»[8]

*19 красавіка, панядзелак*

З раніцы нешта круцілася ў галаве. Можа, Алесь песню зробіць: «Надвор'е стомленай душы…»[9] І яшчэ нешта: «Нарачонка променя…»[10]

---

[1] Гл.: «Стаміўся ў родным краі жыць…» (3 .04.10) // Anima. С. 236.

[2] Гл.: Надзейны… (3.04.10) // У неба пехатою. С. 26. Верш прысвечаны Ч. Сенюху. *Сенюх* Чэслаў (н. 1930), польскі журналіст, публіцыст, перакладчык, паэт. Лаўрэат прэміі POLCUL (Аўстралія) за ўклад ў развіццё беларускай культуры ў Польшчы (1996).

[3] Гл.: З мінулага (8.04.10) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 89.

[4] Гл.: Лагічна (10.04.10) // Тамсама. С. 90.

[5] Гл.: «Жыццё міне і не заўважыць…» (11.04.10) // Anima. С. 302.

[6] Гл.: «А можа, у пушчах?..» (12.04.10) // Тамсама. С. 86.

[7] Сімаковіч Рэгіна Іосіфаўна (н. 1962), беларускі грамадскі дзеяч (г. Брэст).

[8] Гл.: «Вечар цеціву…» (19.04.07) // У неба пехатою. С. 86.

[9] Гл.: «Надвор'е стомленай душы…» (19.04.10) // Anima. С. 317.

[10] Гл.: «Нарачонка променя…» (19.04.10) // У неба пехатою. С. 25.

*25 красавіка, нядзеля*

У Чырвоным касцёле прэзентацыя «Халоднай памяці вады». Быў біскуп Антоній[1], Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў[2], Пятро Васючэнка. Усе ўзнёсла казалі. Але я не хворы на *ніл*гілізм. Сарамліва і няўтульна пачуваюся, калі хваляць.

*26 красавіка, панядзелак*

Цэлы дзень адыходзіў ад учорашняга дня. З галавы не выходзіць галеча, безвыходнасць, Ілона і Дамініка. «Стог»[3]. Адчуваю сябе, як човен, які адарваўся ад берага, і яго гоніць плынь. А куды?

*28 красавіка, серада*

З дня ў дзень галаўны боль. Няма праяснення ў галаве. Як у мяху, жыву. Нешта пішу: «Зьвініць сінічка…»[4] Вясна сёлета не спяшаецца стаць цёплай. Магнітныя буры даводзяць да вар'яцтва. Не разумею, як утрымацца. Безвыходнасць і роспач.

*1 траўня, субота*

Апускаюцца рукі. Падымаешся — у боль, стому, адсутнасць прагі жыць.

Чырвоны касцёл будзе выдаваць зборнік да 100-годдзя храма.

«Anima»[5].

*3 траўня, панядзелак*

Чытаю «Страну Моксель»[6] — сапраўдную гісторыю Расіі, і прыйшлі радкі: «У асноўным…»[7]

---

[1] Дзям'янка Антоній, у 2007–2012 гг. дапаможны біскуп і генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, з 2012 г. біскуп Пінскай дыяцэзіі.

[2] Законнікаў Сяргей Іванавіч (н. 1946), беларускі паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя А. Куляшова (1982), Дзяржаўнай прэміі РБ (1992), Міжнароднай прэміі імя Г. Скаварады (Украіна, 1997).

[3] Гл.: Стог (26.04.10) // У неба пехатою. С. 84.

[4] Гл.: «Зьвініць сінічка…» (28.04.10) // Тамсама. С. 24.

[5] Гл.: Anima (1.05.10) // Anima. С. 303. Верш прысвечаны А. Дзям'янку.

[6] Белинский В. Страна Моксель, или Московия. Киев: Изд-во им. Елены Телиги: В 3 кн., 2008.

[7] Гл.: У асноўным… (3.05.10) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 94.

*4 траўня, аўторак*

Каб не вар'яцець ад болю ў галаве, стараўся чытаць і нешта пісаць: «Крывіцкай мове чалом!»[1] За што трымацца? Усе сукі ў лесе майго жыцця паабсяканы. Баліць мне Ілоначка. Як яна там?

*5 траўня, серада*

Гаю боль словамі. Стараюся на ўсё забыцца. «Радзее змрок…»[2]

Прыходзіла Наташа. Дапамагае яна мне, дакладней, усё сама робіць, разграбсці завалы рукапісаў, нататнікаў. Дзякуй ёй за яе апантанасць! А мне ўжо нічога не хочацца. Сяджу ў хаціне, як у вязніцы. Хадзіць не магу.

*6 траўня, чацвер*

З раніцы прыйшлі радкі: «Змрок шукае…»[3]

*13 траўня, чацвер*

Прыходзілі Георгі Ліхтаровіч[4] і Вячаслаў Дубінка[5]. Ч. вар'яцее. Запытанне бібліятэкам пра сацыяльны зрэз, хто чытае Барадуліна. Ну д'ябал з ім […]! Мяне болей турбуе здароўе. Нешта набегла: «Да нельга прывыкае льга…»[6]

*14 траўня, пятніца*

Неяк заходзіўся сусед [Сарока]. Цікавы чалавек. Між іншым, распавёў, што ў свой час заканспектаваў 33 тамы дзядулі Леніна. А ўнучка і не глянула. Сёння прыходзілі маладыя беларусы — збіраюць подпісы, каб найменавалі вуліцу і станцыю метро імем Васіля Быкава. Гэта трэба было зрабіць даўно. Можа, і мёртвага баяцца […]. […] Каб не звар'яцець, пішу: «Літаўраў грымучая медзь…»[7] «Апошні катаклізм»[8] (з Ф. Цютчава[9]).

*17 траўня, панядзелак*

Адчуванне канца. І дома яшчэ прылазнік у апрамецце. Каб не з'ехаць, пішу:

---

[1] Гл.: Чалом! (4.05.10) // Anima. С. 267.

[2] Гл.: «Радзее змрок…» (5.05.10) // У неба пехатою. С. 37.

[3] Гл.: «Змрок шукае…» (6.05.10) // Тамсама. С. 37.

[4] Ліхтаровіч Георгій Леанідавіч (н. 1947), беларускі фотамастак, паэт.

[5] Дубінка Вячаслаў Андрэевіч (1941–2010), беларускі пісьменнік, мастак, фатограф.

[6] Гл.: «Да нельга прывыкае льга…» (13.05.10) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 95.

[7] Гл.: «Літаўраў грымучая медзь…» (14.05.10) // Anima. С. 318.

[8] Гл.: Апошні катаклізм (З Ф. Цютчава) (14.05.10) // Тамсама. С. 61.

[9] Цютчаў Фёдар Іванавіч (1803–1873), рускі паэт.

*У палёце*

*Ганаду Чарказяну*

Не лётаюць нізка арлы —
Крылаты ў нізіне гіне.
Спачыць на плячы ў скалы
Арлам дазваляюць вышыні.

Абсягу крылам стае
Праводзіць дзень на закоце.
Вартуючы гнёзды свае,
Арлы жывуць у палёце.

*18 траўня, аўторак*
Нешта нашапталася: «Нашаптанае»[1].

*Стварыў!*

А не ўмеў Караткевіч
Стамляцца ад спраў,
І не быў ён прыгонным
У распусніцы славы.
Князь крывіцкага духу
Вяльможна ствараў
Жыццярыс
Векавечнай Крывіцкай дзяржавы.

** * **

Паспець,
Каб плеснелым не адысці
Дый пераспелым
Не заставацца.
Паспець адолець,
Што ў гэтым жыцці
Дазволіла доля і праца.

А потым
Аднекуль адтуль назіраць,
Як шчокі твайго нецярпення гараць…

А можа, лепш
Не старацца паспець,
А жыць, як адвеку вядзецца,

---

[1] Гл.: Нашаптанае (18.05.10) // У неба пехатою. С. 24.

А можа, лепш
Запазняцца ледзь-ледзь,
Каб можна было аглядзецца
І ўбачыць,
Як цягнецца ў неба трава,
Як сталее журба маладая,
Пачуць, як у быстрай ракі з рукава
Кудысьці імя тваё адлятае.

*19 траўня, серада*

Выпаўзаю патроху ў людзі. Сустрэча ў «Кніжным салоне»[1]. Прыватная крама з беларускімі кнігамі. Ёсць яшчэ беларусы! Маразм мацнее. Някляева пасадзілі на Акрэсціна. [...].

*20 траўня, чацвер*

Канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча, прысвечаны Караткевічу. Прадэкламаваў вершы Уладзімера. Хоць беларускі канцэрт. І тое шчасце.

*21 траўня, пятніца*

Уладзімер ужо дома! Мне нешта трылузілася з учарашняга дня: «Дыктоўка»[2].

*25 траўня, аўторак*

Учора падпісваў «Ксты» бібліятэкам. Рука працуе кепска. Стамляецца. Сёння ратуюся ад болі вершамі. Якія выходзяць.

*Ды...*

І страла пачакаць магла,
Ды свой лёс дагнаць не ўцярпела.

І хацела стаць зіркатай імгла,
Ды яе слепата сустрэла.

І скала трапятлівай была,
Ды ў яе душа ўкамянела.

Косы рэжуць правы травы,
Прагне ўвагі зёлка малая.

---

[1] Прэзентацыя кнігі: Р. Бородулин. Перакуленае / Опрокинутое. Москва: «Время», 2010. На рус. и белорус. яз.

[2] Гл.: Дыктоўка (21.05.10) // У неба пехатою. С. 23.

І датуль чалавек жывы,
Покуль з ім душа размаўляе…

І яшчэ для настрою: «Нехрэстаматыйнае: Старасць — гэта калі…» [у дзённіку]. З даўніх накідаў: «Па дарозе назад»[1].

*26 траўня, серада*

Прылятала сінічка Дамінічка. Шкада яе. А яна нічога не думае. Мы слабыя. Застаецца адна без прафесіі, без апоры. Для касцельнай кнігі: «Хрыстовых вачэй вазёры…»[2]

*28 траўня, пятніца*

У дарагую сэрцу майму «Коўню». Адразу ажыў. Дужа мне любыя чаляднікі агню і ўладары над металам. Як воск, метал паслухмяны. Майстры класныя, а заказаў няма. Мастацтва нікому не трэба.

*29 траўня, субота*

Ідуць нейкія радкі: «На даланях лістоў…»[3]

*30 траўня, нядзеля*

Прачытаў у «Дзеяслове» п'есу Някляева. Таленавіты як чорт!

«Трохкроп'е: Спаць угаварыў бацян сыноў…» [у дзённіку].

*31 траўня, панядзелак*

Апошні дзень месяца. Дні лятуць стрымгалоў. Не агледзяцца. «Як усё выкінуць з галавы?…»[4] Прыйшла цёплая замалёўка:

*Цёплая завея*

Сівее, сівее
Усё навакола.
Завея, завея
Шалее вясёла.

І вёдры ў вясёлкі
З вясёлай вадою,
Ідзецца вясне
Маладою хадою.

---

[1] Гл.: Па дарозе назад (25.05.10) // У неба пехатою. С. 36.
[2] Гл.: «Хрыстовых вачэй вазёры…» (26.05.10) // Anima. С. 59. Першапачатак гл: Ахвярынкі (да 21.01.10) // Халодная памяць вады. С. 479.
[3] Гл.: «На даланях лістоў…» (29.05.10) // У неба пехатою. С. 35.
[4] Гл.: «Як усё…» (31.05.10) // Тамсама. С. 22.

І робіцца светла
Беламу свету
Ад цёплай завеі
Вішнёвага цвету...

*1 чэрвеня, аўторак*

Месяц, калі нарадзілася мама, Васіль, Алесь. Вушаччына кліча. Памёр Андрэй Вазнясенскі[1]. Скоблу[2] са «Звязды» спыталі, хто перакладаў Андрэя. Міхась адказаў, што я. Адказалі: «Не зусім падыходзіць». Доўга раіліся недзе і праз 2 гадзіны сказалі, што могуць даць колькі перакладаў. І жах, і смех! А ўсё-ткі смех урэшце перамагае жах. *Смех і жах на нажах*. Смех не паддаецца жаху.

*2 чэрвеня, серада*

«Коўня». Ажыў душой, забыўся на гады і хваробы. Як у дружнай сям'і.

*Штрыхі*

Спаць угаварыў бацян сыноў,
Пад крыло хавае галаву.

Рэха са сталіцы перуноў
Разбудзіла сонную саву.

Не стае нізіне туманоў
Ахінуць азяблую траву.

Вецер сам сябе шукае зноў,
Вольна выдыхаючы,
— Жы-ву-у-у!..

*3 чэрвеня, чацвер*

У думках збіраюся ў Вушачу. Прыйшлі радкі: «І смех, і жах...»[3]

---

[1] Вазнясенскі Андрэй Андрэевіч (1933–2010), рускі паэт, публіцыст, мастак, архітэктар. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1978), прэміі Ураду РФ (2010, пасмяротна). Ганаровы член 10-ці акадэмій свету.

[2] Скобла Міхась (Міхаіл Уладзіміравіч; н. 1966), беларускі паэт, літаратуразнавец, эсэіст, публіцыст. У 2000–2007 гг. супрацоўнік МГА «Кнігазбор», у 1999–2017 гг. супрацоўнічаў з Радыё «Свабода». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2000), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Воін святла» (Украіна, 2017).

[3] Гл.: «І сьмех, і жах...» (3.06.10) // У неба пехатою. С. 35.

*4 чэрвеня, пятніца*

У думках ужо ў Вушачы. Іду на Верасовачку, да Ваўчэнскага возера. Дзякуй Усявышняму, што ўсё было! «Пытанне»[1].

*6 чэрвеня, нядзеля*

Для «Кніжнага салона»: «Хай у «Кніжным салоне»...» [у дзённіку].

*7 чэрвеня, панядзелак*

З раніцы ашарашыў званок айца Уладыслава. Каб я падпісаў кніжкі [Лукашэнку]. Якімі вачыма буду я пасля сябрам у вочы [глядзець]? Так я ўшаную памяць Васіля? Што гэта? Затлум ці планавае заданне?

*І...*

Думаю,
Што недабразычліўцам на злосць,
Каб былі мае клопаты плённымі,
У мяне апрача незямнога ёсць
І зямны
Анёл-ахоўца з пагонамі...

*9 чэрвеня, серада*

Валя прынесла васількі. І яны сівеюць. «Сівее...»[2] Вечная спрэчка: «Спрадвеку»[3].

*10 чэрвеня, чацвер*

Маме — 101. Мамачка, дзякуй і даруй...

Вечар Алеся. Хадзіў з Дамінікай. Алесь малайчына!

*11 чэрвеня, пятніца*

Доўга з учарашняга вечара не мог заснуць.

«А...»[4]

*16 чэрвеня, серада*

На пачатку дня закончыў верш, прысвечаны айцу Уладыславу [Завальнюку]. Ён для мяне зрабіў магчымае і немагчымае. Удзячнасць мая

---

[1] Гл.: Пытаньне («А калі былі?..») (4.06.10) // У неба пехатою. С. 86.

[2] Гл.: «Ты нясеш дадому...» (9.06.10) // Anima. С. 196. Пад назвай «Сівее..» гл.: У неба пехатою. С. 22.

[3] Гл.: Спрадвеку (9.06.10) // У неба пехатою. С. 38.

[4] Гл.: Н... (11.06.10) // Тамсама. С. 22.

яму невыказная. Шмат муціць Ала. Айцец наіўны рамантык. «Падзяка»[1]. А ўжо ўдзень іншыя радкі пайшлі: «Раўнівы час…»[2]

*17 чэрвеня, чацвер*

Вясёлыя вершы ідуць:

*Суцяшайся!..*

Роспач,
Ненажэрная ў дзяльбе,
Прагне ўлады
Над жывой прасторай.
Як бы кепска ні было табе,
Суцяшайся тым,
Што будзе горай!..

*20 чэрвеня, нядзеля*

Думаю пра Вушачу. Галаву ломіць. Як мядзведзь на ланцугу, у хаце прыкуты хваробамі. Лезуць радкі: «Паэзія — не прафесія, Паэзія — гэта агрэсія…»

Баліць Ілоначка. Як яна там, крывіначка мая? Ратуюся вершамі: «Крылатая мілосць»[3]. «Можа…: Абрынуцца можа Ордэнападамі…» [у дзённіку].

* * *

Нашчадныя нашчадкі,
Як закон,
Аруць ужо па-свойму
Твой загон.

З цябе пакеплівае
Лёс-айчым,
А ты маўчыш,
Як быццам ні пры чым…

*28 красавіка–20 чэрвеня*

*Плыве…*

Згубіўшы галаву,
Хаджу як сам не свой.

---

[1] Гл.: Падзяка (16.06.10; 0.33) // Anima. С. 272.
[2] Гл.: «Раўнівы час…» (16.06.10) // Тамсама. С. 367.
[3] Гл.: Крылатая мілосьць (20.06.10) // У неба пехатою. С. 21.

Жыву і не жыву.
Заву ваду ўдавой.

Хлусні сваёй хлушу.
І стаўлю ля стаўка
За грэшную душу
Я свечку жаўрука.

Мне ўтульна сон прысніць
У ветра ў рукаве.
Крапліста воск звініць.
А галава плыве…

*27 чэрвеня, нядзеля*

Думкамі і душой у Вушачы. Прыйшлі радкі: «Нявесціцца…»[1]

*29 чэрвеня, аўторак*

*Вушача!* Толькі б не апошні раз перад апошнім. Тады да мамы пад сасну. «Па дарозе дадому…»[2]

*1 ліпеня, чацвер*

Спёка афрыканская. Увесь гарод зарос. Гэта трохі ратуе. А наогул, няма моцы. Пачынаю жыць па інэрцыі.

*3 ліпеня, субота*

У Менску гулянне. У нас таксама. Верталёт катае шчаслівых местачкоўцаў, бясконца ўдзячных [Лукашэнку]. Латышаву хату насупроць перабудоўвае […] сусед. «Песня пеўня»[3].

*4 ліпеня, нядзеля*

Доўга круціліся вобразы. А раптам нешта атрымалася? «Ные…»[4] Даводзіць Ала. І тут спакою няма. Нейкія плёткі. Падазронасці […]. Адзін сусед быў Васіль Бялевуш, і таму жонка забараніла хадзіць да нас. Усё дзякуючы ёй. Ды хопіць пра яе.

*7 ліпеня, серада*

Паступова ўрастаю ў родную зямлю. «Раскідзіста-сукаваты…»[5]

---

[1] Гл.: Нявесціцца… (27.06.10) // Anima. С. 214.
[2] Гл.: «Па дарозе дадому…» (29.06.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 19.
[3] Гл.: «Песня пеўня» (3.07.10, Ушачы) // Anima. С. 209.
[4] Гл.: Ные… (4.07.10, Ушачы) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 97.
[5] Гл.: «Раскідзіста-сукаваты…» (7.07.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 19.

*8 ліпеня, чацвер*

Прыходзіў нейкі недароблены ці выбракаваны стукач. Хацеў нешта пачуць. Нічога не пачуў. Добра, што прыехала Наталачка. З ёй святлей на душы. «Задымлены трыпціх»[1].

*9 ліпеня, пятніца*

Дзень нараджэння Валі.

*Валянціне*

Цуглямі жарсці
Трымала мяне маладога.
Сталага — пугай бацькоўства
Гнала дадому.
Пяшчотнай турботай
Сівога трываліш.
Нязменна жаданая,
Мая тая самая…

Кампанія на шашлыкі сабралася: Варатынскія[2], Васіль з Ленай, Наташа. Васіль хоць уволю выпіў.

*12 ліпеня, панядзелак*

Васіль Бялевуш распавёў. Залман Шмуйлевіч Салавей, старшыня Райспажыўсаюза, дае заданне шафёру: «Прывязі мне дроў, адну бярозу». Той прывёз яловых дроў поўны кузаў і адну бярэзіну. Салавей пытаецца: «Што ты прывёз?» А той у адказ: «Ты ж прасіў адну бярозу».

*18 ліпеня, нядзеля*

Жэніцца Глеб [Лабадзенка]. Вяселле будзе ў Мірскім замку. Просіць быць мяне. Не змагу.

*На 13 жніўня 2010 г.*

Ранішняя двойца,
Глеб і Таня[3].
Хай на доляй дадзеным стале
Будзе ў вас нязводным хлеб кахання.

---

[1] Гл.: Задымлены трыпціх (8.07.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 18.

[2] Варатынскія Пётр Юльянавіч, Галіна Аляксандраўна (н. 1953; беларуская журналістка, паэтэса (у 1974–2013 гг. супрацоўніца ўшацкай раённай газ. «Патрыёт»), Наталля Пятроўна (н. 1977; дачка; урач-тэрапеўт).

[3] Шапуцька Таццяна Віктараўна (н. 1990), беларуская журналістка і грамадскі дзеяч. У 2007–2010 гг. прэс-сакратар «Маладога фронта». З 2011 г. уласны карэспандэнт газ. «Новы час» і інш. Лаўрэат прэміі «Вольнае слова» (двойчы).

Хай настрой кунежыцца ў святле.
Хай вам поспех б'е вясёла ў ладкі.
Хай вясёлка значыць мроям шлях.
Хай гусцей растуць лабадзяняткі,
Слынны род галініцца ў вяках!
Горка!

*20 ліпеня, аўторак*

Прыязджалі Глеб з нявестай. Добрая двойца. Светлая. Прыязджаў яшчэ Алесь Камоцкі з «будзьмаўкамі». Парадак у садзе [навялі] — любата!

*21 ліпеня, серада*

Пісаліся радкі:

* * *

«Крум-крум», —
Ляціць самотны птах.
Вачэе цішыня глухая.
Ці спавядаецца крумкач?
Ці нешта ў вышыні пытае?

«Крум-крум» —
Адпачывае тлум.
«Крум-крум» —
Абсяжыста ўспаміну.
І на душу спадае сум,
Як жвір сыры
На дамавіну…

*24 ліпеня, субота*

Пайшоў у водмаладзь: «Спроба экспромта: Усё, як першы раз…» [N.; у дзённіку].

*25 ліпеня, нядзеля*

Прыйшоў Раман Клачок — выпускнік нашай школы. Адзін ён гаворыць па-беларуску. Дык яго бэнээфаўцам называюць. Дажыліся. […]. А тут яшчэ ад яблыні адшчапіўся вялізны сук.

«Адшчапіўся ад яблыні…»[1]

---

[1] Гл.: «Адшчапіўся ад яблыні…» (25.07.10, Ушачы) // Anima. С. 222.

*28 ліпеня, серада*

Валя распавяла. У Вушачы трохі п’яны: «Няма помніка Барадуліну, няма народнаму, як яго, Быкаву, а ў Дольцах камень Законнікаву». (Гэта Вярыгу-Дарэўскаму[1].)

*29 ліпеня, чацвер*

Сум. Роспач. Галаўны боль. Беспрасвецце. «Вярнуўся…»[2], «Хацеў: Нецярплівасць…» [N., у дзённіку].

* * *

Па агрызку яблыка
Ходзіць пчала.
Рыжы кот
Наважыўся пакратаць лапкай
Але вагаецца,
Відаць, малады мае ўжо вопыт.
Нат жмурыць вока.
Спёка спадае.
Усё ў траве
Жыве…

*30 ліпеня*

*31 ліпеня, субота*

Прыехалі Алесь, Джон [Кунстадтэр], Паліна [Лісюк]. Прывезлі Валянціну Уладзімераўну. Прыехаў і Валер Дубоўскі. Цёплы вечар.

*1 жніўня, нядзеля*

Прыехаў фермер з двума добрымі людзьмі. Прывезлі кілім з маладым Шагалам[3] (аўтапартрэт). Беларусы яшчэ не ўсе звяліся.

*2 жніўня, панядзелак*

Напісаўся трэці верш трыпціха: «Кароткая самая…» [N., у дзённіку].

---

[1] На самой справе надмагільны камень Ф. Тапчэўскага адшуканы ў в. Глыбачка (раней Рукшаніцы) клопатамі Г. Каханоўскага і настаўніка І. Законнікава (бацькі С. Законнікава). *Тапчэўскі* Фелікс Феліксавіч (1838–1892), беларускі паэт. *Каханоўскі* Генадзь Аляксандравіч (1936–1994), беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, фальклarыст, літаратуразнавец. Доктар гістарычных навук (1992). *Вярыга-Дарэўскі* Арцём Ігнатавіч (1816–1884, Сібір), беларускі паэт, драматург, публіцыст, даследчык фальклору. Быў рэпрэсаваны царскімі ўладамі.

[2] Гл.: Вярнуўся… (29.07.10, Ушачы) // Anima. С. 204.

[3] Шагал Марк (1887–1985, Францыя), беларускі і французскі мастак і графік.

*3 жніўня, аўторак*

Прыходзіў маладзенькі выкладчык гісторыі з сельскай школы. Чысты. Беларуская мова ліецца з ягоных вуснаў. Мы ўжо як індзейцы. [...]. А па суседству вечарамі пяе бензапіла. Няйначай атрымалі заказ з пекла на дровы.

*4 жніўня, серада*

Стаў курыны почарк (як курка лапкай, драпаю). Перачытваю Веліміра Хлебнікава[1]. Раскоша. Вобразы. Думкі. Мова. Не ўяўляю, як яго можна перакласці на еўрапейскія мовы. Нават на крывіцкую практычна немагчыма. Напісаць на тэму — гэта ўжо будзе здзек з генія. «Хто бачыў?..»[2] , «Хто?»[3].

*5 жніўня, чацвер*

Нешта пішу. А хочацца лепей. Галава ў абручах. Як быццам я не на зямлі жыву. «Не заўважыць далеч немагчыма...»[4]

*8 жніўня, нядзеля*

Прачынаюся, колькі хвілін нармальна. А потым — боль, роспач.

* * *

І я адсюль сыду,
З нікчэмнай мітусні.
І ўрэшце ў глыбіні
Я карані знайду.

І прарасту знава,
Каб тут пабыць яшчэ,
Пакуль расце трава,
Пакуль вада цячэ...

*9 жніўня, панядзелак*

Заязджаўся Вальдко Калінін[5] з дамай. Пасядзелі. Пагаманілі. Наташа зрабіла абед.

---

[1] Хлебнікаў Велімір (Віктар Уладзіміравіч; 1885–1922), рускі пісьменнік.

[2] Гл.: «Хто бачыў?...» (4.08.10, Ушачы) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 96.

[3] Гл.: Хто? (4.08.10) // У неба пехатою. С. 19.

[4] Гл.: Трохкутнік: Не заўважыць далеч немагчыма... (N., 5.08.10, Ушачы) // Тамсама. С.16.

[5] Калінін Вальдэмар Ільіч (н. 1946), цыганскі паэт, перакладчык. Лаўрэат Міжнароднай прэміі Хірасімы (Швецыя), Літаратурнай прэміі «Цыганская прэмія» (Венгрыя). Ураджэнец Беларусі. З 1993 г. жыве ў Англіі.

*10 жніўня, аўторак*

Круціцца верш: «Сон — галодны груган…»[1]

*17 жніўня, аўторак*

Як трохі адпускае боль галаву, ідуць радкі. Тым больш што ёсць чаго: «Дазволена лёсам ласым…» [N.; у дзённіку]. «Лета першая сівізна…» [N., 15–16.08; у рукапісе].

*19 жніўня, чацвер*

Лета канчаецца. Дзякуй яму!

* * *

*N.*

Я прыйшоў да цябе
З сівой галавой.
Я вярнуўся
З павіннаю галавой.
Ты гнеў свой законны
Ці двой, ці трой, —
Я твой.
*P. S.*
Мы — нявольнікі
Нашых душэўных Трой…

*21 жніўня, субота*

Жыву, як у тумане. Боль. Роспач.

«Местачковы абразок»[2], «Усё ў надзеі жыве»[3].

*23 жніўня, панядзелак*

Вось і жніўню канец прыходзіць. Як і жыццю.

«Між летам і восенню…»[4]

*24 жніўня, аўторак*

Яшчэ нейкія радкі цісnuць у галаву: «Крывічу»[5].

---

[1] Гл.: «Сон — галодны груган…» (10.08.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 17.

[2] Гл.: Местачковы абразок (16–21.08.10, Ушачы) // Anima. С. 212.

[3] Гл.: «Усё ў надзеі жыве» (21.08.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 18.

[4] Гл.: Для раўнавагі (23.08.10, Ушачы) // Тамсама. С. 18.

[5] Гл.: Крывічу (24.08.10, Ушачы) // Anima. С. 292.

*

Гаспадыня майго настрою,
Ластаўка маёй вясны,
Што прыйшла перад зімою…

*[27] жніўня*

*28 жніўня, субота*

Што значыць, калі раней у школах была ў пашане родная мова. Былы рэвізор (дама 60-ці гадоў) і былая мулярка. Першая пытае ў мяне, чаму ў «Слуцкіх ткачыхах» [М. Багдановіча] яны «заможныя узяты». Мулярка папраўляе: «бяздомныя». А Наташа ўдакладняе: «бяздольныя».

*30 жніўня, панядзелак*

Зябка на вуліцы і на душы. Не ведаю, колькі працягну з такой хворай галавой. Усё не міла.

«Ці…»[1]

*31 жніўня, аўторак*

Канец лету. Усё-ткі пабыў на радзіме, на бацькоўшчыне, на маміных сцежках. Каб не боль у галаве, не якісьці страх, зусім добра. Наплывы радасці і роспачы. Старасць — дужа ўладная і капрызная пані. І дужа раўнівая. І не паглядзі ў бок маладой радасці. Адразу нагадае пра сябе. Паставіць на мейсца. Нагадае, колькі табе.

Пад канец жніўня напаў на мяне пісун: «Ля грубкі», «Толькі калі пішу…»[2]. «Дзень без цябе, як год…» [N.; у дзённіку]. У нататніку знайшоў верш. Трохі прыгроб:

*Імяніны*

Прасіў прабачэння
Кажух у аўчыны.
Вынік сватаўся
Да прычыны.
Студзіў світанне
Сум крумкачыны.
Рух несупынны
Спраўляў імяніны…

---

[1] Гл.: Ці… (30.08.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 16.
[2] Гл.: Ля грубкі (24–31.08.10); «Толькі калі пішу…» (31.08.10, Ушачы) // Anima. С. 200; 279.

*1 верасня, серада*

Сусветны патоп нагадаў пра сябе. Ліе. Ліе. Ці гэта хваробы, ці старасць трымаюць за горла? Змрок, хоць на вуліцы віднее. Пачынаю разумець самагубцаў і запойных алкаголікаў. І што з таго?

*4 верасня, субота*

Дачытаў апошні раман Кнута Гамсуна[1] «Круг замкнулся». І ні пра што, і пра ўсё. На невялікай пляцоўцы маленькага мястэчка, не хочацца казаць горада, усё ёсць. Усё жыве. Чытаеш, і яшчэ хочацца чытаць. Аж настрой падняўся.

*8 верасня, серада*

Нейкія радкі ідуць: «Не таю…», «Як ні напінаецца струна…»[2],
«Шлях жыццёвы…»[3].

*9 верасня, чацвер*

Для Зміцера Бартосіка пераклаў Апалона Грыгор’ева[4]. Цыганская душа Зміцера прагне цыганшчыны.

* * *

Дзве гітары на разрыў
Жаласна занылі.
Змалку памятны матыў
Струны не забылі.

Вунь зорачка гарыць адна
У прамяністай велічы.
Смяецца з’едліва яна,
Без жалю сэрца цвелячы.

Навошта сэрцу слаць палон,
Сціскаючы пакутаю?
Бо да яе з далёкіх дзён
Жыццё маё прыкутае.

Ці ж у тым віна мая,
Што за позірк пекны

[1] Гамсун Кнут (сапр. Педэрсен; 1859–1952), нарвежскі пісьменнік. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1920).

[2] Гл.: «Не таю…»; «Як ні напінаецца струна…» (8.09.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 12; 88.

[3] Гл.: «Шлях жыццёвы…» (8.09.10, Ушачы) // Anima. С. 362.

[4] Верш А. Грыгор’ева, «О, говори хоть ты со мной…», які стаў народнай песняй. *Грыгор’еў* Апаллон Аляксандравіч (1822–1864), рускі крытык, паэт.

Твой за шчасце меў бы я
Несці мукі пекла.

Я ад відна і да відна
Надзею цешу гэтую
(Кунежу думку гэтую).
Спявай, пакуль звініць струна
Мне песню недапетую.

Пагамані хоць ты са мной,
Сяброўка сямiструнная.
Душа ўся поўніцца табой,
А ноч такая юная.

Басаната, басаната,
Басаната, басаната.
Ты аддазена не мне.
Не мая ты,
Не мая ты…

*14 верасня, аўторак*

Дабываю дні ў Вушачы. Ні здароўя, ні настрою. Роспач. Прачынаешся ў нейкі боль. Божа! Дазволь яшчэ затрымацца.

*15 верасня, серада*

Палова верасня. Дождж. Туга. Не магу ўзбіцца на настрой. Хадзіць цяжка. Ляжаць таксама. Дагараю. «Абстуквае дзяцел…»[1]

*16 верасня, чацвер*

Афармляў тэстаменты. Як у нас казалі: прыйшлі канцы к гародам.

** * **

*N.*

Жыве забыццё таропка.
І ўрэшце
Прыйшоў да адкрыцця:
Ты — залатая кропка
Ў апошнім сказе майго жыцця…

[1] Гл.: «Абстуквае дзяцел…» (15.09.10, Ушачы) // Anima. С. 357.

*17 верасня, пятніца*

Вар’яцкі дзень. Ад галаўнога болю вар’яцею. [...]. Далёка адысціся не магу — і прыкуты да пакуты. І раніцай званок — Ігар Шклярэўскі[1]. Гэтулькі добрых слоў я даўно не чуў. Яму спадабалася «Перакуленае / Опрокинутое». Каб не звар’яцець, пісаў: «У альбом: Аж сорамна...» [N.; у дзённіку].

*18 верасня, субота*

Паступова адыходжу. Учора ўсё-ткі не звар’яцеў. Зноў пазваніў Ігар Шклярэўскі. Дзякуй яму! Хоць выводзіў мяне з роспачы. Цікава распавёў. Уклаў кнігу — цыганы ў сусветнай паэзіі (і мой верш «Птушкамі калісь былі цыганы...»[2]) пераклаў. І самому пераклад падабаецца. Калі звярнуліся да цыганскіх баронаў, каб дапамаглі грашыма выданню, яны ў хатніх тапачках сустракалі ягонага сакратара, — і каб што іх зацікавіла. Пад кантролем сваіх жонак. Гэта як я некалі Левіну[3] прапанаваў выдаць пераклады яўрэйскіх паэтаў.

Дзякуй Наталачцы, яна рупіцца, каб прывесці да толку мой разбэрсаны архіў. Без яе я, як без рук. І не толькі. Дзякуй ёй! Хоць пачынаеш думаць, што не ўсё марна тваё прайшло. Гэта і трымае. А наогул, дажываю.

*19 верасня, нядзеля*

На мяжы жыцця й адыходу. А радкі ідуць самі сабой. «Дыялог: Дзверы разнасцежаны...» [N.; у дзённіку].

*20 верасня, панядзелак*

Апошнія дні ў Вушачы. І, відаць, не толькі ў Вушачы. І так дзякуй Госпаду за гэтулькі год! Усё-ткі лепей тут. Пад канец дня маленькі акраверш: «Нябёсам верыць навальніца...»[4]

*21 верасня, аўторак*

Здзівіла Галіна Варатынская. Паэтка, журналістка. Забрала ў мяне кніжкі. І кажа: «Тонкія я аддала суседцы на растопку». І сёння забірала яшчэ і зноў: «Забіраю ў Вас гэты хлам». Культура зашкальвае.

---

[1] Шклярэўскі Ігар Іванавіч (1938–2021), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1987), Пушкінскай прэміі РФ (1999). Ураджэнец Беларусі.

[2] Гл.: Птушкамі калісь былі цыганы... (15.11.64) // Барадулін Р. Неруш. Мінск, 1966. С. 45.

[3] Левін Леанід Мендзелевіч (1936–2014), беларускі архітэктар. Заслужаны архітэктар Беларусі. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, Ленінскай прэміі (1970), Дзяржаўнай прэміі РБ (2003, 2011).

[4] Гл.: Трохкутнік: Намерам верыць навальніца... (N., 20.09.10, Ушачы) // У неба пехатою. С. 17.

*23 верасня, чацвер*

Прыехаў Алесь. Рысік, як убачыў павадок, — знік. Тры гадзіны чакалі. Валя клікала яго ў садзе. І раптам аднекуль з-пад ложка ўзнік. Пакуль Валя лавіла яго, уся засталася ў «аўтографах».

*25 верасня, субота*

З дарагой нашай Наташай рабілі нейкі толк з архівам. Дакладней, рабіла яна, а я сядзеў, як член прэзідыума. Што б я рабіў без яе?!

*26 верасня, нядзеля*

Тым жа займаліся. Зноў дзякуй ёй!

*27 верасня, панядзелак*

Трохі сам калупаўся ў рукапісах. Прыходзіў Шапран. Забраў рукапіс[1]. Мае намер выдаць кніжку дыялогаў. «Канкрэтна»[2].

* * *

*N.*

Аднойчы ты ў мяне ўвайшла
І не выходзіла ніколі.
Я дзякую капрызнай долі,
Што шчодрага твайго святла
Яна мне не пашкадавала,
Каб воля стрымана вяла
Душу ў жаданую няволю…

*28 верасня, аўторак*

Як прыехаў, усе дні кляў суседа зверху, які мучае сабаку. Не выгульвае яго. Хоць падавай у Таварыства аховы жывёл. А гэта, выявілася, рыпіць ліфт. Нязмазаны. Так і нараджаюцца анекдоты.

*30 верасня, чацвер*

Канец месяца. Дзякуй, Верасень! «Неба падрастае разам з намі…»[3]

*Кастрычнік*

Дзень добры, Кастрычнік! Будзь спагадлівы. Пацярпі мяне.

---

[1] Рукапіс будучай кнігі С. Шапрана на аснове ягоных інтэрв'ю «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», над тэкстамі якой працавалі разам з Рыгорам Іванавічам ва Ушачах, пад час майго там гасцявання (*заўв. Н. Давыдзенка*).

[2] Гл.: Канкрэтна (27.09.10) // У неба пехатою. С. 29.

[3] Гл.: Трохкутнік: Неба падрастае разам з намі (N., 30.09.10) // Тамсама. С. 17.

*4 кастрычніка, панядзелак*

Днямі забягаўся Някляеў. Я ўключаны ў ініцыятыўную групу па вылучэнню кандыдатам у прэзідэнты РБ Някляева Уладзімера Пракопавіча. Пасведчанне № 4. Сёння пісаў: «Ашызелае не слухай лаева — Галасуй за цвёрдага Някляева!» І яшчэ на Алеся: «Тэлеграма»[1].

*6 кастрычніка, серада*

І зноў верш на адну тэму:

* * *

*N.*

Як журбою,
Нашчуся табою.
Засынаю з іменем тваім.
Дазваляе акіян прыбою
На імкненне
Быць сабой самім.

Колькі мне
Пад небам засталося
Чуць твой позірк,
Бачыць голас твой?
У каго спытаць?

Маўчыць калоссе
Ў валуна
Над голай галавой…

Дзякуй ёй, што душу амаладзіла. Хоць душа і так маладая.

*9 кастрычніка, субота*

Хварэю і пішу нешта: «Крыніцу помніць навальніца…»[2]

*10 кастрычніка, нядзеля*

З Ірынай Міхайлаўнай Быкавай Алесь нас з Валяй завёз на лецішча да Маі [Грыбоўскай] пад бокам Налібоцкай пушчы. Абразок адтуль:

*Тры дзясяткі*

Картавіць вір,
Прамаўляючы слова жвір.

---

[1] Гл.: Высновы (1–4.10.10) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 88.
[2] Гл.: «Крыніцу помніць навальніца…» (9.10.10) // Anima. С. 203.

Плынь удалячынь нясе
Спадзяванні рачулкі ўсе —
Падрамаць
У трымтлівым чароце.
З падмытага берага
Утапіўся вяз
Якраз на павароце.
Рака даганяе час
Нацянькі.
І такі малады
Голас вады…

*12 кастрычніка, аўторак*

Чытаю Ахматаву[1]. Душа адпачывае. А так роспач. Нейкая няўпэўненасць. «Яшчэ зялёную…»[2]

*Зноў пытанне*

*N.*

А каб не было б
Цябе зямной?
Маршчыню лоб,
І страх са мной…

*13 кастрычніка*

*14 кастрычніка, чацвер*

Айцец Уладыслаў папрасіў верш для кнігі: «Святло»[3].

*16 кастрычніка, субота*

Гледзячы дурны тэлевізар, прыйшоў да прапановы: зрабіць Міжнародны дзень шызафрэніка. […].

*21 кастрычніка, чацвер*

З раніцы прыйшлі вясёлыя радкі: «Смерць бачыць подыхам»[4].

---

[1] Ахматава Анна (сапр. Гарэнка Анна Андрэеўна; 1889–1966), руская паэтэса, перакладчыца.
[2] Гл.: «Яшчэ зялёную…» (12.10.10) // Anima. С. 124.
[3] Гл.: Святло (14.10.10) // Тамсама. С. 109. Верш прысвечаны арцыбіскупу Т. Кандрусевічу. *Кандрусевіч* Тадэвуш (н. 1946), каталіцкі арцыбіскуп. У 2007–2021 гг. архіепіскап, мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.
[4] Гл.: «Сьмерць бачыць подыхам» (21.10.10) // У неба пехатою. С. 84.

*22 кастрычнік, пятніца*

«Коўня». Загаварылі пра выбары ў Саюз мастакоў. Неяк Сітніца казаў, што яны хочуць застацца на другі тэрмін. Юры Гудзіновіч[1]: «Толькі ў турме не хочуць заставацца на другі тэрмін. А ў начальніках — хочуць усе».

*

З неба сыплецца
Белы смех.
А наўкола
Не так вясёла…

*23 кастрычніка, субота*

Нешта трылузіцца: «Каб не ўбачылі…», «У люстэрка гляджу…»[2].

*24 кастрычніка, нядзеля*

Лезе ў галаву нешта кароткае: «Вечар палез цішыні ў кішэні…»[3] Прачытаў Алесю радкі. А ён: «Сівы верш». Адразу даў загаловак. Так можна назваць нізку. «Сівы верш»[4].

*25 кастрычніка, панядзелак*

Нейкая абыякавасць і роспач. Нанова жыць не пачаць. А канец сумны. Нешта пішацца. І ўсё не тое. «Багата ў мінулым стагоддзі было…»[5]

*27 кастрычніка, серада*

Вазы́ таблетак. А выніку ніякога. «Гарматы застуджанай…»[6]

Пацягнула ў водмаладзь:

* * *

*N.*

І праз гады
Позірк мой малады
Бачыць цябе
Тую самую —
Самую, самую…

---

[1] Гудзіновіч Юрый Уладзіміравіч (н. 1952), беларускі мастак.
[2] Гл.: «Каб не ўбачылі…»; «У люстэрка гляджу…» (23.10.10) // У неба пехатою. С. 89; 77.
[3] Гл.: «Вечар палез цішыні ў кішэні…» (24.10.10) // Тамсама. С. 88.
[4] Гл.: Сівы верш (24.10.10) // Anima. С. 347.
[5] Гл.: «Багата …» (25.10.10) // У неба пехатою. С. 28.
[6] Гл.: «Гарматы застуджанай…» (27.10.10) // Тамсама. С. 89.

*28 кастрычніка, чацвер*
«З панядзелкам пабрацца...»[1]

* * *

Бязногі сніць,
Што ён ад бяды ўцякае.
Нябожчык —
Што ён
За вясельным сталом...

*30 кастрычніка, субота*
Люблю гэты дзень. У ім шмат светлага для мяне.

* * *

*N.*

Кастрычнік!
Дзень перадапошні твой
Непрадказана заручыў з вясною.
Са схіленай сівою галавой
Стаю перад канкрэтнай незямною.
Яна даверліва распавяла,
Як лёс вядзе дарогі ў зааблоччы.
І пазычалі, й зычылі святла
Начы маёй душы самотнай вочы.

Іх адшукаў перадапошні дзень,
Каб напаткаць не ў страх
Зіму было мне.

Кастрычнік!
Твой трываліцца агмень
Журбой,
Здабытай у праменяломні...

*31 кастрычніка, нядзеля*
Дзякуй, Кастрычнік! Ты быў спагадны. «Адганяю гадзіннік...»[2]

*1 лістапада, панядзелак*
Паклон, залаты месяц! «Рыбіна-восень...»[3]

---

[1] Гл.: «З панядзелкам пабрацца...» (28.10.10) // У неба пехатою. С. 89.
[2] Гл.: «Адганяю гадзіньнік...» (31.10.10) // Тамсама. С. 108.
[3] Гл.: Рыбіна-восень...» (1.11.10) // Тамсама. С. 89.

*2 лістапада, аўторак*

Ідуць міні-вершы: «Гультаяваты дождж…»[1]

*

За якія правіны
Свечка згарае
Разам з ільняною душой?

*

Хацела б крыўда
Дарасці да пагарды,
Ды злосць замінае…

*4 лістапада*

*5 лістапада, пятніца*

Нешта трылузіцца, як у нас казалі: «Пакуль…», «І ў смерці…»[2]

*7 лістапада, нядзеля*

Здаецца, сёння Вова [Ленін] стаяў на браневіку і клікаў на штурм Зімовага [палаца]. Сапраўды, блатнякі праўду казалі: «Ломать не строить, сердце не болит». А мне не па сябе. Ці выбіруся я з гэтага настрою?

«Пакуль магіла…»[3]

*8 лістапада, панядзелак*

Канцэрт Алеся Камоцкага. Шчыра. Чыста. Уражыста і па-хатняму непасрэдна. Каб Бог даў яму здароўя!

«Раніца…»[4]

*10 лістапада, серада*

Прыходзіла Наташа. Як яна ўсё ўмее. Уклала, паперадрукоўвала вершы для магчымай кнігі «Толькі б яўрэі былі!..» Зноў яе ідэя. Што б я рабіў без яе? Можна пісаць кнігу «Толькі б Наташа была!».

---

[1] Гл.: «Гультаяваты дождж…» (2.11.10) // Anima. С. 125.

[2] Гл.: Ахвярынкі: Пакуль…; «І ў смерці…» (5.11.10) // Anima. С. 118; 364.

[3] Гл.: Ахвярынкі: Пакуль магіла… (7.11.10) // Тамсама. С. 131.

[4] Гл.: «Раніца раіцца з жаўруком…» (8.11.10) // У неба пехатою. С. 90.

*11 лістапада, чацвер*

Наташа падказала, што адзін верш Шагала перакладзены неадэкватна[1]. Паспрабаваў перакласці наноў[2]. Пакуль перاказваў паднябеснага Шагала, прыйшлі радкі:

*Загад*

У пярыне, а ці за хатаю,
Ці на паляне,
Дзе шэпчацца верас, —
Эрас
Любіць салодка загадваць:
— Яшчэ раз!

У вачах, у галаве наша вуліца. «Камяні...»[3] Дарэчы, пра землячкоў. Звоніць неяк адзін: «Гэта зямляк ваш — Я́рмаш». Нешта такіх прозвішчаў у нас не было. Пытаюся: можа Ярмош? Адказвае: «Так, але запісалі так». Як тут можна запісаць? Сам націск перасунуў. Быццам так больш шляхетна. Дзяруцца як жабы на крэў (у нас казалі).

*12 лістапада, пятніца*

Хутка залатому, ранішняму сябру 80!

*На юбілей*

Вяршыню не можа
    зацемніць замяць.
Заўсёды поспех
    з паўнюткай жменяй.
Той толькі,
    ў каго кароткая памяць,
Не цяміць,
    што Караткевіч — геній!

«А шкада...»[4] Так у жыцці ўсё няўмольна.

---

[1] Гл.: «Я сцены светлыя маляваў...» = «Я расписал плафон и стены...» // Шагал М. Паэзія. Мінск, 1989. С. 30 і 95. Пер. з ідыш Р. Барадуліна і Л. Берынскага. *Берынскі* Леў Самуілавіч (н. 1939), рускі і яўрэйскі паэт, перакладчык.

[2] Гл.: «Я маляваў плафон і сцены» // Барадулін Р. Толькі б яўрэі былі!.. Мінск: «Кнігазбор», 2011. С. 145.

[3] Гл.: «Камяні...» (11.11.10) // Anima. С. 354.

[4] Гл.: А шкада... (12.11.10) // У неба пехатою. С. 14.

*13 лістапада, субота*

Зноў цягне на лірыку. Гэта ўжо на старасць, яна любіць харахорыцца. «*Мая* — уласніцкі настрой…» [N., у дзённіку].

*14 лістапада, нядзеля*

Учора заходзіў Чарказян. У іхным саюзе першы намеснік Пашкоў[1]. Прыйшлі сёння радкі за вячэрняй гарбатай: «У кепскага шаўца…» [у дзённіку].

*15 лістапада, панядзелак*

Ледзь жывы, а радкі ідуць: «Не…»[2]

*Будзе!*

Рупліўцам гісторыя на ручніках<br>
Падносіць сама караваі.<br>
Імя Караткевіча будзе ў вяках<br>
Гучаць як легенда жывая!..

Знайшоў даўні пераклад: Ф. Цютчаў «Сустрэў я Вас…»[3]

*16 лістапада, аўторак*

«Убачыць сваю спіну…»[4]

*17 лістапада, серада*

«Дзверы навесілі…», «Гарыцца нецярпліваму агню…»[5].

*18 лістапада, чацвер*

Нешта ідуць такія радкі: «Крокі смялеюць…»[6]

21 лістапада, нядзеля

«Родная старана…»[7]

---

[1] Пашкоў Генадзь Пятровіч (н. 1948), беларускі паэт, публіцыст. У 2008–2016 гг. 1-шы сакратар СПБ. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980), Дзяржаўнай прэміі РБ. (1998).

[2] Гл.: Не… (15.11.10) // Anima. С. 366.

[3] Гл. падборку «Пераклады».

[4] Гл.: «Убачыць сваю спіну…» (16.11.10) // У неба пехатою. С. 91.

[5] Гл.: «Дзверы навесілі…»; «Гарыцца…» (17.11.10) // Тамсама. С. 89; 91.

[6] Гл.: «Крокі сьмялеюць…» (18.11.10) // Тамсама. С. 13.

[7] Гл.: «Родная старана…» (21.11.10) // Anima. С. 135.

*24 лістапада, серада*
Нешта агітатарскае: «Звык цярпець…»[1] [Варыянт:]

* * *

Не дагледжаныя вякамі,
Вінаватыя без віны,
Беларусы — як тыя званы
З вырванымі языкамі.

*27 лістапада, субота*
«Не схавацца…»[2]

* * *

*N.*

Ты — гэта ўсё,
Усё — гэта ты,
Замкнёнае шчасліва кола.
Ключ ад шалёнай мілаты,
Як жаўранак,
Звініць вясёла.

Калі міне
Каля мяне
Цень высакоснага ўспаміну,
У немагчымай старане
Люляць самоце сум пакіну.

Хай сум з самотаю ўдваіх
Пакінуць сон вачэй тваіх.

З Наташай разбіраем завалы. Хоць троху адцягваю свае сумныя думкі. З раніцы мёртвы, пад канец дня ледзь-ледзь ажываю. Як бы гэта змяніць галаву, каб не балела?…

*1 снежня, серада*
Зіма. Уся ў далёкай Вушачы. А тут, як у катуху, змрочна.

---

[1] Гл.: «Звык цярпець…» (24.11.10) // У неба пехатою. С. 43.
[2] Гл.: «Не схавацца…» (27.11.10) // Anima. С. 365.

*5 снежня, нядзеля*

Глеб зладзіў прэзентацыю «Ладдзі Роспачы»[1]. Выдатна. Быў Генадзь [Бураўкін], Васіль Сёмуха, Наташа. Як у маладыя гады вярнуўся.

*7 снежня, аўторак*

Валю павезлі на праверку ў Бараўляны. Госпадзі, хаця б усё абышлося. Яна ўжо два тыдні ў Лечкамісіі. Халодна і ў хаце, і на душы. Яна ж мая апора. Вінаваты я перад ёй. Мы адзін аднаму псавалі жыццё.

«Малітоўная просьба Валянціны»[2].

*10 снежня, пятніца*

На хворую галаву ідуць адпаведныя радкі. «... хаця...»[3] [Варыянт:]

*

Не запытаешся ў забыцця,
Як сябе перанесці
Цераз рэчку жыцця.

*9 снежня*

*12 снежня, нядзеля*

Зіма пачынаецца з капрызаў. То адлега, то мароз. На слабую галаву — жах. Тут трэба мець чыгунок [...]. Але радкі патроху ідуць. «Нямы размаўляе»[4], «Бязглуздзіца: Хутчэй кулі кулі...» [у дзённіку], «Парада»[5].

*13 снежня, панядзелак*

З Алесем. Запісаў «Ойча наш». Алесь геніяльна перапісаў, пераспяваў «Псальмы». Гэта ні на кога не падобна. Толькі Алесева. Кожны псалом гучыць непаўторна, а разам усё, як Еўразвяз. Па дарозе назад заблішчэў радок: «Прасвечаная наскрозь...»[6]

---

[1] Караткевіч У. Ладдзя Роспачы. Мінск, 2010. Выданне без купюр, падрыхтаванае Г. Лабадзенкам.

[2] Гл.: Малітоўная просьба Валянціны (7.12.10) // Anima. С. 101.

[3] Гл.: Ахвярынкі: ... хаця... (10.12.10) // Тамсама. С. 121.

[4] Гл.: «Нямы размаўляе» (12.12.10) // У неба пехатою. С. 92.

[5] Гл.: «Калі няма каму...» (12.12.10) // Барадулін Р. Воз вёз лёс: Хуткамоўкі. Мінск: «Радыёлаплюс», 2013. [Без нумарацыі.] Далей хуткамоўкі падаюцца па першым радку з пазнакай [«Воз вёз лёс»] не ў зносцы, а ў тэксце.

[6] Гл.: «Прасьвечаная наскрозь...» (13.12.10) // У неба пехатою. С. 92.

*15 снежня, серада*

Усё-ткі паэт мусіць быць малады. Стары паэт — сабе даважак.

«Паштоўка Ілоне»[1].

*18 снежня, субота*

Распавяла Наташа, як нейкі расіянін папрасіў у труну яму пакласці партбілет.

«Душа прымярае…»[2]

*19 снежня, нядзеля*

Крывавая падзея. На фоне камедыі выбараў, ці, дакладней, выдураў. Трыццаць сёмы на новым этапе. Што зрабілі з Някляевым[3] — жах і падумаць. [...].

*21 снежня, аўторак*

У «Коўню». Міколу Байрачнаму[4] — 60! Усе настроены правільна. [...].

*

Улада — д'яблава прылада.
Дзе ўлада — там здрада…[5]

*27 снежня, панядзелак*

Змрок. Жах выпроствае чорнакрылле. Толькі радкамі і ратуюся, каб не звар'яцець. «Смакуючы зорны акраец…»[6].

*28 снежня, аўторак*

Вечарына ў філармоніі[7]. Не пайшоў. І хворы. І не час. Калі людзі сядзяць[8].

«Я ведаў…», «Вечнасць і вышыня…»[9].

---

[1] Гл.: Паштоўка Ілоне (15.12.10) // Anima. С. 349.

[2] Гл.: «Душа прымярае…» (18.12.10) // Тамсама. С. 370.

[3] Па дарозе на мітынг кандыдат у прэзідэнты У. Някляеў быў збіты да страты прытомнасці.

[4] Байрачны Мікалай Іванавіч (н. 1950), беларускі скульптар, мастак-кераміст, аружэйнік, ілюстратар.

[5] Параўн.: Ахвярынкі: Улада — здрадлівая прынада (12.02.00) // Барадулін Р. Босая зорка. Мінск: ГА Беларускае таварыства «Кніга», 2001. С. 163.

[6] Гл.: «Смакуючы зорны акраец…» (27.12.10) // У неба пехатою. С. 120.

[7] Аўтарская вечарына Р. Барадуліна, запланаваная Чырвоным касцёлам на 16 снежня, была перасунута ўладамі на паслявыбарны час, падаецца, невыпадкова.

[8] На розныя тэрміны былі зняволены У. Някляеў, М. Статкевіч, А. Фядута і інш.

[9] Гл.: «Я ведаў…»; «Вечнасьць і вышыня…» (28.12.10) // У неба пехатою. С. 11; 57.

* * *

Заікаецца навальніца,
Страх самога сябе баіцца.
Грэецца кпінамі
Ноч вераб'іная.

*31 снежня, пятніца*

Скончыўся год. Жахлівы і бязлітасны. Гэтулькі выпрабаванняў паслаў.

«Сорам — агонь з бязлітаснымі вачыма»[1].

* * *

Было гэта ў тым стагоддзі:
У далёкую старану
З Вушачы ад мамы
Прыйшло два лісты
У адным канверце.
Адзін ліст ад бацькавага вяза,
Які сустракае гасцей ля брамы.
Другі дарагі,
Родным почыркам напісаны.
Мама пасылала навіны
І смуткі самоты.
На лісце вяза
Вятры й сівяры
Распавялі пра заходы й світанні.

І ў гэтым стагоддзі
Памятаю кожнае слова
Тых доўгачаканых лістоў.
Болей ужо не напіша мама.
Вяз піша штогод лісты,
Толькі хто іх дашле
Мне пад менскі дах?

*30 снежня*

[1] Гл.: «Сорам…» (31.12.10) // У неба пехатою. С. 39.

*Наталлі Давыдзенка*

Наталачка!
Віншую з Новым года!
Жадаю паддавацца тым нагодам,
Дзе хораша вітацца асалодам
Са светлынёй
І маладою шчырасцю!
Хай дрэва згоды
Галінаста вырасце.

*31 снежня Рыгор*

## 2011

*1 студзеня, субота*

Званю ў Вушачу Васілю Бялевушу. Ён кажа: «Сёння наваліла па самыя яйцы». Усё па-вушацку.

*2 студзеня, нядзеля*

«Узятыя на смерць павінны жыць»[1].

*8 студзеня, субота*

З нашымі пакутнікамі нічога добрага не чуваць. Як яны катуюць Някляева! Варыянт 37-га. Каб не звар'яцець, нешта пішу. «Азяблы вецер...»[2]

*10 студзеня, панядзелак*

Цікавы час. Звоніць мне раптам І. С. Ці падпісваць яму ліст у падтрымку Някляева. Кажу: «Падпісвай. Нічога страшнага няма». А ён: «Дачка працуе ў «Сов]етской] Бел]оруссии]». Яе з працы выганяць». — «Тады не падпісвай, вырашай сам». 37-мы быў страшнейшы.

«Неакрэсленасць»[3].

*11 студзеня, аўторак*

З Някляевым так і невядома. Вырашылі яго задушыць. Перачытваю ягоны том у «Кнігазборы». Шалёная асоба. Роўных яму сёння няма. І не хутка з'явяцца. Палёт думкі. Віры жарсці. Абсяг размовы з жыццём і вечнасцю. Пасля яго прыйшлі радкі:

* * *

Пакуль змагаецца
З цемрай святло,
Пакуль адракаецца
Дзень ад ночы, —
Усё, што будзе,
І ўсё, што было,

---

[1] Гл.: «Узятыя на сьмерць павінны жыць» (2.01.11) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 71.

[2] Гл.: «Азяблы вецер...» (8.01.11) // Anima. С. 237.

[3] Гл.: Неакрэсьленасць (10.01.11) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 93.

Табой застанецца
Аднойчы.

*12 студзеня, серада*

Прачнуўся, думаў клікаць «хуткую». Крыху ачуняў пад вечар. Круціў кароткі верш: «Кароцячы адлегласць...»[1]

*13 студзеня, чацвер*

Прыйшло ў галаву: хай бы Расійскі ПЭН]-цэнтр] высунуў Някляева на Нобелеўскую прэмію. Можа, хоць трохі адцягнула звяроў.

*14 студзеня, пятніца*

Алесь аддаваў дачушку замуж. Я перапісваў Вушацкі словазбор. Знайшоў, што жадалі маладым на вяселлі ў фалічнай Вушаччыне. Пяялі: «Кацілася калясо з клеці. Я.іцеся харашо, дзеці!»

*15 студзеня, субота*

Трохі працавалі з Наташай — залатой маёй памочніцай. З учарашняга вечара круціліся радкі. Раніцай дакруціліся: «А двор травою зарастае...»[2]

*20 студзеня, чацвер*

Змрок на двары. Змрок у душы. Не магу знайсці пакою. У думках не адчуваю свае гады, а ў рухах скрыплю. Знасіўся. Толькі й весялей, калі пішу нешта. «Млявае»[3].

*23 студзеня, нядзеля*

Раней гады насілі мяне, а цяпер я нашу іх. Цяжка. Нікога свайго. Адчуванне, што затрымаўся не па сваёй волі. «Здымаю ў Бога кут...»[4]

*24 студзеня, панядзелак*

Самае страшнае, калі няўтульна з самім сабой. На дварэ невялікі мароз. Раней такое надвор'е грэла. «Мусіць, і ў ледзяша...»[5]

*26 студзеня, серада*

У хаце, як у вязніцы. Нешта чытаю, нешта пішу. «Маё балючае надвор'е...»[6]. «Акравясновіца». Гэта ў знак пашаны і падзякі гаротнай Галіне

---

[1] Гл.: «Кароцячы адлегласьць...» (11–12.01.11) // У неба пехатою. С. 109.
[2] Гл.: «А двор травою зарастае...» (15.01.11) // Anima. С. 225.
[3] Гл.: Млявае (20.01.11) // У неба пехатою. С. 50.
[4] Гл.: «Здымаю ў Бога кут...» (23.01.11) // Anima. С. 112.
[5] Гл.: «Мусіць, і ў ледзяша...» (24.01.11) // У неба пехатою. С. 85.
[6] Гл.: «Балючае маё надвор'е...» (N., 26.1.11) // Тамсама. С. 52.

Шаблінскай[1], якая столькі робіць для роднай літаратуры на афіцыйным радыё. Не зважае на [чаргінцоўскія] забароны. Чалом ёй! «Ля хутарышча»[2]. Калі без палітыкі:

* * *

Крыляе бусел нада мною,
Наўзмаш жагнаючы абсяг.
Хмялюся весняй гаманою
Ў забытай радасці ў гасцях…

*29 студзеня, субота*

Сніўся Някляеў. Што там з ім? Трымаюць, як у жалезным мяху. […]. Усё ў гісторыі — паўтор з варыянтамі. Улада толькі смерці суперніца.

*30 студзеня, нядзеля*

Пазваніў Вользе. Уладзімер дома. Яго два амбалы ахоўваюць. Ні з кім ніякіх кантактаў[3].

*31 студзеня, панядзелак*

У Наташы пайшлі цудоўныя вершы. Хоча кнігу назваць «Безвестный ангел»[4].

Хоть жизнь коварна и ревнива,
Но всё та же
Улыбка ангела безвестного Наташе.

У Алеся сёння вечар. Не змог. Не хацеў яму (будзе выконваць «Сустрэў я Вас…») чытаць, каб не збіць: «Я выпил квас, и всё былое В отжившем спирте ожило». «Картавы крумкач…»[5]

*1 лютага, аўторак*

Спытаецца люты, ці цёпла абуты? А ў нас у лужыне можа п'яны ахмяліцца. Пачытаў Алесю: «Алесь Камоцкі на прыціхлай сцэне, як бык інтэлігентны на арэне». Пакрыўдзіўся. За што? Новае пакаленне цяжкавата разумець. Свая ганарыстасць. Перапісаў на саладзейшы лад: «Аж запыніцца хоча імгненне, калі Алесь Камоцкі на сцэне».

---

[1] Гл.: Акравясновіца (26.01.11) // У неба пехатою. С. 51. Акраверш Г. Шаблінскай. *Шаблінская* Галіна Васільеўна (н. 1959), беларуская журналістка. З 2009 г. заг. аддзела літаратурна-мастацкіх праграм нацыянальнага канала Беларускага радыё.

[2] Гл.: Ля хутарышча (26.01.011) Тамсама. С. 55.

[3] У. Някляеў знаходзіўся пад хатнім арыштам.

[4] Наталич М. Безвестный ангел. Минск: «Кнігазбор», 2012.

[5] Гл.: «Картавы крумкач…» (31.01.11) // У неба пехатою. С. 61.

Дзякуй Алесю, падштурхнуў на верш: «Не шукай сваіх сярод чужых…»[1] Яшчэ ў вершасказы: «Ва ўсе вякі З нажабраванай мукі Даўкія праснакі»[2]. Алесь параіў зрабіць такую пляцёначку (як цыбулі) з назовам *Ва ўсе вякі.*

*3 лютага, чацвер*

Някляеў дома. Яму кепска. А ўрача не даюць. […]. Перачытваю Уладзімера. Проста ў нас паэта такога палёту не было і яшчэ не хутка будзе. Гэта прарыў у вечнасць.

* * *

*N.*

Нікога й не было,
Акрамя
Здзіўлення, ў якога
Тваё імя.

Ніхто й не зашэптваў мяне,
Апрача
Твайго збянтэжанага пляча.

Ніхто й не свяціў
Маёй цемры,
Апроч
Тваіх знавальнічаных воч.

Табе
Дазволіла навальніца
Мне шчодра сніцца
На вырай дзён.

Але да цябе раўнаваць
Пачынае кон…

Перачытваў японца. Наткнуўся на радок, які й завёў мяне на радок. Вядома, па-японску ўсё гучыць інакш. У іх жа і іерогліфы гучаць.

«А яно пачынаецца там…»[3]

[1] Гл.: «Не шукай сваіх сярод чужых…» (1.02.11) // У неба пехатою. С. 52.
[2] Гл.: «З нажабраванай мукі…» (1.02.11) // Тамсама. С.100.
[3] Гл.: «А яно пачынаецца там…» (3.02.11) // Тамсама. С. 53.

*

Пакуль Перуну не спіцца,
Распісвацца вучыцца бліскавіца.

*4 лютага, пятніца*

Хварэў і лечыўся паэзіяй Някляева. І нешта прыйшло ў хворую галаву: «Усмешка: Нехта шэпча мне…» [N.; у дзённіку].

*6 лютага, нядзеля*

Змагаюся з галаўным болем. Патроху пішу, каб не змаразмецы: «Запытайся апоўначы ў соў…»[1] Колькі ні чытаю кітайцаў, гэтулькі разоў і шалею ад геніяльнасці іх.

*8 лютага, аўторак*

Нешта спрабаваў для Алеся:

*Цыганскі матыў*

Падышла да ручая,
Запытала: — Я чыя?
Адказаў бягун-ручай:
— Ты, красуня, прыкмячай:
Хто малодзісты ў гульбе,
Той сасватае цябе.

Чок, ручай, чок, ручай,
На вяселлі п'юць не чай!

«Мякка і на баране…»[2]

*10 лютага, чацвер*

Гэтулькі рупіць зрабіць, а здароўя няма. Так й даводзіцца радавацца прыхваткамі, калі нешта ўдаецца. А тут яшчэ з рукамі праблема. Не магу пісаць.

«Мае жарсць менталітэт дзявочы…»[3]

---

[1] Гл.: «Запытайся апоўначы ў соў…» (6.02.11) // Anima. С. 359.
[2] Гл.: «Мякка і на баране…» (8.02.11) // У неба пехатою. С. 102.
[3] Гл.: «Мае жарсьць…» (N.; 10.02.11) // Тамсама. С. 103.

*11 лютага, пятніца*

Ірына Сляповіч[1] дапамагае Наташы з яўрэйскай кніжкай. Ёй радкі: «Эсэмэска»[2].

*14 лютага, панядзелак*

Доўга круціў верш. Алесь раіць зрабіць зборнічак з імем «Лепей».

«Лепей»[3].

*17 лютага, чацвер*

У поўным адчаі, у знявер'і, у адчуванні, што нікому нічога не трэба, нешта крэмзаю: «Рэха пачаў туман спавіваць…», «Цень пацыбацеў…»[4].

*

Не толькі маўклівае золата сёлета,
А і на лета гуклівую медзь
Не блага мець.

*18 лютага, пятніца*

Да кніжкі «Толькі б яўрэі былі!..» узнёслае слова напісаў Рэм Нікіфаровіч[5], які цяпер жыве ў Чыкага.

Пнуцца нашы ворагі дарэмна,
Каб на нас капрызна звада глянула.
Хай ім будзе і ў сабе турэмна.
Мне заўсёды Рэмна Валяр'янаўна!

Алесь папрасіў перакласці раманс для дзяўчыны з анёльскім голасам[6].

* * *

Мінулых дзён замілаванне
Не варушы, не варушы.
Былое не вярнуць жаданне
Маёй душы, маёй душы.

---

[1] Сляповіч Ірына Якаўлеўна (н. 1952), аўтар заўваг да кнігі Р. Барадуліна «Толькі б яўрэі былі!..» і арганізатар матэрыяльнай дапамогі.

[2] Гл.: Эсэмэска (11.02.11) // Толькі б яўрэі былі!.. С. 234.

[3] Гл.: Лепей (11–14.02.11) // У неба пехатою. С. 58.

[4] Гл.: «Рэха пачаў туман спавіваць…»; «Цень пацыбацеў…» (17.02.11) // Тамсама. С. 60; 104.

[5] Нікіфаровіч Ванкарэм Валяр'янавіч (1934–2011, ЗША), беларускі літаратуразнавец, перакладчык, кінасцэнарыст, публіцыст. З 1995 г. жыў у ЗША.

[6] Сівохіна Алеся, кіраўнік (з 2012, разам з А. Мойскім) тэатра «Жывое слова» Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка.

Сваім паглядам небяспечным
Не вар'яці, не вар'яці.
І мроім аб каханні вечным
Мы ўсе ў жыцці, мы ўсе ў жыцці.

Са святам светлае спатканне
Падорыць час, падорыць час.
Агонь святы, агонь кахання
Апаліць нас, апаліць нас.

А хто ў сабе агонь кахання
Змог затушыць, змог затушыць,
Той не ўцячэ ад пакарання
У цемры жыць, у цемры жыць[1].

*19 лютага, субота*

З Наталачкай скончылі працу над яўрэйскай кнігай. Без Наташы нічога б у мяне не атрымалася. Дзякуй ёй! «Радасць у крумкача...»[2] Крыху палітыкі:

*

Нараджаецца
З галоднага мікроба
Прага ўлады —
Невылечная хвароба.

*20 лютага, нядзеля*

Убіўся ў «Гісторыю беларускае літэратуры» Максіма Гарэцкага[3]. Як мёд піў. А на якім г.ўне мы вучыліся! Месяц да канца. Хутка і мой дзень. Я нейкі жывы напалову. Дзякуй Наташы, яна мяне выцягвае з самотнай роспачы.

*Да тла*

*N.*

Мадам! Не верце гадам.
Гэта яны старэюць,
Шалёна зайздросцячы Вам,

---

[1] Раманс «Песня», сл. В. Жукоўскага, муз. П. Булахава. *Жукоўскі* Васілій Андрэевіч (1783–1852, Бадэн-Бадэн, Германія), рускі паэт. *Булахаў* Пётр Пятровіч (1822–1885), рускі кампазітар.

[2] Гл.: «Радасьць у крумкача...» (19.02.11) // У неба пехатою. С. 104.

[3] Гарэцкі Максім Іванавіч (1893–1938), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, лексікограф, фалькларыст; дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага адраджэння. Рэпрэсаваны.

Што маладзець не ўмеюць.
Вы, як іскрынка тая,
Жарсная і маладая.
І я з сівой барадою
За нязлоўлена маладою
Іскрынкай ганюся.
І дагарэць не баюся
Ад высненага святла.
Да тла!..

А ўсё-ткі трэба гэтак жыць, каб сябе не пераэжыць. І жывы можа быць мярцом. Сам сябе весялю:

*Плач*

Хоць стае і ўвагі, і харчоў,
Плачуць перапуджаныя вершы,
Што сагнецца
Палец дваццаць першы.
І тады не стане чытачоў...

Прачытаў Алесю вершык пра палец. Ён: «На Нобелеўскую не цягне».

*22 лютага, аўторак*

Чытаю. Адчайваюся. Хварэю. Усё, да чаго імкнуўся, ляснула. Гэта ўжо канчаткова старасць. [...] Г. панёс на Някляева, каб падабацца [...]. Такі ўжо род. [...].

«У маладой спагады...»[1]

** * **

Выжываюць ані страты, ні трывогі —
Рэчы чалавека з хаты.
Чалавек сябе з сябе самога.

*23 лютага*

*24 лютага, чацвер*

Аж падумаць страшна — 76! Парушыў традыцыю. Не ў лякарні сустрэў свой дзень. Было шмат званкоў. Быў у «Коўні». Да нас прыходзілі Алесь, Джон, Вадзім, Паліна. Пад вечар заходзіў Язэп Янушкевіч[2], прынёс

---

[1] Гл.: «У маладой спагады...» (2.02.11) // У неба пехатою. С. 105.

[2] Янушкевіч Язэп Язэпавіч (н. 1959), беларускі літаратуразнавец, архіограф, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1987). З 2006 г. незалежны даследчык.

ад Уладзіміра Пракопавіча кніжку з аўтографам[1]. Лезлі радкі: «Каб, у сне заблукаўшы…»[2]

*25 лютага, пятніца*

Перачытаў Наташу. Ёсць проста цудоўныя вершы! Дасканалыя, узнёслыя, глыбокія. Натхнілі на верш не толькі адна аўтарка: «Вераб'я карміць з далані…»[3] На адказ Уладзімеру падпісаў «Навошта»:

Уладзімір, сын Пракопа,
За цябе цяперака
Ўпарта моліцца Еўропа
І яшчэ Амерыка.
Непахісны рыцар волі,
Гонару крывіцкага.
Не сагнуць цябе ніколі.
Выжламі не выцкуюць.

Знікне розная хлусь.
Жыве Беларусь!

*27 лютага, нядзеля*

Ларыса[4] папрасіла напісаць уступ да вадэвіля, які яна ставіць.

Шаноўная публіка!
Хоць гэта ісціна старая,
Вадэвіль вясёла паўтарае:
Быць гаспадарамі хочуць грошы.
Іх найлепей мець гару ці стог.
З імі шлях з жабрацтва да раскошы,
Ад раскошы да жабрацтва лёг.
Да сябе ў кішэні Пеці, Мані
Запрашаюць: «Мані, мані, мані!»
Спрытных ашуканцаў хэўра
Цягне хорам: «Эўра! Эўра! Эўра!»
Хто так і не паспеў на карабель,
Кліча ўжо белбанкаўскі рубель.
Усміхнецца сонца: «Грошы — пыл».
Хоць бы зразумеў да іх ахвочы,
Ад чаго ў яго слязяцца вочы?

---

[1] Някляеў У. Паэмы. Мінск: «Лімарыус», 2010.

[2] Гл.: «Каб, у сьне заблукаўшы…» (24.02.11) // У неба пехатою. С. 13.

[3] Гл.: : «Вераб'я карміць з далані…» (25.02.11) // Тамсама. С. 40. Водгук на верш «Никакая я не поэтесса…» // Наталич М. Странница. Минск, 1999. С. 158.

[4] Горцава Ларыса Мікалаеўна (н. 1942), беларуская актрыса. З 1963 г. у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Заслужаная артыстка РБ (1997).

Прыйшлі колькі радкоў для «Лепей»: «Лёс удачу дзеліць па-скупечы…», «Да свайго ад усяго чужога…»[1].

*28 лютага, панядзелак*

Сёння ў «Коўні» свята. Аляксандру Баглаю[2] дзень народзінаў. «Зычэнне: Хай ад руплівага Баглая…» [у дзённіку]. Хацеў быць з сябрамі. Але немач дужа раўнівая. Робіцца праблемаю любы выхад на вуліцу.

Патэлефанаваў Кнут Скуеніек[3]. Кажу : «Sveiki[4]», — і ўзгадваю вясёлыя гады, калі казалася: «Сённі sveiki, заўтра sveiki, Паслязаўтра — ні капейкі!»

А пра Кнута:

Железный Кнут
Был часто гнут,
Но никогда,
Чтоб сломан.
Любезный Кнут
Был х.ром плут,
Но никогда,
Чтоб словом!

*1 сакавіка, аўторак*

Дзень добры, марцовы месяц! Будзь спагадлівы да старога! Сёння дзень народзінаў яшчэ аднаго сябра з «Коўні» — Юрыя Гудзіновіча. «Юрасю Гудзіновічу: «Нарадзіцца ў марцы — значыць…» [у дзённіку].

*3 сакавіка, чацвер*

Выпхнуў сябе ў цырульню. Па дарозе бачыў навязанага сабаку. Уявіў адваротнае: «Каб не збег…»[5]

*6 сакавіка, нядзеля*

Нешта чытаю. Нешта пішу. Дзякуй Наташы, яна мне дае магчымасць забыцца на роспач. Навыбірала мне шмат з нататнікаў.

---

[1] Гл.: «Лёс удачу дзеліць па-скупечы…»; «Да свайго…» (27.02.11) // У неба пехатою. С. 13; 105.

[2] Баглай Аляксандр Канстанцінавіч (н. 1951), беларускі мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

[3] Скуеніек Кнут (н. 1936), латышскі паэт, перакладчык, крытык. Быў рэпрэсаваны (1962–1969).

[4] Sveiki — прывітанне (*лат.).*

[5] Гл.: Каб ня зьбег… (3.03.11) // У неба пехатою. С. 103.

* * *

Пакуль ты канкрэтны,
Пакуль ты ёсць,
Тваёй нявернасці не баяцца
Каханка ветраная — маладосць
І старасць — верная да вар’яцтва.

*8 сакавіка, аўторак*

Пры Саветах была яшчэ адна прычына напіцца афіцыйна — дзень жанчын. І ў нашым калгасе — таксама.

«За ўсіх, што быць маглі б…», «Не зважае на ветравы кпіны…»[1].

*10 сакавіка, чацвер*

Ноччу прыйшло: «Сон — сцэнар…»[2] Чытаю кітайскую класіку. Ва ўсе вякі паэтам жылося не салодка.

«А часам загарыцца мне…»[3]

*12 сакавіка, субота*

Трэба класціся ў лякарню. Баюся. Сам не ведаю, чаго. Старасць.

«…і каб застацца…»[4]

*13 сакавіка, нядзеля*

Як вырвацца з роспачы? Дом — крэпасць, з якой выйсці толькі пад сосны на Бутаўшчыне. Рука абсалютна не піша. Галава знасілася. Дзе рамантаваць?

«Застолле: Як паўнютка ў каўшы…» [у дзённіку].

*14 сакавіка, панядзелак*

Хацеў пачуццё пабраць з формай: «Дваякасць: *Н*а спачын не просіцца ўспамі*Н*…»[5].

*15 сакавіка, аўторак*

Кнут Скуеніек прыслаў верш на пераклад. Выдае гэты верш у перакладах на розных мовах. Са слоўнікам пераклаў. Не зусім дакладна. Тонкасць граматыкі цяжка мне адчуць.

---

[1] Гл.: «За ўсіх…» (N.); Ніякаватасьць (8.03.11) // У неба пехатою. С. 117; 12.
[2] Гл.: «Сон — сцэнар…» (10.03.11) // Тамсама. С. 84.
[3] Гл.: «А часам загарыцца мне…» (10.03.11) // Тамсама. С. 118.
[4] Гл.: «…і каб застацца… (12.03.11) // Тамсама. С. 95.
[5] Гл.: Дваякасць (14.03.11; акраверш) // Тамсама. С. 40.

*Кнут Скуеніек*

*Гузік*

Як вішня на вершалінцы
Ягадзінку пілнуе,
Так я на кашулі зношанай
Апошні гузік шаную.

Калі ўпарта цісне ношка
І ўжо ніякога выйсця,
Кручу за пазухай гузік,
Што бацька прышыў калісьці.
Над голадам і клапотамі,
Над снегам, над соннай млосцю
Жыццё мяне ніткай прышыла
Да вечнасці і мілосці.

Дзень вырас. Вакно выглядаю.
Няма — не ўцякло ад ночы.
Гарыць на грудзі маім гузік,
Што бацька прышыў аднойчы.

«Нікога…», «Узгадку не варушы…» [у дзённіку].

*16 сакавіка, серада*

Стараюся не звар’яцець. Трэнірую зношаныя мазгі. Толькі хвіліны, калі нешта пішацца, даюць забыцца на безвыходны адчай.

«Акраўдзяка»[1].

*Віктару Казько*[2]

Ён на Алімпе,
Як у цеснай хаце,
Бо з поспехам
Хадзіцьме ў панібрацці.
З натхненнем келіх
Асушай да кроплі,
Казько, Казько, —
Ды класіцы ў аглоблі!

[1] Гл.: Акраўдзяка (16.03.11) // У неба пехатою. С. 58. Акраверш маме.
[2] Казько Віктар Апанасавіч (н. 1940), беларускі празаік. Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1977), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982).

*19 сакавіка, субота*

Дзе знайсці настрой?

*

Ужо, як сусед,
Гэты свет.
А за якою вярстой
Той?..

*20 сакавіка, нядзеля*

Ранішні званок з Гомеля. Іван Штэйнер[1]. Добрыя словы пра зборнікі, якія яму пераслаў Лайкоў[2]. Пра «Перакуленае»: «Пераклады часта гучаць як пародыі». «Ціхі ранішні снег...» [у дзённіку].

*21 сакавіка, панядзелак*

Сусветны Дзень паэзіі. Павіншаваў Наташу, Алеся. Хацелася Генадзя [Бураўкіна]. Але ён ніколі апошнім часам сам не пазвоніць першым. Незразумела, чаму. Дык навошта мне набівацца. Я люблю яго і цаню. Хай будзе здаровы!

*

Вачэе радасць.
Роспач дрыжыць.
Змрок хоча сам сябе сцерці.
Ці можна гэтак жыццё пражыць,
Каб стала зайздросна смерці?..

*22 сакавіка, аўторак*

Да стагоддзя Чырвонага касцёла (2010) выходзіць зборнік. «Святло Чырвонага касцёла» [у дзённіку].

*23 сакавіка, серада*

Праглядаў 6 тамоў Максіма Танка. Паэт добры. Паэт свайго часу. А фота з літчыноўнікамі. Усе з бляшкамі, пад гальштукамі, з суконнымі фэйсамі. Жах. Вальер сацыялізму.

---

[1] Штэйнер Іван Фёдаравіч (н. 1953), беларускі літаратуразнавец, крытык, пісьменнік, краязнавец. З 1983 г. заг. кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Доктар філалагічных навук (1994). Прафесар (1995).

[2] Лайкоў Уладзімір Піліпавіч (н. 1953), беларускі настаўнік, краязнавец. З 1979 г. дырэктар Мётчанскай адукацыйна-выхаваўчай установы «Школа-садок» Барысаўскага раёна Мінскай вобл. Кіраўнік музея «Літаратурны космас Мётчы».

*27 сакавіка, нядзеля*

*

Сняць, напэўна, каменныя сны
Праўнукі даўніны — валуны…

*28 сакавіка, панядзелак*

*

Нарачонка раўнівая самая — старасць…

*

Вока прарэжацца ледзь —
Цягнецца да адкрыцця…

*1 красавіка, пятніца*
Вясёлы дзень не для мяне.

*2 красавіка, субота*
Загрымеў у Лечкамісію. «Каму са змроку крумкач…»[1]

*6 красавіка, серада*
Рэанімацыя.

*12 красавіка, аўторак*
Для кніжкі, якую выдаюць уніяты: «На светлую бэатыфікацыю Яна Паўла II»[2]

*29 красавіка, пятніца*
З рэанімацыі вывелі. У тэрапіі. Ліюць кропельніцамі вёдры антыбіётыкаў. «Вадзе не цёмна нідзе» [1-шы варыянт; у дзённіку].

*16 траўня, панядзелак*
У шпіталі лезлі радкі:

* * *

Запытаўся ў Жучкі Рэкс,
Што гэта такое — сэкс?

---

[1] Гл.: ? (2.04.11) // У неба пехатою. С. 106.
[2] Гл.: «На светлую бэатыфікацыю Яна Паўла II» (12.04.11) // Anima. С. 356.

Адказала Рэксу Жучка:
«Тое самае, што случка».

* * *

Сябе, дзе трэба, мацаю,
Ці гэта сніцца ў сне?
Хвала рэанімацыі —
Усё маё пры мне!

Ніяк не магу прыйсці ў сябе. Дзякуй Наташы, яна зрабіла кніжку «Толькі б яўрэі былі!..». Усё на ёй. Без яе я як без рук. І не толькі. Ірына Сляповіч знайшла фундатараў. Звышсавецкі Левін і слухаць у свой час не захацеў. Не яго славілі.

*1 чэрвеня, серада*

Месяц Мамы, добры дзень! Трэба неяк у Вушачу з Алесем, каб прыбраць у садзе. Толькі як? Галава кроіцца.

*

Аблачынкі, аблокі,
Хмурынкі, хмурыны,
Быццам Богавы думкі,
Жывуць у нябёсах…

*

Гасцінцу вясёла,
Калі сябе даганяе кола.

*3 чэрвеня, пятніца*

Перачытваю Су Дун-по: «Хто сказаў, што ў гэтым жыцці, Толькі раз мы былі маладымі?[1]» «Народзіны…»[2]

*5 чэрвеня, нядзеля*

Перачытаў «Прошчу». Някляеў шалёны паэт. Чытач да яго ў нашых умовах так і не дарасце. «Гром падковы куе…»[3], «Мой недатыкальны запас…»[4].

---

[1] Эпіграф да будучага верша гл.: «Мы былі маладымі…» (26.07.13) // У неба пехатою. С. 150.
[2] Гл.: «Народзіны…» (3.06.11) // Тамсама. С. 119.
[3] Гл.: «Гром падковы куе…» (5.06.11) // Тамсама. С. 60.
[4] Гл.: «Мой недатыкальны запас…» (7.06.11) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 72. Таксама гл.: Недатыкальны // У неба пехатою. С. 120.

*9 чэрвеня, чацвер*

Сёння дзень народзінаў у Алеся Камоцкага. Заўтра ў мамы. Алесь збіраецца звазіць у Вушачу аб адзін дзень. «Радзіма пад небам тым…»[1]

*10 чэрвеня, пятніца*

Дзень народзінаў Мамы! Дзякуй Алесю, заехалі ў Вушачу. На магілу да мамы. Потым Алесь змагаўся з травой у садзе. Я трохі цягаў суччa. Паліў крыху ў каміне. Хата з дакорам маўчала — чаму так доўга не быў.

* * *

Надзею сватаюць дзівакі.
Усё перакламачана ў гэтым свеце.
І ў людажэраў былі бацькі,
І ў катаў гадуюцца дзеці…

*12 чэрвеня, нядзеля*

Хочацца ў Вушачу. «10 чэрвеня»[2]. Пад'язджаем да хаты. А кавалачак дарогі у пажарнай, дзе была брукаванка, будуць заліваць асфальтам. А гэтыя камяні выслізганыя, выцалаваныя вачыма, такія родныя. Тут качалі на Вялічка яечкі. Усе дні цягне дамоў. Тут як у камандзіроўцы. Настрой не давядзі Бог. Усё як пад зямлю пайшло. Мяне чакае.

*13 чэрвеня, панядзелак*

Прыйшло ў галаву: «І лазе балюча маўчаць на лязе» [«Воз вёз лёс»].

*

Паражоўклы лістапад
Злятае з вяза.
Як мая апошняя радня…

А гэты знайшоў у нататніку: «Дзе па маіх гадах…»[3]

*15 чэрвеня, серада*

Палова месяца. Хочацца ў Вушачу. Здароўе і дробныя клопаты не пускаюць. «За шчакой трымае манетку…» [у дзённіку].

*17 чэрвеня, пятніца*

Пісаўся верш: «За хвілінку…»[4]

---

[1] Гл.: «Радзіма пад небам тым…» (9.06.11) // У неба пехатою. С. 44.
[2] Гл.: 10 чэрвеня (12.06.11) // Тамсама. С. 58.
[3] Гл.: «Дзе па маіх гадах…» (23.04.10) // Тамсама. С. 60.
[4] Гл.: «За хвілінку…» (17.06.11) // Тамсама. С. 112.

*18 чэрвеня, субота*

Прыйшла Наталачка. Дужа памагае з кнігамі і рукапісамі навесці парадак. Дзякуй ёй, шчырусе!

*19 чэрвеня, нядзеля*

Настрой благі. Дамініка даводзіць. Боская кара. Відаць, варта мне за грахі.

* * *

Радня чужэе.
Сябры
Растаюць, як снег на гары.
І застаешся сам-насам
З ласым часам.

*23 чэрвеня, чацвер*

Сніўся Крапіва[1] і мой настаўнік Канстанцін Паўлавіч Баразна[2]. Прачнуўся з нейкай фразай: «Стары аэрапорт — горла новага года». «Шыльдачка над дзвярыма душы…»[3]

*25 чэрвеня, субота*

Ішлі нейкія радкі: «І цені — жывыя істоты», «Тут нашчыўся…»[4]

*28 чэрвеня, аўторак*

Чалавек, як машына, пакуль у руху — жыве. Супакоіўся — іржа даядае. Так на пэнсіі. Знайшоў нейкія радкі: «Парада»[5].

*30 чэрвеня, чацвер*

Загрымеў у лякарню. І па старой схеме — рэанімацыя, на гэты раз — кардыялогія. Даношваюся.

*8 ліпеня, пятніца*

Выпісаўся з лякарні. Адзін раз у рэанімацыі нянечка: «Ляжаць, як дровы». Другі раз: «Ляжаць, як сардэлькі». (Толькі імі закусваць.)

---

[1] Крапіва Кандрат (сапр. Атраховіч Кандрат Кандратавіч; 1896–1991), беларускі паэт, драматург, лексікограф. Акадэмік АН БССР (1950). Доктар філалагічных навук (1953). Народны пісьменнік БССР (1956). Герой Сацыялістычнай Працы (1975). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941, 1951, 1971).

[2] Баразна Канстанцін Паўлавіч, настаўнік беларускай мовы і літаратуры (Ушачы).

[3] Гл.: «Шыльдачка над дзвярыма душы…» (23.06.11) // У неба пехатою. С. 108.

[4] Гл.: «І цені…»; «Тут нашчыўся…» (25.06.11) // Тамсама. С. 42; 44.

[5] Гл.: Парада (]28].06.11) // Тамсама. С. 104.

*9 ліпеня, субота*

Дзень народзінаў Валі. Была Наташа. Спакойна пасядзелі. Жыццё, ці, дакладней, воз жыцця коціцца з гары ўсё хутчэй.

*10 ліпеня, нядзеля*

Прыснілася:

*Прыснёнае*

Сляза дажджавая
Свой век дажывае доле —
Такая доля…

А потым днём круцілася:

** * **

У незабытай лясной старане,
Дзе спіць цішыня трапяткая,
Мама чакала дадому мяне.
І пад ціхай сасной
Чакае…

*11 ліпеня, панядзелак*

Зборы ў дарогу. З Вушачы патэлефанавалі, што кавалачак брукаванкі ад пажарнай да мамінай хаты заклалі пліткай, залілі асфальтам. Маё маленства, мая радасць згадак. Кожны камень быў выцалаваны і босымі нагамі, і пакліканы падковамі.

** * **

Лічбы ціснуцца да нуля ў сваякі —
Без яго яны круглыя жабракі.

*16 ліпеня, субота*

Зборы ў дарогу ў Вушачы. Зборы болей ў думках. «Сон — жаданы палон…» [у дзённіку]. Перачытаў нізку вершаў Генадзя Бураўкіна пра Нью-Ёрк. Некалі думаў, што тэндэйцыйна. Цяпер гляджу — Масква паў-Тарас крыху шаржыніста. А ў нас калхозны сацыялізм даганяе. Ідзе амерыканізацыя.

*18 ліпеня, панядзелак*

Ад'езд на Вушачу! Вязе, дзякуй яму, мілы Глеб. На дарозе ў лесе магільнік з каменнымі крыжамі. На крыжах нейкія магільныя знакі. Паганства з хрысціянствам. Хто каго. Паганства не хоча ўступіць.

Нарэшце *Вушача!* Можа, апошні прыезд. Дай, Божа, каб не апошні.

** * **

Застыўшы на той мяжы,
Якую ўявіць немагчыма,
Каменныя стынуць крыжы
З абсечанымі плячыма.

*24 ліпеня, нядзеля*

Патроху прыходжу ў сябе. Мог бы жыць у Вушачы. Каб здароўе. Добра, хоць адзін шчыры беларус Раман Крахотка[1]. Хаджу па двары. Зарос травой. Трава ўсемагутная. Ва ўсе вякі. Шэпча пад нагамі. А пасля зашэпча над табой. Дурачуся:

** * **

Ленін шчодра цара цвяліў
І ў агульным парыве
Рэвалюцыю на разліў
Адпускаў у Разліве…

*25 ліпеня, панядзелак*

Напісаўся верш: «Пазірае з двара…»[2]

*26 ліпеня, аўторак*

Толькі слова й ратуе. Асабліва вушацкае, прыгаданае. Жывога ўжо не чую. «Клёк трымаю ў галаве…» [у дзённіку].

*27 ліпеня, серада*

Будаўнікі рамантавалі падлогу. Адзін: «І пачатак рыбнай лоўлі — указ прэзідэнта. А павышэнне цэнаў — на міністрах». Сучасны фальклор:

Каб заўсёды жыць у шчасці,
Трэба красці, красці, красці…

***

Сум ашукаўшы,
Бадзёрачы стому,
Усе дарогі вядуць дадому.

*28 ліпеня*

---

[1] Раман Клачок — унук ушачанкі Таццяны Крахотка.
[2] Гл.: Настраёвае (25.07.11, Ушачы) // У неба пехатою. С. 46.

*31 ліпеня, нядзеля*

Як ехалі ў Вушачу, Глеб паказаў унікальную мясціну з каменнымі крыжамі. Яўна паганскага паходжання. «У лесе, у зялёнай імжы…»[1]

*1 жніўня, панядзелак*

Добры дзень, Жнівень. Будзь не апошнім, калі твая ласка. І абавязкова ў Вушачы. «Ашчадна восень лічыць дні…»[2]

*6 жніўня, субота*

Нешта пішацца: «І зноў…»[3]

** * **

Настрою высакосныя арэлі
Разгойдваюць зацятую тугу.
І як бы ні гарбелі, ні шчырэлі,
Яшчэ перад сабой
Мы ўсе ў даўгу…

** * **

Настрою высакосныя арэлі
Разгойдваюць сусветную тугу.
І як бы ні гарбелі, ні шчырэлі,
Усе мы
Перад вечнасцю ў даўгу…

*7 жніўня, нядзеля*

«Каляхатняе»[4].

*10 жніўня, серада*

Добра, што ёсць Раман Крахотка. Вушацкі, шчыры беларус, горды крывіч. Вучыцца ў медінстытуце ў Віцебску. А як ведае нашую мову! Які дасведчаны! «Дзе заначаваць ласуну лесуну?..»[5]

*11 жніўня, чацвер*

«На Вушаччыне»[6].

---

[1] Гл.: «У лесе, у зялёнай імжы…» (31.07.11, Ушачы) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 73.
[2] Гл.: «Ашчадна восень лічыць дні…» (1.08.11, Ушачы) // У неба пехатою. С. 42.
[3] Гл.: «І зноў…» (6.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 47.
[4] Гл.: Каляхатняе (7.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 48.
[5] Гл.: «Дзе абначаваць ласуну лесуну?..» (10.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 42.
[6] Гл.: На Вушаччыне (11.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 48.

*12 жніўня, пятніца*

«Ні думкаю, ні вачыма…»[1]

*14 жніўня, нядзеля*

«Даўгацыбы дзівак…»[2]

*19 жніўня, пятніца*

Якраз месяц, як я ў Вушачы. Першую палову дня мёртвы. Пад вечар трохі ачухваюся. Пісаць стала цяжка — рука не слухаецца.

*Местачковы абразок*

Птушкі прымоўклі
У звечарэлым спеве.
Небасхілу хапае яшчэ святла.
Пасуе восені сукня рудая.
На ўчарашнім зялёным дрэве
Чуллівая электрапіла
Голасам металічным рыдае…

*20 жніўня, субота*

Раман як сын, як малады сябра. Нагадвае нечым мяне вушацкага. Такі ж зацяты крывіч. Толькі цяпер моладзь з расплюшчанымі вачыма бачыць свет праз інтэрнэт. І не толькі. «Прыходзім…»[3]

*22 жніўня, панядзелак*

Карацее дзень, карацее мая радасць жыць у мамінай хаце. «У няўмольным жыцці…»[4]

*

Кожная мова любіць капрыз:
Па-беларуску спецназ — спецпрыз!

*25 жніўня, чацвер*

І жнівень канчаецца. Жніво ў мяне небагатае. Багаты на боль, на роспач. Палю камін. Хоць трохі некуды адлятаю ў думках.

«Старэе восень»[5].

---

[1] Гл.: «Ні думкаю, ні вачыма…» (12.08.11, Ушачы) // У неба пехатою. С. 110.

[2] Гл.: «Даўгацыбы дзівак…» (14.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 42.

[3] Гл.: Прыходзім… (20.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 49. Верш прысвечаны Раману Клачку. У кнізе памылкова перайначана — Рыгору Скачку.

[4] Гл.: «У няўмольным жыцьці…» (22.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 41.

[5] Гл.: «Старэе восень» (24.08.11, Ушачы) // Тамсама. С. 48.

*26 жніўня, пятніца*

Усплывае ўсё вушацкае. Пятрок некалі казаў пра нейкую чарговую даму: «У яе грудзі, як у пеўня калені».

*28 жніўня, нядзеля*

Бураўкіну 75! Пажаданне:

Высокі сябра мой Генадзь!
Забудзься на хваробы.
Яшчэ не менш як дваццаць пяць
Гадоў высокай пробы
Адужыць ты павінны,
Круты сваяк Скарыны[1]!

*1 верасня, чацвер*

Дамінічка нарэшце здала хвасты. «Пытанне»[2]. Мне кепска. Першую палову дня мёртвы. К ночы трохі лепшае. Не жыву, а скрыплю. І скрып гэты самому апрыклы.

*3 верасня, субота*

«Яшчэ...»[3]

*4 верасня, нядзеля*

Пасля чатырохсуткавага загулу прыйшоў дамоў Рысік. І гэта радасць!

*5 верасня, панядзелак*

Апошні панядзелак мой у Вушачы. Ці будзе яшчэ?

*

Удасканальваюць вякі зацята
Умецтва цеслі і майстэрства ката.

*17 сакавіка–10 верасня*

---

[1] Скарына Францыск (да 1490 — каля 1541), беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, мысліцель-гуманіст, асветнік, пісьменнік.

[2] Гл.: Пытаньне (31.08.11, Ушачы) // У неба пехатою. С. 43.

[3] Гл.: Яшчэ... (3.09.11, Ушачы) // Тамсама. С. 38.

*11 верасня, нядзеля*

Галава, як бязмен. Адпаведна й радкі лезуць: «Жыццё па-свойму...», «Карані цішыні»[1]. Знайшоў у нататніку: «Рака, што пада мной смяялася...»[2].

*12 верасня, панядзелак*

Дарабляю накіды: «І крыж, і меч...»[3]

*13 верасня, аўторак*

Сяджу на скамейцы, бараду паклаўшы на кій. Праходзіць малы і пытае: «Вы што, статуя?»

*15 верасня, чацвер*

Другі дзень падганяю рытм і націскі для Алеся, каб спявалася: «Коні жарсці шалёныя...» [у дзённіку].

*21 верасня, серада*

Стукнула перакласці гімн расійскіх алкаголікаў:

* * *

Шумеў чарот, стагналі дрэвы,
А ноч цямнюткая была.
І толькі двойца закаханых
Яшчэ гуляла да святла.

Калі прачнуліся — маўчала
Трава скамечаная скрозь.
(Ды не адна) трава маўчала,
[неразб.], як трава маўчала,
Скамечаная маладосць.

Прыйду дамоў, а там спытаюць:
«Дзе ты ўсю ночку правяла?
Ідзі за тым, з кім ты гуляла,
Каму ты цноту аддала...»

*24 верасня, субота*

«Чатыры»[4].

---

[1] Гл.: «Жыцьцё па-свойму...»; Карані цішыні (11.09.11) // У неба пехатою. С. 104; 50.

[2] Гл.: «Рака, што пада мной сьмяялася...» (11.09.11) // Тамсама. С. 41.

[3] Гл.: «І крыж, і меч...» (12.09.11) // Тамсама. С. 46.

[4] Гл.: Чатыры (24.09.11) // Тамсама. С. 55.

*25 верасня, нядзеля*
Уночы прыйшло: «Мамы няма…»[1]

*26 верасня, панядзелак*
«І ў пакутаў абутых…»[2]

*1 кастрычніка, субота*
Зноў у лякарні. Зноў кропельніцы. Як бы прапісаны ў палатах жыць.

*4 кастрычніка, аўторак*
Знайшліся нейкія радкі: «Сон дасынае курган…»[3]

*11 кастрычніка, аўторак*
У лякарні не дужа напішасся.

*

Хацелася б думцы сябе абагнаць.
Але…

* * *

Хапае душы на радзіме святла,
Сплылі за панурымі хмарамі звады.
Хата далоні страхі развяла,
Просячы ў неба спагады.

*23 кастрычніка, нядзеля*
Знайшоў у нататніку нейкія радкі, хачу прывесці да пэўнага ладу: «Вадзе не цёмна нідзе…»[4]

*25 кастрычніка, аўторак*
Званю Алесю. Ён прыбірае хату. Шмат пылу, кажа: «І адкуль толькі ён?» «Вякі вядуць…»[5]

*27 кастрычніка, чацвер*
Калі не памру, буду жыць. Ідуць нейкія радкі. Вочы не бачаць. Усё як у тумане. Рука не піша. «Кляновага ліста даланю…»[6]

[1] Гл.: «Мамы няма…» (24–25.09.11) // У неба пехатою. С. 11.
[2] Гл.: «І ў пакутаў абутых…» (26.09.11) // Тамсама. С. 106.
[3] Гл.: «Сон дасынае курган…» (28.02.10) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 74.
[4] Гл.: «Вадзе ня цёмна нідзе» (29.04.–23.10.11) // У неба пехатою. С. 45.
[5] Гл.: «Вякі вядуць…» (25.10.11) // Тамсама. С. 101.
[6] Гл.: «Кляновага ліста даланю…» (27.10.11) // Тамсама. С. 45.

*28 кастрычніка, пятніца*
«Дапытацца хоча *агмень*…»[1]

*1 лістапада, аўторак*
Прыходзіў Уладзімір Барысавіч [Лапан], спонсар «Толькі б яўрэі былі!..». Незвычайнай дасканаласці вонкавай і ўнутры. Рэліктавы яўрэй. Бізнесмэн, а такі інтэлігентны. Няма ўжо такіх яўрэеў. Перамяшалі, асавецілі. А шкада. Хутка і нас не стане.

* * *

*N.*

Жыву, пакуль ты ёсць,
Мая, мая мілосць!

*2 лістапада*

*4 лістапада, пятніца*
Вочы не хочуць глядзець, рука — пісаць. Галава пустая і балючая. Дажываю.

*

У лістападзе
Журба ў паглядзе
У пані Восені…

* * *

Шлях чалавечы
Не такі даўгі.
І ўрэшце настае
Той дзень апошні,
Калі жыццё
Прыходзіць па даўгі.

*11 лістапада, пятніца*
Пішу нешта кшталту хуткамовак: «Воз вёз лёс»[2].

*13 лістапада, нядзеля*
І яшчэ: «Гулка цокае падкоўка…» [«Воз вёз лёс»].

---

[1] Гл.: «Дапытацца хоча (*ад мяне* — памылка!) агмень…» (28.10.11) // У неба пехатою. С. 107.
[2] У зборніку 1-шы радок «Воз вёз *вос*».

*14 лістапада, панядзелак*
Ці жыву, ці выжываю. Не ведаю.
«Каго спытаць?..»[1]

*20 лістапада, нядзеля*
Прыйшлі радкі: «Па часе»[2].

*24 лістапада, чацвер*
Знайшоў у завалах: «Далягляд»[3].

*На вуліцы*

— Як вам рэжым?
— Дрыжым…[4]

*25 лістапада, пятніца*
Рабіў нешта накшталт гімна Чырвонага касцёла: «Вогнішча Чырвонага касцёла…» [у дзённіку].

*27 лістапада, нядзеля*
У касцёле служба. Мелася прэзентацыя. […] забаранілі, бо маё прозвішча. А я й рад. Пасля абед. Быў Генадзь Бураўкін, Мацур[5], Матафонаў ды іншыя па падбору Алы. У Мацура заўтра выстава. «Хвораму на геніяльнасць сп. Генадзю Мацуру»[6].

*28 лістапада, панядзелак*
Радкі прыйшлі: «Заўсёды»[7].

*29 лістапада, аўторак*
Нешта пішацца. Правяраю на Алесю.
«Тое, чаго ўжо няма…»[8] «Красу расы лягчэй трымае…» [«Воз вёз лёс»].

---

[1] Гл.: «Каго спытаць?..» (13.11.11) // У неба пехатою. С. 107.
[2] Гл.: Па часе (20.11.11) // Тамсама. С. 39.
[3] Гл.: Далягляд (8.02.05) // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 10. 2003–2006. Смаленск: «Інбелкульт», 2022. С. 188.
[4] Гл.: На вуліцы (24.11.11) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 92. Варыянт гл.: Эпітафія-дыялог (26.01.00) // Дзённікі і запісы. Вып. 9. С. 213.
[5] Мацур Генадзь (н. 1960), беларускі мастак, каліграф, кніжны графік; выкладчык.
[6] Гл.: «І не пазайздросьціць каралю…» (27.11.11) // У неба пехатою. С. 39.
[7] Гл.: Заўсёды (28.11.11) // Тамсама. С. 65.
[8] Гл.: «Тое, чаго ўжо няма…» (29.11.11) // Тамсама. С. 65.

*30 лістапада, серада*

*

З сусвецця па нітцы —
Шыбельніку пятля…

*1 снежня, чацвер*

Сум развітання з цэлым годам. Ці пражыву новы? Як Бог дасць.

*7 снежня, серада*

Можна графічна СНД = СНіД. Можна падборку эратычных вершаў азагаловіць: «Скаромная лірыка».

*8 снежня, чацвер*

Заўтра з’езд. Знайшліся (дзякуй руплівай Наталачцы!) пераклады Восіпа Мандэльштама[1]. Хачу прапанаваць Сіўчыкаву двухмоўную кніжку.

«Конь смутку…»[2]

*9 снежня, пятніца*

Забягаўся Алесь. Трохі пабыў на з’ездзе. Яму спадабалася ідэя выдаць хуткамоўкі (ён бачыць раскладушкай).

* * *

Паэзія — не прафесія.
Паэзія — гэта агрэсія
Супраць лагічнай лухты.
Паэзія — гэта крэсіва,
Якім выкрасаюць слова
З каменя немаbriefly.
Паэзія з Сусветам на «ты».

*20 чэрвеня 2010 — [10] снежня 2011*

*12 снежня, панядзелак*

*

Абух
Не ад думкі апух —
Ад цвёрдалобасці.

Званіў Някляеў. Пісаў яму на паштоўку:

---

[1] Мандэльштам Осіп Эмільевіч (1891–1938), рускі паэт, перакладчык. Рэпрэсаваны.
[2] Гл.: «Конь смутку…» (8.12.11) // У неба пехатою. С. 43.

Звыклі ісці па жыцці гордачола
Ратнікі волі — Андрэй і Мікола[1].

*14 снежня, серада*

Нейкую хуткамоўку пачуў: «Чапяла вала вяла…» [«Воз вёз лёс»].

*15 снежня, чацвер*

Ад бессані радкі:

*

Памяць,
Учэпістая, як жыццё,
Пакуль што мяне трывае…[2]

*18 снежня, нядзеля*

«Паўдзён…»[3]

*19 снежня, панядзелак*

Сёння дзень народзінаў Івана Бурсава. Даўні сябра маіх маладых гадоў. У Маскве цяпер. Сазванілася Валя. Раніцай прыйшлі аптымістычныя радкі:

*Нарэшце*

Гаротніка кладуць у труну,
Каб выпрастаў згорбленую спіну…

*20 снежня, аўторак*

Каму ні пазвоніш — старыя людзі. А ўсё хочацца верыць, што маладыя. «Сябры гадоў маіх маладых…»[4] «Хвала агню» [у дзённіку; верш прысвечаны Г. Чарказяну].

*22 снежня, чацвер*

У хворага меней і меней сяброў. Верная адна — крыўда.

---

[1] Гаворка пра А. Саннікава і М. Статкевіча. *Саннікаў* Андрэй Алегавіч (н. 1954), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч. Лаўрэат прэміі Б. Крайскага (2005). *Статкевіч* Мікалай Віктаравіч (н. 1956), беларускі палітычны дзеяч. Кандыдат тэхнічных навук, палкоўнік запасу. Кандыдаты ў прэзідэнты 2010 г. Былі асуджаны за ўдзел у акцыях супраць вынікаў выбараў (суадносна на 5 і 6 гг.). Вызвалены: А. Саннікаў у 2012 г. (выехаў у Вялікабрытанію), М. Статкевіч у 2015 г.

[2] Параў.: «Памяць…» (16.12.11) // У неба пехатою. С. 65.

[3] Гл.: «Паўдзён…» (18.12.11) // Тамсама. С. 65.

[4] Гл.: «Сябры гадоў маіх маладых…» (20.12.11) // Тамсама. С. 66.

*24 снежня, субота*
Год на сход. Як і дні мае. «Накід»[1].

*25 снежня, нядзеля*
Мае Каляды там, у Вушачы. Тут толькі цень іх.

*Каляды*

Свой лёс сустрэне душа.
Што шукае
Скупаваты мароз
Са свечкаю ледзяша?..

26 снежня, панядзелак
Прасілі для «Народнай волі»:

У незалежным новым годзе
Хлусні і страхам скажам «Годзе»!
Бо чытачы «Народнай волі»
Не гнулі шый сваіх ніколі!

*27 снежня, аўторак*
«Першай сустрэчы сяброў «Паміж»[2] [у дзённіку].

«Акранавагодняе»[3].

*

Лёс пераялёс,
І шчасце не аднае масці.

*31 снежня, субота*

*У выніку*

Адплысці альбо адысці — тае бяды.
Набыўся, нажыўся ў гэтым жыцці.
Цяпер куды?..

---

[1] Гл.: «Падрасла вышыня» (24.12.11) // У неба пехатою. С. 79.
[2] Час. «Паміж», запачаткаваны выкладчыкамі і студэнтамі аддзялення філасофіі і літаратуры Беларускага калегіума (з 2009).
[3] Гл.: Акранавагодняе (31.12.11) // У неба пехатою. С. 66. Акраверш жонцы Валянціне.

## 2012

Добры дзень, новы год! Дазволь затрымацца! Яшчэ нешта зрабіць.

*4 студзеня, серада*

** * **

На шчоках маладой веснавеі
Сінеюць цені пралескаў.
Цалаваў апошні мароз…

*5 студзеня, чацвер*

«Акраліст»[1].

[Вясёлы экспромт пад знакамітым фота Рыгора Іванавіча С. Шапрана]

** * **

Схапіўшыся за галаву,
Дзе лёс гатуе кашу,
Тады я толькі і жыву,
Як думаю пра Наташу!

*Рыгор*

*Алесю Камоцкаму*

Алесь!
Вы геніяльны ўвесь
Ад макаўкі да пятак.
Я ўрэшце сам дапяў так.

*11 студзеня*

***

Адвячорак слухае,
Як глуха вогнішчу стогнецца.

*12 студзеня*

---

[1] Гл.: Акраліст (5.01.12) // У неба пехатою. С. 67. Акраверш В. Дубоўскаму.

*22 студзеня, нядзеля*

*

Не лічу за радню траву —
Жыву!..

*24 студзеня, аўторак*

*Акраэсэмэска*

*Глебу Лабадзенку*

Да дна крыніцу не дапіць.
Завею не сагрэць дыханнем.
Як у нябёсах светла жыць,
Каб спавядацца мройным зданям?
Уцёкшы ад сівой бяды,
Юнеюць смелыя гады…

*26 студзеня, чацвер*

«Каб вогнішчу было лам'я…»[1] «Між меж поўз смоўж» [«Воз вёз лёс»].

*28 студзеня, субота*

«З восенню журавы…»[2] Прыходзіў Уладзімір Някляеў з Воляй. Пасядзелі. [Неразб. 3]. Прынёс «Лісты да Волі»[3]. Як заўсёды геніяльна.

*29 студзеня, нядзеля*

Ноччу ў галаву ўлезла: «Скочыў на пясок сухі Дождж са страху са стахі» [«Воз вёз лёс»].

*30 студзеня, панядзелак*

Пачаў дзень з хуткамоўкі: «Кот вусаты збег з Вушачы» [«Воз вёз лёс»].
«Прысвячэнне»[4].

*1 лютага, серада*

Добры дзень, мой месяц! Яшчэ паўтарыся. Будзь ласкавы.

---

[1] Гл.: «Каб вогнішчу было лам'я…» (26.01.12) // У неба пехатою. С. 79. 2-гі радок дакладна: «Павінна *рупіцца* ламота».

[2] Гл.: «З восенню журавы…» (28.01.12) // Тамсама. С. 81.

[3] Някляеў У. Лісты да Волі. Вільня: «Беларускі інфармацыйны цэнтр», 2011.

[4] Гл.: Прысьвячэнне (30.01.12) // У неба пехатою. С. 75.

*5 лютага, нядзеля*
«Калі на зямлі...»[1]

*10 лютага, пятніца*
«Па плыні плыў...»[2]

*24 лютага, пятніца*
Мне — 77! У маладыя гады былі «777» (тры сямёркі партвейн). Прыходзіў Някляеў, Алесь, Пятровіч[3], Глеб, Наташа дапамагала Валі. Давалі званне «Рыцар года» Міколу Статкевічу.

Мужнасць гартавалася заўсёды
Ў недарэмным полымі святла.
Не здаюцца рыцары Свабоды,
Каб нязломнай Беларусь была!

«Хілюся»[4].

*27 лютага, панядзелак*
Прынеслі ўрадавую тэлеграму — віншаванне з днём народзінаў ад міністра Латушкі[5]. 24-га віншаванне ад амбасадара ЗША[6]. Яшчэ ад вушацкага Музея імя Лабанка. Так афіцыйныя ўстановы. А ад сяброў, знаёмых і незнаёмых 24-га і 25-га тэлефон хрып.
«Vivat!»[7]

*1 сакавіка, чацвер*
Даскрыпеў да марца. Можа, даскрыплю да лета, а там — Вушача!

*4 сакавіка, нядзеля*
Хуткамоўка: «Улез у лес ласун лясун» [«Воз вёз лёс»]. «Можна глядзець бясконца...»[8]

---

[1] Гл.: «Калі на зямлі...» (5.02.12) // У неба пехатою. С. 80.
[2] Гл.: «Па плыні плыў...» (10.02.12) // Тамсама. С. 80.
[3] Пятровіч Барыс (сапр. Сачанка Барыс Пятровіч; н. 1959), беларускі пісьменнік. З 2002 г. заснавальнік і гал. рэдактар час. «Дзеяслоў». З 2011 г. старшыня Рады СБП.
[4] Гл.: «Як той сланечнік перасьпела...» (24.02.12) // У неба пехатою. С.109.
[5] Латушка Павел Паўлавіч (н. 1973), беларускі дзяржаўны дзеяч; дыпламат, юрыст. У 2009–2012 гг. міністр культуры РБ, у 2012–2019 гг. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол РБ у Французскай Рэспубліцы, пастаянны прадстаўнік РБ пры ЮНЕСКО.
[6] Скэнлан Майкл, часовы павераны ў справах ЗША ў РБ.
[7] Гл.: «Vivat!» (27.02.12) // У неба пехатою. С. 125. Акразычэнне С. Панізніку. *Панізнік* Сяргей Сцяпанавіч (н. 1942), беларускі паэт, перакладчык.
[8] Гл.: «Можна глядзець бясконца...» (4.03.12) // У неба пехатою. С. 79.

*6 сакавіка, аўторак*

«Пытанне мінулай вясне…», «Несупыннасці багаты сусед…»[1].

*Даўняе*

Такі яму ўжо выпаў вырак —
Над словам разбівацца ўшчэнт.
Міхась Стральцоў у прозе — лірык.
І ў лірыцы — інтэлігент.

*7 сакавіка, серада*

*Бураўкіным*

А ёсць такая залатая куля,
Што пранікае сэрца навылёт.
А куля гэта — чараўніца Юля
І для яе не ў страхі наступ год.

Генадзь шалёна ў казку закаханы,
Дня не пражыў бы без жаданай раны.

*14 сакавіка, серада*

Ідзе на вясну. Як бы гэта ўстаць. Можа, апошні раз давядзецца з'ездзіць дамоў. Хуткамоўка: «Як знайсці сваю спіну на патэльні ўюну?» [«Воз вёз лёс».]

*15 сакавіка, чацвер*

Хуткамоўка: «Крупы ў ступе тоўк воўк» [«Воз вёз лёс»].

*17 сакавіка, субота*

З хворай галавой пішу хуткамоўкі: «Каля прыгорка быллё прагоркла» [«Воз вёз лёс»]. «Збіраў бяссонна…»[2]

*19 сакавіка, панядзелак*

*У альбоМ*

Не на ўспамін,
А ў напамін

---

[1] Гл.: «Пытаньне мінулай вясьне…»; «Несупыннасьці багаты сусед…» (6.03.12) // У неба пехатою. С. 78; 79.

[2] Гл.: Зьбіраў бяссонна… (17.03.12) // Тамсама. С. 122. Верш памяці А. Белага. *Белы* Анатоль Яфімавіч (1939–2011), беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец, калекцыянер. У г. Старыя Дарогі Мінскай вобл. заснаваў прыватны Мастацкі музей (1990).

Пра тое, што было.
Дзён шчырых жураўліны клін
Высока ўзнёс святло,
Што асвятляла ўсе шляхі
Даверлівых вачэй.
За хмарку сораму грахі
Хаваліся хутчэй…

*21 сакавіка, серада*
«Сама сябе гадуе трывога»[1].

*Шчыруха*

*Глебу Лабадзенку*

Ні ружовай хвалы,
Ні ўчарнелай зайздросці
Не баіцца душа маладая.
Покуль нудная старасць
Збіраецца ў госці,
Покуль хворая злосць галадае.
Ёю думкі смялеюць,
Ёй слугуе трывога,
Скруха крыўдзіцца глуха.
У жыццяператомленага сівога
Маладзее душа-шчыруха.

*25 сакавіка, нядзеля*
Дзень Волі. Звеставанне. Да Волі далёка. Ёсць чаканне.

*26 сакавіка, панядзелак*

*

Пакуль цябе церпіць твая душа,
Сябе пераконвай,
Што ты — гэта ты!..

*28 сакавіка, серада*
Забягаўся Някляеў. Галівудскія сюжэты. […].

*

Няхай твой страх дрыжыць, —
Жыві!

[1] Гл.: «Сама сябе гадуе трывога» (21.03.12) // У неба пехатою. С. 66.

*1 красавіка, нядзеля*

* * *

Не шкадаваць
Ні цягліц, ні скаб,
Звіць з нерваў жмут.
Старацца ўпірацца,
Каб
Яшчэ затрымацца тут…

*3 красавіка, аўторак*

*

У віравокага дна
Позірк цупкі.
Крыніца адна,
Ды розныя кубкі…

*

Чалавек, як магніт,
Да сябе прыцягвае любое,
А найболей — благое.

*4 красавіка, серада*
«Дакладны адказ»[1].

*7 красавіка, субота*

*

Чуваць, як шэпча кропля дажджавая:
— Да-жы-ва-ю…

* * *

У малады адвячорак вясновы
Я папрасіў адпачыць крыгалом.
Думкі сабраў за бяседным сталом
І цішыню запрасіў да размовы…

[1] Гл.: Дакладны адказ (4.04.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 77.

*9 красавіка, панядзелак*
«Святло ўзнялі далоні ў цвіках…»[1].

*12 красавіка, чацвер*
«Ростань сма́гла прыкута да болю…»[2]

*13 красавіка, пятніца*

*Калыханка ўнучцы*

Зоркі ранішняй сястрычка,
Залатая Дамінічка,
Прачынайся, досыць спаць,
Трэба рэха забаўляць.
Рэха з лесу прыляцела,
Спаць таксама захацела.
Пачакаюць кавалеры,
Хай іх будзе да халеры!

*14 красавіка, субота*

* * *

Начэ ў хаце радасці столь,
На сцежках намераў шалее асцё.
І толькі мой пастарэлы боль
Нахабна трымаецца за жыццё…

*19 красавіка, чацвер*

*Афиша*

Ждут бессонно города и веси
Славастойкого Камоцкого Алеся.

«Не *спраўдзіў сон* тваіх надзей…»[3]

---

[1] Гл.: «Святло ўзнялі далоні ў цвіках…» (9.04.12) // Барадулін Р. Ксты. Мінск: Рымска-каталіцкая парафія свсв. Сымона і Алены, 2013. Выд. 4, дапоўненае. С. 192.
[2] Гл.: «Ростань сма́гла прыкута да болю…» (N.; 12.04.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 78.
[3] Гл.: «Не апраўдаў тваіх надзей…» (19.04.12) // Ксты. Выд. 4. С. 257.

*21 красавіка, субота*

*

Песні крывіцкай аддадзены ўвесь
Славатрывалы Камоцкі Алесь.

[Варыянт: Рыцар сумлення К. А.; 9 мая]

*22 красавіка, нядзеля*

*Тост у бязградусным застоллі*

Трывае песня ў радасці і ў скрусе.
Узнёслым крылы давярае час.
Асколак ад шляхетнай Беларусі,
Алесь Камоцкі, даляцеў да нас…

*26 красавіка, чацвер*

*

Смяецца ў настылую цішыню
Гарачая барада агню…

Хуткамоўка: «Пацеркі расы рассыпаліся» [«Воз вёз лёс»].

*

На паплавы, на гаці, на лясы
Рассыпаліся пацеркі расы.

*30 красавіка, панядзелак*
Апошні дзень месяца. Месяц прайшоў з болем, з роспачам.

*

З часам блекне зайдрасць,
Глухне боль.
Крыўда маладая не старэе…

*1 траўня, аўторак*

* * *

Вогнішчу дасніцца сон далёкі.
Свой намер не выдасць цішыня.
Дым і неспакойныя аблокі
Па нябеснай лініі радня…

*3 траўня, чацвер*
Галава міністэрская — пустая. Радкі ідуць:

*

Жаўцее, падаючы, лісце.
Як і калісьці…

*77. Сабе на ўсечаны юбілей*

Тры сямёркі,
Як дрэўка касы,
Каб дакошваць лугі ўспамінаў,
Утравець іх час не пакінуў.
Сцежкі кон павёў наўскапы.

Сонную не буджу расу.
Маю ўкос не так каб багаты.
Разам з ценем дадому, дахаты
За плячыма стажок нясу…

*

Шапоча, падаючы, жаўталісце:
— Было і я зялёнае калісьці…

*5 траўня, субота*
«Не можа ўсмешку ўтаіць заход»[1].

*6 траўня, нядзеля*
«Чарнее срэбра»[2].

*

Каб аблятаць свае небасхілы,
Уночы душа
Падае заяўку на крылы…

*10 мая*

[1] Гл.: «Не можа ўсмешку ўтаіць заход» (5.05.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 79.
[2] Гл.: «Чарнее срэбра» (6.05.12) // У неба пехатою. С. 71.

*13 траўня, нядзеля*

*

А ўсё нібыта проста ў жыцці:
Прыходзіш, каб адысці…

*14 траўня, панядзелак*

*Крыж*

Памкненнямі ўпёрся ў неба.
Раскінуў рукі — абсяг абхапіць.

Непрыкметна ў зямлю ўрастае,
Мройліва спадзеючыся
Зноў зашаптаць лістамі…

*

Верыць жыццю, як дзіця,
Памяць — закладніца забыцця…

*16 траўня, серада*
Бог паслаў маладога беларуса ў помач. Ігар Цярэшчанка!

*17 траўня*

*Рэцэпт*

Калі намацаюць сэрца трэшчынкі
І ў галаве не ўсё ў параду,
Звяртайся да адмыслоўца Цярэшчанкі —
Паможа канкрэтна
І дасць парадку.
Бо з Ігарам комленыя дарогі
Вядуць няўхільна да перамогі!

Хуткамоўка: «Дождж бяжыць басанож…» [«Воз вёз лёс»]. «І наогул…»[1]

*24 траўня, чацвер*

** * **

Вітаючы раніцу зялёнастога,
Узнікшы ў далечыні магчымай,

[1] Гл.: І наогул… (17.05.12) // У неба пехатою. С. 71.

Вяртаюцца стомленыя дарогі
Да хаты,
Якую завуць Радзімай…

*Віншую!*

Сёння
Першы дзень свайго стагоддзя
Адзначае Стэфан Лабадзенка.
Травень аж заходзіцца ў лагодзе.
Вечнасці па густу разразменка.

Быў славуты цёзка — сам Баторы[1].
А цяпер дарога маладога
Зорна павядзе да непакоры.
Стэфана чакацьме перамога!

Гэта ў Глеба нарадзіўся сынок (3.370 кг).

*

У валуна душа трапяткая.
Толькі ўразілася яна.
І чакае…

*25 траўня, пятніца*
З Беластоку прыязджаў Ярэк Іванюк[2].

*Разумецьме…*

*Ярэку Іванюку*

Я раку
Ярэку
Павяду за руку, —
Хай яго чаўны вязе,
А яны хай у вазе
Прыбываюць
Дзень пры дні.
Заклінальнік глыбіні,
Рупатлівы пан спадар
Разумецьме
Думкі хмар…

---

[1] Баторый Стэфан (1533–1586), польскі кароль (з 1576), палкаводзец.
[2] Іванюк Яраслаў (н. 1969), беларускі дзеяч у Польшчы, журналіст.

*26 траўня, субота*

«Святло дарыць...»[1] Хуткамоўка: «Хісткі мост з крохкіх крыг» [«Воз вёз лёс»].

*30 траўня, серада*

Хуткамоўка: «Ад крыўды пачарнеўшы, ракі...» [«Воз вёз лёс»].

*5 чэрвеня, аўторак*

Пісаў радкі Давіду Сімановічу[2]. Будзе 80. Бадзёры, вясёлы. Дай Бог яму гадоў!

*Да адной з чарговых дат*

Біблейска-віцебскі Давід,
Шаноўны сын Рыгора,
Прачулы лірык,
Слынны гід
Па гістарынах горада,
Дзе свет свой
Марк Шагал стварыў,
З жыццём вітаўся Быкаў.
Круцеў абрыў,
Люцеў прыліў,
Парыў
Да справы клікаў.
Ты словам п'ян,
Ты славай сыт,
Сто дваццаць год
Жыві, Давід.
Трывалы
Ў светлых дзеяў грунт.
Шалом, мой дружа,
Zai gizunt![3]

*7 чэрвеня, чацвер*

Заходзіўся Уладзімір Някляеў з Воляй. Цікава пасядзелі. Яму, выходзіць, нельга за кальцавую выязджаць. Сцерагуць для вякоў. [...].

---

[1] Гл.: Святло дарыць... (26.05.12) // Ксты. Выд. 4. С. 394. Верш прысвечаны айцу У. Завальнюку.
[2] Сімановіч Давід Рыгоравіч (1932–2014), рускі паэт, празаік, перакладчык, нарысіст, сцэнарыст.
[3] Zai gizunt! — традыцыйны заздароўны адэскі тост.

*8 чэрвеня, пятніца*

Прыходзіў урач. Відаць, буду жыць. Як у нас казалі: жыць будзеш, толькі не захочаш.

*

Спрабую дагрукацца да ўчарашняй радні.
Грукат — пасынак глухой цішыні…

*9 чэрвеня, субота*

Алесь імяніннік. Вітанне: «Да дзевяноста дзевяці…» [у дзённіку].

*10 чэрвеня, нядзеля*

Маме 93![1]

Напісаліся радкі Мілінкевічу: «Свабодныя самыя…»[2]

*Узгадка*

Мама!
Сёння табе было б 93.
Тут і мне ўжо
Не шмат засталося.
Упіраўся прыжыцца
Ў халодным лёсе,
Як даношаны свет,
Я таксама стары…

*12 чэрвеня, аўторак*

Хоць радкі ідуць:

*

Як яго ненавідзяць, ведае боль.
І стараецца яшчэ больш…

[Варыянт:]

Уладу сваю ведае боль.
І стараецца яшчэ больш.

*13 чэрвеня, серада*

Лічба, якую люблю. Не ведаю, чаму. Хуткамоўкі: «Сустракала каля Крэва…»; «Шляхціц згубіў хлясцік» [«Воз вёз лёс»].

[1] На самой справе — 103 (1909–1071).
[2] Гл.: Свабодныя самыя… (10.06.12) // У неба пехатою. С. 67.

* Ян Грыб[1] актывіст беларускасці. Здаецца, 17-га будзе мой вечар. Быць нідзе ўжо не магу. Таму напісаў як бы прамову:

*Лірычная прамова*

З каравая ўдзячнасці скібу
Я цвярдою рукою адкрою
Краелюбаму Яну Грыбу.
Шчодра зорамі для настрою
Я пасыплю заместа солі.
Запрашу грай вясновы з гаю.
Беларус не здаецца ніколі.
Непахісны перамагае.
Як свая, для анёлаў сяліба
Мудрачолага Яна Грыба!..

*14 чэрвеня, чацвер*

Хуткамоўкі: «Кот, не злавіўшы муху...»; «Агонь грыз скручаны дрот» [«Воз вёз лёс»].

*17 чэрвеня, нядзеля*

Засталіся яшчэ на раёне рэдкія яўрэі, якім баліць беларушчына. Ада Райчонак. «Акравітанне»[2].

*19 чэрвеня, аўторак*

Дзень народзінаў Васіля. Паехалі ў Бычкі. Я прыкуты да пакуты дома.

*Проста*

Рэха шукае свой крок.
Зрок разгубіўся знарок.
Перапялёсы шляк
Лёг на прымлелы шлях.
Ловіць туман трапяткі
Раніца ў дзве рукі...

*20 чэрвеня, серада*

Люстэрка падказала радкі: «Сівагаловае»[3].

---

[1] Грыб Ян Янавіч (н. 1961), беларускі пісьменнік і прадпрымальнік.
[2] Гл.: Акравітаньне (17.06.12) // У неба пехатою. С. 76. Акраверш А. Райчонак.
[3] Гл.: Сівагаловае (20.06.12) // Тамсама. С. 77.

*21 чэрвеня, чацвер*

Галава міністрэская — пуста й дурная. Нейкія радкі яшчэ ідуць, каб не даць звар'яцець: «І не залежыць ні ад плошчы лоба...»[1]

*24 чэрвеня, нядзеля*

Дзень за дзень — і бліжэй Бутаўшчына. Там мама чакае. Хочацца нешта напісаць: «Імгненне з Рысікам»[2]. Шмат для Беларушчыны робіць Мілінкевіч. 25 ліпеня яму — 65. Напісаліся радкі вітання:

*Захмарны прысуд*

*Аляксандру Мілінкевічу на стагоддзе*

Смеласць — гэта захмарны прысуд.
Мудрасць — гэта боская кара.
Для пакут ёсць пачэсны кут.
Абароніць ад здрады мара.
Космас, як надзейны сусед,
Вучыць верным быць непакоры.
Мудрасць смела ступае,
А ўслед
Зацвітаюць на сцежках зоры...

*29 чэрвеня, пятніца*

Круціў-круціў і нешта выкруціў: «Глядзіць здзіўленне...»[3]

*

Далягляд — заручальны пярсцёнак.
Заручае неба з зямлёй...

*[2012]*

*30 чэрвеня, субота*

Канец маладога лета. У ліпені, відаць, будзе Вушача. «Ад здрады, ад хлусні...»[4]

*1 ліпеня, нядзеля*

Ліпень! Пачынаю хуткамоўкамі[5].

---

[1] Гл.: «І не залежыць ні ад плошчы лоба...» (21.06.12) // У неба пехатою. С. 91.
[2] Гл.: Імгненне з Рысікам (24.06.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 80.
[3] Гл.: «Глядзіць зьдзіўленьне...» (29.06.12) // У неба пехатою. С. 71.
[4] Гл.: «Ад здрады, ад хлусьні...» (30.06.12) // Тамсама. С. 72.
[5] Радкі перанесены ў падборку «Хуткамоўкі».

*2 ліпеня, панядзелак*

І ліпень ідзе, а я ўсё ў Менску, а не ў Вушачы. «Пад крысом зааблочча...»[1]

*4 ліпеня, серада*

У думках збіраюся дамоў. Здароўʼя ніякога. З Дамінікай толку няма. Ад Ілоны ні гуку. Як у нас казалі: зжыў на сабаку. Патроху пішу. А навошта? Каму? Дрэнна бачу. Рука дрэнна піша. «Каб запытацца...»[2]

*5 ліпеня, чацвер*

Смаліць як ніколі. Мазгі, калі яны яшчэ засталіся часткова, плавяцца.

*7 ліпеня, субота*

Збіраюся ў Вушачу. У думках. І баюся. Увесь я нейкі развінчаны.

* * *

Шалее спякота.
Паветра гарыць.
Аблокі ўздыхаюць сонна.
Спрабуе нарэшце загаварыць
З застуджаным горлам варона...

*9 ліпеня, панядзелак*

Сёння дзень народзінаў Валі. Нешта пісалася: «Чысціня душэўная са святла»[3].

*

Нялёгкае гэта мастацтва —
Падобным да сябе заставацца...[4]

*13 ліпеня, пятніца*

Загрымеў у кардыялогію нашай Лечкамісі. Сапраўды: ты на гару, а чорт за нагу.

*

І як ні пнуцца затрымацца
Жыцця імклівага ўтрыманцы,

---

[1] Гл.: «Пад крысом зааблочча...» (2.07.12) // У неба пехатою. С. 71.
[2] Гл.: Каб запытацца... (4.07.12) // Тамсама. С. 128.
[3] Гл.: «Чысціня душэўная са святла» (9.07.12) // Тамсама. С. 69.
[4] Гл.: «Найвышэйшае ў сьвеце мастацтва...» (12.07.12) // Тамсама. С. 98.

Прымае ўсіх зямля сырая —
Яна не разбірае…

*[2012]*

*15 ліпеня, нядзеля*

Яшчэ нешта ў галаву лезе: «Самотна аціхлы…»[1]

*16 ліпеня, панядзелак*

За вакном лета, а я тут у палаце даходжу ад думкі пра безвыходнасць і марнасць. «Не дадзена нікому выбіраць…»[2]

*18 ліпеня, серада*

Хвораму нікога не трэба. Хворы і сам сабе не патрэбны. Каб можна было яшчэ раз пачынаць жыццё. «Каб паўтарыцца…»[3]

*20 ліпеня, пятніца*

Ад жыцця не ўцячы. Яно цябе адпусціць, калі палічыць патрэбным.

«Здзіўленне — малое дзіця…»[4]

*24 ліпеня, аўторак*

Неяк заходзіў Някляеў са сваёй мілай Воляй. Дзякуй ім за памяць. Валодзя за рысу горада не можа выехаць. Хворы. Трэба лячыцца, а не пускаюць. Загад аднаго. У галаву ідуць і дурныя зусім радкі:

*

Калі абвяў канец,
Не думай пра вянец…

*25 ліпеня, серада*

Выпісаўся. Яшчэ болей хворым, чым клаўся. Сусед па палаце доктар венеролаг добра сказаў, што ў чалавека па часе гэтулькі хвароб, колькі яму гадоў. А то яшчэ й болей.

*26 ліпеня, чацвер*

І дома настрой бальнічны. Трохі забываюся, калі нешта пішацца. Нешта як бы вершатэрапія. «Над мамінай хатаю…», «Каб роспач вітаць…»[5]

---

[1] Гл.: «Самотна аціхлы…» (15.07.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 81.
[2] Гл.: «Ня дадзена нікому выбіраць…» (16.07.12) // У неба пехатою. С. 64.
[3] Гл.: «Каб паўтарыцца…» (18.07.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 82.
[4] Гл.: «Зьдзіўленьне — малое дзіця…» (20.07.12) // У неба пехатою. С. 77.
[5] Гл.: «Над мамінай хатаю…; Каб роспач вітаць…» (26.07.12) // Тамсама. С. 69; 68.

Знайшоўся верш. Можа, яго ў нататніках няма. Хоць будзе к аднаму мейсцу, як у нас казалі. «Забытая хата» (2–9.07.09).

*27 ліпеня, пятніца*

Прывыкаю да дому. Хоць ад лютай спёцы ўцёк з бальніцы. «Каб абганялі далягляд...»[1].

*30 ліпеня, панядзелак*

«З узростам»[2].

*1 жніўня, серада*

У думках у Вушачы. Хворым ценем у Менску. Спёка. Галаўны боль. Жах. Дажыўся. А хочацца яшчэ нешта паспець... « І ў радасці, і ў журбе...»[3]

*5 жніўня, чацвер*

Не магу прыйсці ў сябе. Хачу ў Вушачу. Можа, гэта апошні прыезд будзе. Як Бог дасць. «Таямніцу берага і дна...», «Пакуль жыццёвы агмень не зачах...»[4]. Пётраву[5] сябру: «Віталю Собалю: Каб ад радкоў і вобразаў...» [у дзённіку].

*8 жніўня, серада*

Не магу прыйсці ў сябе. Трэба ў Вушачу. А як?

*15 жніўня, серада*

Хачу ў Вушачу — асноўная хуткамоўка.

* * *

Нораў маюць і ласка, і злосць.
Асцярога дрэмле савой.
Гук жыве
Ува ўсім, што ёсць,
Толькі ў кожнай рэчы ён свой.

---

[1] Гл.: «Каб абганялі далягляд...» (27.07.12) // У неба пехатою. С. 130.

[2] Гл.: З узростам (30.07.12) // Тамсама. С. 130.

[3] Гл.: « І ў радасьці, і ў журбе...» (1.08.12) // Тамсама. С. 70.

[4] Гл.: «Таямніцу берага і дна...»; «Пакуль жыцьцёвы агмень не зачах...» (5.08.12) // Тамсама. С. 70; 76.

[5] Кухарскі Пётр Станіслававіч (1958–2013), вайсковец; урач-фітатэрапеўт. Кандыдат медыцынскіх навук.

*17 жніўня, пятніца*

Прыходзіў Ганад. Адзін годна кажа за цэлы народ. Горды, мудры, справядлівы.

*19 жніўня, нядзеля*

Жнівень канчаецца, а я ў Вушачы толькі ў балючых думках. Каб не зусім дайсці, яшчэ нешта пішу. У знак падзякі Ганаду за ўвагу і падтрымку:

*Акрашана*

Гадуюць горы непакорны дух.
Арламі вымяраюцца прасторы.
Не астываюць гнёзды завірух.
Агню пазычыць цемры могуць зоры.
Дах пад крылом журлівых аблачын
Чакае верную душу здалёку.
Адна айчына, дзвюх няма айчын.
Рака світальна ўдзячная вытоку.
Калі скала плячом сваім крутым
Аслоніць позірк смутку ад адчаю,
Захоча вогнішчу аддзячыць дым,
Які вятрам развагу пазычае.
Няўтульны боль не можа быць чужым…

*21 жніўня, аўторак*

*Вушача!* Аж не верыцца. Здаецца, гэта сніцца. Толькі б не апошні раз, Божа! «Дождж лясны…»[1]

*23 жніўня, чацвер*

** * **

Час ідзе,
Снег ідзе,
Дождж ідзе, —
Жыццё спяшаецца…

*24 жніўня, пятніца*

«Гром кірпаты…»[2]

---

[1] Гл.: А раптам… (21.08.13) // У неба пехатою. С. 155.
[2] Гл.: «Гром кірпаты…» (24.08.12, Ушачы) // Тамсама. С. 64.

*28 жніўня, аўторак*
Бураўкін даганяе мяне.

*Вітаю!*

Мой сябар залаты, Генадзь!
Ляноту з хаты думкі гнаць
Будзь дуж да ста,
І баста!

*1 верасня, субота*
Месяц пачаў дома. Хворы, ніякі, але ў мамінай хаце. Зоркапад у садзе.

*

І плача асірацелы сад
Слязамі салодкімі яблыкаў...

*3 верасня, панядзелак*
«І цень мой...»[1]

*4 верасня, аўторак*
Прыязджаў айцец Уладзыслаў. Як багатая каляда. Дзякуй яму! Светлая душа. Эсэмэска з нагоды: «Як мудрага Завальнюка...» [у дзённіку]. «Дождж змалку ходзіць басанож...»[2]

*5 верасня, серада*
«Ажно небасхілу цесна...»[3]

*8 верасня, субота*
Хуткамоўка: «Мусіць прайсці прасцірадла праз прас...» [«Воз вёз лёс»].

*11 верасня, аўторак*
Можа, такая перадмова ў хуткамоўкі з Верасоўкі [1-шы варыянт]:

* * *

Зялёны хутар Верасоўка.
Валун там рос у глыбіню.
Шукала жалуды палёўка.
Туман не давяраў агню.
Лысоню пасвіў кот Мірон,

[1] Гл.: «І цень мой...» (3.09.12, Ушачы) // У неба пехатою. С. 78.
[2] Гл.: «Дождж змалку ходзіць басанож...» (4.09.12, Ушачы) // Тамсама. С. 61.
[3] Гл.: «Ажно нябёсам цесна...» (5.09.12, Ушачы) // Тамсама. С. 64.

І калыхаў калыску сон.
Пулятыя стагналі соўкі,
Завучваючы хуткамоўкі.
Гублялі конікі падкоўкі,
Дагнаць хацелі хуткамоўкі[1].

*14 верасня, пятніца*

*Адпаведнасць*

У лясах навукі кожны пень
Мае адпаведную ступень…

*19 верасня, серада*
«Штодня да вясны бліжэй…», «Цяжкавата»[2].

*

Пераканаць хваробы свае
Хвораму кворуму не стае…

*26 верасня, серада*
Ногі ўжо не хочуць хадзіць. Думкі нейкія ў галаву залятаюць: «Усё паўтараецца на зямлі…»[3]

*1 кастрычніка, панядзелак*
«Кастрычніцкае»[4].

*6 кастрычніка, субота*
Ад'езд у Менск. Дзякуй Богу, хоць надыхаўся вушацкім паветрам!

*8 кастрычніка, панядзелак*
Хуткамоўка: «Варона ляцела ў Верону…» [«Воз вёз лёс»].

*18 кастрычніка, чацвер*
Сёння Ганаду 66. «Ад 66 да 99!: Мудрэц і брат арла Ганад!» [у дзённіку]. «Жонка — прадонная скарбонка…»

[1] Параўн.: Зялёны хутар Верасоўка // Воз вёз лёс.
[2] Гл.: «Штодня да вясны бліжэй…»; Цяжкавата (19.09.12, Ушачы) // У неба пехатою. С. 74; 63.
[3] Гл.: «Усё паўтараецца на зямлі…» (26.09.12, Ушачы) // Ксты. Выд. 4. С. 296.
[4] Гл.: Кастрычніцкае (1.10.12, Ушачы) // У неба пехатою. С. 63.

*19 кастрычніка, пятніца*

Ужо жыву чаканнем урачоў. Дажыўся! Сапраўды — жыць будзеш, толькі не захочаш. «Быццам хто яго...»[1]

* * *

Не давярае малаверам лёс.
Агонь заспанае вітае ранне.
Туман не хоча верыць у зніканне,
А вецер рад ляцець туды, дзе рос.
Шануе касавіца першы ўкос.
Анёл жыве вясцінаю нябёс...

*Дзевятнадцаць*

*Наталцы Давыдзенка*

Душа сваю шануе глыбіню,
Як неба,
Як няздзейсненую мрою.
Абмытая святлом упершыню,
Спрыяе сцежка
Зорнаму настрою.

Бяжыцца хітра
Сцежцы па тайзе
З Усходу
Ў балаганную Еўропу.
Развага,
Ў меру ўдзячная тузе,
Глухой шашой
Глынаецца зналопу.

Рух ціха спешыць
Ісціна святла.
Звык сподзеў
Ля чакання завінацца.
І сцежка,
І яна, што ёй ішла,
Узрост свой значыць
Лічбай 19!

[1] Гл.: «Быццам хто яго...» (19.10.12) // У неба пехатою. С. 72.

*21 кастрычніка, нядзеля*

Адышоў залаты беларус, светлы чалавек, асоба. Неўзабаве будзе 40 дзён. «Дапамагаў красе… (На сарачыны Генадзя Асташонка)»[1]. «Кропля выцінаецца бадзёра…»[2]

*26 кастрычніка, пятніца*

Учора прыходзіў Уладзімір Вамуш[3]. Так мяне намасажаваў, думаў, не выжыву. «І хмару пальцам падштурхне…» [У. Вамушу; у дзённіку].

Хуткамоўка: «Адкуль жа жабка прыплыла?..» [«Воз вёз лёс».]

*27 кастрычніка, субота*

* * *

Пакуль жывеш,
Збіраешся жыць.
Дарога здаецца такой далёкай.
Світае. Змяркаецца.
Час бяжыць,
І ты ў яго выпадковы лёкай.

Самота папросіцца на начлег.
Прызна́е за сваяка развітанне.
Халодны час
Не прыпыніць свой бег.
Ці жыў ты, —
Каму задавацьму пытанне?

*29 кастрычніка, панядзелак*

Сёння 20 год Раману Клачку — аднаму беларускамоўнаму выпускніку Вушацкай школы, цяпер студэнту Віцебскага медыцынскага [інстытута]. «Пажаданне: Рамане, сто гадоў…» [у дзённіку].

*Лістапад 2012*

У нас некалі казалі: дзень пражыў — бліжэй да смерці. Вось і зжываецца год. Дзякуй Звышняму за кожную хвілінку пабыць тут! Як там, невядома.

---

[1] Гл.: Дапамагаў красе… (21.10.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 83.
[2] Гл.: «Кропля выцінаецца бадзёра…» (21.10.12) // У неба пехатою. С. 164.
[3] Вамуш Уладзімір Аляксеевіч, псіхолаг.

*2 лістапада, пятніца*
«Вушацкі абразок»[1].

*4 лістапада, нядзеля*
Ідзе ўсеагульная дэбілізацыя. У асяродзі Дамінікі заклаліся на 10 тыс.: Эрых Марыя Рэмарк[2] мужчына ці жанчына? Выйграў Дамініцын Алег, ён ведаў, што мужчына. «Бясхмарны не марна наважыўся жыць»[3].

*9 лістапада, пятніца*
Знайшоў [верш] «Вільнюс» [ 3.10.03; у дзённіку].

*10 лістапада, субота*
«Прашу...»[4].

*12 лістапада, панядзелак*
«Зярняты дзён...»[5] (0.19 гадзін.) Хуткамоўкі: «Порах сам сабе вораг»; «Шукаюць калачы ад каланчы ключы...» [«Воз вёз лёс»].

*13 лістапада, аўторак*
Гледзячы на Дамініку: «У кожнай справе варта старацца...»[6]

*14 лістапада, серада*
Раніцай прахапіўся і клічу: «Мама!» «Як туман пасівелы...»[7]

*

Каму ты належыш тады,
Калі адыходзіш туды?..

* * *

Неахвотна дазваляе праца
Жыць заможна.
Колькі можна
За жыццё трымацца?
Колькі можна!..

---

[1] Гл.: Вушацкі абразок (2.11.12) // У неба пехатою. С. 73.
[2] Рэмарк Эрых Марыя (1898–1970), нямецкі пісьменнік.
[3] Гл.: «Бясхмарны...» (4.11.12) // У неба пехатою. С. 133.
[4] Гл.: Прашу... (10.11.12) // Тамсама. С. 133.
[5] Гл.: «Зярняты дзён...» (12.11.12) // Тамсама. С. 63.
[6] Гл.: «У кожнай справе...» (13.11.12) // Тамсама. С. 103.
[7] Гл.: «Як туман пасівелы...» (14.11.12) // Тамсама. С. 134.

Хуткамоўка: «Не здужаў бы і мужны Цэзар…» [«Воз вёз лёс»].

*15 лістапада, чацвер*

«Добра там, дзе нас няма…»[1] Хуткамоўкі: "Цень сухі хваста нясе…»; "Не ў страхі вадзе запыліцца» [«Воз вёз лёс»].

*17 лістапада, субота*

Хуткамоўка:» Каб ягад гарачых набрацца…» [Воз вёз лёс»].

*18 лістапада, нядзеля*

Хуткамоўка: «Джын у джынсах з пляшкі ўзнік» [«Воз вёз лёс»].

*24 лістапада, субота*

«Пытанне да імянінніка Ігара Цярэшчанкі: Вольналюбец…» [у дзённіку].

*25 лістапада, нядзеля*

Нейкі развітальны настрой. Ідуць радкі. Адзін ратунак.

* * *

Адвячорак ступае
Па ўчарашняй траве,
На негабляваных лавах
Застолле плыве.
Хочацца здзейсніцца
Млечнаму Шляху.
Вецер не можа
Дабраць апранаху
Голаму жаху.
Давярае вавёрка
Свае кіпцюркі сасне.
Усё сябе ўспамінае
У задуманым сне…[2]

«Так з горкай душою і давякую…», «І пад вадой, відаць…»[3].

---

[1] Гл.: «Добра там…» (15.11.12) // У неба пехатою. С. 135.
[2] Параўн.: Насуперак… (25.11.12) // Тамсама. С. 135.
[3] Гл.: «Так з горкай душою і давякую…» (N.); «І пад вадой, відаць…» (25.11.12) // Тамсама. С. 81; 92.

*

Як маеце даляр вы,
Ідзіце з ім да лярвы…

*27 лістапада, аўторак*
«Любіць…: Гарачэй ад Афрык…» [Г. Чарказяну; у дзённіку].

*28 лістапада, серада*
«Дакладна»[1].

*1 снежня, субота*
Дажыў да маладой зімы. А там, можа, і вясну сустрэну.

*2 снежня, нядзеля*
«Дзе думае кон…: Народжанаму ў гарах…» [Г. Чарказяну; у дзённіку]. Хуткамоўка: «Пад нагамі месіва…»; «Шалела залева…»; «На скокі баіцца спазніцца спадніца» [«Воз вёз лёс»].

*3 снежня, панядзелак*
«Ніколі крот не можа стаць крылатым…»[2]

*5 снежня, серада*
«Не пакутуе ад бяссоння Дарога з учора ў сёння…»[3]

*7 снежня, пятніца*
«Акрачалом праз акіян»[4].

*10 снежня, панядзелак*
«Я адзін, як пытальнік…», «Агонь тушыць…»[5].

*11 снежня, аўторак*
«Плакатнае»[6].

---

[1] Гл.: Так! (28.11.12) // У неба пехатою. С. 141. Верш прысвечаны Г. Бураўкіну.
[2] Гл.: «Ніколі крот ня можа стаць крылатым» (3.12.12) // Тамсама. С. 62.
[3] Гл.: «Не пакутуе ад бяссоння…» (5.12.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 85.
[4] Гл.: Акрачалом праз акіян (7.12.12) // У неба пехатою. С. 73. Акраверш Р. Лапушыну. *Лапушын* Радзіслаў Яфімавіч (н. 1960), рускі паэт, літаратуразнавец, выкладчык. Доктар філалогіі (2006). З 1998 г. жыве ў ЗША.
[5] Гл.: «Я адзін…»; «Агонь тушыць…» (10.12.12) // Тамсама. С. 136; 137.
[6] Гл.: Плакат (11 —12.12.12) // Тамсама. С. 137.

*12 снежня, серада*

Тры дванадцаткі. Наогул суцэльныя двойкі. Да чаго б гэта? «Бясконцасць векавечыцца ў жыцці»[1].

* * *

Вадзе не цёмна нідзе.
Вадзе не цесна нідзе.
Ва́да не ў страх вадзе.
Са спрадвечча
Пачатак вядзе.
Ды адпачыць вадзе
Дзе?..

*[29 красавіка 2011–12 снежня 2012; варыянт]*

*17 снежня, панядзелак*

Тэле запоўнена звесткамі пра канец свету. 21 снежня. Трэба ж нешта такое, каб абалванівала. І камерцыі вынік. Амерыканізацыя ідзе па ўсім свеце. Хуткамоўка: «З шэрай цемры…», «У небе выбоістая шаша…»[2].

*20 снежня, чацвер*

Заўтра канец свету — вяшчаюць і тэле, і радыё. Як гэта цяпер проста абалваніваць масы. Цікава, што шмат людзей, якія вераць. Асабліва ў Амерыцы. Гэта ўжо робаты. Імі лёгка маніпуляваць. […]. А я ніяк не магу ўзяць моцы. І тут, і не тут я. Як падняцца? «Жыць, як апошнім днём…»[3]

*21 снежня, пятніца*

Вось і дзень канца свету. Камунізм рэкламавалі гэтулькі год, што й самі паверылі, а ён не прыйшоў. Цяпер пры тэле ды іншых прыладах льга і чорнае ўбачыць белым.

*Косы і сякеры*

Mužyk pakul zdužaje trymaci
kosu i sakieru, baranič swaho patrapič
i u nikoho łaski prasič nie budzie.

*Jaska haspadar z pad Wilni («Mužyckaja prauda», № 1)*

Каса і сякера —
Краса і вера.
Краса тае недаткнёнкі,

---

[1] Гл.: «Бясконцасьць векавечыцца ў жыцьці» (12.12.12) // У неба пехатою. С. 64.
[2] Гл.: Пасьпеў; « У небе выбоістая шаша…» (17.12.12) // Тамсама. С. 107; 138.
[3] Гл.: «Жыць, як апошнім днём…» (20.12.12) // Тамсама. С. 149.

Якая
Завецца воляю
І не знікае.
Якая
Сталець звыкае
Пад перуновы вокліч
Упоплеч з вякамі.
Бо не бывае ніколі
Зашмат чаканае волі.

Сякера —
Двайніца цвярдое веры,
Што трывае ў пакутах
Трывогай пачутых
Нябесны дах.
Сякера наўзмах
Бароніць для волі шлях
Ад хмызняку, ад знячэўя,
Ад тупагалоўя,
Ад злога карчэўя.

Сякера —
Паратоўніцы бліскавіцы сястра,
Народжаная ў купелі адвагі.
Разняволеныя абсягі
Слухаюць пільна
Голас
Яські гаспадара
з-пад Вільні.

Гэта Язэп Янушкевіч з Някляевым складаюць зборнік пра Кастуся Каліноўскага[1]. Валодзя папрасіў нешта напісаць. Паспрабаваў. Няма на кім правяраць. Ні Стральцова, ні Валянціна Тараса. Дый іншых няма. Не будзеш жа на сучасных казлах правяраць. Ім абы яны былі. Парсючкі ля карытцаў.

«Ідэя для таго даецца...»[2]

*24 снежня, панядзелак*

Ледзь жыву, але, як дома казалі, кратаюся памаленьку. «Знянацкае»[3].

---

[1] Каліноўскі Кастусь (Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; 1838–1864), лідар беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве. Пакараны царскімі ўладамі.

[2] Гл.: «Ідэя для таго даецца...» (21.12.12) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 87.

[3] Гл.: «Агонь глядзіць на дрэвы...» (24.12.12) // У неба пехатою. С. 138.

*25 снежня, аўторак*
Год да канца ідзе. Пішу амерыканскай ручкай. Натурыцца.

*Акразычэнне*

У чыстай сілы позірк малады.
Ляціць далёка голас навальніцы.
Ад хуткай чуткі адстаюць сляды.
Дадому клічуць весніцы-двайніцы.
Замову ад раз'юшанай бяды
І ад знявер'я шэпчуць халады.
Марозны дзень расчулілі сініцы.
Іначаць шлях да ісціны гады.
Ручай зайздросціць ранішняй крыніцы.
Вісяць над часам хрыплыя крукі.
Адказ чакае, каб расло пытанне.
Міжволі паспяшаецца світанне
У небе ўбачыць помах той рукі,
Што благаслаўляе векавец вякі…

## 2013

Амаль увесь год па бальніцах. Чахну. Зношваюся да канца. Ні да таго, які яшчэ хоць фактычны, бо ёсць.

На асобных лістках пісаў. Збіраю ў кучу. «Кожнаму самы верны…»[1], «Свой неўміручы лёс…»[2], «Пытанне»[3], « 77: Што такое пакуты…»[4].

*7 сакавіка, чацвер*

«Акрадзякуй»[5]. «Акраподумка»[6].

*10 красавіка, серада*

«Вырай рук»[7].

*6 чэрвеня, чацвер*

*Да світання*

*Айцу Уладзіславу Завальнюку*

«Князь», —
На ксяндза казалі крывічы,
Ў захмарных пушчах
Выразаны посах
Вёў князя да світання па начы,
І лёсу ўзвышліва было ў нябёсах.

Касы фатальнай маладзеў размах.
Чаргі бязменнай не было нібыта.
І душ нябачных воку Млечны Шлях
Над светам узыходзіў сонцавіта.

Вітае князя шчодрае святло,
І ўсмешку не хавае ноч скупая.

---

[1] Гл.: «Кожнаму самы верны…» (26.01.13) // У неба пехатою. С. 61.
[2] Гл.: «Свой неўміручы лёс…» (29.01.13) // Тамсама. С. 61.
[3] Гл.: Пытанне («Рух пытаецца ў ценяў наўкола…»; 3.02.13) // Тамсама. С. 139.
[4] Гл.: «Што такое пакуты…» (24.02.13) // Тамсама. С. 108.
[5] Гл.: Акрадзякуй (7.03.13) // Тамсама. С. 144. Акраверш жонцы.
[6] Гл.: Акраподумка (15–22.03.13) // Тамсама. С. 145. Акраверш І. Цярэшчанку.
[7] Гл.: Вырай рук (10.04.13) // Тамсама. С. 146. Верш прысвечаны Дз. Абухоўскаму. *Абухоўскі* Дзяніс (н. 1987), беларускі геадэзіст.

Каб і траве балюча не было,
Князь небаўдзячна па зямлі ступае…

Вершы, занатаваныя ў дзённіку ў канцы 2013 года ўроскід:

«Ці гэта я…»[1], «Ласыя», «Як дома…»[2]. «Цяжка: І ў які б ні падаўся шлях…» [1.10.13; А. Камоцкаму], «На вяселле: Наталля і Дзяніс!» [6.10.13; Н. і Дз. Абухоўскім], «Кашалі воплескаў: Маэстра не шукаў…» [6.10.13], «Папярэджанне: Як спаліш запас энергіі ўвесь…» [7.10.13; А. Камоцкаму], «І на заробак…» [накід], «На чвэрць стагоддзя: Беларускі Народны Фронт!» [11.10.13; усе ў дзённіку].

* * *

І позіркі ў зорак замгляцца.
Прыкінецца цемра святлом.
Расстаючыся з сабой,
Па-зямляцку
Да жыцця прысланіцца плячом.

*[Да кастрычніка] 2013*

*Vivat!*

І вобразаў, і радкоў —
Цераз край
Ці па-латыні кажучы:
Да халеры
У кіраўніка, выдаўца
Валеры
Дубоўскага.
Вершаў ягоных грай.
І ў завіруху
Звініць жаўрукамі.
Такія шчырэнні
Не пішуць рукамі
І навальніцу просяць:
Чытай!
На досвітку
Ці маладымі начамі
Смялее жарсць
На пачатку маўчання.

*10 кастрычніка*

[1] Гл.: «Ці гэта я…» (5.07.13) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 101.
[2] Гл.: Ласыя; «Як дома…» (6.10.13) // У неба пехатою. С 161.

** * **

У сцюдзёным полымі бяроз
Дагарае сцяжына крывая.
Свой немінуча вырачаны лёс
Кропля аб туман разбівае…

*22 снежня*

*30 снежня, панядзелак*
Канец года. Ці дажыву яшчэ год?

*Наогул…*

Кожны сам сабе бард.
Жар у цемры
Раздзьмухвае жарт.
Воля сталі
Пазычыла гарт.
А наогул,
Кожны сам сябе варт.

*Пакуль…*

Пакуль ёсць ты —
Ёсць свет
І ўсё на свеце.
Пакуль ёсць ты —
Жыццё шануе клёк.
Шалёна веру я
Любой прыкмеце,
Што пра цябе
Нагадвае здалёк.

Ты для мяне,
Як зорка маладая,
Што дапякае
Пасівелы змрок.
Цябе, жаданую,
Душа чакае,
Цябе, самотную,
Вяльмуе зрок…

*31 снежня*

## 2014

Дзень добры, Новы год!

У Вушачы была такая крутаніна. Елкі ў канцы гароду вырвала з коранем двухметровым. Нейкая сымволіка.

«А хацелася б…», «Не жадаў…»[1]

*Алесенне*

У лёса канкрэтныя выракі.
Чакае здалёку дзедзіна.
Але́сенне лядаў лірыкі
Камоцкаму планам даведзена…

*19 студзеня*

*Размах крыла*

*Ганаду Чарказяну*

Размах крыла арла
Размераны на мрою,
Нясе стралу святла
Даверыцца настрою.

Пакуль ляціць арол,
Усё жыве, як трэба,
Лугамі ўвіты дол,
Кунежыць зоры неба.

** * **

Смакаваў бы гарачыя вугалі,
Пачуць бы толькі — калі?[2]

---

[1] Гл.: А хацелася б…; Не жадаў… (9.01.14) // У неба пехатою. С. 176.
[2] Два апошнія вершы запісаны рукой Валенціны Міхайлаўны ў блакноце.

*28 лютага 2014*

** * **

*Г. Бураўкіну*

Генадзь і ў залётах, і ў працы адзін.
Нялёгка
Быў мроямі [?] рук [?]...[1]

*28 лютага 2014*

[1] Апошні накід паэта ў блакноце.

## Артыкулы і роздумы

### *Паклон табе...*

Мая Радзіма там, дзе плывуць
самыя прыгожыя аблокі...

*Жуль Рэнар*[1]

Рака даганяе ўчарашнія сны. У правідным тумане конь мякка пазвоньвае балаболкай. Бор засланіў вочы ад трывожнага захаду. Над борам кружыць шэрая чапля. На сіні вечар, на ціхія думы раняе шэрая чапля перапялёсае пяро.

Думныя курганы падставілі спіны, каб сосны даверылі свае таямніцы першым зорам. Курганы. Іх у нас завуць надзвычай хораша валатоўкі. Мясцовыя легенды ўпарта сцвярджаюць, што гэта — магілы напалеонаўскіх салдат. Багата іх тут палягло. І курганоў густа. Вучоныя даказваюць: курганы — старажытныя пахаванні нашых продкаў VIII — IX стагоддзяў н. э.

Колькі ўжо стагоддзяў спакойная рачулка спакойна бяжыць у Дзвіну, а з Дзвіною-матухнай — у Балтыку, каб сваёй немаўлячаю даланёю качаць халодную памяць вякоў — бурштын. Звыш 50 азёр на карце нагадваюць клін жуpавоў, якія ляцяць на паўночны захад.

Колькі стагоддзяў чароды дзікіх гусей разгублена пералятаюць з возера на возера — усё ніяк не могуць выбраць, якое з іх лепшае: Чарсцвяды, Чэравэчча, Вечалле, Ваўчэнскае... Толькі ўслухайцеся ў гучанне! Паганская сівая даўніна гаворыць!

Урочышчы, ваколіцы... Задаброцце. Кручча. Сухія пожні. Куты. Салодкі мох. Мар'ін мох. Зімнік. Быкоў ручай. Ласіныя ямы. Петухова гара.

Быковым стаў ручай таму, што ў ім некалі бык утапіўся. А ласіха быццам хацела злучыць два лясныя возеры Дземенец і Дземенчык. Так да канца і не давяла ласіха працу. А што датычыцца гары, то бедны певень, відаць, толькі да яе і данёс свой голас у зубах рыжай ласухі.

Восенню, калі вусаты дзядзька Ураджай падпярэжа снапы тугімі перавясламі, сядзьце над прыціхлым возерам, пад аўдавелай вярбой. Дагарае васільковая туга пераспелага лета. І з першабытным даверам

---

[1] Рэнар Жуль (1864–1910), французскі пісьменнік.

праплываюць маладыя вывадкі... Край азёр, край бароў, край партызанскай славы — мая Ушаччына!

Бяжыць рэчка Ушачанка ў Дзвіну, слухае споведзі дзікіх чаратоў. А сама яна можа расказаць шмат. І пра бязладныя сеймікі, і пра вайну 1812 года, і нават пра млын, што некалі трымаў гонар яе паўнаводдзя.

Ушачы, як сведчаць гісторыкі, у 1624 годзе належалі полацкаму стольніку Кляноўскаму, а ў 1672 годзе — Радзімінскаму-Францкевічу, які пасяліў тут базіліян. У 1758 годзе Ушачы атрымалі магдэбургскае права. Пасля падзелу Беларусі, у 1772 годзе, Ушачы застаюцца за Польшчай і робяцца галоўным горадам асобнага павета. Тут збіраліся сеймікі, на якіх дзяліліся павятовыя пасады, вылучаліся паслы на сейм Рэчы Паспалітай. Гэтыя сеймікі ўвайшлі нават у прыказкі. Калі які шляхціц занадта шумеў, празмерна мітусіўся, у яго звычайна пыталі, ці не на ўшацкіх сейміках пан пабыў? У 1791 годзе цэнтрам ваяводства рашылі зрабіць Чашнікі, але на сейміку пры галасаванні Чашнікі атрымалі 19 галасоў, Дзісна — 12, а Ушачы — 263!

У 1812 годзе французскі корпус маршала Сен-Сіра[1] пад началам Леграна[2] рушыў з Полацка да Ушач. Граф Вітгенштэйн[3] загадаў Штэйнгелю[4] таксама ўзяць гэты ж кірунак — ад Дзісны праз Арэхаўна. Ва Ушачах знаходзіліся абозы галоўнай кватэры, галоўнага штаба і вайсковага камісарыята, каса і батарэя. Увесь гэты абоз не дагнаў арміі. Акружыла руская кавалерыя. На вазах знайшлі 22 сцягі (харугвы) 11-ці палкоў лінейнай пяхоты з Баварскага корпуса. Сцягі завезлі ў Пецярбург. А «Жалованная грамота вел. кн. Александр[5] о предоставлении Полоцку магдебургского права» (1498 г. кастрычніка 4) упамінае шуструю рэчку Ушачанку: «Теж, где переж добытки свои пасывали, ино и ныне добровольно им, без всякого нагабанья, там же пасвити будеть; теж и у р. Ушачи то еж доброволенство даем им добыток свой пасвити, как и перед тем мели».

Гісторыя захавала скупыя звесткі пра Ушаччыну. У польскай прэсе мінулага стагоддзя падчас трапляецца тое-сёе. У прыватнасці, тыднёвік «Ральнічна-тэхналагічны» за 1850 год у адным з артыкулаў спасылаецца на пана з Ушач, які пачаў уводзіць шматполле. У другім квартальніку нехта Міхал Кусцінскі[6] друкуе артыкул «З дзённіка Ушацкай школы»

---

[1] Сен-Сір Лоран дэ Гувіён маркіз дэ (1764–1830), маршал Францыі.

[2] Легран Клод Жуст Аляксандр граф (1762–1815), французскі ваенны дзеяч, дывізійны генерал.

[3] Вітгенштэйн Пётр Хрысціянавіч (1769–1843), рускі ваенны дзеяч; граф, з 1834 г. князь; генерал-фельдмаршал (1826). Вызваляў Полацк, Лепель і інш.

[4] Штэйнгель Уладзімір Іванавіч (1862 — ?), барон; публіцыст, мемуарыст; дзекабрыст. У 1812 г. уступіў у пецярбургскае апалчэнне. Удзельнік замежнага пахода 1813–1814 гг.

[5] Аляксандр (1461–1506), вялікі князь ВКЛ (1492–1506), кароль польскі (1501–1506).

[6] Кусцінскі Міхаіл Францавіч (1829–1905), беларускі археолаг і краязнавец.

(1888 г.). Альбо чытаем: «Змест навук, якія выкладаліся ў школе даступнай Ушацкай Лепельскага павета, утрымліваемай праз ордэн ксяндзоў дамініканаў, на гадавы акт, сабраны ў 1823 годзе ў апошнія дні чэрвеня». З 1787 года дамініканы мелі парафіяльную школу. На сейміку 1790 года вырашылі замяніць яе нацыянальнай (дзяржаўнай) школай. Гэтую просьбу падтрымаў рэктар Віленскага ўніверсітэта Марцін Пачобут[1] і ў 1791 годзе прыйшоў дазвол. З гэтага часу вёўся дзённік, дзе запісваліся розныя мясцовыя здарэнні. Школа праіснавала да 1835 года.

У архіўных фондах захавалася цікавая скарга. 14 кастрычніка 1858 года выконваючы абавязкі маршалка суддзя Стэфаноўскі і гараднічы (подпіс неразборлівы) Лепельскага камітэта земскіх павіннасцей скардяцца пану начальніку Віцебскай губерні, што ў многіх вакольных вёсках, у тым ліку і ва Ушачах, не хапае этапных памяшканняў і арыштанты размяшчаюцца ў сялянскіх хатах. Клопаты сапраўды «бацькоўскія»!

Паводле дадзеных 1905 года ва Ушачах жыло 1300 чалавек і было 171 дом, 1 царква, 1 каталіцкая капліца, 4 яўрэйскія малітоўныя дамы, народнае вучылішча і аптэка. З прамысловасці — саматужныя скураныя і гаршчэчныя заводы, калі іх так можна назваць.

Пра землі, пра лясы, пра заможнасць гавораць самі вёскі. Замошша. Забалацце. Завыдрана. Сарочына. Увалокі. Адворня. Жывалака. Судзілавічы. Паўвіркі. Завячэлле. Шчарбёнкі. Забораўна. Ляснеўшчына. Ліпаўкі. Гайкі. Хіба адны Пісаронкі прэтэндуюць на адукаванасць — пісар, відаць, некалі жыў.

Аралі сабе людзі зямлю. Валілі векавыя сосны. Зімой тралявалі лес на рум. Вясной, калі сплывалі наздраватыя крыгі, як напамін аб халоднай і галоднай зіме, ішлі ў Нітаву — гналі лес у Рыгу. Бывала, усёй сям'ёй хадзілі ў Нітаву. Хто вяртаўся з нейкімі капейкамі, а хто (так здаралася часцей) — улегцы. Пра такіх вясёла жартавалі.

Вяртаецца дамоў з Нітавы, лёгкі, загарэлы. Верабей першы не пазнаў вяскоўца:

— Чый такі? Чый такі?

— Бур-лаак! — скрыпіць варона.

— На ббуу-лках быў! — мычыць заўсёды незадаволены бык.

І толькі певень здагадаўся, у чым справа. Узляцеў на плот, нібыта па кішэнях, ляпае сябе крыламі і да нахабнага прарэзліва пытае:

— Што прынёс?!

[1] Пачобут-Адляніцкі Марцін (1728–1810), беларускі асветнік, астраном. Магістр філасофіі і свабодных навук (1764). Рэктар Галоўнай школы ВКЛ (Віленскага ўніверсітэта; 1780–1803). Член-карэспандэнт Французскай акадэміі навук (1778).

Доўгімі, як цень ад курнай лучыны, былі зімовыя ночы за прасніцай. Нездарма хадзіў анекдот пра маладую нявестку, якая прадзе кудзелю ды ўсё пазяхае:

— А ў майго таты даўно спяць…

Ехалі ушачане ў Піцер на работу. Не адрывалі кішэні гэтыя заробкі, калі хадзіла частушка:

Бацька дома работае,
Сын у Піцеры жыве.
Бацька грошыкаў чакае,
У апорках сын ідзе…

Смутна даходзілі весткі пра бурныя падзеі, пра хваляванні рабочых.

Векапомны Сямнаццаты разбудзіў соннае мястэчка, для якога цэлай падзеяй быў прыезд архірэя. Абудзіў Сямнаццаты год і Ушаччыну. Маці ўспаміналa, як выпраўлялі хадакоў да Леніна, як была створана першая камуна ў панскім маёнтку. Потым камбеды, лікбезы, калгасы. Зараз гэта ўжо далёкая гісторыя. У цэнтры Ушач на месцы былой царквы стаіць клуб. Царкву разбамбілі у час вайны.

Маці з усмешкай прыгадвае, як мяне хрысцілі. Бабуля настойвала: «Дакуль яму хадзіць нехрысцем?!» А папа няма. Праз Ушачы якраз праязджаў ксёндз. Вырашылі хаця ў яго ахрысціць мяне. Хрысцілі, што называецца, па-паходнаму. Праз колькі часу праездам здарыўся поп. Тут бабка захвалявалася не на жарт. «Не хачу, каб унук у недавярках хадзіў! Трэба назад адхрысціць — у праваслаўную веру!» Пасля доўгага сямейнага кансіліуму вырашылі пакінуць усё так, як і было. Прызнацца, я ад гэтага нават выгаду стаў мець. На праваслаўны Вялікдзень чырвоныя яйкі мне дома, а на каталіцкі — маці хросная, што жыла праз дарогу. А здаралася, што я ў адзін дзень аж па два аброкі збіраў.

Вайна, партызаншчына. Для мяне і маіх аднагодкаў гэта самыя незабыўныя ўспаміны.

Ушацкі край стаў партызанскім краем. Па начах трывожна ўглядаліся ў неба кастры — азёры Ушаччыны прымалі самалёты з Вялікай зямлі. Запаветнымі сцежкамі беглі мы, дзеці партызан, каб пакратаць гарачыя пяцікутныя зоры на крылах.

Зараз з Мінска ва Ушачы можна заляцець за гадзіну. Спецыяльны рэйс злучае сталіцу рэспублікі са сталіцай партызанскага раёна. Мне ніколі не забыцца таго сумнага зімовага дня, калі ўсе былі засмучаны жахлівым здарэннем — разбіўся самалёт з Вялікай зямлі. Пераляцеў праз нажы фашысцкіх зенітак. І разбіўся там, дзе чакалі яго, дзе прылёт ягоны рабіў пагодным самы пахмурны дзень. І якой невыказнай была радасць, калі лётчыкі, што нейкім дзівам ацалелі, апрытомнелі і пачалі папраўляцца.

Пасля вайны самалёт раптам рэзка абнізіўся над нашымі хатамі. Чуем крык: «Апёнак!» Гэта адзін з тых лётчыкаў перадаваў прывітанне суседу.

Амаль два гады хадзіў па ўшацкіх вуліцах, рабіў смелыя вылазкі ў стан ворага малады партызанскі разведчык з брыгады Садчыкава, якому потым суджана было ўзняць над рэйхстагам агністы сцяг нашай перамогі — Міхаіл Ягораў[1].

Вялікім скарбам для нас, малых, быў гузік з гімнасцёркі ці з шыняля — можна выразаць зорку і горда хадзіць у шапцы з пяцікуткай. Сапраўдная вайсковая шапка з сапраўднай зоркай была такой далёкай і немагчымай казкай, якая хіба ў сне магла спраўдзіцца!

Дзеці цяпер гуляюць у вайну. Для іх вайна нешта далёкае. Бачаць яе на экранах кінатэатраў і тэлевізараў. І мы гулялі ў вайну. Мы даставалі патроны, рабілі прыпяканкі, самаробныя пісталеты. Нас, малых, у партызаны не бралі.

Мы гулялі ў «нашых» і «немцаў» пасля вайны. Многія мае аднагодкі пасля вайны запоўнілі «палату мінёраў». Горкая ўсмешка. Дзевяці-дзесяцігадовыя «мінёры» не ведалі падступнасці мін і снарадаў, а імі ўрадзілі палі і лугі пасля блакады. Блакада не шкадавала нікога. Па плане Ушацкі раён, які з фашысцкім цынізмам называўся сентыментальна Frühlinqfest (Вясновае свята), падлягаў поўнаму знішчэнню як партызанская зона. У Музеі Вялікай Айчыннай вайны аператыўныя карты карных экспедыцый. З маленства знаёмыя вёскі.

З адной за плячыма ў прабабкі Тэклі ў хусціне, завязанай за рагі, ехаў смачны сачэнь. З другой — завейнай дарогай у кішанях дзядзькі Іллюка снегірамі грэліся чырванабокія яблыкі. А ў гэтую вёску бацька абяцаў узяць з сабой у госці. Тут жыла вядомая на ўсю акругу пяюха, скакуха, заўзятая сваццця Грышчыха, бацькава мама, мая бабуля.

З маленства знаёмыя вёскі. Усе яны на картах абнесены ўмоўнымі знакамі — знакамі смерці. У Хатыні ёсць магільнік спаленых вёсак Беларусі. Там пясок гэтых вёсак. Пясок яшчэ гарачы ад пякельнага агню. Пясок цяжкі — ён набрыняў крывёю безабаронных ахвяр. Там шмат вёсак з маёй Ушаччыны. Вёсак лясных, вёсак палявых, вёсак з самымі бясхмарнымі імёнамі, якія навекі акрыла хмара фашыстоўскай навалы.

Вёска Пліна. Лясны партызанскі аэрадром. Непадалёку брацкая магіла. Тут злажылі галовы народныя мсціўцы, што ў нялёгкія дні блакады нязломна стаялі супраць узброеных да зубоў фашысцкіх карнікаў.

Брацкія магілы.

Магілы невядомых салдат.

---

[1] Ягораў Міхаіл Аляксеевіч (1923–1975), беларускі партызан. Герой Савецкага Саюза (1946). З 1944 г. на фронце. У ноч на 1 мая 1945 г. разам з М. Кантарыя ўзняў Сцяг Перамогі над Рэйхстагам.

Па ўсёй Ушаччыне.

Па ўсёй Беларусі.

Сосны Ушаччыны. Трывожна шумяць яны перад навальніцай. Балючай ігліцай засыпалі яны вочы мёртвых партызан. Жалобна адпелі вершаліны невядомых салдат ляснога фронту.

Сосны Ушаччыны, яны так і не сказалі маці маёй Акуліне Андрэеўне, пад якой з іх сканаў у бойцы з карнікамі партызан брыгады Мельнікава Іван Рыгоравіч Барадулін, — усяго некалькі дзён не дачакаў Савецкай Арміі.

Сосны Ушаччны, яны не гавораць і мне, якая з іх ахоўвае сон майго бацькі.

На дымныя галавешкі, ад якіх яшчэ прыкурвалі салдаты, прыйшла са мной маці ў дзень вызвалення, дзень радасны і сумны. Акуратны даваенны гарадок увесь ляжаў у руінах. Багата ўрадзілі хіба толькі палыны. На ўскраінах засталіся ліпець хацінкі. На папялішчах раскашаваўся дзядоўнік. Яшчэ многа гадоў буяў он.

Да гэтага часу мне помніцца, як рваў я ліст дзядоўніка. Занятак гэты ў маіх аднагодкаў лічыўся далёка не мужчынскім.

… Я сабіраю дзядоўнік, а па вуліцы ў нейкім (мне тады здавалася, самым экстравагантным) капялюшыку ішла тая аднакласніца, якою мяне ўпарта дапякалі ў школе. Мех з лістам здаўся мне пудовым. Твар мой запалаў так, нібы нанава гарэлі Ушачы і водсвет пажару ўпаў на мяне. З гэтага дня я больш не прыносіў Лысоні мех смачнай, гаркавай вячэры.

Праходжу вуліцай. Была некалі Каменскай, стала Калінінскай. Перад самай вайной тут стаяла чатыры хаты. Цяпер брукаванка злучыла пасёлак ільнозавода з Ушачамі. Да льнозавода кіламетры тры з гакам (у гаку не дужа шмат). Вуліца маленства. З гары, дзе і цяпер стаіць пажарная каланча, з працы вяртаўся бацька. Якое гэта шчасце было — чакаць яго! Але самы прыемны занятак — расперазаць бацьку, бо наперад ведаеш — з-за пазухі выпадзе ці абаранак, ці пернік. Лепшых прысмакаў я ніколі пасля не еў…

Родная вуліца. Па ёй ехалі праслаўленыя партызанскія камбрыгі. Па ёй ішлі воіны Савецкай Арміі, чаканыя, дарагія, блізкія. Яна вяла мяне ў першы клас. Па ёй ступаў я ў цёплыя сляды пагодным ліпенем за адной невядомкай.

Зарослая трыпутнікам, пыльная вуліца. Мне прыемна ісці па ёй — гэта вуліца маіх самых дарагіх успамінаў. Мне балюча ступаць па ёй — праз кожную хату амаль я некага помню. Я некага помню, а іх ўжо няма. Забрала вайна ў час вайны, забрала вайна пасля вайны, забірае вайна цяпер. Камяні бруку, як міны замаруджанага дзеяння. Яны ўзрываюцца. Не ведаеш, які як узарвецца. Чым выбухне.

Вечарам над усім наваколлем гарыць рэтрансляцыйная вышка. Самая высокая ў Беларусі. Ушацкая Эйфелева. Ушача ўсё гусцей тэлеантэніцца.

Землякоў сваіх сустракаў я ў Брэсце і Уладзівастоку, у геаграфічным цэнтры Азіі, у сталіцы Тувы — Кызыле і ў самым паўночным горадзе нашай планеты — Талнаху. Я заўсёды пазнаю іх па адметнай ушацкай хадзе, па гаворцы, па шчырай павазе да свайго краю.

На родныя аблокі хораша глядзець на разамлелым ад смолак узлеску, на ачмялелым лузе, на возе, які сам бухматай хмурынкай плыве па зацярушаных сенам выбоінах. Аблокі Ушаччыны, вы былі блакітнымі ад азёр і шчырых вачэй, вы былі чорнымі і чаднымі ад пажарышчаў. Пра вас, аблокі Ушаччыны, успамінаў я, па вас сумаваў, калі бываў далёка ад дому. Да вас заўсёды імкнуўся са сваіх вандровак. Па вас сумуюць, да вас імкнуцца і мае землякі, мае сябры, дзеці партызан, каму вы часта былі адзінай коўдрай у блакадным лесе.

Генадзь Апёнак[1] адказвае за дакладную працу рухавікоў парахода «Дзекабрыст», ён аб'ехаў, як ва Ушачах гавораць, свет з прысветкам. Расказвае пра Сінгапур, пра Гавану, пра Дэлі… А ў вачах — аблокі Ушаччыны. Сюды едзе ён з замежных рэйсаў. Тут яго, заядлага паляўнічага, ведае кожная сарока-пляткарка.

Пра стамлёную падводку пяе Уладзімір Гарбук[2], капітан другога рангу, падводнік Паўночнага флоту, а даверлівыя вочы дужага і добрага чалавека сінеюць блакітам Ушаччыны. Яго аднаго чакаюць баравікі, каб пасля адпачынку ў ціхім гарадку Запаляр'я дражніў ён заядлых грыбнікоў расказамі пра небывалыя ўраджаі ў ягоных родных мясцінах.

Бяру на сябе рызыку сцвярджаць, што і польскаму пісьменніку Антону Асяндоўскаму[3], аўтару 90 кніг, чалавеку, які, відаць, ведаў больш чым хто пра загадкавы скарб барона Унгерна[4], у яго частых кругасветных падарожжах успаміналіся аблокі Ушаччыны. Тут нарадзіўся ягоны бацька. Тут ён правёў свае маладыя гады.

Аблокі Ушаччыны, вы плылі над плыткай Задобрыцай, дзе дзяўчына Кулінка, маці мая, мыла на зімовых камянях бялізну. Рукі яе заходзіліся. Вы хацелі скінуць чарнавокай гаротніцы воўны цёплай, каб рукі адышлі.

---

[1] Апёнак Генадзь, сусед Р. Барадуліна ва Ушачах, марак гандлёвага флоту, машыніст парахода «Дзекабрыст» (Уладзівасток).

[2] Гарбук Уладзімір Міхайлавіч, зямляк; падводнік, капітан 2 рангу (Паўночны флот). Брат Г. Гарбука.

[3] Асяндоўскі Антоні Фердынанд (Антон Марцінавіч; 1878–1945), польскі пісьменнік, журналіст, хімік, географ, падарожнік. Сябра Французскай акадэміі навук.

[4] Унгерн фон Штэйнберг Раман Фёдаравіч (1886–1921), барон; генерал-лейтэнант (1919), адзін з кіраўнікоў Белага руху ў Забайкаллі і Манголіі. Рэпрэсаваны па прыгаворы рэўтрэбунала.

Вы плылі над тужлівай жніўнай песняй пра перапёлку:

Перапёлка, ты не ві гняздзечка
Блізка ля дарожкі.
Канюшочкі на начлег паедуць —
Яечкі заберуць.
Пастушочкі каровак пагоняць —
Гняздзечка распоруць…

Гэта песня і пра Ушаччыну, якую не абмінала ні адно ліхалецце, ні адна навала. Часта бурылі яе, часта гадаванцы яе асталіся пад адкрытым небам. Але выраі ўзляталі, набіралі разгон, дужэлі і заўсёды помнілі пра роднае гняздо.

Яснага блакіту табе, зямля бацькоў, родны кут! Няхай над табой, Ушаччына, плывуць, як і плылі, самыя прыгожыя, бясхмарныя маладыя аблокі!

*1970. «Маладосць», № 11*

## *Рупіцца пераклад…*

Пераклад — гэта заўсёдны стан жывое душы. Пераклад — гэта громаадвод, які трымае маланку думкі, каб яе, захмарную, заземліць, уцялесніць ў слове. Чалавек тым і розніцца ад усяго жывёльнага, ад усяго жывога, што думку сваю можа перакласці, выказаць яе словам. Мяноўна чалавека, якога стварыў па вобразу й падабенству сваім, Бог адшчодрыў найвялікшым скарбам, непадуладным ні часу, ні тлену. Скарб гэты — Слова.

Слова — рэха вечнасці, рэха несмяротнасці, слова — думка, што помніць мінуласць і гукае наступнасць, лучыць прошласць і прышласць. На тое й дадзены панам Богам розныя мовы, каб кожны народ перакладаў сусветную ўсядумку па-свойму, каб раднейшай, сваейшай рабілася думка.

А наколькі вечная й неўлоўная праца пераклад, сведчыць ужо само азначэнне яго, назоў ягоны. Перакладаць груз з адных плячэй на іншыя, перакладаць печ, перакладаць адказнасць. І ўсё ж далекавата ад разумення — перакладаць думку. Не гэтак дакладна й расійскае переводить. Пераводзіць цераз дарогу, пераводзіць дабро, марнаваць. На мой густ, дык польскае przetłumaczyć бліжэй да сутнасці.

Галоўнае ў перакладзе — разуменне, цямлівасць, адпаведнасць слова думцы, адпаведнасць паняцця канкрэтнасці і практычна недасягальная ўзаемаадпаведнасць настрою, інтанацыі, жарсці і гневу, холаду логікі й ашалеласці вобразаў.

Дaслоўны, вольны, парадкоўны, літаратурны — тэарэтыкі перакладу ўсё дадаюць азначэнняў. А насамрэч, як ты яго ні мянуй, любы пераклад прыблізны. Усе пераклады — прыбліжаныя каля сакавітай асобы, якая велічаецца няўлоўным словам *думка*.

Пераклад з мовы на мову — справа творчая й вылучна індывідуальная, так бы мовіць, асобасная. Асоба перакладчыка значыць шмат, калі не ўсё. Перакладчык — слуга і пан, патуранец і нановатворца, надзвычайны й паўнамоцны пасол сваёй мовы, спрычыннік глыбіннасці каранёў народа.

З аднаго боку, няма нічога неперакладаемага, а з другога боку — дакладна перакласці нельга нічога.

У перакладчыцкай справе рызыка вырашае ўсё. Праўда, рызыкант мусіць быць ад прыроды таленавітым і грунтоўна адукаваным. Найлепшы пераклад маем тады, калі відушчая душа прамаўляе роднай моваю. Пераклад суседзіць душы, родніць людзей, спрыяе пагодзе духу.

Пераклад — зорная асалода й падзольная праца.

Рупіцца пераклад, каб у свеце быў лад.

Перакладчык —
Слова гэтае пасля вайны адразу
Нароўні са словам паліцэйскі
Прымалася за абразу люцейшую.
І выкладчыцу нямецкай мовы,
Якая, казалі,
Працавала крыху ў камендатуры,
Хмура
Дакаралі «нямецкай аўчаркай».
Значна пазней,
Калі я ля ўсхліплівай газоўкі прыгрэўся,
Са школьнай праграмы даведаўся
Пра паштовых цяглавікоў праргрэсу.
З літгурткоўскіх дыскусій цяперака
Помню амаль канкрэтна пра суперніка,
Пра канкурэнта.
А мама мяне шпачком называла,
Малога, чарнявага ды насатага.
А ў нас на чырвонай на́сыпцы,
Што не згарэла разам з хатаю,
Як маланкаю, машынкаю фірмы Singer
Белымі ніткамі было прастрыгавана:
«Спакойнай ночы».
Калі засыпаў на падушцы бацькавай,
Жадалі мне неаднойчы
Бачыць шпаковы вочы.

Пакуль убачыш вочы шпаковы,
У сон апусцяць мамінай мовы словы.
У ціхай тады Вушачы няўзнак
І першы прыемны мне перакладчык
Быў бліскучапёры картавец шпак.
Перакладаў ён са спеву на спеў,
На шчэбет з пошчаку,
Ад сябе прысвістваў, як хацеў,
Аж суставы ламіла балотнаму хвошчыку!
Перасвіст, пераспеў, перайманне
У студэнцтве мне загучалі тэрмінамі.
Потым ў Менску,
А не ў перакладным рамане,
Сам яшчэ чорнабароды,
Пазнаёміўся я з тады яшчэ безбародым
Карласам Шэрманам[1].
Карлас мяне пазнаёміў
З Федэрыкам Гарсія Лоркам[2].
І я па-вушацку заходзіўся крыкам,
Прызнаваўся ў каханні
І ўзгоркам, і зоркам.
Але да ўсяго да гэтага
У рэчцы Вушачцы жаўцелі гарлачыкі,
Ледзьве акрэсленыя ўсмешкай ветаха.
Мне запомніліся перакладчыкі —дзядзькі,
Якія напаленай перакладкаю
Смалілі хібістаму вепруку бакі,
Перакладавалі яго з боку на бок,
Перакладалі агню,
Каб гарачэй даланю перакладкі напёк.
А перад гэтым перакладка сахі перакладала
Загону заспанаму словы вясны,
Перакладаючы, перагортваючы
Скібы падзолістыя баразны.
І пераклад ацэньвалі гракі,
Ці на глыбіню вякоў,
Ці багата на чарвякоў,
Ці карава, ці гладка.
Усхваляваную мову ракі
Берагам перакладала кладка.

---

[1] Шэрман Карлас Рыгоравіч (1934–2005, Нарвегія, Беларусь), перакладчык, іспанамоўны паэт. У 1956 г. пераехаў у Беларусь з Аргенціны. Віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра (1989–2001).

[2] Гарсія Лорка Федэрыка (1898–1936), іспанскі паэт і драматург. Расстраляны франкістамі.

Гуканне вясны,
Даўніны клíканне
Перакладала на сны
　　Вялікадне:
　　Валачобнічкі валачыліся,
　　Валачыліся, замачыліся,
　　Масці кладачку,
　　Заві ў хатачку…
Ад мовы да мовы масцілася кладка,
Мяняліся прымаўкі, звычкі, апратка,
Але гаварыла душа з душою.
На лобе задумы глыбокая складка
Пралегла першаю баразною,
Як тая, што гналі мае землякі
З усходу сонца аж да заходу,
Баразну ацэньвалі гракі
Вітаючы веснавыую лагоду.
Прасіў я: — Прыміце,
Шпакі і дзядзькі,
Мяне ў перакладчыкі,
У талачоўшчыкі, у бурлакі.
І сам таго не заўважыў, калі
Мяне ў талаку сваю прынялі.
І я,
Насаты шпачок з Вушачы,
Да вясёлкі ўваччу
Талачу,
Перакладаю,
Тлумачу,
Бурлачу…

*[1986?]*

## *Асоба ўзбуйняе нацыю*

Па сваёй невытлумачнасці наша беларускамя нацыя бадай што самая загадкавая ў гэтым свеце. Нашыя мацнейшыя ды большыя колькасна суседзі як з усходу, так і з захаду з адначасовым жаданнем захапіць спаконныя землі нашыя, маюць на першамэце даказць, што не існуе гэтакай нацыі як беларуская, гэтага народа як беларускі.

Дужа перад панам Богам няйначай правінілася Беларусь. І войны ўсе на яе, і неясносці ўсе на яе, і прадказаны Бібліяй чорны дзень. Вынішчэнне за вынішчэннем, генацыд за генацыдам — ленінска-сталінскі, чарнобыльскі, духоўны. І не хочацца прыгадваць, як у Чырвоным касцёле, дзе,

дарэчы, арганізацыйна аформіўся і Беларускі ПЭН-цэнтр, пад час утварэння «Мартыралогу Беларусі» й Аргкамітэта БНФ «Адраджэньне» некаторыя прадстаўнікі творчае інтэлігенцыі надта нервова даказвалі, што нельга называць генацыдам камуністычна-савецкае вынішчэнне народаў, генацыд толькі гітлераўскі. Хоць, думаецца, гэтыя рупліўцы ведалі, што генацыд — самы выніковы метад усталявання любога таталітарызму.

Чым яшчэ, калі не віной перад Госпадам, тлумачыць тое, што кожнаму пакаленню трэба даводзіць, што мы беларусы, што мы народ адметны, што мы нацыя. Нашым суседзям, генетычна блізкім нам, — і літоўцам, і латышам — дастаткова толькі нарадзіцца — і яны літоўцы, латышы. А нас, беларусаў, расцягваюць, раздзіраюць то на праваслаўных, то на каталікоў, падкладваючы пад гэтае паняцце, што мы то расейцы, то палякі. А ўніяцкая царква, якая б магла стаць нашай нацыянальнай царквой, знішчана. Нават аўтакефаліі на радзіме нашай няма. Усё вядзе ў падпарадкаванне так званага Трэцяга Рыма. У поўнай адпаведнасці з былой камуністычнай партыйнай структурай.

Беларусь, як масла для бутэрброда, — на свой чэрствы хлеб намазваюць яе дужэйшыя суседзі, стараюцца намазаць як мага тлусцей і асалоду расцягнуць.

Калі лірычна ўявіць, як хацелася б бачыць нас гэтым мацнейшым суседзям, дык гэта, відаць, верабьямі, якія сапраўды на птушыных правах падсуседнічаюць на буслянках, дзе гаспадары толькі буслы. Прыводжу вобраз бусла, бо ён святы ў беларусаў, каб падкрэсліць і павагу да дужэйшых суседзяў, да лепшай часткі іх. Бо ў змрочныя часіны нашыя апальнікі знаходзілі прыпірышча ў лепшых людзей Расіі й Польшчы.

Тады, калі ў чырвонай імперыі, як заўсёды, ударнымі тэмпамі вынішчалася ўсё нацыянальнае, на беларускіх пісьменнікаў легла адказнасць захаваць мову — аснову нацыі й магчымай будучай Дзяржавы. Адразу след агаварыцца, што гэта хутчэй ад усяго была дазволеная адказнасць, вымушаны дазвол з боку манапольнай партыі камуністаў. Давалася амплітуда смеласці, якая рэгулявалася жорстка. Літаратура, як і ўся культура, мусіла быць нацыянальнай па форме й сацыялістычнай па зместу. Напрыклад, на пляшцы з «Белавежскай горкай» беларускі арнамент нясмела нагадваў нацыянальную прыналежнасць інтэрнацыянальнага напою. У дадзеным выпадку змест урэшце вырашаў ўсё. А вось у бальшыні твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў хіба дазволеныя формы імёнаў Алесь, Міхась, Рыгор, Паўлюк намякалі, што твор made in BSSR.

Па сваёй ідэі пісьменнік перш за ўсё асоба, творца. І само сабой зразумела, што асоба павінна тварыць аднаасобна, быць, так бы мовіць, аднаасобнікам, самому адказваць за сябе, на сябе браць адказнасць за ўсіх. Ды ў краіне перамогшага, ці, можа, дакладней было б сказаць, перамок-

шага ў крыві сацыялізму ўсё мусіла быць калектыўнае. Фалькларысты ў цывільным нават прыдумалі ад імя народа фармулёўку: дзіва дзіўнае, калектыўнае. Дык вось гэтае далёка не казачнае дзіва й стварала творчыя калгасы. Яны саюзамі называліся (каб паўтараць яшчэ й яшчэ раз назву савецкай імперыі). Блыталася слова *творчасць* са словам *вытворчасць*. Савецкі прыгон у вытворчых калгасах, савецкі прыгон у творчым калгасе, у Саюзе пісьменнікаў. Старшыня й там і там. Ды яшчэ ў Саюзе пісьменнікаў сакратары й партсакратары. Літаратурныя цівуны й наглядатаі. Першы сакратар ў ЦК, першы сакратар ў Саюзе пісьменнікаў. Да генеральнага так і не дараслі ні ў доме, адкуль ішлі дырэктывы й указанні, ні ў Саюзе пісьменнікаў. Члены партыі й члены Саюза пісьменнікаў. Аднакавасць структуры патрабавала аднакавасць мышлення. Дазвалялася вальернае вальнадумства ў маштабах настеннай газеты, сяброўскае эпіграмы. На таго, хто кіраваў Саюзам пісьменнікаў, абвальна сыпаліся званні, узнагароды, выгоды. Фігура пісьменніка болей як паўстагоддзя ляпілася, фармавалася, адлівалася ў прывідным матэрыяле ідэолагамі партыі камуністаў. І, каб застацца асобай, творцам трэба было быць Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Алесем Адамовічам[1]. А для гэтага трэба было не прадаваць душу д’яблу.

Цяпер фармальна няма імперыі, фармальна Беларусь незалежная Дзяржава, фармальна пісьменнік можа быць вольны. Ды вольны ён перш за ўсё ад сродкаў існавання, ад магчымасці друкавацца й выдавацца. Старыя структуры пад новымі шыльдамі тужаць зашморгу на шыі беларускай мовы. Па-ранейшаму адчуваецца сумнавядомае: «Язык партии — русский язык». Наша мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі. Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць уладатрымцы, бо яны гадаванцы таталітарнага рэжыму, яны так званыя інтэрнацыяналісты. І беларускія пісьменнікі ў сваёй дзяржаве як пасынкі ці як байструкі. І сапраўды, што ў той пaслаўцы: разгуляўся, як сабака ў торбе. Нават выраз «папера ўсё стрывае» з’іначыўся. Не стала паперы, яна стала дарагой, недаступнай беларускай кнізе. Але яе хапае на нізкапробную прадукцыю, на чырвона-жоўтую прэсу, якая адмывае вядома чые грошы, не абмяжоўваючы сябе ў словах пагарды і нянавісці да беларускай сімволікі, да беларускай мовы, да ўсяго беларускага. Арыентацыя такой прэсы антыдзяржаўная, прасавецкая да замшэласці. Не адстае ў агульным наступе чырвона-карычневікаў на беларушчыну, на суверэнітэт дзяржавы радыё і тэлебачанне, абслугоўваючы партыю ўлады і ей-

[1] Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; (1927–1994), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, выкладчык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук (1963). Прафесар (1971). Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны СССР (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1976).

нага стаўленіка, чырвоназоркавая мара ў якога прадаць незалежнасць Беларусі так, каб бясплатна ды не стратна.

Прыйшло і прыходзіць у літаратуру новае пакаленне. Але ці стануць асобамі творцы беларускага духу, ці хопіць ім духу выстаяць перад спакусамі рынку, пад пільным позіркам спрадвечнай беларускай нэндзы? На іх надзея. Бо неяк заўважыў Васіль Быкаў: нашая літаратура патраціла дзесяцігоддзі, каб даказаць, што ўмее пісьменна пісаць, выгладжваць слова. Ды ведаем мы, што аднаго гэтага ўмельства мала, каб літаратура сцвердзіла сябе, заявіла пра сябе на ўвесь голас ва ўсім свеце. Васіль Быкаў першы сказаў слова праўды, сказаў па-беларуску, сказаў шчыра, — і свет пачуў Васіля Быкава, пачуў пра Беларусь.

Народ нараджае асобу, асоба ўзбуйняе нацыю[1].

*Май 1994*

## *Інтэлігенцыя на падхопе пры залатарах?*
*Адказ газеце «Звязда»*

...Паняцце «беларуская інтэлігенцыя» дужа неканкрэтнае. За савецкай уладай пры дыктатуры пралетарыяту інтэлігенцыя называлася то гнілой, то, па вызначэнню «самага чалавечнага чалавека», абазначалася адным словам на літару *г*. У добрым гуморы камуністычныя ідэолагі называлі інтэлігенцыю працоўнай («трудовой») праслойкай, — як любавізна ў сале.

Інтэлігенцыя стала на падхопе пры залатарах савецкай ідэалогіі. Прынамсі тая, якая ацалела, здолела захаваць галаву ў чыста фізіялагічным значэнні. Пад час так званай перабудовы беларуская інтэлігенцыя проста разгубілася, не ведаючы, каму служыць, перад кім выслужвацца. Беларускай нашу інтэлігенцыю можна назваць чыста геаграфічна. Бо ў сваёй пераважнай большасці ўмоўна названая інтэлігенцыяй частка нашага народанасельніцтва дэнацыяналізаваная. Асабліва тэхнічная. Дый прадстаўнікі камуністычнага вучэння, якія раптам сталі філосафамі. Нічога дзіўнага. Тэхнічная інтэлігенцыя працавала на ВПК, ідэалагічна — на КПСС.

Здрада нацыі, мове, культуры, як ні горка канстатаваць, уласцівы большасці інтэлігенцыі. Рэштка, якая не хоча паддавацца гэтай хваробе, ліпіць, ці, па-беларуску кажучы, целяпаецца.

---

[1] Выступленне на Міжнародным кангрэсе Беларускага ПЭН-цэнтра. Гл.: Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры: «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя»: Тэксты. Дакументы. Матэрыялы. Мінск: Незалежная выдавецкая кампанія «Тэхналогія», 1994. Таксама: Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць... // Літаратура і мастацтва. 1994, 10 чэрвеня.

Куды ішла наша інтэлігенцыя, куды ідзе — ёй і самой невядома. Чакае, каб зноў яе вялі.

*30 снежня 1995*

## *Адказ на пытанні Радыё «Свабода»*

1. Я б назваў гэта не яднаннем, а ратаваннем[1]; як адзін, так і другі збанкрутавалі. Ельцын[2] — гэта Брэжнеў[3] сёння, а наш — пачатковы Гарбачоў[4]. Вынік чакае адпаведны. Не думаю, што яднанне будзе, так і застанецца на ўзроўні слоў, а не спраў. Аднаму трэба ўтрымацца, а другому хочацца хоць прыціснуцца да маскоўскага трона.

2. Калі выбары будуць, дык яны будуць, як пры Сталіне[5], — 99,9 адсоткаў, бо ў руках у нашага ўсе СМІ; асобны бюджэт, нашыя ж калхознічкі прагаласавалі за два бюджэты.

3. Ад новага года я ўсё-ткі чакаю пераменаў у лепшы бок, бо аж тры дзявяткі, а дзевяць — боская лічба. Налета будзе й 75 год Быкаву — апосталу нацыі. Хоць па інэрцыі я ўсё ж пэсіміст. Нездарма ў нас жартуюць: «Як здароўе?» — «Па курсу Нацбанка». І на канец года напісаў:

Каму дабрэць, каму люцець —
Усё развважана ў жыцці.
Куды вароне ні ляцець,
А ўсёадно .аўно дзяўбсці.

*30 снежня 1998 (накід)*

## *Прысяга на вернасць*

Апошнім часам пачынаю задумвацца, а ці зямнога паходжання вялікі сябар мой Уладзімер, Валадар, Волат? Ці не прыбыў ён з іншых, болей дасведчаных светаў. Бо не можа ў галаве, хай сабе й незвычайнага смяротнага, змясціцца гэтулькі ведаў, у сэрцы — гэтулькі любові да зямлі,

---

[1] Гаворка пра Саюзную дзяржаву. Дамова аб яе стварэнні была падпісана 2 красавіка 1997 г.

[2] Ельцын Барыс Мікалаевіч (1931–2007), расійскі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1991–1999 гг. прэзідэнт РФ.

[3] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982), савецкі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1964–1982 гг. 1-шы сакратар, Генеральны сакратар ЦК КПСС, адначасова з 1977 г. старшыня Прэзідыума ВС СССР. Герой Сацыялістычнай Працы (1961), Герой Савецкага Саюза (1966, 1976, 1978).

[4] Гарбачоў Міхаіл Сяргеевіч (н. 1931), савецкі дзяржаўны і палітычны дзеяч. У 1990–1991 гг. прэзідэнт СССР. Лаўрэат Нобелеўская прэміі міру (1990).

[5] Сталін Іосіф Вісарыёнавіч (сапр. Джугашвілі; 1879–1953), адзін з кіраўнікоў Камуністычнай партыі СССР і Савецкай дзяржавы.

якая сталася яму роднай, гэтулькі шаны да мовы, якую пераняў ад народа, які балеў яму. Незямным талентам з незямною працаздольнасцю, шчыраваннем надзяліў Звышні Уладзімера Караткевіча.

А ў штодзённасці геніяльны летуценнік, нястомны дойлід замкаў беларускага духу, утрапёны суаўтар мінуўшчыны й будучыні быў зямны. Любіў чарку, любіў жарт, любіў лясную дарогу й начлег у стозе, любіў жыццё. Ён цікавіўся ўсім, ён бачыў усё, радаваўся любой праяве жыцця, бо, цяпер разумею, адчуваў сваё кароткае гасцяванне на зямлі. Шурпатую жвірынку падымаў да зорак. Падзьмух ветрыка рабіў ураганам.

Ён умеў усё. Яго слухаліся незацугляныя думкі ягоныя ж. Невыпадкова, між іншым, недзе на пачатку 80-х гадоў сказаў было: «Я не пісаў трох рэчаў: песень, дзіцячых вершаў і баек. Трох рэчаў не ўмею. Усё астатняе ўмею, пачынаючы ад опернага лібрэта і сканчаючы віншаваннямі, вершамі табе і сястры…»

Нядрэмнай была думка ягоная, няспынным пяро. Працаваў паўсюль, працаваў шмат. Праца яго была не работай, праца ягоная была болей святарскай. Бо ён свяшчэннадзеіў.

Гучыць мне голас сябра:

А за краем,
Як за тым раем,
Горка ўздыхаем і плачам.
Краю наш, раю наш,
Мы цябе не ўбачым…

Вялікі Уладзімер Караткевіч працаваў і жыў, каб хоць нашчадкі, няхай далёкія, пабачылі свой край. Пабачылі вольным.

Імя Уладзімера Караткевіча — прысяга на вернасць Беларушчыны.

Жыве Беларусь!

*22 лістапада 2000*

## *Як беларусы ў дзяржаву гуляюць*

Яно, калі разабрацца, дык самое жыццё — гэта гульня са страхам, гульня са змрокам, гульня з агнём, гульня, нарэшце, з той, якую называць не хочацца. Малое дзіця гуляе ў цацкі. Дарослее, і гульні дарослеюць, ад спартыўных, побытавых да палітычных гульняў.

А беларусы нават у дзяржаву гуляюць. У любой дзяржавы, незалежна ад яе велічыні геаграфічнай і народанаселенай, мусяць быць свае праверания й прынятыя гісторыяй герб і гімн, дзяржаўная мова, святы й гэтак далей.

Што маем мы ў нашай дзяржаве?

Герб і гімн, крыху падпраўленыя, ад неіснуючай імпэрыі. Мова суседняй дзяржавы практычна дзяржаўная ў Беларусі. Справаводства, навучанне, тэле, радыё, прэса пераважна на мове суседняй дзяржавы. Гэтая ж мова — рабочая мова ўраду, арміі, чынавенства. Беларуская мова паступова, але няўхільна выцясняецца з ужытку.

Узгадваецца, як у часы савецкай улады Пятрусь Броўка[1] ў ЦК казаў, што нічога мяняць не трэба, толькі няхай справаводства на беларускай мове вядзецца. Яму махалі пальцам: ага, чаго ты захацеў. Гэтак і мы ўрэшце мусім гаварыць на беларускай мове.

Сумную ўсмешку выклікаюць святы, якія святкуюцца з часінаў савецкай імпэрыі. Дзень Савецкай Арміі святкуецца 23 лютага, гэта калі, фактычна, пацярпела паразу маладая армія савецкага ладу. У Беларусі гэты дзень святкуецца як Дзень абароны Айчыны. А чаму б, да прыкладу, не зрабіць днём беларускага войска бітву пад Воршай? У сучаснай беларускай арміі й форма ад неіснуючай імпэрыі, і мова. Да гэтага часу шануецца Сувораў[2]. Так, Сувораў герой для Расіі. Чые інтарэсы бараніў. Ды толькі не для Беларусі. Гісторыя памятае ягоныя дзеянні на Беларусі. А ў нас дагэтуль сувораўская вучэльня, будучыя воіны — сувораўцы.

Паперайменаваны гарады й мястэчкі на савецкі лад. Возьмем хоць бы адно Койданава, якое стала Дзяржынскам. За Койданавым стаіць гісторыя, гэта там, дзе было разбіта войска хана Кайдана. Тут яшчэ й сымболіка. Разбіты кайданы. А за Дзяржынскім[3] Феліксам Эдмундавічам стаяць ахвяры ГПУ[4]. Пра вуліцы й казаць не варта. Сабрана, як некалі мама казала, сусвецце. І зрэдку вуліцы носяць найменні нашых славутаў. У нас нават галоўныя, калі можна так сказаць, могілкі й тыя да нядаўняга часу былі Маскоўскія. Тут ужо іншая сымболіка была не заўважана й мяноўцамі.

Камуністы любілі шыльдавасць. Трэба прызнаць, што за ёй нешта было. Пры калхозным сацыялізме ў нас пад шыльдамі гола. Хоць нядаўна прайшла беларусізацыя шыльдава-візітовачная. І па тэлефоне пра надвор'е кажуць па-беларуску.

---

[1] Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905–1980), беларускі паэт, празаік, перакладчык. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1947, 1951), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1959), Ленінскай прэміі (1962), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970), Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).

[2] Сувораў Аляксандр Васільевіч (1720 ці 1730 —1800), рускі палкаводзец, граф Рымнікскі (1789), князь Італійскі (1799), генералісімус (1799).

[3] Дзяржынскі Фелікс Эдмундавіч (1877–1926), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. займаў пасады старшыні УЧК (АДПУ), наркама ўнутраных спраў. Ураджэнец Беларусі.

[4] ГПУ = ДПУ, Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (люты — снежань 1922 г.).

У царскай Расіі некаторыя імператары гаварылі з акцэнтам, бо былі нямецкага паходжання. У нас кіраўнікі адносна добра гавораць па-расейску. Некаторыя на так званай дземянцееўцы[1]. Толькі не на беларускай мове.

У Беларусі — Таварыства беларускай мовы. Звычайна такія таварыствы існуюць у дзяржавах, дзе хоча заявіць пра сябе меншына. Але ў Беларусі ўлады і Таварыству беларускай мовы спакою не даюць. Замінае на шляху да выкаранення мовы тытульнай нацыі.

Гульня ў дзяржаву прывабна-зменлівая, а болей — небяспечная. Можна дагуляцца да губерні суседняй дзяржавы ці зноў стаць Северо-Западным краем.

Урэшце гісторыя можа сказаць, як некалі малеча, не паладзіўшы між сабой пад час гульні: «Аддавай мае цацкі, я з табой гуляць не буду!»

*Радыё «Свабода», 2004 [?]*

## *Як неба…*[2]

Быкаў, як неба, —
Яго хапала на ўсіх,
Акрамя сябе.

Неба сніць позірк і ўзвышае душу. Неба пялегвае і асланяе. Роднае неба… Адны не могуць жыць без неба. Іншыя робяць патугі не заўважаць і зневажаць неба. Неба жывіць святлом, бароніць ад змроку… У кожнага народа неба сваё.

Васіль Быкаў быў крывіцкім, беларускім небам. На неба гэтае гналі хмары ворагі беларушчыны. Але запляміць неба немагчыма. Хто плюе ў неба, плюе на сябе. Васіль Быкаў быў пасланы Усявышнім, каб апомніліся, каб нарэшце ўспомнілі, хто мы і для чаго на зямлі жывем. Васіль Быкаў прайшоў крыжовы шлях дзеля нас. Васіль Быкаў чуў голас вышыні і голас душы. Апосталы вучаць, апосталы вястуюць — слухаць іх трэба душой растрывожанай.

Дзякуй тым, хто пры жыцці сказаў светлае слова апосталу нацыі.

---

[1] Малапісьменная трасянка, якой вызначаўся некалі 1-шы сакратар ЦК КПБ (1979–1989) М. Дземянцей (1930–2018), займела назву дземянцееўкі.

[2] Быкаў на Свабодзе. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. Выд. 2, дапоўненае. Укл. С. Навумчык. *Навумчык* Сяргей Іосіфавіч (н. 1961), беларускі журналіст, палітычны дзеяч. З 1996 г. жыве ЗША. З 1990 г. супрацоўнік Радыё «Свабода». З 1997 г. нам. старшыні Рады БНР. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (2006).

Ганьба тым, хто паклёпамі, даносамі, скогатам з усіх падваротняў карацію дні апосталу. Слову Васіля Быкава быць з намі і ў радасці, і ў бядзе. Слову Васіля Быкава жыць у вяках!

Хочацца сказаць шчыры дзякуй укладальніку гэтай унікальнай кнігі[1]. Яна будзе добрым падмуркам будучых тамоў даследчыкаў творчасці вялікага пісьменніка. Фактычны матэрыял заўсягды пераконвае. Ён балюча, бо дакладна, паказвае час, у якім жыў і тварыў Васіль Быкаў. І яшчэ болей падкрэслівае мужнасць сапраўднага таленту.

Праз усё жыццё Васіль Быкаў змагаўся за праўду. А цяпер праўда кажа ўдзячнае слова пра свайго абаронца.

*Бычкі–Вушача, 17 жніўня 2006 г.*

## *Усмешка Быкава…*

Суровая скала, выкрамненая лютымі вятрамі. Васіль Быкаў. А з вас хто-небудзь бачыў усмешку вяльможнага Васіля, сына Уладзіміра? Гнеў і ласка, дакор і спагада, абурэнне і захапленне. Усё гартавалася не ў кабінетах з аўтарскімі [неразб. 1].

Кожны век для генія як прастор. Дваццаты век — Васіль Быкаў…

* * *

Усмешка Быкава,
Яна,
Як маладая навальніца,
Шалёнай цемры не баіцца,
Бо ведае,
Што не адна
Праменіць сцежку,
Дзе крыніца
Дае свабоду піць да дна.
Стагоддзе Быкава.
Яно
Распачалося не адно.

*5 чэрвеня*

*Радыё «Свабода», чэрвень 2013 г. (накід)*

## *Пачуемся!*[1]

Васіль Быкаў неяк распавядаў, што ён узнаўляў беларускую мову пасля доўгага маўчання на вайне й за межамі Беларусі, успамінаючы, як гаварыла маці.

Уладзімер Караткевіч скончыў беларускую школу, як Васіль Быкаў, але таксама доўга быў адарваны ад Айчыны і мову помніў генэтычна.

Чаму пачаў я неяк бы здалёк, кажучы пра маладога й, зразумела, таленавітага паэта й эсэіста Глеба Лабадзенку? А таму, што ён нарадзіўся ў афіцыйна й фактычна зрусіфікаваным Менску, хадзіў у школу, дзе родная мова выкладалася як прадмет. Глебу 15 гадоў[1]. Вакол так званае «русскоязычное население». Дык адкуль гэтае глыбіннае адчуванне беларускага слова? А яно па крыві, па духу перадалося ад прапрапродкаў, у прыватнасці ад бабулі са Случчыны. Радавое прозвішча шляхетна-крывіцкае — Храмцэвіч.

Неяк звоніць мне Глеб. Развітваемся, як заўсёды, поклічам *жыве*! Я хачу перакласці польскае do ustyszania, кручу ў галаве варыянты, а Глеб раптам: *пачуемся*!

Калі паэт можа ўтвараць словы, калі ён чуе мову, ён можа спадзявацца на смеласць паўтарыць за вялікім Янкам Купалам: «Я слова беларускага ўладар».

А мне застаецца толькі вярнуць Глебу, маладому й зорнаму сябру майму, ягонае ж слова, пасмакаваўшы яго й падыхаўшы на яго.

*Пачуемся!*

*Глебу Лабадзенку*

Пачуемся,
Пакуль цячэ рака,
Трывалячы карэнне старасвеччыны.
Крывіцкі дух,
Бясконцасцю асвечаны,
Дасвеццевы, як вока жаўрука.

Пачуемся,
Пакуль цячэ рака,
Гадуючы галіны Беларушчыны.
Крывіцкі дух,
Як Богам грэх адпушчаны,
Знябыціць насланнёвы цень крука.

---

[1] Артыкул напісаны ў 2002 г.

Пачуемся,
Пакуль цячэ рака,
Няскоранасці крону аблачынячы.
Крывіцкі дух
Шукаціме ключы начы,
Каб маладзела зорак талака.

*2002*

*«Голас Радзімы», 20 лютага 2003 г.*

## Адным словам

### *Маёўка*

На пачатку [XX] стагоддзя на дзень першага траўня рэвалюцыйна апантаныя рабочыя збіраліся за горадам пад выглядам адпачынку на прыродзе. Збіраліся памітынгаваць. Там у іхных галовах, як бярозавы сок, брадзілі ідэі звяржэння царызму.

Пасля захопу ўлады бальшавікамі, маёўкі мелі больш рытуальна-напамінны характар. У галовы ўжо білі ідэі перабудаваць свет, раздзьмуць сусветны пажар рэвалюцыі, яўна не ад бярозавага соку. І хадзіла вясёлая загадка: чым розніліся старыя камуністыя ад пазнейшых падкамуністыкаў? Старыя камуністыя ставілі на пень ці на паходны стол гарэлку, а пад пень ці стол пракламацыі ці рэвалюцыйныя газэты. Падкамуністыкі рабілі ўсё наадварот: гарэлку пад пень ці стол, а перад сабой газэты, як сурвэткі адначасова, каб пальцы ад селядца выцерці. Нібыта ў той калгаснай газэце: «… даярка над возерам даіла карову, а ў возеры ўсё адбівалася наадварот».

Урэшце маёўкі ператварыліся ў падняцце цяжару ў шклянках. Дый лозунг у маёўшчыкаў стаў адзін: будзе паўлітроўка, будзе й маёўка…

### *Нафта*

Паступіў я ў Белдзяржунівэрсітэт у 1954 годзе. Сярод студэнтаў выдзяляліся форменнай вопраткай былыя геолагі. Гэта яны даношвалі прыстойныя па тых часах курткі з эмблемаю. Геалагічны факультэт разагналі, бо на Беларусі нічога, акрамя бульбы, няма, дый тая амэрыканскага паходжання.

У гады хапуна выдатны вучоны, драматург і паэт Міхайла Грамыка[1] ледзь ацалеў, але быў высланы з Беларусі. Бо займаўся «падрыўной дзейнасцю», марнаваў дзяржаўныя грошы, шукаючы нафту на Палессі. Якраз там, дзе потым яе і знайшлі, у раёне Рэчыцы. Невыпадкова ж у народзе вёскі называліся Гарывада. Праўда, пайшла нашая нафта ў трубаправод, які ж абавязкова зваўся «Дружбай». І нафту маем, а ад расійскай трубы залежым. Усё сваё йдзе ў трубу.

### *Дэмбель*

Кепскі той салдат, хто з першага дня службы ў арміі пра дэмбель не думае. Бо у бацькоў-камандзіраў адна задача: каб служба раем не здалася. Дэмбель — гэта на салдацкім слэнгу дэмабілізацыя, дзень, калі падпісваюць загад аб сканчэнні службы ў войску — і салдат едзе дадому. Тыя, хто падлягаюць дэмбелю, адлічваюць кожны дзень. І паўсюль, дзе можна, і нажамі выразана, і цяпер фламайстарамі напісана, колькі засталося да дэмбеля. Дэмбялянты — гэта старыя, а маладое папаўненне — салагі. Дэмбялянт загадзя рыхтуецца да чаканага дня. Мяняецца ўсё на новае — ад рамяня да чаравікоў. Салагі прыслугоўваюць старым. Любяць дэмбялянты розныя фантазіі. Ляжаць, напрыклад, на койцы, а салагі марудна нясуць койку й ціха пагойдваюць, махаюць галінкамі. Гэта дэмбялянт плыве ў дэмбель.

Дэмбялянтаў звычайна не дужа загружаюць працай. Праўда, калі патряпіць у няласку начальства, дэмбель могуць падпісаць з снежня ўвечары. Альбо першага студзеня. Святкуй навагоднюю ёлку з мядзведзем, калі ён яшчэ дзе акалеў. Слова *дэмбель* грэее салдата спадзевам.

### *Метро, альбо метрапалітэн*

Гэта чыгунцы знадакучыла спёка й холад, дажджы й снягі, і ўцякла яна пад зямлю. У Эўропе, у Амэрыцы даўно, у нас у Менску нядаўна. Пра мэтро, да прыкладу, лёнданскае, напісана шмат у літаратуры. У кожнага мэтро сваё жыццё, свой побыт, свой лёс.

Менскае мэтро, на жаль, адразу пазначылася сумнымі падзеямі. У сярэдзіне дзевяностых гадоў пачалі страйк менскія мэтрапалітэнаўцы, патрабуючы нармальнага заробку за цяжкую працу пад зямлёю. Улады страйк падавілі, мэтрапалітэнаўцаў звольнілі, прытым потым не бралі нідзе на працу. На іхнае мейсца прывезлі расійскіх штрэйкбрэхэраў.

---

[1] Грамыка Міхайла (Міхаіл Аляксандравіч; 1885–1969, Расія), беларускі геолаг, выкладчык, паэт, драматург. Быў рэпрэсаваны.

Менскае мэтро вялі, дзе хацелі. Колькі сведамая грамадскасць ні пратэставала, правялі лінію па Нямізе. Былі выкапаныя труны святароў, рэшткі зрубаў старога замчышча — сэрца Менска. Абяцалі кансэрваваць яшчэ моцнае дрэва. Але зрабілі ўсё па-савецку — закапалі й павялі лінію. Гэта на мейсцы, дзе была бітвішча на Нямізе, дзе было гета.

А на Тройцу сёлета[1] наладзілі піўное гульбішча. Гэта ў абсягу пяці храмаў ацалелых і знішчаных — каталіцкага, праваслаўнага, уніяцкага, іудзейскага й мусульманскага. Пад вечар ударыў дождж з градам, і моладзь рынулася ў пераход мэтро на Нямізе. Пераход вузкі, няўтульны. Узнікла паніка, і загінула болей за паўсотні (па недакладных звестках) падлеткаў, у асноўным дзяўчатак.

Цяпер пераход у мэтро на Нямізе стаў сцяною плачу.

І пракладваючы мэтро, трэба шанаваць даўніну.

У даўніны халодная памяць…

## *Каханне*[2]

Каханне — самае моцнае пачуццё, мацнейшае і за гнеў, і за нянавісць. На пачуцці гэтым палягае само жыццё і працяг ягоны ў людскім родзе. Пачынаецца з прыязнасці, з прыхільнасці, з увагі ды вяршыцца жарсцю, палам, немажлівасцю жыць адзін без аднога. Гавораць жа: кожнае дыханне прагне кахання. І дрэвіна́ не гарыць у печы адна. Папеўка паддае ахвоты: каму тое, каму сёе, а мне юр наўме.

Каханне й толькі каханне натхняе паэтаў. Не пералічыць вершаў, баладаў пра каханне. У беларускай паэзіі самыя высокія гімны гэтаму светламу й пякучаму пачуццю склалі найперш Янка Купала й Максім Багдановіч. А як узнёсла гучаць словы пра каханне ў Францыска Скарыны: «…въ приязни ея есть кохание доброе… коль красна еси, и яко велми лепа есь наимелеишая въ коханиахъ…»

У народных песнях крынічна шчырыя словы пра каханне:

Так мы кахалíся,
Як ластаўкі ў стрэсе.
Цяпер расплыліся,
Як туман па лесе.

І скупы на словы хлопец у народнай песні, забыўшыся на сарамлівасць і стрыманасць, адкрываецца:

---

[1] 30 мая 1999 г. здарылася масавая даўка ў падземным пераходзе каля станцыі метро «Няміга», загінула 53 чалавекі.

[2] Першапачатковы пашыраны тэкст, знойдзены ў архіве. Параўн.: Каханне (2001) // Барадулін Р. Збор твораў. Т. 4. Мінск, 2002. С. 358.

Пайду я ў садочак, вышчыпну лісточак,
Буду я пісаці міленькай лісточак.

Буду я пісаці чорным атрамэнтам,
Чорным атрамэнтам, плачам і лямэнтам.

Буду я пісаці белымі рукамі,
Белымі рукамі, дробнымі слязамі.

*Кахаць* у беларускай мове ўжываецца не толькі як хлопец дзяўчыну ці наадварот. У застольнай вушацкай песні пяецца з усмешкай:

А звіўся-завіўся
Хмель з аўсом,
Скахаліся-злюбіліся
Зяць з цясцём.

Альбо жарт на польска-беларускай трасянцы: «Я пана кохам, як капусту з грохам».

Невыпадкова дакладна рыфмуюцца *каханне* й *панаванне*. Бо над усім і ўсімі пануе каханне. І, здавалася б, такое халаднаватае слова *рэха* мае непасрэднае дачыненне да кахання. Рэха — гэта німфа са старажытнагрэцкай міталогіі, якая закахалася ў Нарцыса, але без узаемнасці. Ад пакутаў яна так высахла, што ад яе застаўся толькі голас.

Традыцыйна ў нашай літаратурнай мове ўжываецца форма *закахацца ў каго*. А ў народнай паэзіі ўжываецца бадай што болей беларуская форма: «Закахаўся малады хлапчына прыгожай дзяўчынай».

Кохання — па-украінску, любовь — па-расійску, miłość — па-польску, laska — па-чэску, milistiba — па-латышску, зразумела гучыць слова, у якім цэлы свет месціцца.

У маладым веку каханне — спякотнае сонца, у сталым веку каханне — радаснае сонца, на схіле веку каханне — сонца перад захадам. Ды ўсё адно ад яго заўсягды светла.

І народная песня маркоціцца:

Бо тое каханне
З вечара да рання…
Як сонейка ўзыйдзе,
Каханне разыйдзе.

*1999*

## *Самота*

Паміж нараджэннем і смерцю пустыня самоты, якая называецца жыццём. Непаэт запярэчыць: якая там «пустыня»?! Жыццё ёсць жыццё і само па сабе — яно вялікае шчасце. З непаэтам, вядома, згодзяцца апалагеты царквы: жыццё, нават самае пакутнае, і ёсць шчасце. Цалкам згадзіцца з гэтым не магу. Мусіць, таму, што пішу вершы і захоўваю ў душы адчуванне, што чалавек, які піша вершы, жыццё ўспрымае толькі як суцэльную адзіну. Па-іншаму не можа, бо паэт. Канешне, «пустыня самоты» — метафара даволі звычайная. Але мне падабаецца даўняя думка, народжаная гэтай метафарай: паэта ніхто не выведзе з самоты — ні дзяржава, ні сям'я, ні сябры, ні каханая, ні алкаголь. Праўда, у мяне ніконт алкаголю мізэрны вопыт... Па сутнасці, усё жыццё — алкаголь. Застолле, пагасціны, бяседа. Цяжкае пахмелле, якое завецца старасцю.

Самота й смерць — дзве суперніцы. Абедзьве сочаць за чалавекам. Смерць дае шанец самоце, бо ведае — чалавек ейны ўрэшце.

Байран[1], Багдановіч рана адчувалі самоту... Самыя самотныя — Бог і чалавек. Бог, відаць, і стварыў чалавека па сваім падабенстве, каб не так самотна было аднаму.

Самота — аснова *сам*, спадзеў на сябе самога.

Усе ад Бога, усё ад Бога. І самота таксама ад Бога.

## Гісторыя «Concerto Grosso»

*(Віяланчэль)*

*«8 красавіка 2013, г. Мінск*

Дарагі Рыгор!

Я вельмі быў рады сустрэцца з табой, і вялікае табе дзякуй, што ты згадзіўся прыняць маю прапанову напісаць паэтычную частку майго мастацкага праекта пад назвай «Concerto Grosso».

Супрацоўніцтва з табою для мяне вялікая радасць і гонар. Каб табе было лягчэй зразумець маю задумку, я нагадаю каротка сваю вобразную канцэпцыю. Сутнасць адносінаў музыканта (творцы) і віяланчэлі выглядае трошкі сюррэалістычнаю. Вобразы умоўныя, сімвалічныя. Філасофская ідэя гэтай серыі — недасягальнасць гармоніі паміж чалавекам і навакольным матэрыяльным асяроддзем. Ува ўсіх кампазіцыях прысутнічае фігура абстрактнага чалавека-музыкі і дасканалы па форме музычны інструмент віяланчэль, гарманічны і ў чым та эратычны, які нагадвае

---

[1] Байран Джордж Наэл Гордан (1788–1824), англійскі паэт.

сваёй формай жаночую фігуру. Музыкант і віяланчэль уваходзяць між сабой у пэўныя адносіны, імкнучыся аб'яднацца ў эмацыянальным парыве. Адносіны паміж музыкантам і інструментам разгортваюцца у рознабаковых эмоцыях — пяшчота, рэўнасць, самота, радасць, страсць, варожасць і т. д. (на адвароце кожнай фатаграфіі пазначаны эмацыйны стан сюжэта). Ідзе барацьба жывога і неодушевлённого. Музыкант імкнецца одухотворить предмет — віяланчэль, заставіць яго гучаць ва ўнісон яго эмоцый. І музыка, падобная дзіцяці, нараджаецца, матэрыялізуецца, становіцца плотью, але гэтая музыка дэструктыўна і драматычна. Гармонія не магчыма. Вось такая прыкладна мая мастацкая канцэпцыя.

Дарагі дружа! Я вельмі спадзяюся на тваю падтрымку майго праекта. Ну, вядома, ты як паэт убачыш усё па-свойму. Прабач за маю такую дрэнную беларускую мову.

Абдымаю.

Твой *Арлен Кашкурэвіч*[1]».

«Дарагі Рыгор!

Звяртаюся да цябе яшчэ раз з адной просьбай. Справа ў тым, што адзін верш вельмі выпадае з агульнай тэмы. Калі ласка, напішы яшчэ адзін, дзе б гучала больш тэма, звязаная з эмоцыямі і музыкай. Пасылаю табе дапаўніцельны ганарар. Вялікі дзякуй. Абдымаю.

Твой *Арлен Ка.*».

1
А зялёныя імяніны
Свет маладзяць кожнай вясной.
Свой характар у кожнай раніцы.
У неба кожнага позірк свой.

2
Цямнее маміна хата
Над ссівелай бядой.
І прадонна, й крылата
Думаць разам з вадой.

3
Вясновае нецярпенне…
Бяссонне шукае выйсця.
Сябе не шкадуе праменне
Учора, заўтра, калісьці…

---

[1] Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч (Арсен; 1929–2013), беларускі графік. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1973). Народны мастак Беларусі (1991).

4
Вецер ашукаў сваю радню.
Перагнаць сябе хацелі крокі.
Нешта прысак прашаптаў агню —
І ў абодвух запалалі шчокі…

5
У кахання ўзросту няма.
Жарсць, як раніца маладая,
Словы вечныя паўтарае,
Просіць не вызваляць з ярма…

6
Смага ўзнікае,
Нібыта праява, —
Багавіта, датклівa,
Ласкава…

7
Дотык да жаданых берагоў —
Дотык да жывой віяланчэлі…
У жыцця перад жыццём даўгоў
Падлічыць задумы не сумелі.
8
Смутку скрозь саматужна.
Чутцы лашчыцца шорстка.
Пострах збежышча здужае.
Цень іначыцца порстка…

9
Наіўны страх
На злых вятрах
Згарае разам з лёсам.
Ёсць вечны прах
І хітры крах —
І стогн на сцежках босых…

10
Сном расхінаецца
Небасхіл азяблы.
Ветравеямі соннарукімі
Пералічаны кожны яблык.
З двух тваіх пачаты адлік…

11
Хмурынкі ніцыя ахінулі
Плячо трапятлівай віяланчэлі.
Маўчанне ўбачыла
Ў змоўклым гуле
Трымценне ценяў…

12
Рака часінаў
Незалежна цячэ.
Адчай верыць беламу цуду.
А можа, я не нараджаўся яшчэ?
Але на гэтым свеце пабуду…

13
Ці чуеш ты,
Досвіткавая ў харашбе,
Як пачаў я нахабна
Прарастаць у табе?..

14
Сябе не шкада…
Не гаркоцяць турботы
Прысуджанага захапленнем
Да
Вышэйшай меры пяшчоты[1].

15
Сцюдзёны ветраспеў
Матыў агню трымае
Хто захацець паспеў,
Надзею — мае!..[2]

16
Галоўнае — пачаць.
А рэшту дамаўчаць
Сівыя валуны
І туманы маны…

[1] Гл.: «Сябе не шкада… (варыянт; 18.06.13) // У неба пехатою. С. 148.
[2] Гл.: «Сцюдзёны ветраспеў…» (варыянт; 05 — 06.13) // Тамсама. С. 109.

17
Узгадваючы бяседы соў,
Чую
Апошнюю тую.
І праменне тваіх валасоў
Ад беспрасвецця мяне ратуе…[1]

18
Ценю мой!
Ты за крутой вярстой,
Дзе крок з прыскокам
На гэты свет
І ледзьве не крок на той…

19
Гукі — пырскі глыбіні.
З гукаў сны і перасненні
І нястрымныя памкненні
Грукатні і цішыні.

20
Натхненне —
Крылатая праца,
Якая
Не згодна стамляцца.

*Май–чэрвень 2013*

*Памяці Арлена Кашкурэвіча*

Лёс пацвердзіў ісціну тую:
Мастакоўская
Сцежка коўзкая,
А не пустуе.

Нагарнулася…
Адыходзіць балюча мастак,
Прытаміўся бязлітасна хворы.
У журбоце прыціхлі творы
Ягоныя
І спякотныя, і сцюдзёныя.
Апошняе слова за імі!

[1] Гл.: «Узгадваючы бяседы соў…» (варыянт; 4.06.13) // У неба пехатою. С 148.

Няхай імжа стагоддзяў
Імжыць,
Ім жыць цяпер у ягоным імі.
Ім жыць за яго.
Ім быць ім…

## Ішоў я слядамі дажджоў…
*Вершасказы*

* Зіма змятае з полак апошні хлеб, як гаспадыня.

* У горадзе і свісток міліцыянера гучыць салаўём.

* Дзе многа абяцанняў,
там мала выкананняў.

* Бо, як кажуць, грозен рак,
ды на заднім плане вочы.

* Жывы, няўтомны, як жаўрук.

*1955*

* Зерне пахне вясельным караваем.

*1956*

* На даху раённай міліцыі,
як дома, фліртуюць каты.

* Цягнік чмыхаў, пыхаў —
Быхаў.

* Калі вырашаюць канфлікты
лета з восенню палюбоўна.

*1960*

* Нялёгка прывыкаць к дарогам.

* Чужое — усё гасцінец.

* Вясёлы, як гіцаль,
што грошы прапіў
за злоўленага сабаку.

*    Пераспелае бабіна лета
                    адпяваюць манахі-гракі.

*    Ах, Чорнае мора —
                    курортная змора.

*    Твая усмешка не гучыць,
                    бязгубая усмешка.

*    Асенні ліст танцуе твіст.

*    У мяне асенні запой —
                    ап’янілі бары асеннія.

*    Замовай — сцюжай зімовай
                    яны зачараваны.

*    Нават на Вечным агні
                    хочуць рукі пагрэць.

*1966*

*    А памяркоўны
                    п’е сок маркоўны.

*1967*

*    Месячык задумаўся, як сабака ў чоўне.

*    Торкаецца ў зялёнае крысо
                    прыланцужаны човен.

*1968*

*    Паэт ідзе за рыфмай,
                    як інкасатар за касай.

*1973*

*    Ворагаў нажываць — нажаваць.

*    У цемры верасовай
                    бярозы, як сарокі.

*    І ў вераб’я сэрца ёсць.

*    Сабаку сніцца хлеб.

*    Крытыка жне сярпамі пытальнікаў.

*1974*

* Вякі, як шэрыя ваўкі.

* І кіпарыс, як боскі перст.

*1975*

* Горлінкі пераліваюць
у гулкія гарлачыкі
цішыню.

* Праз цень прарвуся на прасцень.

* Люблю цябе,
як маладая крапіва
маладыя ногі.

* Бусел, як Ікар, над хатай.

* Яшчэ баляць траншэі — равы не зараслі…

* Па горла нанач у ваду —
і ружа маладзее.

* Дзьмухаўцы —
пенсіянеры з лёгкімі галовамі.

* Белападолыя бярозкі.

* Нас, паганцаў,
над возерам жагнаў самалёт.

*1976*

* Чуць дома першы гром і першага шпака.

* З ледавікоў сляды вякоў.

* Прыбой з грому выкаваў цішу.

* І п’янага хістае дым уласнай цыгарэты.

* Луг уздымлен туманом,
уздыблен табуном.

*1977*

* Іду, як па жарстве,
па вераснёўскім градзе.

* Паэты — галаснікі,
замураваныя ў сцены часу.

* Нядрэмнае вока крыніцы.

*    Авечку заўсёды ў ахвяру.

*    Імёны каханкаў,
як затанулыя караблі,
з памяці ўсплываюць.

*1978*

*    Свой гуз — пугаўю,
і свой куст — салаўю.

*    Не раскутыя вершы,
а непадкутыя.

*    Празрыстая і гнуткая мелодыя душы.

*    Зялёнае мяса леса.

*    Спякотным чэрвенем
перад дажджом
ластавак голас.

*    Здзіўленыя бровы рымскае пяцёркі.

*    Каб не страшны вам былі
ані ворагі, ні госці.

*    Нябесны рэвізор недалічыць зор.

*    Можа, мы апошнія паэты,
што вось цікавяцца зямлёй.

*    Нібыта агаслы касцёр
з белымі скронямі прыску.

*    Для вёскі абноскі.
Ды жмурыцца вёска —
у куфрах моды…

*    Песні з гняздоўяў лятуць.

*    У Італіі вада ліе.

*1979*

*    Сакавіцкая завіруха,
сакавіты апошні снег.

*    Лютня навальніцы — ліўневыя струны.

*    Як непатрэбны —
лёс б’е пад рэбры.

* Дзень паўтарае век,
 але ў імгненне вока.

* Апошняй снежкай на алешыне сарока,
 якую зляпіў красавік.

* Нервовы почырк бліскавіцы.

* Як стэпавы букет, дурманліва пахучы…

* На праспекце вераснёўскім
 у ласкавым прыцемку.

* Напяты да канца сталёвыя нервы чыгункі.

* Ашалелы свет-бязбожнік
 хапаецца за абразы і храмы.

* І мятаю пранёс я па ўсіх шляхах імя тваё.

* Сэрца ў адчаі выбухнула і разарвалася.

* Пячора — вуха цішыні.

* Запрашай мяне налета,
 пакажу, як есці мёд.

* Натужаць лёску лёсу —
 торгне ўдачы акунёк.

*1980*

* Раскоша песні, як супраць адчаю.

* Не стройце кепікі адносна эпікі.

* Хвіліна цішыні скупая.

* І грэецца, шчыра спявая,
 жаўранак на сівяры.

* Вослік — персанальны транспарт Хрыста.

* Беларусь, яе русая вярба.

* Восеньскае лісце вераб'ёў
 вецер жнівеньскі пераганяе.

* Вечар пасвіствае носам цыкад —
 засынае цішыня.

* Кавыль ці белыя пер'і згубілі аблокі?

* Ракушкі — гадзіннікі геалогіі.

* Узрост сярэдні нашых гарадоў
склаў гонар для сталіц Еўропы.

* Салдацкая трава тысячалістнік,
ён тысячай лістоў гатовы ратаваць.

* Працаўнікі сціла — працаўнікам сяла.

* Век лучыны — і вечнасць Скарыны.

* Ледавік араў і сеяў сіняе,
сіне-халоднае зерне азёр.

* Наставіла каўнер узлеска поле,
каўнер, пасыпаны сняжком.

* Каўнер узлеску, ён яшчэ густы
і снегам зацярушаны няскупа.

*1981*

* Як захмялелы поп-расстрыга,
са снегам новым адпачывае Рыга.

* І — перазяблыя анёлы —
спрабуюць голас жаўрукі.

* Народ, нібы нарад,
закрыць хацелі сходу.

* Баравы зялёны маладзік
даланю раскрытую падставіў.

* Вясёлка —
ветравое шкло неба
расчысцілі дворнікі.

* Парахоўня — страху перахоўня,
што спрадвеку з выбухам сябруе.

* Крыніц ушацкіх гаваркія вочы.

* Вярнуўся да начлега сноў маіх.

* Жахаецца сама сябе
маланка над магільнікам.

* Асенняя раса — рука твая цяжкая.

* Туга і чахотка,
тайга і Чукотка.

* Дуб мудрасцю сваёй стары.

* Холад —
хукаюць коміны ў неба.

*1982*

* Чэргі, як куля, — меткія,
радзілі шарэнгі.

* Шкло,
а стекло,
што сцякло.

* Ціха плача на ўвесь свет…

*1983*

* Адных песцяць, другіх бэсцяць.

* Кожны бязродны —
без роднай зямлі.

* Лютні крыло анёльскае
грэшныя пальцы лашчаць.

*1984*

* Філосаф той, каму ў каханні не шанцуе.

* Калі агнявіца
ў цёмным небе агнявіцца.

* Хай долу неба падае.

*1985*

* Сабака вартуе пустэчу.

* Паэтам каронуецца народ,
народа не бывае без паэта.

*1986*

* Што ж ты загруз,
што заскаруз, беларус?

*1988*

*   Высокае дрэва прыкмеціць пярун…

*   Твар неба перасмыкнуўся
нервоваю бліскавіцай.

*1989*

*   Жаўталіст даланю прыкладае да зямлі,
ці не зусім астыла, правярае…

*1990*

*   Паэзія разводу не дае.

*   Мілосці, як міласціны, прашу,
жабрую…

*1991*

*   Жарт касці не ломіць.

*   Ад хамутовага іга мне дапаможа кніга.

*   Добра блукаць па дарозе дадому…

*   Мая душа дзяржаваю ўсплывала.

*1993*

*   Як з апошнім сваяком,
са старым развітваюся годам.

*   Дзе воўк радзіўся, той і куст міл.

*   Шмат руху, каб злавіць муху.

*   Хабар не мае зваротнай сілы.

*   Кія жабрачага грук.
Рыдля — у намерзлую магілу.

*   Сцены маўкліва трымаюць рэкламы.

*   Вярблюд, як вялікі кукіш,
паказаны ганарыстай пустыні.

*   Сітны хлеб сытны, а жытны трывалы.

*   У вас папелі, а ў нас паелі.

*1994*

*   Лепей жывот падхартаны,
нячым язык навязаны.

* Атожылкі ды карані,
як адмаўленне адмаўлення…

* У рай бясхмарных сноў…

* Дачка — мой недаснёны сон,
унучка — сон няснёны…

* Кожны чалавек нехта ёсць.

*1995*

* Наша планета — стог цішыні.

* Раніца — стог цішыні,
клопатам дзённым не паспытваны.

* Як адвернецца Бог, дык бяда на парог.

* Пустэльна на душы, але няма спакою…

* Ужо не шукаю цёмнага сэнсу.

* Любая бяда не такая,
калі цябе нехта чакае.

* Задоўжыліся на гэтым свеце.

* Рыфма — рэха слова з водгулля.

* Нацыі Бог дае навырост.

* Высокія самыя яблыкі
Бог пакідае галодным птушкам.

* У паэтаў думае душа.

*1997*

* Чутка ходзіць хутка.

* Агонь вядзе за сабою дым…

* Ваўка і балерыну кормяць ногі.

* Чым госці важней,
тым прыходзяць пазней.

*1998*

* Каханне — гэта й наканаванне.

*1999*

* Белаполымныя свечкі дзьмухаўцоў
памінаюць лета.

* Асірацелае поле вітаецца з рэхам…

* Калекцыя рук, якія пацiскаў!

* Зрабіць бы камень,
які на сэрцы ляжыць,
жарнаўнём…

* Чалавек не памірае, а йдзе знаёміцца.

*2001*

* Ад абразы, ад хлусні
Бацькаўшчыну барані.

* Век маторны, а жах пячорны.

* У чалавека, як і ў зерня, лёс адзін.

*2002*

* У помніка памяць кароткая.

* Тут і моль падслухоўвае.

* Цемра ступае вобмацкам.

* Да кожнага прыглядаецца праца,
перш чым даверыць сябе.

* Рака даганяе ўчарашнія сны…

* Сапраўды, кожная армія
рыхтуецца да мінулай вайны,
а будучая прыходзіць нечакана.

*2003*

* У віны няма даўніны.

* Хопіць гаварыць пра брыдзь!

* Знайсці ў глухой кішэні кажушка
манетку медную былой дзяржавы.

* Крыж — гэта чалавек перад палётам.

* Бярозы — зялёнакрылыя сарокі.

* Птушыная іерагліфіка на звечарэлым снезе.

*2004*

* Скаціцца ў маленства з гары гадоў
на санках завеістага ўспаміну.

* Агонь не давярае пораху,
а порах — агню.

* Сум па незабытым — вольны птах…

* Прынізіць радзіць мрою мулкая дарога.

* Вол клопату нясе свой смутак з пашы.

* Прысталі ногі памяці вяртацца…

* Стаміўся я даганяць рэха.

* Самотнай журбе за пазухай ў ветра зацішна.

*2005*

* Не бывае чужых магіл.

* Я ўжо, як цень чужы,
на той мяжы…

* Труна — бязвёславы човен.

* Вераб’іная сляза.

* Крывіцкай мовы святарны гай.

* Суседзі дружаць дымамі.

* Моцныя чары паўнюткай га́ры.

* Іржавець не захоча каса,
помнячы рамяство старое…

* Галава пасняжэла.

* Вяртаюцца выраі сноў…

* Калі пад гарою настрою…

* Азяб гукаць свой водгук голы крык.

* Скроні ў раніцы пабялелі.

* Відушчае сэрца.

* Дзякуй, папера, што цярпела!

*2006*

*	Мне снілася рэальнасць.

*	Руны восеньскай руні.

*	Калі прачнецца вецер раптам…

*2007*

*	Зялёныя вершы вершалінаў.

*	Сэнс не хмялее ні ў якім застоллі
ніколі.

*	На карце зімовага неба
азяблыя рэчкі галінак.

*	Праца любіць старацца.

*	На Млечнай Брукаванцы прыступна думцы.

*	Хто старэйшы — ці тлен, ці плён?

*	Дзе думцы навучыцца
не спанталычыцца?

*	Жыццё прымушае з усмешкай.

*	Цеснавата ў зношанай галаве
буйнарагатым думкам.

*	І пад дажджом верабей чырыкае.

*	Крумкач у небе ўкрыжаваны,
а доле цень жыве ягоны.

*2009*

*	Галоўнае
заўсёды няўлоўнае.

*	Мулка ганьбе й славе
на падсуднай лаве.

*	Каханне літасці не мае.

*	У забыцця капрызная памяць.

*	Дажджу не ў страх замачыць цыбатыя ногі.

*	На далані свежага пня лініі лёсу сасны.

*	Мілосць не мае тэрміну даўнасці.

*	Бліскавіца вучыцца пісаць.

* Цемра ступае вобмацкам.

* Ярмо
знойдзе шыю само.

*2010*

* І ка́ту
трэба павышаць зарплату.

* І не толькі ты
круты.

* Як старому
ўзабрацца на строму?

* Бывае, што і ў ка́та
расце зарплата.

* Каб не цемра,
не было б святла.

* З му́кі мукі
даўкія праснакі.

* Сябе пракорміць сон.

* Учора чакае заўтрага.

* Ці я чужэю,
ці чужэе свет?

* Не топіцца
душа паломніца.

* Святло палуднуе ўсмешкай.

* Маці і вада — дзве працаўніцы…

* Крыўды ад нашчадкаў доўга колюцца…

* Люд лют!

* Люты люты.

* Дым спавядаецца нябёсам.

* А час выжлукціць келіх да кроплі.

* Клёк заўсягды малады.

* Праз пакуты пачуты…

* А вечаровы снег
ці думае пра начлег?

* Куды вядуць сляды вады?

* Рупіць раніцы думаць разам з вадой…

* У далягляда шырокая ўсмешка.

* Прычына не лічыць сябе вінаватай.

* Сабе паверыць баіцца прыкмета.

* Крыніца адна, ды чарпакі розныя.

* Кола сябе не дагоніць ніколі.

* Хацелася б колу сябе перагнаць.

* Жыццё — капрызнае дзіця вечнасці.

* Слова *шчасце* не мае множнага ліку.

* Я ўжо, як ураджай,
залежу ад надвор’я…

* І думка адлятае ў вырай…

* У нашчадкаў крыўдлівая памяць.

* Ці важка дню насіць свой цень?

* Разгубіўшыся,
просіцца рэха дадому…

* Радзіма там, дзе сон жыве…

* Убачыць спіну імгнення…

*2011*

* Уладзімір Караткевіч!
Быў, каб паспець.

* Клопат любіць ехаць на чужой спіне.

* У адчая шчырыя абдымкі.

* Сэнс давярае слову.

* Здзіўленне пазычае вочы ў роспачы.

* Што піша кат у графе «прафесія»?

* Ці кат рабоце рад?

* Адна самота разумее мэту…

* Волата не купіш за золата.

* І багаты бачыць неба праз краты.

* Гаіла чысты боль нябёс вясёлка.

* Гутарку малатка і цвіка можна памяняць?

* На рэшту ад сплаты даўгоў жыццю жывем?..

* Свая душа і ў касмічнага прыбыша.

* Як між нас пачуваецца душа
касмічнага прыбыша?

* Відаць, і ў багоў хапае даўгоў.

* Сцежка вясковая
шэпчацца з падковаю.

* Нават ноч не адкажа, дзе начуе душа…

* Перагукаюцца, як свае,
словы магма і мама…

* Захоўваць правы травы каса часу не мае.

* Жывеш, пакуль жыве твой цень…

* Крыўда мае маладыя вочы…

* Як з далані вясла напіцца чаўну?..

* У пытання лоб ў гузаках.

* Боль трымае нас на Зямлі…

* А дно адно?

* Глядзець у вочы агню…

* Арлу на курасадні цесна.

* Верабей, як коска ў сказе Вечнасці.

* Лоб у цвіка
сумуе без малатка.

* Да дзён чаканых не пахіблю след…

*2012*

*  Як надтачыць святло,
каб болей дня было?..

*2013*

## Хуткамоўкі

*  І кралі б кралі каралі,
Калі б каля ліп не каралі.

*  У шыпшыны шыпы,
Шыны ў машыны.

*  Хуткамоўка хуткамоўку
Просіць панасіць абноўку.

*  Колкая каля кала
Віцца пачала пчала.

*  У Клічава сваё клічава.

*  У Крычава сваё крычава.

*  У Вішнева сваё ўвішнева.

*  У Ружанаў свой жанр…

*  Сон Самсон сам нёс свой нос.

*  І спіца спіць, пакуль спіцца.
І спіца спіцца баіцца.

*  Як ухапіцца за саломінку паломніку?

*  Травы стае на выпасах на выспах.

*  Цвердзяць белы дзень
І прысмерак шэры:
Не па каралеве кавалеры.

*  Не гне жалезную шыю,
Шаршатка кажух хутка шые…

*  Зорку чакала піла як магла.
Чысціла зубы пілавіннем піла…

*  Ехалі ў вясёлай згодзе
Параход на карагодзе,

Карагод на параходзе.
Ім казала пара: годзе!

* Каштуе колькі
Колкі кончык іголкі?

* Спакойна шпакоўню ціхую
Шукае шпак з шпачыхаю.

* Калі жывеш на хутары,
З кампутарам пагутары.

* Не наступі на золку
На золкую зёлку.

* Укусіў камар Макара,
Камара Макар за карак.
Падляцеў камар пад хмару,
Выдумляць Макару кару.

* Не кладзіце творы на травы,
Не халадзіце травы на твары.

* Мароз мураваў
Харому з крыг.
Крок крычаў.
Крочыў крык.

* Жыруе жораў на мшарыне.

*2003–2012*

## Пераклады

### Аляксандр Пушкін

#### *Вязень*

Закрачаны крылы, марнею з нуды,
Не ўскрылены воляй арол малады.
Мой смутны таварыш махае крылом,
Крывавы спажытак ірве пад вакном.
Ірве ды кідае, глядзіць у вакно,

Нібыта са мною задумаў адно.
Ён кліча паглядам і крыкам сваім
І выгукнуць хоча: «Давай узляцім!
Мы вольныя птахі: пара нам, пара!
Туды, дзе за хмарай бялее гара,
Туды, дзе сінее гаспода мая,
Туды, дзе арлам толькі вецер… ды я!»

*1822*

Фёдар Цютчаў

** * **

*К. Б.*

Сустрэў я Вас — і ўсё былое
У змоўклым сэрцы ажыло,
Усё я ўспомніў дарагое —
І сэрца ўспомніла святло.

Як позняй восені парою
Бываюць дні, бывае час,
Калі наноў дыхне вясною
І нешта ўзварухнецца ў вас.

Зноў лёгка дыхаю, нібыта
Асенні сад пасля дажджу.
У забыцці, даўно забытым,
На рысы любыя гляджу.

Знік гнёт акоў вякоў разлукі,
Гляджу на вас, нібыта ў сне, —
І ўжо смялей чутнеюць гукі,
Што змоўкнуць не змаглі ўва мне.

Тут не ўспамін, не хваляванне,
Жыццё прамовіла з цішы —
Былое ў Вас замілаванне,
Каханне — у маёй душы!..[1]

[1] Праўлены варыянт перакладу (1997–24.09.2006).

Іван Тургенеў[1]

*У дарозе*

Ранне туманнае, ранне сівое,
Нівы журлівыя снегам пакрытыя.
Разам з маркотаю ўспомніш былое,
Успомніш абліччы, за часам забытыя.

Словы гарачыя ўспомніш дарэчы,
Позіркі сціплыя, жарсцю натхнёныя,
Першых сустрэчаў, апошніх сустрэчаў
Ціхага голасу гукі ўлюбёныя.

Ростань успомніш з усмешкай нявіннай,
Роднае ўспомніш такое далёкае,
Чуючы колаў гул несупынны,
Гледзячы мройліва ў неба шырокае.

*Лістапад 1843*

Аляксандр Блок[2]

*Сівое ранне*

Світае. З Богам! Па дамах!
Званцы губляюць голас звонкі.
Ты грэеш на сваіх губах
Твае халодныя пярстёнкі.

І я цалую наўздагад
Твае пярсцёнкі, а не рукі.
Ў плячы, адкінутым назад, —
Дакор свабоды і разлукі.

Шал бачыць нешта, як ліхвяр,
За дажджавой імжой зануднай.
Пагляд, як неатухлы жар,
І голас ранішні й марудны.

---

[1] Тургенеў Іван Сяргеевіч (1818–1883), рускі пісьменнік.
[2] Блок Аляксандр Аляксандравіч (1880–1921), рускі паэт.

Да рання шчасце і жыццё
Не ў гэтым я знайшоў паглядзе!
Не гэты голас забыццё
Гукаў з гітарай на эстрадзе!..

Як хлопчык шоргнула; паклон
Разгойдвае… «Да пабачэння!..»
На бранзалетку ўпаў жэтон.
Як згадка нейкага значэння…

Маўчу, гляджу ў вачэй імжу,
Сціскаю пальцы ёй да болю…
Бо ўжо нам не спаткацца болей,
Што ёй апошні раз скажу?

«Бывай, вазьмі яшчэ пярсцёнак,
Ты апранеш сваю руку
І сэрца, што ў вірах сцюдзёных,
У срэбную луску…

Ляці, як праляцела тая
Ноч агнявая, ноч былая…
Ты, часе, памяць прытушы,
А шлях сняжком прыцярушы…»

*23 лістапада 1913*

Восіп Мандэльштам

## *Tristia*

** * **

Маё жыццё сухое
Агонь амаль даеў.
Не каменю затое,
А дрэву ўзношу спеў.

І лёгка ўсё, і груба.
І з аднаго бруска
І сарцавіна дуба,
І вёслы рыбака.

Мясіце палям плечы,
Крычыце, малаткі,
Пра рай драўляны — рэчы
Там лёгкія такі.

** * **

Няўмольна секла слоў жарства…
Укаменела Іудзея,
І, сцяжалеўшы, без надзеі
Яго панікла галава.

Стаялі воі пры святле
На варце выстыглага цела;
Як венчык, галава вісела
На тонкім і чужым сцябле.

І цараваў, і нікнуў Ён,
Нібы лілея ў вір той цёплы,
І глыбіня, дзе тонуць сцёблы,
Ўжо святкавала свой закон.

*1910*

** * **

Магчыма, свечка мне не зможа памагчы,
І застануся я днём белым уначы,
І, макам дыхаючы, дам развагу кроку,
На галаву маю надзену мітру змроку, —
Як патрыярх пазны ў разбуранай Маскве,
Свет несвянцоны несучы на галаве.
Што томіць слепата, нязгода, рэзрух, гора:
Як Ціхан — стаўленік апошняга сабора!

*Лістапад 1917*

** * **

Сярод лясоў, абнылых і спустошаных,
Хай ураджай гніе ў палях някошаных!
Гасцей чакаем мы нікім не прошаных,
Чужых гасцей!

Няхай гніе калоссе недаспелае!
Яны на нівы прыйдуць пажаўцелыя.
Вам не знасіць, сумленныя і смелыя,
Сваіх галоў!

Яны растопчуць нівы залацістыя,
Яны разрыюць могілкі цяністыя,
Развяжа потым вусны іх нячыстыя
Крывавы хмель!

Яны ўварвуцца ў хаты пачарнелыя,
Пажар запаляць, п’яна-азвярэлыя…
Не спыняць іх сівíны старца белыя,
Ні плач дзяцей!

Сярод лясоў, абнылых і спустошаных,
Мы пакідаем ураджай някошаны,
Гасцей чакаем мы зусім няпрошаных,
Сваіх дзяцей!

*1906*

** * **

У імжы гукам гулкі прытулак.
Лес прагнаў вечны страх за красу.
Лёгкі крыж свой самотных прагулак
Я пакорліва зноў панясу.

Зноўку да раўнадушнай айчыны
Узляціць дзікай качкай папрок, —
І да змроку жыцця я прычынны,
Дзе самотнае ўсё як знарок!

Грымнуў стрэл. Над азерцам спакойным
Крылы качак цяжэй ад смалы,
І быццём злюстраваным падвойным
Адурманены соснаў ствалы.

Неба дзіўнае з водсветам цьмяным —
Боль, сусвету стуманены боль, —
О, дасюль быць таксама туманным
І цябе не кахаць мне дазволь!

*1911, 1935*

** * **

Мне цела дадзена — рабіць што з ім,
Такім адзіным і такім маім?

За радасць ціхую жыццё ўдыхаць
Каму павінен дзякуй я сказаць?

Я сам садоўнік, квецень і палын,
І я ў цямніцы свету не адзін.

Ужо на шыбы вечнасці лягло
Маё дыханне і маё цяпло,

На ім заўразіўся, нібы дакор,
З часін нядаўніх неспазнаны ўзор.

Хай растае імгнення смутны дым —
А не закрэсліць мілы ўзор нічым.

*1909*

** * **

Душны змрок акрыў узложжа,
У грудзях стаіўся жах…
Даражэй за ўсё мне, можа,
Тонкі крыж і тайны шлях.

*1910*

## *Змей*

Асенні змрок — іржавае жалеза
Рыпіць, пяе і раз'ядае плоць…
Што ўся спакуса, ўсё багацце Крэза
Перад лязом тваёй тугі, Гасподзь!

Я змучаны, нібы змяёй у танцы,
І перад ёй, нудзьгуючы, трымчу,
У звіліны душы сваёй вяртацца,
І розуму, і музы не хачу.

Няшчырых дастаткова адрынанняў
Разблытваць вывівастыя клубкі;

Не маю слоў для скаргаў і прызнанняў,
Мой кубак неглыбокі і цяжкі.

Што дых мой? На каменні скача смела,
Звіваецца, клубіцца хворы ўдаў.
Гайдаецца і апярэжа цела;
І падае, бы стоме слова даў.

Наконадні прысуду не ў абразе,
Узрушаны відзежай, спевам сноў,
Я слухаю без боясці, як вязень,
Жалеза віск і цёмны стогн вятроў.

*1910*

** * **

Слых чуйны ветразь напінае,
Пусцее позірк баразны,
І цішыню пераплывае
Нягучных птушак хор начны.

Я гэткі ж бедны, як прырода,
Я просты, як і небакрай,
Мне толькі трызніцца свабода,
Як уначэлы птушак грай.

Відзён мне маладзік забыты
І неба мёртвая вярста;
Дзівацкі твой і хваравіты
Я свет прымаю, пустата!

*1910*

## *Чарупіна*

Магчыма, я табой ачужан,
Ноч; з прорвы свету векавой
Чарупінаю без жамчужын
Я выпхнуты на бераг твой.

Ты раўнадушна хвалі пеніш,
Пяеш сабе не ўпершыню;
Ды ты палюбіш, ты ацэніш
Пустой чарупіны хлусню.

Ты на пясок з ёй побач ляжаш,
Акрыеш рызай да краёў,
Ты непарыўна з ёю звяжаш
Небападобны звон бруёў;

Чарупіны аглухлай сцены,
Як нежылога сэрца дом,
Напоўніш пошаптамі пены,
Туманам, ветрам і дажджом…

*1911*

* * *

Вобраз твой пакутлівы, як слова,
Ў тумане не мог я адчуваць.
Госпадзі! — сказаў я памылкова,
Хоць не думаў сам таго сказаць.

Боскае імя вялікім птахам
Вылецела прэч з грудзей маіх!
Спераду туман клубіцца страхам,
Ззаду клетка апусцела ўміг…

*1912*

* * *

З атрутай хлеб, паветра кіпіт:
Як цяжка раны лекаваць!
Мацней, прададзены ў Егіпет,
Не мог Іосіф сумаваць.

Пад небам зорным бедуіны,
Заплюшчыўшыся на кані,
Складаюць вольныя быліны
Пра дзень, што знік з далечыні.

Стае натхненню ўзмаху веяў:
Той у пяску згубіў калчан,
Той вымяняў каня, — падзеяў
Рассейваецца ўвесь туман.

Як па-сапраўднаму пяецца,
На грудзі поўныя, наўздар,

Усё знікае — застаецца
Прастора, зоры і пясняр.

*1913*

## *Раўнадзенства*

Ёсць івалгі ў лясах, галосных доўгасць ёсць —
Адзіная ў танічных вершах мера.
Але ў прыродзе раз на год разліта млосць,
Разліта здоўжанасць, бы ў метрыцы Гамера[1].

Нібы цэзураю дзеньззяе трапяткі:
Спакой з дасвецця і цыбатая лянота,
Валы на пашы, і чароўна не з рукі
З чароту выцягнуць багацце цэлай ноты.

*1914*

## * * *

І ад аўторка да суботы
Адна пустэльня ўсцяж была.
О здоўжаныя пералёты!
Сем тысяч вёрст — адна страла.

І ластаўкі, калі ляцелі
Ў Егіпет шляхам водных стром,
Чатыры дні яны віселі,
Не чэрпалі ваду крылом.

*1915*

## *Tristia*

Я вывучыў навуку развітання
Ў праставалосых выскаргах начных.
І жвуць валы, і доўжыцца чаканне —
Апошніна віргілій гарадскіх.
Абрад шаную пеўневае ночы,
Калі, з дарогі ўзяўшы смутку груз,

[1] Гамер, легендарны старажытнагрэчаскі эпічны паэт.

Глядзелі ўдаль заплаканыя вочы,
Жаночы плач мяшаўся з спевам муз.

Хто ведае пры слове «развітанне»,
Якою наша ростань можа быць,
Што зычыць пеўневае заклінанне,
Калі ў акропалі агонь гарыць,
На золку новага жыцця якогась,
Як лена вол жве ў сенцах, нібы ў сне,
Нашто клікун жыцця якогась, певень,
Б'е крыламі на гарадской сцяне?

Люблю будзённасць прадзіва ўспамінам:
Снуе чаўнок, верацяно зучыць.
Глядзі — насустрач пухам лебядзіным
Ўжо басанога Дэлія ляціць!
О, ўбогая ўсяго жыцця аснова,
Жабрачка — мова радасці здавён!
Было ўсё, і паўторыцца нанова
Міг досведу, адзін салодкі ён.

Хай будзе так: празрыстая фігурка
На сподку з гліны ў чысціні ляжыць,
Як выпластам вавёркавая шкурка,
Дзяўчына схілена на воск глядзіць.
Не нам туманна варажыць на Эраб,
Воск для жанчын, што для мужчыны медзь.
Нам толькі ў бойках выпадае жэраб,
Ім лёс — варожачы, свой скон сустрэць.

*1918*

** * **

На радасць жа вазьмі з маіх далоняў
Патрошку сонца і патрошку мёду,
Як загадалі пчолы Персефоны.

Не адвязаць незацуглянай лодкі,
Не ўчуць і ценю, што абуты ў футра,
Страх не адолець у жыцці дрымучым.

Нам застаюцца толькі пацалункі,
Калматыя, як малюсінкі-пчолы,
Што, вылецеўшы з вулею, канаюць.

Шашчаць яны ў празрыстых гушчах ночы,
Радзіма іх — дрымучы лес Тайнема,
І страва іх — час медуніца, мята.

Вазьмі на радасць дзікі мой дарунак —
Сухія незайздросныя каралі
З пчол мёртвых, што вяртаюць мёд у сонца.

*1920*

* * *

Нароўніцу з усімі
Хачу табе служыць,
Ад рэўнасці сухімі
Губамі варажыць.
Не наталяе слова
Мне перасмяглых губ,
Мне без цябе сурова,
Жыццё — настылы зруб.

Больш не раўную сцята,
Ды я хачу цябе
І, як ахвяру кату,
Нясу сябе ў мальбе.
Ні радасць, ні любоў.
На дзікую, чужую
Мне падмянілі кроў.

Міне імгненне лета,
І я скажу табе:
Не радасць, а пакуту
Знаходжу я ў табе.
Твой, як злачынства, зманна
Ісці штурхаю ўброд
Збянтэжана-скусаны,
З вішнёвай ласкай рот.

Вярніся смагай болю,
Мне страшна без цябе,
Яшчэ мацней ніколі
Не падчуваў цябе,
І ўсё, чаго хачу я,
Відаць мне ў харашбе.

Хоць болей не раўную,
Ды я хачу цябе.

*1920*

** * **

Каму зіма — арак і пунш блакітнавокі,
Каму духмянае з карыцаю віно,
Каму каляных зор салёныя зарокі.
У хатку цёплую прынесці заадно

Хоць трошку цёплага курынага памёту
Ды бесталковага авечага цяпла;
Ўсё за жыццё аддам, бо трэба мне турботы,
Сярнічка кволая мяне сагрэць магла б.

Зірні: ў маёй руце адно гарлач гліняны,
І зоры слых слабы казычуць, каб не тух,
Ды жаўцізну травы і дух суглінка цьмяны
Няможна не любіць праз гэты марны пух.

Паціху гладзіць поўсць і варушыць салому,
Як яблыня ўзіму, ў рагожы галадаць,
З бязглуздасцю з чужым дзяліць пяшчоты стому,
Абшарыць пустату, з цярплівасцю чакаць.

Хай змоўшчыкі хутчэй свой спех давераць снегу,
Авечай чарадой шурпак рыпіць на золь,
Каму зіма — палын і горкі дым начлегу,
Каму — крутая соль, высокіх крыўдаў соль.

Каб на даўгім шасце ліхтар узняць някідкі,
З сабакам спераду ісці пад соллю зор
І з пеўнем у збанку прыйсці да варажбіткі.
А белы-белы снег есць вочы, як дакор.

*1922*

** * **

Я цябе ніколі не ўбачу,
Ніцавокае армянскае неба,
І, прыжмурыўшыся, не зірну ўжо
На дарожны шацёр Арарата,

І, прыжмурыўшыся, не зірну ўжо
Ў бібліятэцы аўтараў ганчарных
Чароўнай зямлі пустацелую кнігу,
Па якой вучыліся першыя людзі.

*16 кастрычніка – 5 лістапада 1930*

* * *

Я вярнуўся ў свой горад, знаёмы да слёз,
Да пражылак, малечых прыпухлых залоз.

Ты вярнуўся туды, дык глытай жа здароў
Рыбін тлушч ленінградскіх рачных ліхтароў.

Пазнавай жа хутчэй гэты ў снежні дзянёк,
Дзе злавеснаму дзёгцю ўмяшалі жаўток.

Пецярбург! Не хачу паміраць без пары:
У цябе тэлефонаў маіх нумары.

Пецярбург! Умяне яшчэ ёсць адрасы,
Па якіх я знайду мерцвякоў галасы.

Я на лесвіцы чорнай жыву, і, як ток,
Б’ецца ў скроні мне вырваны з мясам званок.

Для гасцей дарагіх час найлепшы начны,
І дзвярных ланцужкоў варушу кайданы.

*Снежань 1930*

* * *

Мы на кухні пасядзім з табой,
Пахне газа белая журбой.

Востры нож ды хлеба каравай…
Хочаш, прымус пыхкаць прымушай;

Ці тугіх вяровак набяры
Завязаць кашолку да зары,

Каб паспець нам на вакзал у час,
Дзе б ніхто знайсці не здолеў нас.

*Студзень 1931*

* * *

За грымучую доблесць наступных вякоў,
За высокае племя людзей
Я пазбавіўся чары ў застоллі бацькоў,
Гонару, весялосці, надзей.

Уссядае на плечы мне век-ваўкадаў,
Я не воўк па крыві, не вядзьмар:
Запіхай мяне лепей, як шапку, ў рукаў
Футры стэпаў сібірскіх у сквар.

Каб не бачыць ні страху, ні бруду карчы,
Ні касцей у крывавай расе;
Каб блакітныя ззялі пясцы мне ўначы
У сваёй першабытнгай красе.

Адвядзі мяне ў ноч, дзе цячэ Енісей
І да зоркі сасна дастае,
Бо не воўк па крыві я і не ліхадзей
І мяне толькі роўны заб’е.

*17–18 сакавіка 1931, канец 1935*

* * *

Не, мне схову няма ад вялікай муры
За спіну вазакову — Маскву,
Я трамвайная вішанька страшнай пары
І не цямлю, навошта жыву.

Мы с табою паедзем на «А» і на «Б»,
Хто сканае раней, ты зазнач,
А яна то сціскаецца, як верабей,
То расце, як з паветра кухнач.

Паспявае ледзь-ледзь слаць пагрозы з вугла —
Рызыкну на сваю галаву!
У каго пад пальчаткай не хопіць цяпла
Выездзіць усю курву-Маскву.

*Красавік 1931*

** * **

Я п'ю за ваенныя астры, за ўсё, што злічыла хлусня,
За панскае футра, за астму, за жоўць пецярбургскага дня.

За музыку соснаў савойскіх, палёў Елісейскіх бензін,
За ружу ў кабіне рольс-ройса, алей тых парыжскіх карцін.

Я п'ю за біскайскія хвалі, вяршынкі альпійскіх нізін,
За рыжую пыху брытанак, далёкіх калоній хінін.

Я п'ю, ды яшчэ не прыдумаў, бо з двух выбіраю адно:

Вясёлае асці-спумантэ ці папскага замка віно.

*11 красавіка 1931*

** * **

Пусці мяне, аддай мяне, Варонеж:
Ці ўроніш ты мяне, ці правароніш,
Ці вернеш, абароніш, — мне адно ж —
Варонеж — ноч, Варонеж — воран, нож.

*Красавік 1935*

** * **

Гэта якая вуліца?
Вуліца Мальдэштама.
Што за д'яблага прозвішча —
Не дапаможа грозбішча,
Крывіцца ўсё таксама.

Мала было ў ім лінейнага,
Нораву быў не ялейнага,
Вось і таму гэта вуліца,
Ці, дакладней, гэта яма
Так і завецца па імю
Гэтага Мандэльштама.

*Красавік 1935*

** * **

Я ў сэрцы веку — шлях няясны,
Час аддаляе мэту міль:
І посаха прысталы ясень,
І медзі жабракову цвіль.

*14 снежня 1936*

** * **

Яшчэ ты не памёр, яшчэ ты не адзін,
Пакуль з жабрачкаю-надзеяй
Ты цешышся і веліччу раўнін,
Імглой, і золлю, і завеяй.

У шумнай беднасці, ў жабрацкай цішыні
Жыві спакойны, як дарадца,
Багаславёныя ўсе ночы, дні
І з голасам салодкім праца.

Няшчасны той, каго, як цень яго ж,
Пужае брэх і вецер носіць,
І бедны той, хто ледзь жывы, а ўсё ж
У ценя міласціну просіць.

*15–16 студзеня 1937*

** * **

Узброены вачамі вузкіх вос,
Што смокчуць вось зямную, вось зямную.
Я чую ўсё, што даў мне ўбачыць лёс,
І свой на памяць успамін марную.

І не малюю я, і не пяю,
І не ваджу смычком чорнагалосым:
Адно ў жыццё ўпіваюся й люблю
Зайздросціць дужа дужым хітрым восам.

О, каб як-небудзь і мяне магло
Прымусіць — сон і смерць міну я —

Паветра вострае і летняе цяпло
Паслухаць вось зямную, вось зямную.

*8 лютага 1937*

* * *

Як срэбра панавітае гарыць,
Што з вокісам, дамешкай бой суровы
Вяло. І праца ціха серабрыць
Жалезны плуг і голас песняровы.

*Пачатак 1937*

* * *

І Шуберт[1] на вадзе, і Моцарт[2] ля абрыва,
І Гётэ[3], свішчучы, дзе сцежка ўсмешкі ўе,
І Гамлет[4], думаючы крокамі пужліва,
Лічылі пульс юрмы і верылі ў яе.

А мо раней ад губ зрадзіўся шэпту клопат,
І лісце кленчыла бяздрэвавай зямлі,
І ўсе, каму мы прысвячаем вопыт,
Да вопыту ўжо рысы набылі.

*Лістапад 1933 — студзень 1934*

Булат Акуджава[5]

## *Шчасліўчык*

Аляксандру Сяргеевічу лацвей!
Яму хараша!
Гудзе млын, пяе салавей,

---

[1] Шуберт Франц (1797–1828), аўстрыйскі кампазітар.
[2] Моцарт Вольфганг Амадэй (1756–1791), аўстрыйскі кампазітар.
[3] Гётэ Іаган Вольфганг (1749–1832), нямецкі пісьменнік.
[4] Гамлет, герой п'есы В. Шэкспіра «Гамлет». *Шэкспір* Вільям (1564–1616), англійскі драматург, паэт.
[5] Акуджава Булат Шалвавіч (1924–1997), рускі паэт, празаік, бард.

згасла горыч,
жмурацца бабы з хацін,
жаліцца жаўранкам поле,
язды тае дзесяць хвілін
да бліжэйшага кірмашу,
не болей.
У рамяства яго добры плён,
і пяру востра…
Губаты, вучоны, як д'ябал, ён,
і ўсё яму проста!
Жыў у Адэсе, ў Крыме,
ў карчму
ездзіў ён у карэце,
грошы ў доўг давалі яму
да самай смерці.
Ціхія, як галубкі,
клопатамі замучаныя
жандары яго радкі
на памяць завучвалі!
Нават цар запрашаў яго ў дом,
жадаючы пры гэтым
памянціць языком
з такім паэтам.
Ён прыгонных жанчын любіў
належным чынам,
і нават забіты быў
прыгожым мужчынам.
Ён ўмеў паперу араць
Пад троскат свечкі!
Яму было за што паміраць
ля Чорнай рэчкі.

*Пераклад 1981*

Эмілі Дзікінсан[1]

* * *

Ільвіцу неба пабачыць летам —
Гэта і значыць
Зрабіцца паэтам.
Паэзія ў кнігах — памерлыя сны.
Сапраўдныя вершы, лятуць яны.

* * *

Як раптам мяне не застане
Госць чырванагруды мой,
На падваконец пасыпце крошак
Памінальных шчодрай рукой.

Як дзякуй свой не скажу я
З халоднае нематы.
Ведайце — дужаю вымавіць
Губамі гранітнай пліты.

* * *

Пурпур двойчы ў модзе бывае:
Як сезону здакучыць рызман
І калі Душа спасцігае
Свой імператарскі стан.

* * *

Новыя ногі топчуць мой сад —
Новыя пальцы флянец песцяць.
На галіне ў сада валацуга спявак
Праганяе самоту песняй.
Новыя дзеці на лузе шумяць.
Новыя косці знайшлі начлег.
І зноў задумлівая вясна,
Зноў пунктуальны снег.

---

[1] Дзікінсан Эмілі Элізабэт (1830–1886), амерыканская паэзса.

* * *

З нас кажа бясслоўна, нібы праз сон,
Пра кожнага кожны адзін.
Секундаў слухаем дзікі гон
І капыты гадзін.

Па тварах нашых застыглых прабег
Вачыма Час і змягчыў пагляд.
З нас кожны свой атрымаў каўчэг,
На свой узышоў Арарат.

* * *

Як неба не адшукаем унізе,
Уверсе не знойдзем і днём з агнём.
Анёл на кожнае вуліцы
Арандуе суседні дом.

*Пераклаў 24 ліпеня–17 жніўня 1996*

Хуан Рамон Хіменес[1]

*Вершнік*

Даль фіялкамі сагрэта!
Сцежкай, вечарам прыспанай,
Едзе вершнік — ён паэта…
Даль фіялкамі сагрэта!

Пахне мокрай асакою,
І прыносіць пошапт рэчкі
Подых свежасці й спакою…
Пахне мокрай асакою…

Едзе вершнік — ён паэта…
Даль фіялкамі сагрэта!

Сэрца падае ўтрапёна,
А нібыта самавіты

[1] Хіменес Хуан Рамон (1881–1958), іспанскі паэт. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі (1956).

Плюшч абвіў яго зялёна…
Сэрца падае ўтрапёна…

Едзе вершнік — ён паэта…
Даль фіялкамі сагрэта!

Ён залоціць думкай бераг…
Сонца робіцца ягонай
Мрояй у хмурынах шэрых…
Ён залоціць думкай бераг…

Даль фіялкамі сагрэта!
Сцежкай, вечарам прыспанай,
Едзе вершнік — ён паэта…
Даль фіялкамі сагрэта!

## *Мёртвыя дрэвы*

Вазы ўжо адсюль далёка…
(Пра гэта казалі сасоннік,
і вецер, і залатая поўня,
і рэха, і дым — бяссоннік…)
Вазы адыходзяць у вечар
пад ценяў самотных спевы.
Журботна нясуць вазы,
нібыта нябожчыкаў, дрэвы.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў знямозе!

Пад позіркам першай зоркі
валы йдуць, мроячы лена,
брыдуць да цёплай стадолы,
дзе пахне й маці і сена.
Ідуць вазакі за вазамі,
стамляюць свой крок ахвочы,
і шост на плячы трымаюць,
і поўняць нябёсамі вочы.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў знямозе.

Ідуць па спакоі долу,
а мёртвые дрэвы ў страху
пакідаюць след голага сэрца

і след звечарэлага паху.
І свежы анёл на старое
пасельбішча ніспадае,
і на астылых лядах
магільніка дух пакідае.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў знямозе!

## *Аблокі*

Нябёсаў снегапад — як ветах весніх дзён.
Аднойчы ўбачыў я лагодную даліну,
нібыта першы снег сваю прынёс даніну,
і гэты белы сон был болей, чымся сон.

Пасланнем да мяне ты вернешся ўдагон
з апошняй белізной, каб замаліць правіну.
Прачнуўся двойчы я для сумнага ўспаміну,
ці ў сне, ці ў бессані з табою зводіў кон.

Святло тваёй душі блукае самапасам,
ад досвітку твайго ўцякае мга начная.
Разбуджаны, я не згублюся ў тлумаце.

Я большы за жыццё і адчуваю часам,
нібыта чорны цень мой сон перапыняе,
цень міндалю, які расчулена цвіце.

** * **

Паўсюль залатыя стрэлы
У лета ўпіваюцца люта.
І сум растаў у паветры,
Нібыта ў крыві атрута.
Ідуць святло, краскі, крылы,
Кудысьці іх кліча пакора.
О, сумнае развітанне!
І сэрца ўцякае ў мора.
І сутаргі й слёзы, дзе вы,
Куды вас вядзе дарога?
Усё ва ўсяго пытае.
Ніхто не адкажа нічога.

* * *

Салодкая стома долу,
і глухнуць вечара крокі,
чуваць з лугоў недалёкіх
пах сена такі адзінокі.
Сасоннікі спяць казытліва,
пчала прыхавала джала,
неба над валатоўкай
пяшчотна-фіялкавым стала.
Ступаю за спевам следам,
Спаткаў яго на сцяжыне.
Спеў плача, працяты часам,
ідзе ў сляхах па ўспаміне.
Не ведаю, ці па дзіцяці,
ці вечарах, дзе аблокі
асеняцца, спеў галосіць.
Пах сена такі далёкі.

* * *

(…Вільготная чарапіца ў квецені.
Х. Р. Х.)

Душа вясёлых красак пад дажджом
шаптала штосьці.
О, краскі жоўтыя на дахах — вочы чутак,
што як бальзам салодкі разліваюць
потых млосці,
жыцця майго ўпарадкаванага
надзейны смутак!
Пах, як цнатлівы голас той,
што працінае,
як бессэнсоўная ідылія ці як паданне
пад колер суму хатнік, што самоціць
мга лясная
з блакітнымі вачыма, бо яны
прачнулі ранне…
О пах, боль жоўтых красак, дзіва
рэчаў тых часінаў,
якім дажджы сваёй не шкадавалі ласкі.

А сэрца аж дасюль баліць
    ад успамінаў,
нібыта жоўтыя наскрозь яго прабілі краскі…

*****

Малалецтва! Зялёнае поле, званіца,
пальма, шыбаў альтанкі зіхотная казка,
сонца — той матылёк, што не даўся злавіцца
і ў зеніце лунаў, як ружовая ласка.
Сад самотны, дзе ў засені птушка спявала,
брыз ласкавы з матывамі золата й жалю,
ён даходзіў здалёку, як музыка шалу
з той арэны, дзе спрэчку быкі вырашалі.
Безыменнай няўдачы спазнаўшы гаркоту,
я, малы салавейка, любіў несціхана
адвячорка шаўковую цішу й пяшчоту,
і дыханне маўчання, і голас фантана.

*Ноч*

Спаць — як ступіць на мост настрою
ракі часін, дзе спіць імша.
А пад мастом, нібыта мроя,
цячэ вада, цячэ душа.

Рубоко Шо[1]

*Пералётныя рукі*

*****

Чарада апошняя
Адляцела ў знямозе.
Крумкач учарнеў з дакукі.

[1] Рубоко Шо (980–1020?), японскі паэт. З кн.: Рубоко Шо. Эротические танки. М., 1991. Пер. з стараяпонскай Пітэра Энгра.

Апусціліся на каго у дарозе
Тваe пералётныя рукі?

***

Цябе сярод акацый чакаў.
Уздрыгваў, шчодры на лёсткі,
Пры кожным шоргаце, як падлетак.
Падаюць зноўку пялёсткі
Бялюткіх кветак.

* * *

У тэпціках лёгкіх
Да мяне ты прыбегла.
Дождж з начы яшчэ спіць.
Брамка з галінак нягегла
Рыпіць і рыпіць…

* * *

Ты сябе аддаеш,
Не вагаючыся ні хвіліны.
Кладзешся смела.
Як птушка з галіны,
Сукенка зляцела.

* * *

Ты крыкнула,
Не ўпершыню
Знайшоўшы рукой жазло.
І зноў цішыню
Убакі павяло.

* * *

Ты п’яная на ўзложжы
Разняволілася ад лагоды.
Жомчуг на грудзях перабіраеш дрыготка.

І дня не ўяўляеш без насалоды.
Цела тваё, быццам котка.

** **

Малютка з квартала Сімаці,
Хто табе даў найменне й шал?
Нашто так умела
Губамі лашчыш карал?
Усё ўва мне затрымцела.

** **

О, двойца начных матылькоў
Стамілася да нематы.
Кветкі хагі гарэць дакорам.
Разам з апраткаю ты
Скінула сорам.

** **

Набрыняла барвянае неба
Навальніцай вясны наўкол.
Ластаўкі круг закруглілі пашанай.
Ах, як цяжэе нефрытавы ствол
У пальцах каханай.

*Верасень 1997*

Мао Цзэдун[1]

** **

Плывуць аблокі.
Як снег яны.
Плывуць аблокі
Ў далёкі край.

[1] Мао Цзэдун (1893–1976), кітайскі палітычны і дзяржаўны дзеяч. У 1943–1976 гг. старшыня ЦК КПК.

І калі мы не дойдзем
Да Вялікай кітайскай сцяны,
Значыцца, недастаткова
Мы любім Кітай…

*[24 ліпеня] 2013*

## *Яўрэйскі заклён*
(Пераклад-апрацоўка)

У чорным моры чорны камень маўчыць.
У горле вароніным костка тырчыць.
Паганая свечка з сала свінога.
Для праведнікаў сінагога.
Ляціць Гурмізах на перапудзе,
Дзе не стаялі ніколі людзі,
Дзе не пасвілася вясёла жывёла,
Дзе ўся з жалеза зямля наўкола,
Дзе неба з медзі на сто зямель,
Ратуй мяне, Зедыкіэль.
Ацалі мяне, Тафтыёф'ях.
Бог праўдзівы, прымі мой страх.
Душа мая ў тваёй правіцы.
Хай мне ўсё існае бачыцца й сніцца,
Як аб сустрэчы з табой напамін.
Амін.

*Люты, 1997*

## *Цыганскі лёс*
Пераклады-пераспевы
цыганскіх песень

** * **

Два-тры сонца дай мне, Божа,
Два-тры дай дажджы, Магута,
Каб растаў на схіле снег,
Каб я свой шацёр прыгожа
Мог паставіць,

Каб пачута
Сон прыходзіў на начлег.

Каб нарэзаў тры-чатыры
Грабянцы не ад раскошы
І прадаць усё паспеў.
Памажы мне, Божа шчыры,
Новыя ўкішэніць грошы,
Бо старыя я праеў.

* * *

Ля дунайскай сярэдзіны
Жонка сэрца звярэдзіла,
Густа косы распушыла,
Слязьмі вочы прытушыла.
Плача, бедная, таму ж,
Што памёр каханы муж,
У слязах плыве, нябога,
Дзе б знасці сабе другога?

* * *

Гара ўнізе, гара ўверсе,
Яшчэ ўнізе горка.
Хлопец коні вараных
Мые халадзёнкай.

Каля студні маладая
Праходзіць дзяўчына.
— Дай, дзяўчына,
Дай вады мне, —
Кажа ёй хлапчына.

— Слугаваць такі не стану
Я табе як мужу.
Сам цягні ваду са студні
А глыбокай дужа.

— Не хачу вады са студні,
З рук тваіх хачу я.
Заўтра слаць сватоў гатой я
Сватаць маладую!

* * *

Хай дасць мне Божа добрую ноч,
Прывёў дадому я прыгажуху.
Ды не таму, што кахаю, прывёў,
Раней быў бедны ды слухаў скруху.

Ой, як мне, мама,
Дзвюх жонак мець,
Ад радасці, як ад бяды, ачомацца?
Адну варажыць у вёску пашлю,
З другой віно буду піць у карчомцы.

Прывучаны коні, мама, мае —
Лягчэй галодныя носяць збрую,
Спыняюцца каля кожнай карчмы,
Пакуль жа п’ю я кварту-другую.

* * *

— Хто такі, прызнайся, Мімі,
Быў пад вокнамі тваімі?
— Не каханак-шэвела,
Гэта кошачка была.
— Лепей, жонка, не брашы.
Кошачка ў капелюшы?
Зараз лопну ад смяхоты —
На нагах у кошкі боты?
— Не чашы мне пугай спінку.
Каб я высыхла ў лісцінку,
Каб не бачыла святла,
Гэта кошачка была!
Муж мой, ці ж мая віна,
Што ў цябе я не адна![1]

* * *

Сядзіць мядзведзь на ланцугу,
Глядзець, мой бацька, не магу
Я на галоднага актора.

[1] Гл.: Цыганскі лёс: — Хто такі, прызнайся, Мімі... (2.05.96) // Лепей: Рукапісы 1952–2013. С. 37.

Апошні раз ён еў учора.
Ці, бацька, дай яму харчы,
Ці дай ад голаду ўцячы!

** * **

— Ад голаду я сёння млею,
Адно што сербануў алею,
Ды ў ім каб пах цыбулі той.
Без жонкі стаў я сіратой.

— Ад голаду мне блага стала,
Адно што супу паспытала.
Без солі суп не есца дужа.
Асірацела я без мужа.

** * **

Запрасілі на вяселле,
нумай шчэ, нумай шчэ.
І пілі, і перац елі,
і яшчэ, і яшчэ.

Перац сох на жэрдках смагла,
нумай шчэ, нумай шчэ.
У гаршчэчках бульба смягла,
і яшчэ, і яшчэ.

Покуль еў я скварку й кашу,
нумай шчэ, нумай шчэ.
Дзюрка звёў дзяўчыну нашу,
і ўцячэ, і ўцячэ!

*1–2 мая 1996*

## *Латышскія дайны*

** * **

Я гляджу на сонейка,
Як на сваю мамку:
Цёплае й цудоўнае,
Толькі што не мовіць.

** * **

Дзеўкі за ракой пяюць,
Я за туманом не бачу,
Шапку зняў, каб разагнаць
За ракой туман густы.

** * **

Мамцы шчыра дзякую,
Што дае мне піць і есці;
За адно я крыўду маю:
Хлопца не дае ў пасцель.

** * **

Ну, ну, ну, псік, псік, псік!
Маці я паскарджуся:
Што шукаюць гэты хлопцы
У мяне за пазухай?

** * **

Ай, Божанька, Божанька,
У мяне, як рожкі, цыцкі.
Я магу хлапцоў суседніх
Цыцкамі пазабасці.

** * **

Хлопец, памажы спяваць,
Песню скласці памажы:
Я з табою гэтак лягу —
Не прасочыца вада.

** * **

Хто сказаў — сказаў няпраўду,
Што ўдваіх спаць цёпла з хлопцам.
Спала я мінулай ноччу,
У мяне спіна азябла.

** * **

Мяне хлопцы запрашалі
Пад кажух, як печка, цёплы;
Не пайду, я не дурная,
З імі там мне сну не бачыць.

** * **

Стану проці ветрыка,
Хай спаднічку падымае,
Хай у вёсцы хлопцы ўбачаць,
На які тавар багата!

** * **

Нашы хлопцы — мацакі:
Камара ўпяцёх прыціснуць,
А ўпяціх не будзе сілы
Дзеўку прываліць да сценкі.

* * *

Дзякуй я кажу матулі
За красу, а больш за тое,
Да чаго так хлопцы ліпнуць,
Як да цёплай булкі з мёдам.

* * *

Не пыхліўка, не гняўліўка,
Ах, якая ты красуня!
Гузікаў не стала ў портках,
Толькі на цябе зірнуў.

* * *

Дзецюку надоечы
Я давала стоячы.
Ці ж з-за дробязі такой
На зямлі ляжаць сырой?

* * *

Пяць гадоў я добра спала
У хлапца пад кажухом.
Гэтулькі б яшчэ праспала,
Каб не ведала матуля.
Хай язык адсохне ў тога
Парабка, што ўсё разлахаў!

* * *

Я не сплю без дзяўчат,
Без вавёрчынага футра.
Мне ў сяле растут дзяўчаты,
Шустрыя вавёркі — ў лесе.

*****

Малаціце ў два цапы
І за двух мяліце пыцель;
Мой і цэп, і млён заняты —
Малачу й мялю з дзяўчынай.

*****

Галасней крычыце, людзі,
Воўк дзярэ маю жаробку;
Сам крычаць не маю часу,
Я раблю з дзяўчынай тое ж.

*****

Во табе пярсцёнак мой,
Што праз ноч усю не спала;
Як не скажаш маці, заўтра
Дам другі за ноч другую.

*****

Маці аддае дачушку
І дае свінню ўпрыдачу.
Дзякуй, добрая скацінка,
Мне дачка не да спадобы.

*****

Божа, што я нарабіў —
Маладую жонку ўзяў!
Што рабіць у ложку, скеміў,
Хлеб як зарабіць, не ўцямлю!

* * *

Хлопцы, дзевак беручы,
Цыцку кожную праверце;
Брат глядзеў мой адным вокам —
Дзеўку ўзяў з адною цыцкай.

* * *

А святліца жаніхова,
Як гнядздзечка жаўрукова;
Дзе мне смела павярнуцца —
Гэтакай капешцы сена?

* * *

Ты не плач, мая дачушка,
За старога ідучы.
Будзеш спаць на барадзе,
Быццам на падушцы.

* * *

Весялее днём і ноччу,
Маладзенькая мая.
Днём вясёла за работай,
За люботаю ўначы.

* * *

Мужычок мой добры ўсім,
Волю мне ў вусім даваў,
Волю не даваў у ложку
Адварочвацца спіною.

* * *

Жонка важная ў мяне,
Хоць штаноў пашыць не ўмела,
Ды глядзець затое ўмела,
Што ў кішэнях у штанах.

* * *

Клопат з белаю кабылкай,
Клопат з жонкаю красуняй:
Бела трэба мыць кабылку,
Пільна вартаваць красуню.

* * *

Ай, мой муж, мой гаспадар,
Тузаемся са скацінай:
Быў сабака, была кошка,
Яшчэ трэба цвыркунок.

* * *

Са сваёю нарачонай
Разам пасвім на начлезе:
Побач коней спуталі,
Разам самі спалі.

* * *

Дзякуй Госпаду за ласку,
Шчодрым быць дазволіў лету:
Наліліся, пацяжэлі
І ячмень, і жыта, й жонка.

** * **

Мне як божы дзень вядома —
Супраць двух устояць цяжка:
І ячмень, і хмель сп’янелі,
Так і валяць з ног удвох.

** * **

Край чужы —
І ўсё за грошы,
Грошы за авёс для коней,
І яшчэ за мазь для колаў,
За дзяўчат для дзецюкоў.

** * **

Мне гарэлкі, мне шамбэркі,
Не магу напіцца півам!
Дзеўку, дзеўку маладую
Спаць я не магу адзін!

** * **

Каб было ў мяне ў двары
Возера гарэліцы,
На сярэдзіне б я плаваў,
Як маленькі акунёк.

** * **

Я напіўся, як той воўк,
Паваліўся ў лазняку,
Мне каптан сабакі з’елі,
Толькі гузікі ўцалелі;
Не зцалелі б гузікі,
Каб не спаў я тварам долу.

** * **

І даўно б памерла я,
Каб гарэлкі не было,
Толькі паміраць збяруся,
Як мяне гарэлка лечыць.

** * **

Вы — добрыя людзі,
І мы таксама,
Давайце ж адно з адным
Пасварымся ў дым.

** * **

Калі клікаў пан, дык слаў
Парабка ці парабчанку;
Калі Божанька паклікаў,
Давядзецца йсці самому.

** * **

Вы на ўзбочыне мяне
Пахавайце, коладзея;
Кола, коцячыся, скажа:
«Тут мой майстар моцна спіць!»

** * **

Ты падзенешся куды,
Божа, як мы ўсе памром?
Ні ў цябе дзяцей, ні жонкі,
Хто ж старому хлеба дасць?

*Пераклаў 23 красавіка 1995*

** * **

Ягнятка замак будуе, скачучы,
Каза камяні цягае, плачучы.

*10 верасня 2011*

## Пястачкі...

*1955*

* Заінеўшыя дрэвы стаяць, як быццам мастак абмачыў свае пэндзлі ў дарагія бялілы. На хвіліну паставіў гэты пэндзлік і думае, якую карціну намаляваць. У творчай задуме…

* Зіма выцірае белым рукавом мяцеліц шыбы вокан-азёр. Быццам хлеба луста, усыпана густа неба соллю зор. Манетай згубленай срэбнай месяц на небе блішчыць. Карпаты гурбаў снегавых. Заінеўшыя дрэвы, як дзяды з сівымі брывамі.

* Думка мільганула падаючай зоркай. Размова цячэ непрыкметна, як час.

* Каўбасы, бы камеры аўтамашын, паважна ляжаць на стале (горамі ляжаць).

* Усмешка пуглівай птушкай прытаілася на губах: вось-вось пархне. Сэрца, як люстэрка, шмат вобразаў адбівае, ды ні адзін не запаў.

* Зіма. Почка бэзу. Маленькая, стойка выносіць холад. Ды прыйдзе вясна, і з гэтай почкі разрасцецца вялікі пахучы букет. Так у каханні. Няяснае спачатку пачуццё разрастаецца ў буру.

* Пры прывітанні дае руку з такім выглядам і так, бы дае патрымаць дыск сонца.

* Кожны жарт-досціп у яго вастрэй за восці.

* Паўпрэды-жаўрукі ў палях вясну апавясцілі. Нават пыл вясновы нам прыемны — як веснік вясны.

* Вясной зямля, як маладая маці. Грудзі набрынялі сокам-малаком, які ўспоіць расліны, кветкі, маладыя пабегі.

* Начальнік курыць пад аб’явай «Не курыць!».

* Не верыцца, што гэткі фрукт на гародзе савецкім вырас. Чых начальства для яго вялікае свята: можна сказаць «Будзьце здаровы». Бо як казалі: ён ў гэтай справе сабаку з’еў і сучкай закусіў.

* Усмешка па графіку, і тая стандартная, як даведка.

* Нагрувашчана вобразаў, нібы камення.

* З выглядам важным, як слухач, які ў музыцы ні грама не разумее, хлопае і сур'ёзна глядзіць з разумным выразам.

* А вакол для каханак сваіх салаўі серэнады спяваюць. А вішні, быццам маладухі, у белі-квецені стаяць.

* — Раскажыце пісьмо Энгельса[1] к М. Гарднеру.

— Чужых пісем не чытаю і Вам не раю.

* Хаця перад табою кожны раз «Капітал»[2], ды ў кішэні няма капейкі. Тысячы здаем [на занятках па англійскай мове].

* Зязюля кукуе. У кішэні ні рубля, ні капейкі. Прыехаў на возера, назад трэ зайцам. Ды нічога, што не звініць. Здаў на стыпендыю, ды плюс на павышаную. Хоць цяпер не звініць, затое потым палучыш.

* Перад абаронай доктарскай «Кропка з коскай у Гамера».

* Луг задыміўся сырадоем. Вецер, бы хлопчык капрызны дзьме ў чашку з чаем і расплёсквае яго, дзьме на гладзь возера.

* Дзетак, бы ў лузе кветак.

* [Дождж. Дзяўчына:]

— Змокну.

— Лілея ў расе шчэ прыгажэйшая…

* Сядзіць кляшчом на шыі маці. Маршчыны на твары. Бы там праехаў з развароатмі канавакапальнік.

* Чых гучны, бы стрэл з ружжа у пустым памяшканні.

* Уранку восень пастрашыць, што здае пазіцыі зіме (іней), а ўдзень адпусціць. Зноў сонца.

* Жанчына падобна на адуванчык. Пышны, пакуль малады. Пастарэў — асыпаўся.

* Хмары. Прырода прабуе фарбы. Якую падабраць, каб намаляваць карціну жыцця?

* Журналіст здымаў з кніжкамі. Нарэшце, свінарку са свіннямі. Шкада, што няма фотаздымкаў з лазні, а то б і пад душам герой трымаў кнігі (ці чытаў).

* «Гэта добра шчэ, што смяюцца. Вось я там як пашыў, дык усе плачуць».

* Замест «Добро пожаловать» — «Выцірайце ногі!».

* «Кісанька! Зрабі свайму коціку мяў-мяў».

* Вопратка звышсучасная, новая, ды душа ў яго — дапатопная, выкапнёвая (стыляга).

---

[1] Энгельс Фрыдрых (1820–1895), нямецкі філосаф, адзін з тэарэтыкаў камунізму.

[2] «Капітал» — асноўнае даследаванне К. Маркса, у якім ён прааналізаваў эканамічны закон развіцця капіталізма. *Маркс* Карл (1818–1883), нямецкі эканаміст, мысліцель і грамадскі дзеяч, заснавальнік марксізму.

* Новы заводскі гудок прабуе голас у хоры ўсіх гудкоў.
* Труба на сцяне вісіць, як пусты рукаў (разбураны дом).

*1956*

* — Ну як справы?
— Нічога, дзякуй.
— Калі ласка.

* Ужо ягоны першы верш быў узяты ў жалобную рамку.
* Лаўровы ліст добры скрозь: і на грудзях, і на галаве, і ў супе.
* Ён быў настолькі прыдзірлівым стылістам, што нават у пісьмах сваёй каханай падкрэсліваў стыль, памылкі.
* Апускае пісьмо і шэпча, як малітву, губамі. Звярае адрас.
* Вершы такія звонкія, што калі ён іх чытае, трэ было вушы затыкаць.
* Вясна. Ідуць, мо вучаніца, па камнях край тратуара, а хлопец па тратуары йдзе, і плячо ў плячо.
* Усё ён хлопае вушамі, аж дзівіцца, як да гэтых пор не абтрапаліся яны.
* Каханне, гэта грошы з КУД[1], яго трэба вяртаць.
* А дома бэз расцвіў... Везла ў Мінск букет бэзу. Намачвала яго, каб не засох. (А ўспомніў марозную навагоднюю ноч. Пайшлі ў гурбы, падалі, і пацалунак.)
* «Я здаў на павышаную [стыпендыю]», — надпіс на шкілеце.
* Вецер стэпавы так зацалаваў, што губы парэпаліся.
* Кінафільм вельмі сыры: ад пачатку да канца ідзе дождж.
* Трус не толькі героем, а і здраднікам быць не можа.
* Кавыль, бы проставалосая дзяўчына, пераліваецца на сонцы.
* Дождж. У хлопца на вушах вісяць кроплі і ззяюць вясёлкай, вясёлка на вушах.
* «Старажылы-цаліннікі», хоць пражылі яны ўсяго два гады і ўсягонаўсяго размянялі толькі трэці дзясятак.
* «Пад мухай», а што калі «пад сланом»? — задушыць.
* У вагоне. За вакном клён выгарнуў апошнія ванны; хто чытае па карце, дзе Беларусь. Адсталі. Чаі са згушчоным малаком, на грудзях значкі. Сонца іграе на значках цалінніка. Апошнія восеньскія прамяні. Канец.

*1958*

* Прокша[2] хацеў падараваць [палякам] свой тэкст [новага польскага гімна]!

---

[1] КУД — каса ўзаемнай дапамогі.
[2] Прокша Леанід Януаравіч (1912–1994), беларускі пісьменнік, журналіст.

* Спрэчка па-кітайску абазначаецца іерогліфам — дзве жанчыны пад адным дахам.

*1964*

* Ілья Гурскі[1]: «Узяць таго самага Талстога, і ў яго ёсць свае істотныя недахопы, дліннοты». Бачыў бранявік (з якога выступаў Ленін) і быццам бы нікога не заклаў.

* [Рыгор Барадулін] хацеў падацца [на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве]. Адказ быў: «Хопіць разумнікаў» [пасля Караткевіча]. Рэзалюцыя Лапцева[2]. Можа, [яшчэ ўспомніў], як Ваданосаў[3] здаваў «Меднага конніка»[4]?

* Інтэрв'ю з роднай мовай для ўнукаў, ведай: дзядоўнік татарнікам [называлі], шашаля — шведам.

*1965*

* Дзявочыя прыколкі на падлозе ў хаце, дзеці Хао[5], як ігліца з апалай красы. Наадварот: у бары хваінкі, як прыколкі-невідзімкі.

* Фама[6] пераклаў у «Арараце» [афіцыянцы]: «Длинных Вам лет и долгой жизни».

* Зыбаўка (бруі), цёмна-сіні, з адлівам, месяц. Гавань, б'юцца ў бераг трэскі, скрынкі, кавалкі фанеры, дзіцячы мячык; пах мора, агеньчыкі ажываюць на мачтах.

* Уладзівасток — горад сакрэтны: ні ў кога не спытаеш, куды й як прайсці, нідзе няма шыльдаў прыпынкаў трамваяў, праўда, рыба ў горадзе толькі на шыльдах.

Галькай высланы трамвайны шлях, буйнай, адшліфаванай. Прыбой выбівае гальку адшліфаваную, як старажытныя манеты, конская падкова нават. Пагода, як тая жанчына гуляшчая, сёння з адным, а заўтра — з другім. Пасля дажджу ласкавеюць сопкі, зялёныя.

Ад вераснёўскага сонца зажмурыўся смуглявы Уладзівасток. Усе тайфуны [называюць] жаночымі імёнамі (Джэні, Кармэн і г. д., Роза).

* Чалавек на свет прыходзіць улегцы, пераязджае ў новую кватэру — шмат барахла, скрынак, а хаваюць — адной скрынкі хапае.

---

[1] Гурскі Ілья Данілавіч (1899–1972), беларускі празаік, драматург. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР (1969).

[2] Лапцеў Юрый Грыгор'евіч (1903–1984), рускі пісьменнік, драматург, журналіст, акцёр; дэкан Вышэйшых літаратурных курсаў імя М. Горкага (Масква).

[3] Ваданосаў Мікола (Мікалай Міхайлавіч; 1923–2006), беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1982).

[4] Паэма А. Пушкіна.

[5] Хаўхлянцаў Мікалай Іванавіч (н. 1926), беларускі хормайстар.

[6] Сяброўская мянушка У. Караткевіча.

* Адказная за плёткі ў пад’ездзе.

* Першы сняжок, чарнеюць абляцелыя лістоўніцы і бярозы, як з белай кудзелі зіма пачала прасці першыя ніткі для белай світкі.

*1966*

* Спяшаецца, як удава ў пасцель (грэчаская пагаворка).

* Хваля за хваляй, як народы, і намываюць крупінкі пяску, зрэдчас бурштын.

* У марскіх вершах шмат вады, а солі мала.

*1967*

* Фота 60-х гадоў Ахматавай — адзін да аднаго маці Караткевіча. Падарыў [фота, зробленае ім самім] Павел Кабзарэўскі[1].

*1972*

* Да партрэта Фамы у «Каралішчавічах»[2]: снег — вуголле ля прысад, аблачынка з роту з брэхам у сабак, дубовую галінку нясе, як паліцу.

*1973*

* Ясеніну косак ставіць не было часу. На гэта будуць даследчыкі.

* Кумка мая, сядзем пагаворым аб людзях, а людцы аб нас даўно гавораць.

* У цябе на шыш-мыш ідзе на фінці-мінці.

*1974*

* У Рубяжэвічах на дзвярах касцёла: «Ціха! Бог блізка!»

*1975*

* На плячах сельскай гаспадаркі андарак у палоску меж быльняговых.

*1976*

* [Пажаданне:] Навіна ў рот, здароўе ў жывот, мядзведжая сіла, зайцаў хвост (і тры разы лыжкай па ілбе).

* Багаты ці будзе, а жанаты будзе.

* Дамы абраслі металічным інеем антэн.

* Спаў трывожна, як анёл з запасным крылом.

* Чалавек стараецца датуль, пакуль не зложыць капытоў.

* Напрымяраўся сукенак, калі мама шыла, сам быў даўгалыгі.

[1] Кабзарэўскі Павел Сямёнавіч (сапр. Гардон Фавій Залманавіч; 1909–1970), рускі пісьменнік, перакладчык.

[2] Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў.

* Вершы трэба пісаць натуральна, як дыхаць. Але дыханне, як гаварыць у спорце, павінна быць добра пастаўленае, адтрэніраванае да канца.

* Калі Віталь Вольскі[1] ехаў у Ташкент, запытаўся ў Янкі Купалы: што перадаць Якубу Коласу. Янка Купала адказаў: «Скажы, што ён вялікі дурань». (У «Каралішчавічах» В. Вольскі казаў: «Крапіва — рука на горле ў Броўкі».)

*1977*

* Дружба паміж прызнаным майстрам і маладзейшым можа быць тады ўзаемашчырай і раўнапраўнай, калі старэйшы прызнае маладзейшага і паважае ў ім майстра.

* Ліпеньскі град выскачыў. Вада раўчукамі па асфальце, як праз апошні адліжны снег. Чорна-белая графіка асфальту.

* Дзве качкі лятуць на ўзроўні 9-га паверха рэдакцыі збору твораў, у збор твораў апошніх галасоў птушыных.

* Размова двух рабацяг ў тралейбусе: «Ішоў чмыхнуць да Каленчыка. Сустрэліся Няхайчык і Кузура…» — (нацыянальны склад).

*1978*

* Я сам, як пясочны гадзіннік. Пасля апошняя пясчынка роднай зямлі высыплецца, настане мая ноч.

* На вяршыні духу і на глыбіню душы.

* Ветракі — пасрэднікі паміж небам і зямлёй. Каб не было — іх выдумалі б (для донкіхоцтва).

* «Не абрастай сябрамі — прададуць», — засцерагаў з упікай Пімен Панчанка[2].

*1980*

* Аб’ява. Студэнтка з музвучылішча: «Згублены кашалёк. Вярніце хоць дакументы і вершы».

* Калмыцкія прыслоўі: чалавек, які сядзіць на вярблюдзе, бліжэй да неба; чым быць малодшым братам дурня, лепей быць парасём.

*1981*

* Кастрычнік, досвітак — восень у неразношаных, схохлых туфлях ідзе па асфальце.

---

[1] Вольскі Віталь (сапр. Зэйдэль-Вольскі Віталій Фрыдрыхавіч; 1901–1988), беларускі драматург, літаратуразнавец, нарысіст. Кандыдат філалагічных навук. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1971).

[2] Панчанка Пімен Емяльянавіч (1917–1995), беларусі паэт, перакладчык, крытык. Народны паэт БССР (1973). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1967), Дзяржаўнай прэміі СССР (1981).

*1982*

* «П’яны вам месца ўступіў на чыстай лесвіцы, паўсюль, дык не наступайце на яго, хай адпачне».

* Брыль[1] — народны пісьменнік, Алесь Адамовіч — нядродны.

* Светлячок на далані, як злоўленая зорка, і хоча светлячок возера падпаліць.

* Верлібр, вольны верш — піраміды, складзеныя падагнанымі камянямі без замазкі, без раствору.

* Былі самабытнікі, а засталіся саматужнікі. Рука Масквы.

* Не перакладваць на спіну перакладчыка цяжкасці ўласных агрэхаў.

* Робатам не трэба графа нацыянальнасць, перакладаць лёгка, а фальклор [цяжка].

*1983*

* Няўжо такая дэбільная нацыя, што дзве мовы?

* Пра дрэва лепей сказалі горцы, у якіх лес знік.

* ! Па адносінах да фальклору [вызначаецца] паэт, што бярэ з яго!

* У 50-я гады і ў канцы 50-х канцоўка верша, як табурэцік для павешанага. Выбіваецца з-пад ног — і чытач баўтаецца ў пятлі.

* Цюльпаны заспаныя сціснулі пялёсткі, як пальцы ў праваслаўным кшчэнні.

* Пімен Панчанка званіў наконт літкіраўнікоў нашых. Фраза: «Трэба, каб была *душэўная далікатнасць*».

*1985*

* А. Рэвіч[2]: «Слова адказвае само за сябе без цвікоў, без накатанага рытму. Слова, сказанае праз зубы, больш уражвае (так у скандынаваў)».

* Выдавец папярэджвае, што чытанне вершаў зборніка шкодзіць вашаму здароўю.

*1988*

* В. Быкаў: «Усё ў жыцці смешна звязана. Антырэжымнікі, апазіцыя ўскосна працуе на КГБ, на іхнія зоркі на пагонах, на прэміі. Бо трэба ж справаздачы, дзейнасць».

* Калі б тое, што мёртвым, казалі жывым, даўжэй бы пражылі, відаць.

---

[1] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006), беларускі празаік, крытык, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАНБ (1994). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982).

[2] Рэвіч Аляксандр (сапр. Шэндэровіч Рафаэль Міхайлавіч; 1921–2012), рускі паэт, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РФ (1999).

*1989*

* Сямейны падрад. Мы ўсе, зямляне, маем адзіны сямейны падрад перад Зямлёй, з малой і вялікай літары. А мы па-барбарску нішчым усё.

* [Зямляк:] «У бальніцы не да маладзіцы, а на волі дзяўчат даволі».

* За адну АЭС — А. С. Пушкін.

*1990*

* На Быкаве столькі трымаецца ў нас, пачынаючы ад імя Беларусі, канчаючы яе сумленнем, інтэлектам.

* Хацелі б мы таго ці не хацелі, а ў нас як у паэтаў ёсць адсотка сінтэтыкі (у каго большая, а ў каго меншая). А ў паэтаў ранейшых, якія перад намі былі, на сто адсоткаў воўна ці кужаль.

* Галоўнае, каб праз белы верш чырвонай ніткай праходзіла думка.

* І лес няроўны, і людзі няроўныя…

* Каб стаць класікам, трэба памерці.

*1992*

* Май. Самед Вургун[1] (сказаў Багіраву[2]): «Гэй ты, чорны хам». Багіраў: «Асобную камеру з відам на двор. Добрай ночы, дарагі».

* Пяяць, апяваць, адпяваць. Без песні няма ні хрэсьбін, ні застолля, ні хаўтураў. Песня — жаўранак у блакіце душы людское. Жыццё такое, што заўсягды ёсць што апяваць, што адпяваць. Але будзьма болей пяяць, бо як казалі ў нас на Ушаччыне: якая песня ды не песня, а ўсё ж лепшая за зваду. Пакінем сабе песню, ворагам — зваду.

* Цікавая заканамернасць, ці што, — хто галасней за ўсіх славіў Сталіна, пасля яшчэ мацней Леніна, партыю, сталі такімі дэмакратамі, антыпартыйцамі.

* Літаратуру [успрымаюць] як прыслугу з добрымі манерамі, адпаведна плоцячы. Цяпер ні гаспадара, ні прыслугі. Рынак.

* 92-гі год, вазілі ліцэістаў у Гданьск, жылі ў камунах, што невядомы край побач такога. [Пра Беларусь казалі, нібыта] 1400 танкаў на мяжы Украіны і Літвы і flot у Кабыльніках (вёска каля Нарачы), Польшчу акупаваць, які хутка польскі [флот] захопіць.

*1993*

* Нарадзіўся ў канюшні — пах не адмыеш.

* У трамваі: «Абухом як упя́рыў, усё размажджэрыў у лісе́ пад ліст!»

---

[1] Вургун Самед (сапр. Векілаў Самед Юсіф аглы; 1906–1956), азербайджанскі паэт, драматург, грамадскі дзеяч. Народны паэт АзССР (1943). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941 1942).

[2] Багіраў Мір Джафар Абасавіч (1895–1956), савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1933–1953 гг. 1-шы сакратар ЦК КП Азербайджана.

* П. Панчанка: «Твой голас падыходзіць да сённяшняга надвор'я». «...калі ігралі Равэля[1]...» (Дужа любіў Равэля.)

* Быў Сярэбраны век расійскае паэзіі, а цяпер пластмасавы. Яркі прадстаўнік Андрэй Вазнясенскі.

* «Стаўпецкае сала, а не стаўбцоўскае, — кажа на Камароўцы маладзіца. — А Стоўбцы — расейскае».

* Бернард Шоу[2] казаў: «Геній робіць тое, што павінен; талент — тое, што можа». Васіль Быкаў і робіць тое, што павінен рабіць ён, што павінны былі б рабіць усе, хто валодае словам, але хоча яшчэ па інерцыі звацца інжынерамі чалавечых душ.

*1994*

* Палка-падпірушка.

* Усе, і ўнукі, носьбіты СНІДу камунізму-сацыялізму. Помнікі Леніна — у кватэру прыходнікаў.

* Дзіўна. Не магу ўспомніць, як ні стараюся ўзгадаць, калі ўпершыню пачуў я голас Булата Акуджавы. Такое ўражанне, што гучыць ён мне, колькі я сябе памятаю.

* Бальшына сучасных эстрадных шлягераў, як жвачка, — жваць і не чуць, жваць і не думаць.

* Як Быкаў ксціцца [натуральна] на дзевяці днях па Алесю Адамовічу.

* В. Быкаў: «Нейкая размазгоціна».

* В. Быкаў: «Не ўдаецца пакарыстацца з гэтай *лацноты*».

* Прысівіць (засівіць) малаком булён (суп).

* Мазгі па патыліцы цякуць (такі разумны).

* Ні села, ні пала — дай, баба, сала.

* Спакойна зношаныя старыя пра смерць гавораць, як пра суседку.

* КПСС — нервовая сістэма.

* В. Быкаў: «Ніл [Гілевіч сцвярджаў], як бы камуністаў не было ў Беларусі».

* В. Быкаў: «Галоўны анекдот веку — камунізм. Каб нацыянальныя вышыванкі замест двубортных касцюмаў — нацыянал-камуністы... Ад літаратуры — актыўнасць».

* Краіна крыжоў, хаткі на крыжах, як шпакоўні, і там укрыжаванні. Паганскія ідалы ўцякалі ў хрысціянскія храмы, мянялі апранахі (манахі).

---

[1] Равэль Марыс (1875–1937), французскі кампазітар.

[2] Шоу Бернард (Джодж Бернард; 1856–1950), англійскі драматург і грамадскі дзеяч.

* Вера Рыч[1] задаецца пытаннем, а што еў Скарына, бульбу ж тады яшчэ ў Еўропу Калумб[2] не завёз. А як беларусу можна вырасці беларусам, калі не есці бульбы? Я накладаю Веры цэлую місу таўчонай.

*Думаецца...*

Пытанняў розных апрыч,
Дзе жмурыла вока хітрына,
Спыталася Вера Рыч:
— А што гэта еў Скарына?

Даследніцкі пільны зыск
Апіша ігрышчы ды гульбы.
Ды ў час, калі жыў Францыск,
Не ведалі й смаку бульбы.

А лёс, быццам сквапны цесць,
Не любіць кідацца кусам.
І той, хто бульбу не есць,
Як можа стаць беларусам?

А што тады прывяло да нас
Яе, раскудлачаную англічанку?
Не ела ж
З-пад стрэх на Вялічка кілбас,
Ані на Дзяды не мачала мачанку.

І па-беларуску картавіць яна.
І хочацца ў захапленні
Да Веры з поўнага стаўбуна
Да бульбы наліць сырапені.

Бо й страва й справа — радня,
Таксама й прымус ласкавы.
У нас калі п'юць,
Дык да дна, да дня, —
У гасцях смаляныя лавы.

---

[1] Рыч Вера (1936–2009), англійская перакладчыца, журналістка, гісторык.
[2] Калумб Хрыстафор (1451–1506), іспанскі мараплавец. У 1492 г. перасек Атлантычны акіян і дасягнуў в. Сан-Сальвадор (афіцыйная дата адкрыцця Амерыкі).

Як бедны на жарты — ў суседа пазыч,
Куму не кліч не ў сваю пярыну.

У гонар бульбы сказаўшы спіч,
Рыч яўна паспачувала Скарыну…

*22 ліпеня 1994*

* Растоўскі рачны вакзал. Рэстаран «Ціхі Дон». Узбярэжжа. Палі жалезныя, да іх прывязваюць параходы. «Механичный завод. А. Д. Пастухов. 1899 г. Ростовъ-на-Дону». На сцяне рэпінскія[1] «Бурлакі [на Волзе]». Грузчыкі нясуць яблыкі. Вакзал пахне яблыкамі. Кавуны. З халоднай стрыманасцю цячэ Дон. Восень. Лісце ясеня. У ларочку паміж шыбай і фіранкай аса. Пагрэцца, і салодкае вабіць.

У растоўскім двары мотакрамка. Хлопец крычыць: «Есть молоко, есть сливки, есть ряженка». Дзеці ўслед крычаць.

Акацыі. Памаладзь. Вечарэе. У вачах цені дрэў і зорка першая. Лісцінкі абляцелыя крыху, як сляды на першапутку. Чуваць, як ходзяць, ступаюць лісты па паляне, — трэск, шоргат.

Балоння на плячах, як неразрэзаныя анёльскія крылы, каб у неба не ўзвілася. Акацыі маладыя, мяккія, а пасля чым старэй, тым больш суровыя калючкі. Пахлі вечарам валасы і падміргвалі зорам грудзі. Смяялася без дай прычыны дзяўчына, нібы ей восень даручыла. Слухаў радыё, смех «таўстушкі». Растоўская газета «таўстушка».

Данскія стэпы. Гусі ў сажалках, стагі. Каровы. Гарчыць касцёр пастушкі. На шыбіне вагона багоўка, прыгрэла сонца.

Узаранае на зіму чарназёмнае поле. Азярынкі ў апошнім асеннім сонцы слепяць. Ляціць сарока. Цягнік хуткі, здаецца, што трымаюць яе за хвост, а яна толькі вучыцца крыллямі махаць.

Чараты. Дуддзеўе сланечніка, як кураняты з адкручанымі галовамі (2-га гатунку з халадзільніка)[2].

*Не вернуцца*

У гайку ля Растова-на-Доне,
Дзе стаілася навісь акацый,
Захінуўшы празрыста ў сутонне,
Нам дазволіла вечнасць спаткацца.

---

[1] Рэпін Ілья Яфімавіч (1844–1930), рускі мастак.

[2] Асобны лісток з тэкстам, без даты. Успамін пра паездку ў Растоў-на-Доне пад час вайсковых збораў у Баку ў якасці ваеннага журналіста. Гл.: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 1. 1951–1969. Мінск: «Кнігазбор», 2015. С. 287.

Блыталіся пагоркі й лагчыны,
Непрытомна пяшчотнілі ўзваллі.
І змаркочаныя аблачыны
У вачах тваіх праплывалі.

Нарастуць арэхі й ляшчыны,
Нагадуюцца ў рэчцы хвалі,
Ды не вернуцца аблачыны,
Што ў вачах тваіх праплывалі…

*27 ліпеня 1994*

* Пісьменнікі былой імперыі, як хатнія каты́, якіх выгналі на халодную вуліцу.

* [У паездцы з В. Быкавым і З. Пазьняком[1] успомнілася Рыгору Іванавічу:] «Галасуйце за блок камуністаў і беспартыйных»! — [гучыць па радыё ў мамінай хаце]. — «За блох!» — сказала мама і вырвала [провад] з разеткі.

* Пагля́дны (вушацкае) — спазорны.

* Каб пазнаць, чым чалавек, што называецца, дыхае, трэба самы просты й дакладны метад: спытаць, як ён ставіцца да Быкава. І адразу зробіцца відаць, па які бок барыкадаў ён стаіць. З Быкава пачалася сталасць нашае літаратуры. З фальклорна-побытавай яна вырасла ў глыбінна духоўную, у еўрапейскую літаратуру. Дарэчы, шмат размоў, як нам увайсці ў еўрапейскую сям'ю. Геаграфічна, ментальна мы еўрапейцы чыстае вады, ці чыстае пробы. Калі гавораць, як увайсці, усё роўна што стоячы ў рацэ, пытацца, як увайсці. А ў літаратуру трэба ўваходзіць так, як Васіль Быкаў, спакойна, з пачуццём уласнае годнасці. Маштабнасць мыслення й выключна беларуская адметнасць. Усё гэта Быкаў. Гэтым ён свой Еўропе, гэтым ён цікавы свету.

* Яўрэі маюць сваю радзіму, сваіх, а мы нічога.

*1995*

* В. Быкаў: «Заўсёды праблематычна гаварыць; а што гаварыць, а трэба гаварыць разумнае».

---

[1] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н. 1944), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, публіцыст, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). У 1976–1996 гг. навук. супрацоўнік Інстытута гісторыі НАНБ. Заснавальнік і старшыня БНФ «Адраджэньне» (1988–1999). У 1990–1995 гг. дэпутат ВС РБ (1990–1995) 12-га склікання.

* А. Кудравец[1] [пажадаў Рыгору Іванавічу на юбілеі]: «Каб чорны коцік сядзеў на плячы й не перабягаў дарогу».

* Жывым іншыя клопаты. [Быкаў] пра мяне.

* На юбілейным вечары кандыдат у нябожчыкі пачуе прыблізна тое, што не зможа ўжо, лежачы на куце, пачуць.

* В. Быкаў: «Азгур[2] нарадзіўся яўрэем, а памёр камуністам»[3].

* Галаваскрутная паэзія.

* В. Быкаў: «Камфортная апазіцыя. Сцягамі акрыць у труне. Тады ў запавеце нашчадкам [… сцяг] ў 1-м экземпляры. Усё, што зарабіў і набыў».

* Нам пагражае не ўрад, а цана слова.

* Нейчы малы: «На вуліцы сорак людзей!»

* Навум Кіслік[4]: «Не ведаю, што для мяне паэзія. Работа была. Мудрэц сказаў: ёсць паэты, якія ведаюць тайну слоў, а ёсць, якія ведаюць тайну быцця. А я магу дабавіць: якія ні таго, ні гэтага не ведаюць. Я дасюль не ведаю, што я пісаў — гэта паэзія ці не. Я не бачыў, не чуў, не чытаў, каб хто мог даць лагічнае тлумачэнне, што такое паэзія, як жыццё — сэнс у жыцці. Так і паэзія, сэнс у паэзіі. А што такое — ніхто не ведае. Я нездаволены напісаным, хоць пісаў я заўсягды са смакам. У мяне ў кнізе ёсць вызначэнне. Дайшоў да старасці і ні хрэна мудрага не знаю».

* Чым далей ад родных мясцінаў час адганяе мяне, тым бліжэй успамінам маім да таго неба, якое глянула на мяне самымі цёплымі й светлымі зоркамі, да тых сцежак, якія вялі ў свет вабны й абыякавы…

* Звонак[5]: «У мяне балон з паветрам у грудзях скончыўся — не магу дыхаць. («Хто за вамі даглядае?») Я ж чалавек калымскі, магу сам абыходзіцца, жыць адзін. У тайзе з мядзведзямі жыў, праўда, яны ў госці да мяне не заходзілі».

* Галалёд. Старая падае і ламае нагу. Тады дворнічыха пачынае збіваць лёд, кленучы на чым свет стаіць тых, хто ламае ногі. Чыста савецкі прадукт.

* В. Быкаў: «Мера — адно з самых важных у мастацтве».

---

[1] Кудравец Анатоль Паўлавіч (1936–2014), беларускі празаік, перакладчык, кінасцэнарыст.

[2] Азгур Заір Ісакавіч (1908–1995), беларускі скульптар. Народны мастак БССР (1944). Народны мастак СССР (1973). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1939). Заслужаны дзеяч мастацтваў Дагестана (1960). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1948).

[3] Гл.: Заір Азгур // Дуліна ад Барадуліна. [Мінск:] Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. С. 154. Думаецца, Рыгор Іванавіч у 2004 г. несвядома пераблытаў вызначэнне В. Быкава 1995 г.

[4] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925–1998), рускі паэт, перакладчык.

[5] Звонак Алесь (сапр. Пётр Барысавіч; 1907–1996), беларускі паэт, крытык, драматург, перакладчык. Быў рэпрэсаваны.

* Я спытаўся ў Быкава:

— Васіль, ты ўсё-ткі пісаў вершы?

Васіль у адказ:

— Вып’ем…

— Дык за што вып’ем?

— За чытача.

* Як гэта ні смешна — з ліквідацыяй пільнасці Галоўліта беларуская паэзія страціла самых уедлівых чытачоў.

* Пра Пімена Панчанку. Арыстакрат і сельскі настаўнік, застольнік і схімнік. Апантанец і сузіральнік, ласкавец, халярун і лагоднік. Спалучэнне: Пімен — песня.

* Даваць інтэрв’ю, адказваць на пытанні. Пісаць пра сябе. У гэтым нешта ёсць да холаду страшнаватае. Пра сябе кажаш, як пра нежывога, як пра нябожчыка.

*1996*

* На хлусні кар’еру робяць, пачынаючы з такіх брахáнак.

* [Магчыма, на гадавіну Чарнобыльскай трагедыі:] «Хоць так Беларусь ведаюць у свеце. А то хто чаго кажа пра Швэйцарыю, Латвію, Аўстрыю».

* Май. Дрэва мёртвае, як корань, на мейсцы спаленае вёскі. Калючы дрот ранняй вясновай дзічкі.

* Хадыка[1] 20 дзён галадаў. Жонку не пусцілі (у СИЗО). Яна на далані напісала: «Юрась, я цябе падтрымліваю. Працягвай».

* «Унукі болей нас разумеюць…» (Л. Геніюш[2]).

* Складаны чалавек — складзены, бо пабіты, паламаны; і расійскае *сложный* — няправільна на нашу мову *складаны.*

*1997*

* Як не ўся савецкая літаратура — лагерны фальклор (з лагера сацыялізма).

* Гароды, дзе магілы нямецкіх салдатаў. Супроць касцёла быў пахаваны нямецкі генерал. На запытанне з Германіі адказалі, што нічога няма.

* «Парыж — пустэльня для бедняка» (Гаген[3]).

* Настаўляе Нарач чаратовы каўнер, бароніцца ад суравею.

* «За вернасць ненавісцю помсціць час…» (Харт Крэй[4]. Hart Crane).

---

[1] Хадыка Юрый Віктаравіч (1938–2016, ЗША), беларускі вучоны-фізік; мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Доктар фізіка-матэматычных навук (1978). Прафесар (1984). Нам. старшыні БНФ (1988–2007). З 2013 г. жыў у ЗША.

[2] Геніюш Ларыса Антонаўна (1910–1983), беларуская паэтэса. Была рэпрэсавана.

[3] Гаген Поль (1848–1903), французскі мастак.

[4] Крэй Харт (1899–1932), амерыканскі паэт.

* Чалавек вялікі й самотны ў сваім нараджэнні, жыцці і ў смерці.

* «Сімвалам справядлівасці ў славянаў лічыўся белы бык-тур» (В. Ластоўскі[1]).

* «… там, дзе паляць кнігі, урэшце паляць людзей» (Г. Гейнэ[2]).

* В. Быкаў: «Ніл [Гілевіч] складаная асоба. Над ім папрацавалі. Калі ствараўся БНФ, ягоны нацыяналізм прайсці мусіў праверку і не прайшоў».

* Канструктыўны нацыяналізм.

* Рыфма: вецер — ведзер!

* Заяўка на грант [Фонда Сораса[3]]: «Цыркуляцыя інфармацыі» (Бабруйск).

* В. Быкаў: «На Ушаччыне больш пяску было, таму ў ракавінах пярлінка. Калі без пясчынак — нармальная ракавіна».

* Ганеба — неба.

* Балты і ў імпэрыі ўсё рабілі на нацыю, а ў нас — на разбурэнне.

* У трамваі. Вадзей: «Жанчына на пярэдняй пляцоўцы, падыміце заднюю нагу!»

* «Паэзія — віно пісьменства», — Карлас Шэрман.

* Почырк паэта. Другая натура ягоная. Характар ягоны, затрыманы на імгненне на паперы.

* Хутка, каб навучыцца гаварыць па-беларуску, давядзецца ехаць за мяжу, у дыяспары.

*1998*

* [Успамін земляка:] «Зямля павінна раджаць, а я ў акопе ляжу…»

* Хатняе віно паэзіі Паўлюка Труса[4] й халодны каньяк Арк. Куляшова[5]. Што каму даспадобы.

* Пушкін пра Міцкевіча[6]: «Які агонь! Які геній! Што я ў параўнанні з ім?»

---

[1] Ластоўскі Вацлаў Юсцінавіч (1883–1938), беларускі крытык, літаратуразнавец, паэт, празаік, публіцыст. Акадэмік АН БССР (1928). Рэпрэсаваны.

[2] Гейнэ Генрых (сапр. імя Харры; 1797–1856), нямецкі паэт, публіцыст, крытык.

[3] Фонд Сораса — міжнародная дабрачынная арганізацыя, заснаваная фінансістам Джорджам Сорасам (н. 1930; ЗША, Вялікабрытанія).

[4] Трус Паўлюк (Павел Адамавіч; 1904–1929), беларускі паэт.

[5] Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч (1914–1978), беларускі паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. Народны паэт БССР (1968). Заслужаны работнік культуры УССР (1973). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946, 1949), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1968), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1970).

[6] Міцкевіч Адам (1798–1855), польскі паэт.

*1999*

* У Італіі [1981] перакладчыца [Джаванна Шпендэль]: «Чаму Васіль Быкаў піша такія сумныя творы?»

* Некалі ў Яшы[1] эўфедрын купіў для Васіля, газеты напісалі: «Быкаў марфініст».

* Валянціна Уладзіміраўна Быкава: «Шлёпаюць гразь на Васіля!»

* У каменных кашах дамоў, загружаных электрасвятлом, прасвечваюцца вочкі вокнаў.

*2000*

* Алесь Камоцкі — выконваючы абявязкі анёла на Зямлі.

* [Пачутае ад П. Кухарскага:] Перадаць руку (павінны ведзьмары, каб перадаць сілу і веды). А бабка [ягоная] хадзіла, размаўляла з травамі, перапрашаючы, што іх рве.

* Пётру [Кухарскаму] прысніліся мама й бацька, дзякавалі за мяне. [Кот] Мірон [ад Пётры] не адставаў, прасіў, каб палекаваў.

* Крытык і тэарэтык перакладу па прынцыпу: бяздзетны б'е дзяцей, а нежанаты — жонку.

* З Алесем [Камоцкім]. Хата на гары. І, выгнуўшыся, адхінуўшыся, як кума з пазной бяседы йдучы, дарога раз'езджаная падымаецца ўгору. Плот, два слупы на перавясле трымаюць жэрдзе, жэрдзе, як прашча.

Возера Гарадзея, лясістыя берагі, высветленая прагаліна возера, быццам светлая аблачына ўпала на ціхую й густую ад бадзягі й бузы ваду.

*2001*

* «Якім бы велічным ні быў трон, на ім сядзіць ср.ка», — недзе вычытаў.

* Васіль Быкаў пра Беларусь: «Краіна холаду».

* [В. Быкаў:] «Толькі сонца не забылася на Беларусь глядзець. Нават Бог не хоча думаць у бок Беларусі».

* В. Быкаў: «Калі ўсе пяць прэтэндэнтаў [на пасаду прэзідэнта] аб'ядналюцца й высунуць Лукашэнку»[2]. [Кажу:] «Цябе хочуць». [Васіль:] «Яны хочуць, каб ля дома АМОН і мяне не пусцілі. Тады хоць у Адміністрацыю звані й прасі выпусціць».

* Бычкі, Вушача. [В. Быкаў:] «З вайны асталіся знаёмыя дрэвы. Цяжкавата развітвацца… 9 — боская лічба. 7 — пакутная. Спалучэнне адзінак самае небяспечнае, асабліва 111». Пра Камоцкага: «Зважлівы чалавек. Калі б яшчэ піў — цаны б не было».

---

[1] Серпер Якаў Абрамавіч (1938–1994, ЗША), аднакашнік; фармацэўт.

[2] Гаворка пра падрыхтоўку да чарговых выбараў прэзідэнта (2001).

* Мемарыяльныя дошкі, знакі. Асушаў [балоты] Машэраў[1], знішчыў Мазураў[2].

* С подленьким верно. [«С подлинным верно», — у былыя часы гэтак завяраўся подпіс пад дакументам.]

* У кожным нашым паэце разліты Янка Купала. Як у каго. У каго няма — не паэт.

* Як мастак малюе маці, такі ён і мастак. Акадэмік Маціевіч[3] пасля пацвердзіў, што ў італійскай акадэміі прымаюць па партрэту маці.

* З Васілём Быкавым. [Кажа:] «Выходжу з эпідэміі, а Ірына ўваходзіць».

[На любімую фразу кіношнікаў] «в порядке бреда...»: «У іх і брэду не засталося, апрача Панамарова[4]». [Просяць даць] адказы на пытанні. [Васіль:] «Я ж не кіназорка». [Пытаюся:] «Як афармляць Збор твораў?» — «Без лішніх ліній, а галоўнае без штыхоў».

*2002*

* «Грошы трэба пазычаць у тэмпе вальса, а вяртаць у тэрмін — альбо адгаворкамі — наяўнымі», — Генры Мілер[5].

* «Чаму сфінкс без носа?» — «Яйкі білі аб нос...»

* Генадзь Бураўкін: «Пасялі багоў на хутары».

*2003*

* Пётра [Кухарскі]: «Дай мазгам адпачыць, а то думкі ўюцца, як камары над жаночай ср.кай...»

* [Пра Міхася Стральцова:] Рыжая лісіца на каўнер паддзёўкі (некалі Валя[6] Караткевічава марыла набыць Уладзіміру кажух. Дублёнкі былі з размеркавальніка). Каб хоць як уцягнуць у працу — пераклады ў «Братэрства», і тады — «Конь гуляў па волі»[7].

* Васіль Быкаў: «Камуністы любілі прыручаных пісьменнікаў чыста як крымінальнікі, калі ім інтэлігенты распавядалі раманы альбо спявалі саладжавыя рамансы».

---

[1] Машэраў Пётр Міронавіч (1918–1980), беларускі савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Савецкага Саюза (1944). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). У 1965–1980 гг. 1-шы сакратар ЦК КПБ.

[2] Мазураў Кірыл Трафімавіч (1914–1989, Масква), беларускі савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Герой Сацыялістычнай Працы (1974). 1-шы сакратар ЦК БССР (1956–1965), 1-шы нам. Старшыні СМ СССР (1965–1978).

[3] Маціевіч Алег Мікалаевіч (1949–2016), беларускі мастак.

[4] Панамароў Валерый Дзмітрыевіч (н.1943), беларускі кінарэжысёр, сцэнарыст.

[5] Міллер Генры Валентайн (1891–1980), амерыканскі паэт і мастак.

[6] Караткевіч (Нікіціна, уродж. Ваткевіч) Валянціна Браніславаўна (1934–1983), беларускі археолаг, гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1990, пасмяротна). Жонка У. Караткевіча.

[7] Задуманая, але не напісаная М. Стральцовым аповесць.

* Васіль Быкаў узышоў на Галгофу за Беларусь, за ўсіх сваіх чалавекападобных, што прадавалі яго й цвікі ў далоні гналі.

* «Ніл [Гілевіч] — пераносны помнік» (Г. Бураўкін).

*2004*

* Не п’е толькі тэлеграфны слуп, бо ў яго кубачкі ўніз перакуленыя.

* Не гэтак цяжка жыць, як паміраць багатаму, бо спадчыну запавяшчаць.

* Гук, ён жывы. І любы натуральны не раздражняе так, як штучны. Гэта як робат.

* Часта (і часцей незаслужана!) паэтаў папракаюць, што яны сумуюць па маладосці ў маладыя гады. Відаць, важна, як сумаваць. С. Ясенін («Где моя утеренная юность, буйство глаз…») у колькі гадоў?

* «Чем больше выпьет комсомолец, тем меньше выпьет хулиган», — [послаўка камсамольскай маладосці].

* [Беларускія імёны:]

Алесь, Андрэй: Андрык, Андрук, Андрусь; Антон: Антос, Антось, Антусь; Аўген: Аўгусь.

Багдан, Барыс: Барук.

Валер, Васіль: Васілёк, Васілька; Вінцук: Вінцусь; Вячаслаў: Вячка, Вячык.

Генадзь: Генік, Генусь; Глеб.

Даніла: Данік; Дзяніс: Дзянук.

Зміцер: Змітрок, Змітрусь, Змітрым; Зянон.

Іван, Ізяслаў, Іллюк: Ілля, Ілляш, Ілька.

Кандрат, Кастусь: Касцюшка; Кірыла.

Лукаш: Луцук; Лявон, Ляксей.

Марцін: Марцон, Марцей, Матрук, Мацей, Матыс, Матук. Мечыслаў: Мечык; Мікола, Мірон, Міхайла: Міхалік, Міхал, Міхаль, Міхась.

Павал, Пётра, Пракоп, Пятрусь: Пятрок, Пятрук.

Радзім, Раман: Раманік; Рыгор: Рыгась.

Селівей, Славамір, Станіслаў: Стась; Стэфан: Стафан, Стахван; Сымон, Сяржук.

Хрыстыня.

Юльян: Юльяш; Юстын: Юстыня.

Якута, Ян: Ясюк, Ясюль.

*2005*

* Каб не рабіць Богу лішняга клопату, Ён ратуе, але яму трэба ісці насустрач і дапамагаць.

* Я б хацеў застацца самім сабой у сваіх успамінах.

* Беларусы — славянскія жыды з характарам сваім адметным.

*2006*

* Дарэчы, у 90-х гадах у адным калгасе плату выдавалі селядцамі й салёнымі агуркамі.

* У блішчастых бляшанках лычасцікі ў матным соусе.

* «Перапёлка, ты не ві гнядзечка…» (лёс Беларусі).

* *Ідала*логія — ва ўсе вякі.

* ДАІ — яны й дояць вадзіцеляў.

* *К*абеліск, — бо страла — гэта фалас.

* Лягушэвіч. Пахаваны на гарэ каля касцёла.

* Рабочы Вася на таксі шукаў віно за 1 р. 02 к.

*2008*

* Капытковы падатак. С*папс*елая эстрада.

* Шлях Багдановіча, Купалы, шлях Коласа, як бурштын натуральны і граніт.

* У «Навінках» хлопец ратаваўся вершамі, працытаваў мне «На прызбе сядзяць старыя…», «Трэба дома бываць часцей…».

* Кар*ы*та подана!

*2009*

* Гімн — дыягназ нацыі.

* Гімн — кардыяграма нацыі.

*2010*

* Сотрудник — у гультаёў. Сотрупник — у моргу.

* Memento quia pulvis es [лац.] — Памятай, што ты прах.

* Ненарматыўная лірыка. Пло*т* фантазіі. Брэ*н*д сівой кабылы.

* Некалі дурачыўся:

Адбарабаніў дахам град,
Вісяць сухія венічкі.
Навокала разумных шмат,
А я люблю пісьменніка.

Калі скакалі, спявалі: «Ой ты, сіся, не трасіся!» Якое адчуванне слова! Асабліва гэта было вясёла, калі скакуха была ў целе.

* «… а цяпер — ваш час і ўлада цемры!» — паводле Лукі святога Дабравесце, 53.

* Сэнсавая рыфма: улада — здрада.

* Вядома, нашчадкі ўдзячныя не забудуць. Сябе.

*2011*

* «Обещай опять прийти во сне» (Анна Ахматова).

* Туманіць вочкі, кірмашыць вочкі, нядзеліць вочы, нявесціць вочы, кірмашаваць вочкі, не кірмашуй вачыма, ківаць вочкамі, какетаваць вачмі, кірмашце вачыма.

А я б пераклаў: пуляць вочкі (вочкамі).

* Культ *лыч*насці.

* А ўвогуле нічога не мяняецца, а толькі паўтараецца па-новаму.

* Калі Алесю [Камоцкаму прапанаваць] жанр: алесьвіцы, алесьvісі…

* Прыйшлі радкі:

I ў вечных зор
Натуральны адбор.

Лухта! Нельга апускаць зоры долу!

Натуральны адбор
Не для зор!

* Някляеў [па телефоне]: «Каб я цябе не хаваў!»

* «Хадзем пад навальнічны дах…» — Авецік Ісаакян[1].

*2012*

* Агі*д*брыгада, агі*д*кі.

* «В действительности всё иначе, чем на самом деле» (А. дэ Сент-Экзюперы[2]).

---

[1] Ісаакян Авецік Саакавіч (1875–1957), армянскі паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1946).

[2] Сент-Экзюперы Антуан дэ (1900–1944), французскі пісьменнік.

# Здубавецця

## *Калядныя святы на аўтабазе*

Каля прэзідэнцкай ёлкі: аднаму петардай адарвала яйцы (кінулі пад ногі). Другому вока — на нітачцы вісела (петардай таксама). Трэцяму жыццё забрала нейкая барматуха, якую даў сусед, бо жонка забрала грошы. Чацвёрты — без зубоў [застаўся]: са свіной галавой паехаў на лецішча варыць халадзец. З суседам набраліся, не да халадца. Не помніць, як вярталіся ўсе назад. Ачхнуўся каля дарогі, а на яго парсюк глядзіць, — са страху бац галавой аб сасну — зубы вон!

## *Меціць...*

Прыйшоў наймацца ў пажарную каманду. Далі месца спаць і глядзяць, колькі ж праспіць. Спіць дзень — добра, спіць другі — наш. Спіць трэці. Начальнік абурана загадвае: «Ганіце яго вон, ён на маё месца меціць!»

*З аповедаў начальнік цэха. 1995*

## *На споведзі*

Пытае святар маладзіцу:
— Прызнайся, з чужым мужыком спала?
— Ды дзе ж ты з чужым мужыком заснеш?..

*25 кастрычніка 1997*

## *Адзін пясочак...*

Нябожчык ляжыць, а чакаюць, хто падпіша некралог.
Магільшчык:
— Адзін пясочак...

*16 снежня 2001*

## *Араць...*

У калгас заганяюць, адзін артачыцца.
— Ты што, толькі й ведаеш што араць?
— Не толькі араць, але й касіць, і малаціць.

*18 ліпеня 2001*

### *Даладон*

[Сабраўся мужык] хрысціць сына.
— Пачакай, [калі] пост скончыцца, — кажа святар.
— Ты ж мяне запрасіў выпіць і закусіць!

*18 ліпеня 2001*

### *На пні!*

Салдат павёў маладзіцу ў лес. Глыбока зайсці цярпення не стала, бо ўсё стала. І пакаціў на лядах на ўзлеску. У запале нічога не бачыў. Маладзіца апынулася на пні. Пачалося каханне. Яна крычыць:

— Вой, на пні, салдацік!

А ён думае, што просіць: напні! Ну і напінае.

*2001*

### *Як прайсці?..*

Вушацкія дужа любяць любое слова перавярнуць на брахлівы, як у нас кажуць, лад. І вёску, далекаватую ад мястэчка, называлі Срачыцы. Прытым, стараючыся падкрэслена ўжыць расійскія словы, пыталіся:

— Звініці, як прайсці ў дзярэўню Жопінцы?

Як першапачаткова называлася вёска, ці Страчанцы, ці Срачыцы (стараславянскае — сарочка), ніхто не помніў.

Афіцыйна Срацынцы сталі Судзілавічамі. Але яшчэ доўга карэнныя вушацкія Судзілавічы называлі Срачынцамі.

*2001*

### *Урбаністычны матыў*

У Менску другой паловы пяцідзясятых гадоў на Сталінскім праспекце самымі вартымі ўвагі былі будынак КДБ і грамадскі туалет амаль насупраць гэтага будынка.

Каля канцэлярыі Кэдэберыі нельга было затрымлівацца ні на хвіліну. Неяк студэнты, якія прыехалі да нас вучыцца з ГДР, заглядзеліся на зашпіленую на ўсе гузікі ўстанову ды яшчэ колькі словаў прамовілі па-нямецку. Адразу ж былі гасцінна запрошаны ў маўклівы дом, пакуль выяснялі, што яны не шпіёны. Можа, гэдээраўскія студэнты адчулі будаўнічы почырк землякоў, бо гэтую будыніну і яшчэ колькі іншых у Менску пасля вайны будавалі палонныя арміі вермахта.

Хадзіла і такая рызыкоўная загадка: які будынак у Менску самы высокі? Адказ быў просты — будынак КДБ, бо з яго Сібір відаць. Яно і за пытанне, і за адказ можна было атрымаць доўгую і далёкую камандзіроўку.

Туалет пад кавярняй «Вясна» быў як бы пачаткам сталічнай падземкі. У туалеце, бывала, і распівалі гарэлку і «чарніла». Казалі і так: «Пойдзем у атэлье». Паміж туалетам і гастраномам, які звалі між сабой «Пад часамі», быў скверык. На галаве Жалезнага Фелікса[1] любілі сядзець і галубы, і вераб'і, адпаведна абседжваючы яе. У скверыку пад прыглядам будынка і непасрэдна таго, з каго Маякоўскі[2] раіў рабіць жыццё, збіраліся яўрэі абмеркаваць свой клопат пра зыход у Зямлю абжытую (гэта адбывалася ўжо ў сямідзясятыя гады). Падвыпітыя зубашчэры любілі падысці да купкі яўрэяў і сказаць: «Я ведаю, пра што вы гаворыце, але ехаць трэба…»

І адзін з першых урбаністычных вершаў склаўся ў мяне пра неабходную ўсім ўстанову, нават з установы, што насупраць. Вядома, пачынацца верш мусіў выклічнікам:

Ой, было дажджлівае лета.
Шмат ліло вады.
Я цябе ля туалета
Напаткаў тады.
Стала светлаю эпоха
(Што граха таіць).
Чорная твая панчоха
Уваччу стаіць.
Помню позірк твой ласкавы
Зоркай пыхнуў, згас.
Ты спяшалася па справах —
Клікаў унітаз.
Хоць прайшло другое лета,
Сэрца точыць мыш.
Шмат у Мінску туалетаў.
Дзе ж цяпер сядзіш?

Як мне здавалася, верш знайшоў водгук у сэрцах шмат якіх маіх чытачоў і нават чытачак. Дакладней сказаць, слухачоў і слухачак.

*2001*

---

[1] Помнік Ф. Дзяржынскаму ў Мінску (1955). Скульптар З. Азгур, архітэктар В. Волчак. *Волчак* Віктар Мацвеевіч (1910–1985), беларускі архітэктар, педагог. Заслужаны архітэктар БССР (1978).

[2] Маякоўскі Уладзімір Уладзіміравіч (1893–1930), рускі паэт.

*Новыя традыцыі*

— Гарык, прыйдзеш на гадавіну па брату?
— Навошта? Ён жа не п’е…

*14 верасня 2003*

*Вымярэнне*

Маладзіца сумна зазначае:
— Да камуністаў рака была ў два расты, а цяпер — вераб’ю па калена.
І глыбіня вызначана, і час акрэслены.

Мяне зацікавіла, як вымяралі глыбіню. Адзін станавіўся босымі нагамі на дно ракі, а другі — яму на плечы і рукі выцягваў.

Магутныя былі нашыя продкі, трывалыя і кемлівыя. Мы, як вераб’і тыя. Ім на змену прыляцелі толькі чырыкаць…

*Новая прычоска*

У Вушачу з Менска прыехала фіфа ўзначаліць журы конкурсу мастацкай самадзейнасці. На галаве як не стог. Валасы сабраныя ў хвост.

Мой сваяк Пятрок аб’ехаў на машыне свет з прысветкам, адразу назваў учасанне «конь тужыцца». Надта ж перадавала гэная прычоска намаганне…

*Праз злучок*

На слупе аб’ява: «Прадаецца новы кілім». Хтосьці праз злучок дапісаў — «самалёт». Ляці да не хачу! Толькі куды?

*Апіска*

У аўтаркі было: «Дайшоў да белага каленья». Наборшчык набраў: «Да белага калена». Гэтак гарачэй і сподзеву болей.

*Трывалы падмурак*

Маладзёны вязуць калясачку з першынцам. У нагах у малога падручнікі. Бацькі здаюць залікі, экзамены. Малы нагамі ўпіраецца ў трывалы падмурак. Веды — надзейны пункт апоры!

## *Ліст*

Вясна хацела паслаць ліст лету. Абмакнула сцябліну ў блакіт і размашыстым почыркам пачала пісаць на палёх.

Лета як не да восені расчытвала словы васількоў. Аж вочы сталі васільковымі…

## *Неакрэсленая дакладнасць*

Маці глядзіць на сына, які дзень з ноччу шукае рыфмы, нагой рытм адбівае. Сама сабе: «Цабэракяснага розуму пры смутнай галаве…»

Рэцэнзіі будуць потым. Магчыма…

## *Прыдаўся…*

Нарач. Задажджыла. Пастухі ў нейлонавых насавах. У аднаго ў руцэ піянерскі горн. Хоць тут прыдаўся. Бо час адпіянерыўся. Праўда, у адной каровы чырвоны гальштук. Як у старэйшай піянерважатай…

## *Чувак*

Каля тэатральна-мастацкага інстытута магазін. Нядзельны вечар. Негр без чаргі просіць цыгарэты. Хлопец ляпае яго па плячы:

— Не нахабнічай. Ты хто? Адкуль?

— Беларус! — белазубіцца негр. Бярэ цыгарэты й да хлопца, што рабіў яму заўвагу:

— Чувак…

## *Рады*

З раёнаў, з вёсак бацькоў вязуць у цырк, бо і там, і ў горадзе дзеткі адвыклі ад жывога. А старым зразумелыя і кот, і конь, і нават пацук. І яны рады за іх здольнасці.

У жывацінаў мазгі не сінтэтызаваліся…

## *Дзе?*

Малая ў вечаровым тралейбусе:

— Не хачу, каб цёмна. Дзе сягоння?

Маці тлумачыць, што сёння ўжо не будзе, будзе толькі заўтра.

Малая маўчыць. Маўчыць тралейбус.

Пытанне болей чым дарослае. Хутчэй, перарослае. Самое сябе перарасло.

### *Толькі*

Адны спартсмены ды яшчэ вайскоўцы могуць выступаць за розныя краіны. Паэт — толькі за сваю зямлю, за сваю радзіму. Праўда, у наш збаўтаны час нараслі дзеці капітана Гранта (грантасмокі). Нават прафесійныя беларусы. Паэты — болей рэліктавыя цені. Нездарма ж аднойчы Васіль Быкаў сумна ўсміхнуўся: «Цяпер Саюз пісьменнікаў значыць меней, чымся Саюз рыбаловаў».

### *Будучая карова*

Вушацкая аўтастанцыя. На сцяне аб'ява: «Прадаецца будучая карова, падцёлка. Цяліцца будзе ў студзені месяцы».

А пасажырская гурма ні мычыць, ні целіцца.

### *Кароўі імі*

Мама ўспамінае нашу карову з хутара Верасовачка: «У яе чаічка на ілбе...» — пасля: «Кароўі імі запісавай: Туроля, Белахвостка, Букетка, Звяздэня і Зорка, Падласка (пад жыватом бела), Лысоня, Белахрыбтка, Касмыль, Быстроня, Памаўза (памаўзлівая), Гілёня (чырвоная была), Гарбалыска, Лісіца, Салавей». Колеры, гукі, замілаванне і трапнасць грэюць душу. Тут і паўдзён, і гіз, і туман сырадою, і снег малозіва. Чуваць мамін прыгавор: «Чалавек відаць летам без кароўкі, зімой — без кажушка».

А мама мне: «Во яшчэ імі вёсак нашых: Пальчыкі, Памялковы, Бугаі, Сітнікі, Ідата, Бычкі, Ляжні, Гарбаціца, Пожанькі, Паліцаі, Ціханяты, Двор Жары, Ваўчо, Занавінне, Кручча, Лажані, Вяркуды, Вугрынкі, Гасбэрак, Крошына, Антунова, Вярхоўя, Рубанікі, Задаброцце, Зазер'я, Занавінне, Мосара, Завячэлля, Юркоўшчына, Глыбачка, Пісаронкі, Увалокі, Туроўля, Адворня, Паперня, Янова, Курылёнкі, Цвеціна».

Зямныя сузор'і крывіцкіх абсягаў, прапамяці. Якая спадчына лучыць душу з вячнінаю...

### *Як увосень пагоду...*

Рэдка ездзіў да мамы. Гаротная і казала:

— Матка цябе бачыць, як увосень пагоду. Сонца выясніцца, і ізноў воблакі...

Цяпер думкі мае толькі там, толькі каля мамы. Але позна.

## *Нарастуць!*

Мамы няма. Запісваю песні ад Марушкі. Час ад часу, зрабіўшы перадых у спяванні, тлумачыць:

— У кажнай песні свой голас. У кажнай песні свой вывад (як выводзяць, цягнуць). А малыя ўсе адводныя.

Пад канец крэўніца мая як бы суцяшае і сябе, і мяне:

— Пакуль гэтыя песні запішаш, новыя нарастуць!

Аратайна-жнейная душа верыць у нязводнасць усяго жывога. І песня — яна жывая, яна ж голас шчырае душы.

## *Без вянца*

Марушка неяк казала пра новыя формы шлюбу:

— Баба ў Ваўчы к яму прысвоілася: «Я твая баба».

Не трэба вянца, абы трохі вінца!

## *Падбочніца*

Сяброў па змаганні, аднадумцаў называюць паплечнікамі. Плячо ў плячо стаяць, ворагу супрацівяцца.

А напарніцаў, ці паходных жонак, вяльмуюць падбочніцамі. Яны пад бокам, значыць, блізка, а не збоку прыпёка. Хоць не толькі бок прыпякаюць. Бок — важная часціна ў чалавека. І дабра ў бок жадаюць, і праклёны шлюць. Бокам завуць і старану: «У сваім баку і дым грэіць, а ў чужым і сонца халоднае».

Затое падбочніца і печ, і грубку заменіць, нават хатнюю жонку. Ні з ёй, ні на ёй не змерзнеш. Бо запытаецца:

Ці ты хвор, ці нядуж,
Ці якое ліха?
Я кручуся, шавялюся,
А ты ляжыш ціха.

## *Як пры Мікалаі...*

Са школы знаёмы нам дзед Талаш[1].

Невядома, наколькі Якуб Колас дадаў яму да характару, наколькі недабраў. Адно зразумела, што не мог ён надта быць за савецкую ўладу, бо гаспадаром быў у палескім варыянце.

---

[1] Талаш Васіль Ісакавіч (1844–1946), народны герой. Удзельнік партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую вайну і Вялікую Айчынную вайну.

Распавядалі пасля.

Дзеда пад час вайны паслалі на нейкі маскоўскі завод мабілізаваць сілы, агітавайць. Нешта казаў, нешта прыгадваў. І раптам пытанне:

— А скажыце, як будзе пры камунізме?

Адказ канкрэтны:

— Як пры [цары] Мікалаі, толькі без калхозаў.

Болей дзед агітатарам не працаваў.

Пакуль той камунізм, дык ад сацыялізму хоць што трэба было атрымаць. З паршывай авечкі хоць воўны кузлак. Панамарэнка[1], кіраўнік партызанскага руху на Беларусі (кіраваў з Масквы), выклікаў дзеда і спытаўся, што ён хоча. Дзед папрасіў:

— Дай мне такую зорачку, як у Казловага[2].

Казлоў быў узнагароджаны Зоркай Героя Савецкага Саюза за партызаненне. Панамарэнка з сумам зазначыў, што цяпер з золатам тугавата, пасля вайны будзе відаць…

Тады ўвесь партыйны і асабліва гэбісцкі актыў хадзіў у скураных палітонах. Нездарма ж іх называлі скуралупамі. Панамарэнка, каб загладзіць недарэчнасць з Зоркай, як у Казловага, зноў пытаецца ў дзеда, ці не хоча ён скураны паліто́н. Талаш згаджаецца. Тады апошняе пытанне: якое даўжыні скураное ахінала мусіць быць. Дзед пачынае паказваць рукой за калена, ніжэй, ніжэй і шкрабе даланёю па падлозе. Загад пашыць дакладна такое даўжыні. Панамарэнка і світа ў думках ўсміхаюцца, як жа ў такім палітоне дзед хадзіць будзе. Праз нейкі час убачылі Талаша ў караценькім, піжоністым напаўпалітончыку. Дзед улавіў здзіўленыя позіркі і патлумачыў:

— Адрэзаў лішніцу дый на халявы і перады прадаў.

Гаспадар перамог хрэстаматыйнага змагара. Дый у светлае заўтра ў кароткім ісці зручней, крыссе ногі не путае.

## *Пытанне*

Сустрэча ў беларускай гімназіі ў Ляхавічах. Усё па-беларуску. Як бы ў сваю школу вярнуўся. Расчуліўся — як бы гэта рэпетыцыя развітання. Пытанняў задавалася шмат. І раптам адно:

— Што б Вы хацелі пажадаць сабе самому?

---

[1] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902–1984), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. У 1938–1947 гг. 1-шы сакратар ЦК КП(б) Беларусі, адначасова з 1941 г. начальнік Штаба партызанскага руху.

[2] Казлоў Васіль Іванавіч (1903–1967), беларускі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З 1941г. 1-шы сакратар Мінскага абкама і гаркама. Генерал-маёр (1943). З 1948 г. старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Герой Савецкага Саюза (1942).

Нешта адказваў, нешта казаў. Але пытанне так і засталося неадказаным. Доўга думаць буду, ды так і не адкажу…[1]

*Як у печ…*

Бабка вырашыла звярнуцца да гінеколага. Яна адна засталася. Сядзіць. Нарэшце асмялела. Зайшла ў габінэт. Гінеколаг маленькі — табурэтачка трэба.

Бабка вохкае:

— Чаму ж ты трактарыстам не стаў, ці табе трактара не хапіла?

Усё кажа і кажа нешта, абы час цягнуць. Гінеколаг супакойвае:

— Не хвалюйся, бабка, я туды гляджу, як ты ў печ…

Галоўнае ў лекарскае практыцы — суцешыць…

*Не я…*

…Мне распавядаў наш браток беларус. (Памятаеце ў Якуба Коласа: «Куды не трапяць беларусы!») Дабравольцам паехаў цягнуць магістраль (БАМ). Стурылі мядзведзя. Перабаразнілі яму сон зімовы. Мядзведзь і папёр на камсамольцаў. Пачалі страляць. Мядзведзя стрэлы не спынілі. Усе наўцёкі. Мядзведзь за імі. Першы спатыкнуўся. На яго пачалі валіцца. А бедалага думае, што на яго мядзведзь насеў, апраўдваецца перад разбуджаным, крычыць:

— Гэта не я страляў!..

*Ты чалавек ці міліцыянер?*

Змалку чуў ад вушацкіх гэтае пытанне да чалавека, які вызначаўся нахрапістасцю, не трымаў слова, глядзеў, каб што ўрваць.

Ужо дарослым пераканаўся ў грунтоўнасці запытання гэтага. Працую ў часопісе»Бярозка», які рэдагуе звышідэйны, звышпартыйны паэт Кірэенка[2]. Падышоў адпачынак. Атрымаў адпускныя. Купіў светлы гарнітурчык. Еду ў Вушачы да мамы. Зазірнуў да дзяўчыны Лівы. Па дарозе на кватэру рэстаран «Лета». І на дварэ лета. Цёплае. Маладое. Заходжу ў «Лета». Сядаю за столік. Заказваю грамаў трыста. Рэстаран пусты. Непадалёку ад мяне самотны і цвярозы міліцыянт. Шкада зрабілася чамусьці самотніка. Запрасіў за свой столік. Адпаведна наліваў і яму, і сабе.

---

[1] Гл.: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 10. С. 44.

[2] Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч; 1918–1988), беларускі паэт, дзіцячы празаік, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1970). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1972).

Прачнуўся ў выцвярэзніку (першы і апошні раз). Рукаў у новым пінжаку адарваны. Грошы ні капейкі. Ды яшчэ пайшоў пахвальны ліст у рукі звышкамуніста.

І няма яго, у каго мусіў спытацца: ты чалавек ці міліцыянер?

Дасюль шкадую. Вачыма шукаю і не знаходжу. Зашмат падобных…

### *Пры старым…*

Бабка, узгадваючы часіны ейнай маладосці, падкрэслівала:

— Было гэта пры старым рэжыме…

І казённае, мулкае слова *рэжым* набывала лірычнае адценне. Амаль канкрэтна грэла бабку.

### *Праклёны*

Цыганка ходзіць і прапануе паваражыць, усё схаванае лёсам паварушыць. Заадно просіць пазалаціць руку, даць нешта ёй і цыганяткам ейным. Маладзіца адвярнулася ад варажбіткі ды штосьці буркнула. Цыганка адразу:

— Каб цябе стары вялым любіў!

Мужчына пачаў усміхацца, але ў кішэню не палез. Яму таксама рэцэпт суровы:

— Я зраблю, што ў цябе не толькі стаяць не будзе, але і вісець будзе няправільна…

### *Жаніліся*

— У мяне лаўка і млын. І ў хаце лаўкі і жорны, — кажа хлопец.

— А ў мяне дзесяціна саду і млын ззаду, — хваліцца маладзіца.

*1 сакавіка 2004*

### *Таварыскасць*

Дырэктар мясакамбіната пераспаў з чужой жонкай. Муж у райком са скаргай. Дырэктару далі вымову з фармулёўкай: «За нетаварыскае абыходжанне з жанчынай». Вядома, гэта гучала па-расійску: «За нетоварищеское обращение с женщиной». Таварыш партыя пільна сачыла, каб умелі сляды замятаць. Адносіны мусілі быць падобныя кшталту:

Запрасіла камуніста,
Разаслала цёплы плед.

Прытуліў ён і ўрачыста
Паказаў мне партбілет.

*1 лютага 2005*

### *Перашкода*

Два бамжы, здаўшы бутэлькі і купіўшы бутэльку, выходзяць з крамы. Той, што болей ўбакі водзіць, [кажа]:

— Гэтыя праклятыя прыступкі, каб іх не было.

— А як бы ты падымаўся?

— Дык падымаць жа лягчэй.

*30 мая 2006*

### *Аднаразавая жонка*

Нясу ад суседа вядро вады. Дарэчы, сусед не адзін раз падкрэсліваў, што ваду з ягонай студні хваліў сам Васіль Быкаў. Насустрач дарожнік (працуе ў ДЗУ). Вітаемся. Прапануе паднесці вядро. Пытаюся, як жыве, як здароўе. Кажа, што ўсё патроху. Жонка памерла два гады таму. Жыве адзін. Раю ўзяць новую жонку. Зазначае, што аднаразовую не хочацца. Іх поўна ў Вушачы. А трэба такую, каб жыць.

*20 ліпеня 2008*

## Вершаванкі да гарэлачных налепак

### *Уваходзінная*

Каб не рассохлася падлога
І не баяўся дах вятроў,
Лі, гаспадар, і не слабога,
І выпі з намі. Будзь здароў!

*Застольная*

Дасі разгон застоллю,
Падлога здасца столлю.
І столь падлогай здасца,
Смех затрасе, як трасца.

*Свежая*

Шалёная кароўка
Зімой і летам целіцца.
І шэпча паўлітроўка:
— Цячы, цурчы, гарэліца…

*Купальская*

Купалле! Палі агні.
Узяўшы за сведку суседку,
З карца шчабятухі глыні —
І знойдзеш папараць-кветку!

*Запойная*

Узгледзіны, запоіны
На хітрыках настоены.
Адна гарэлка чыстая,
Як дзеўка ганарыстая.

*Сватоўская*

Запытаўся сват у свата:
— Ці надоўга гэта свята?
Адказала свату сваццconfigure:
— Покуль ёсць гарэлка ў хаце!

*Кумоўская*

Кум ведае, чым і чаму
Яму залагодзіць куму.
І ведае добра кума,
Чаго яна хоча сама.

*Вітальная*

Маладой хай будзе свежы,
Малады — шторання,
Каб ламаўся стол ад ежы,
Ложак ад кахання.

*Хрэсьбінная*

Носіць бусел што й каму,
Не ўявіць для тугадума.
Любяць хрэсьбіны куму,
А кума галубіць кума.

*Адведкавая*

Хто прыходзіць у адведкі,
Не мікстуру п’е з піпеткі.
Паліваць патрэбна дбала,
Каб усё расло, буяла.

*Капытковая*

А невыпадковая
Чарка капытковая.
— Пі! — гавораць капыты. —
Мы паскачам, як і ты!

*Цешчына*

Дзе яечня, там пірог,
Стогам каравайцы.
Як зяць на парог,
Дык цешча — за яйцы.

*Развітальная*

Сустракаюцца спярша,
А развітваюцца потым.
Разгаўляецца душа,
Зразумела, не кампотам.

*Калядная*

Як прыходзіць Каляда,
Піць і есці не шкада.
Позірк у спакусе,
Вусы ў медавусе.

*Служылая*

Не плач, чакай мяне, Ганюся,
Са службы да цябе вярнуся
Хоць на дзяды, ды малады,
А ў арміі свае «дзяды».

*Студэнцкая*

Хоць, вядома, й цэлы кукіш
За стыпендыю не купіш,
Ды студэнт частуе госцю,
Што завецца маладосцю.

*Інтымная*

Растане хмель, як дым,
А затым
Трасе інтым
Кашальком пустым.

*Халяўная*

Гарэлка — не гарэлка,
Што ў газавай пліце.
Гарэлка — тая грэлка,
Што грэее ў жываце.
Любая дужа слаўная,
Ды саладзей халяўная.

*Шабашоўка*

З сабачнікамі
Не блытаць шабашнікаў,
З аднакашнікамі
Аднапляшнікаў.

*Фермерская*

Фермер, быццам той суддзя,
Як пасадзіць, так і мае.
Чарка — смелая ладдзя,
Ёй паўсюль рака прамая.

*Экспартная*

Як і валютная дама,
Гарэлка ў цане таксама.
Як ёсць у цябе валюта,
Абедзьве кахаюць люта.

*Прэзентацыйная*

Сумуе рэтра па шынках ды шынках.
Раней казалі для нагляднай агітацыі:
— Набраўся як той дурань на памінках,
Цяпер гавораць: — Як на прэзентацыі.

*Аглаблёвая*

Чарачка аглаблёвая,
Тэлебачанне кабялёвае.
Ды скажы, хто ўсмак глыне,
Што лепшы экран на дне.

*Пад каву*

Вып'еш зранку шклянку кавы,
Будзеш цэлы дзень рухавы,
А пад вечар возьмеш чарку,
Як дзяўчыну-іншамарку.

*Разводная*

Каго развесці, каго звесці,
Знае,
Бо не разведеная —
Разводная.

*Хабароўка*

Лепей нешта ў лапу,
Чым пад рэбры вілы.
Хабар, ён не мае
Адваротнай сілы.

### *Мафіёзная*

А гарэліца мафіёзная,
Як і мафія, моцай розная,
Ад яе — ці смакуй, ці кунежся, —
Як ад мафіі, не адмахнешся.

### *Стукачоўка*

Стукнемся з табой, кумок,
Чаркі ў нас звіняць, як вершы.
Заўтра кожны разумок,
Хто паспее стукнуць першы.

### *Кампанейская*

І пасяўной, і выбарчай
Кажу лагодна: «Выбачай!»
Вясёлую кампанію
Люблю з вясёлай паняю.

### *Вертыкальная*

Сама пытанне задае,
Чаму здзіўляцца перасталі:
Па вертыкалі пьюць яе,
Каб легчы па гарызанталі.

### *Усенародная*

Усенародная абраная
Гарэлка любімая самая.
Што галаву разламае,
Хоць градусаў мала мае.

*Парламенцкая*

Улада — шчодрая шынкарка!
Як ёсць шынкарка, будзе чарка.
За гонар свой, за прывілеі
Абранец піць гатоў з балеі.
Не п’е, таму і капызіцца
Уедлівая апазіцыя.

*Імпатэнцкая*

Вып’ем —
І як гара з плячэй,
І бегчы не трэба нікуды
Хутчэй.
Адпачывае ўвесь арганізм.
Здаецца,
Нарэшце настаў камунізм.

*Пенсійная*

Харахорся, ерапенься
А ці спіну горбі.
Разгуляешся на пенсіі,
Як сабака ў торбе.

*Роздумная*

Маўкліва ладзячы хаўтуры,
Не забываемся адно,
Што нашыя кандыдатуры
Не трэба, значыцца, даўно.
І, келіх грэючы ў журбе,
П’ем, пэўным чынам, за сябе.

*Снежань 1994*

# Дадатак

*Песні Вушаччыны*

* * *

А шумён наш бор, шумён
Над усімі барамі.
А хвалён наш пан, хвалён
Над усімі панамі.
А выкаціў бочку віна,
А другую — гарэлачкі.
Бочка віна для дзевачак,
Гарэлачка для мальчыкаў.
А мальчыкі іграць будуць,
А дзевачкі плясаць будуць[1].

* * *

Не йдзіце ў арэшачкі,
Вас заіц напугаіць,
А вы там заблудзіце,
Дамоўкі ня будзіце.

* * *

А дзевачкі-баярачкі,
    станьце ў рад,
А пакоціцца па вашых ножках
    вінаград,
А не вінаград,
    ды судавая макоўка,

[1] Барадулін Р. Сама пайду дарогаю, голас пушчу дуброваю...: Песьні матчыны з Вушаччыны. Мінск: ГА БГ: «Кніга», 2005 (2004). Параўн.: «А шумён наш бор, шумён...». С. 70.

А не макоўка,
    дык дзеваччына галоўка.

Новая камора не ме́цена,
Кругом яе золатам абведзена.
А пашлі дзевачкі камору месці,
Капнула золата на галовачку.
А дзевачкі-баярачкі вы мае…

* * *

А цераз гару дарожачка к цераму,
На той дарожцы ўсе сіротачкі хадзілі,
Паціхусеньку сваю мамку будзілі:
— Ай, устань, устань, мая мамулька,
Не ляжы,
Хоць жа ты гэты вечарок паслужы.

«А я не магу, маё дзетачка, ўстаці,
Траўкай-мураўкай зараслі вочкі,
Не магу,
Грабовы дошкі сціснулі ножкі,
Не магу.
Жоўты пясочак залёг насочак,
Не магу,
Сырая зямля на серцы па́ла,
Не магу».

* * *

Зялёненькі вінаград
Зарадзіўся на пагляд.
Як Іванька паглядзеў,
Вінаградзік паблядзеў,
Бадай жа.

— Зялёненькі вінаград,
А дзе цябе садзіці,
Ці ў мамулькі на куце,
Ці ў мілага на руцэ?

— Дзе хочаце садзіці,
Толькі цвятоў ня трыці.

* * *

А на дварэ шум-шум,
А хто едзіць — кум-кум.
Што вязець — акуні,
А для каго — для кумы.
— Ах ты кумочак,
Ах ты галубочак,
А дзе ж ты дагэтуль бываў?
— А вы, жоначкі, вы лябёдачкі,
У пана на дварэ.
— Ах ты кумочак,
Ах ты галубочак,
Дык твая патра́та.
— А вы жоначкі, вы лябёдачкі,
Дык мая пакраса[1].

* * *

Пушчу каня у гарод.
Сама сяду наўпярод.
Я й коніка прывяжу,
Я й коніку прыкажу:
— Ня еш, кося красачкі,
А еш, кося, травіцу.
Мне дзеўкаю ня быць
І красачак вясной ня віць,
На галоўку не ўскладаць,
Із дзеўкамі не гуляць.

* * *

Сядзіць галуб на пераплоце,
Клюець боб.
А длі яго галубка пшаніцу.
А як клюй ды клюй,
Мая галубка, калі мяне,
Дрыга́ецца тваё пер'іка да мяне.

---

[1] Гл.: «А на дварэ шум-шум...» // Сама пайду дарогаю... С. 188.

Сядзіць мальчык, мядок п’ець,
А длі яго дзевачка сасіцу.
А як пі ды пі, мая дзевачка, ля мяне,
Далiга́ецца маё сердзічка да цябе[1].

** * **

З-пад саду́ зялёнага
Сакалы выляталі,
Зязюлю з сабой бралі:
— Із намі, зязюля, із намі,
Із намі — сакаламі.
— Рада б я пале́цеці,
Жаль саду пакінуці.
Жаль саду зялёнага,
Вішанік чырвоненькіх.

Із бору сваты з’язджалі,
Дзевачку з сабой бралі:
(— Із намі, дзевачка, із намі,
Із далёкімі сватамі.)
— Рада б я паехаць,
Жаль мамку пакінуць,
Жаль мамкі старэнькае,
Сястрыцы маленькае[2].

** * **

— А зіма, зіма сцюдзёная,
Чаго рана нападаеш?
— А я ня рана, а я ня позна,
Вот мая пара прыйшла.
Лісточак падзець,
Травіцу кладзець.
Рэчкі сталі,
Пазамярзалі.
Вот мая пара прышла.
Мальчышка едзіць,

[1] Параўн.: «Сядзіць галуб на пярэплаце…» // Сама пайду дарогаю… С. 142.
[2] Параўн.: «З-пад саду зялёнага…» // Тамсама. С. 101.

Дзевачку берацъ.
Вот яе пара прышла[1].

* * *

Стукнула-грукнула на дварэ.
— Ці ні па мяне, мама,
Ці ні па мяне?
— Па цябе кудла,
Паедзеш без кубла.
Было табе позненька ні ляжаць,
Было табе кубельчык заказаць[2].

* * *

Ясíна балота, ясіна.
Дзевачка Йванку прасіла:
— Вязі мяне, Йванечка,
Дзе ты браў,
Каб жа мой венчык
Тут ня звяў.
— Нябось Танечка ня звяніць,
Мая мамулька схароніць,
Ў шаўкову хусту ухінець
І зялёным вінам абліець
І тваей мамульцы аташлець.

* * *

А гагочыць сівы конік, гагочыць,
Дочка з маткай расстаціся ня хочуць.
— А не аддавай мяне, мамулька, не аддавай,
А ты ж мяне золатам-сéрабрам выкупляй.
— А ні маю, мая дачушка, ні маю
Ні золата, ні серабра ні маю,
Затое цябе, мая дачушка, аддаю.

---

[1] Параўн.: «— А зіма, зіма сцюдзёная...» // Сама пайду дарогаю... С. 125.
[2] Параўн.: «Стукнула-грукнула на дварэ» // Тамсама. С. 107.

****

Каб я ведала, што я з сваціцай паеду,
Я ж бы савіла свайму брацітку вяночак,
Кругом берагоў я б золатам абвіла,
У каўнярочак ясную зорачку ўшыла,
Каб яна яму ўсю дарожачку свяціла.

А зорачка свяціць Іваньку адказала:
— Досыць я табе адсвяціла,
Як цябе родная мамка радзіла,
Яна хадзіла па новых сянёх, як пава,
Яна радзіла свайго Іваньку, як пана.

****

А не гневайся, мая братовачка, на мяне,
А што я села дужа блізенька ля цябе.
А я села за столікам за тваім,
Я прыехала за брацітка за сваім.
А за тваім столікам цісовым,
А за сваім брацітка за родным.
А было табе па кірмашыках не хадзіць,
А было майго брацітку не вадзіць,
А было табе булак-баранак ня есці.
А цяпер сядзіш з маім брацітка умесці.

****

Звіўся рой пад гарой,
Ляцець хочаць.
Сабраўся мальчышка —
Ехаць хочаць.
Прычасаў галоўку,
Завіў кудрачкі,
Каб яго дзевачка
Палюбіла,
Каб яго цешчухна
Пахваліла.

** * **

А сват свацці
Падплёў лапці
З таўстых лык.
Ходзіць сваццця
Харахорыцца,
Як індык.

** * **

Ай, вумная-разумная дзевачка,
Сама села ў свякроўкі за сталом,
Пасадзіла калінаньку пад вакном.
— А расці мая калінка высока,
Пускай, пускай карэннікі глыбока.
А цвіці мая калінінка бяленька,
Каб я была свайму міламу міленька[1].

** * **

А ты зязюля, ты шэрая,
Не кукуй рана на дуброве,
Не будзі мяне маладое.
Пабудзіць мяне свякроў мая:
— Уставай нявестка, дзіця маё,
Ужо каровы на дуброве,
Уся скацінка на даліні,
А ты, маладзенькая, у пярыні.

** * **

Цвіцела макоўка
На бабовішчы,
Спі, маё дурнішча,
На саломішчы.

---

[1] Параўн.: «Ай умная-разумная дзевачка...» // Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 5. 1989–1991. Мінск: «Кнігазбор», 2018. С. 98.

** * **

У панядзелачак рана
Сіняе мора йграла,
А дзевачка ваду брала.
Дзевачка ваду брала,
У мора ўвалілася,
У татулькі прасілася:
— Вылій жа ваду з мора,
Вазьмі мяне з гора.
— Ні ў мяне чаўночка,
Ні ў мяне вясельца,
Не хінецца маё серца[1].

** * **

Божа мой,
А ель мая зялёная,
Свякроў мая шалёная.
Загадала мне работку рабіць:
На моры бяліць,
На лесі сушыць,
На небе качаць,
Ў арэшак складаць.
Я ня вутачка —
Па мору плаваць,
Я ня соўнейка —
Па небу хадзіць,
Я ня белачка —
Ў арэшак складаць[2].

** * **

— А як я к табе, мая дачушка, хоць прыду, —
Чарнічанькай дарожанька зарасла,
Чырвонаю калінкаю завісла.
— А хоць жа ты дарожаньку абыйдзі,
Толькі ты ка мне, мая мамулька, прыхадзі.

---

[1] Параўн.: «У панядзелак рана...» // Сама пайду дарогаю... С. 129.
[2] Параўн.: «Божа мой!» // Тамсама. С. 66.

* * *

А я ў піру была,
А я з піру прышла,
Эй, маладая,
Белая, румяная.
А дома журбу нашла.
Эй, маладая.
Свёкарка па сянёх ходзіць
І бізун ў руках носіць.
Эй, маладая.
Мілый за таткам ходзіць,
Свайго татульку просіць:
— Ня бі жану бізуном,
Бі жану бярозаю,
Бі жану бярозаю,
Бі жану цвярозую.
Бярозка гібучая,
Мне жана балючая.
Бяроза з макушкамі,
А жана з дачушкамі.
Бяроза бяленькая,
Мне жана міленькая.
Бяроза з веткамі,
А жана із дзеткамі.

* * *

А каліна-маліна,
А ня стой пад гарою,
Не раўнуйся і са мною.
Было тады раўнавацца,
Як я была ў мамулькі,
Бялей была твайго цвету,
А чырваней ягодачак.
А як у свёкаркі стала,
На рутаньку цяпер звяла.
Стала тонка, як былінка,
Стала бела, як ліпінка.
А ліпінка садраная,
А рутанька стаптаная.

А ліпінка станчоная,
Я ў свёкаркі зжуроная.

* * *

А выйду-выйду на вуліцу,
А ўдару-ўдару ў ладоначкі,
У залатыя пярсцёначкі.
А як пачуіць мой свёкарка:
— Не бі, нявестка, ладоначкі,
Не псуй залатых пярсцёначкаў.
— А што за дзела, мой свёкарка,
Ня ты гадаваў ладоначкі,
Ня твой сын спраўляў пярсцёначкі.
Гадаваў ладонкі мой татулька,
Спраўляў пярсцёнкі мой брацітка,
Спраўляў пярсцёнкі ў горадзі.
Казаў насіць мне моладзі[1].

* * *

А чый галуб ляціць на дуб,
А мой на бярозу.
Чые мужы п’юць-гуляюць,
А мой у дарозе.
Людзі ходзюць, жыта сеюць,
Каб жыта ўрадзіла,
А я хаджу Бога прашу,
Каб доля не ўсхадзіла.
Узыдзі-ўзыдзі, мая доля,
Рознымі садамі,
Цвіці-цвіці, мая доля,
Гуднымі цвятамі.
Усе цвяты пустацветы,
Адзін васілёчак.
Уся сям’я нялюбая,
Толькі міл дружочак[2].

---

[1] Параўн.: «А выйду, выйду на вуліцу…» // Сама пайду дарогаю… С. 47.
[2] Параўн.: «А чый галуб ляціць на дуб…», «Усе людзі жыта сеюць…» // Тамсама. С. 178, 179.

* * *

Бабам луку-луку-лу,
А із луку палку ў руку.

* * *

Пашла барыня плясаць,
Дома нечага кусаць,
На стале ні коркі,
На нагах апоркі.

* * *

Гарэлачку я люблю,
Гарэлачку дайце.
Як уп’юся, павалюся,
Тады падымайце[1].

* * *

Танцуй, Мацьвей,
Не жалей лапцей.
Лапці стопчуцца,
Йгрышча скончыцца.

* * *

Я ўлюбілася,
Я ўрэзалася,
Без нажа, малада,
Я зарэзалася.

* * *

Ах Лявоніха мая,
Няхай цябе чорт любіць,
Ды не я.

[1] Параўн.: «Гарэлачку я люблю...» // Сама пайду дарогаю... С. 205.

** * **

Як пашыю я спадніцу
Ў чатыры аборкі.
Хачу — дома заначую,
Хачу — у Ягоркі.

** * **

Цярэшка
На печы не ўлежыла,
У хаце пад загнетам
Зацвіла жоўтым цветам,
У сянёх пад лаўкаю
Зацвіла мураўкаю.

** * **

Я буду дома спаць,
Ня ўмею красён ткаць.
Я буду дома жыць,
Ня ўмею штаноў шыць.
Пайду я каля лугу
Дзяўчатам на перару́гу.
Пайду я каля саду
Мальчыкам на перася́ду,
Калінку ламаючы,
Дзядульку шукаючы.
Пашыю штанёначкі
З чырвоным каўнерчыкам —
Будзеш інжынерчыкам.

** * **

Хоць жа я пабегаю,
Як рыбка па берагу.
Хоць жа я пагуляю,
Як рыбка па Дунаю.
Хоць жа я галоўку зламлю,
Я сабе дзядульку злаўлю.

Не ўцякай, дзядулька,
Шэрая зязюлька.
Чаго ты туляешся,
За дзевак хаваешся
Ці мяне чураешся?

** **

Смачная рыбачка язёк,
Пацалуй мяне, дзядулька, разок.

Ілона Барадуліна

*«Разве я сторож времени твоему?..»*

** **

Ушачи… Запахи — сладкие — тяжелят веки, требуя немедленного заползания в душу из банок большой ложкой. Варенье. И соединяешь кислое железо ладони ложки с вязкой мантией крыжовника в змеино-жёлтом его гроностае… Кадка с мёдом тягучего взгляда кошки, — мёд можно ставить зимой вместо подсолнечников — солнцем в глиняной миске на середине стола. Лучшая нуга — чешуя сот.

А в печи готовилась гречневая каша в горшочках, и ухват ухаживающе брал чёрными пальцами их круглые попки. Наст охровой корки пробивался ложкой, и садилась в неё каша — молодицей в сани, легко и жарко дыша каждой вспаханной крупинкой.

В железной кружке — зимняя лунка молока. Молоко жило в глечиках и банках, в двухлитровой — утреннее от бабкиной белой козочки процеживалось через марлю, и та брила его пенную бородку. Я пила молоко, живое, тёплое и холодное, от соседской коровы Лыски. Коровье любила кислое, снимаешь подрагивающими айсбергами с бежевой сметанной верхушкой и ювелирно осторожно отправляешь на ложке в рот. Вкуснее всего оно шло молодой бульбочке, выскакивающей после бани чугунка со следами укропного веника на гладких боках. Чай с чабрецом, наволочки — бледно-салатовый цвет в мелкий узор. Ушачское лето и цвет кухни Кулины — бабкиной кухни и моего детства.

* * *

...Корни петрушки, их венозные ноги в нитяных чулках сушились в мешочках, и шуршали стрекозиные крылья луковиц обманной медовой прозрачностью красной меди.

И знали своё место пластмассовые погремушки перца, они ломались, и я любила засовывать их высыпавшееся жгучее конфетти в конфету и щедро-любовно угощать вредную соседку и скорее — колодезной воды ей запить, подлить масла в огонь.

Там в сенцах на маленьком окне рядом с кладовкой висели пучки безвольного укропа — крашеных веточек инея, стянутых с зимнего стекла. А за темно-зелёной дверью кладовки шла тревожная темнота, свежая прохладой со взрослыми несладкими запахами. Там на мощных балках висели хвосты пальцем тыканной колбасы в пергаментной кожуре кишок, скрученые просолившейся верёвкой. Отслаиваешь осенний листик оболочки, обнажая кирпичные мускулы мяса. Колбаса представлялась мне борцом с затверделыми мышцами.

Туго и тяжело покачивались кумпяки, марля рубашкой облепила их вспотевший торс. На этой же рее было повешено бледно-розовое сало с небритой пористой шкуркой, из которой так легко выдергивать зубами щетинки. Не помилована и ветчина в гаремном грешном мешке, завязанная по горло, она побалтывалась рядом с грудинкой, что висела в корсажных обручах костей.

Дирижёрские палочки запахов — и живот превращается в оркестровую яму. Сначала тоненько вступала журчанием флейта, потом настраивались контрабасные гулы урчания: бежать или брать ноту этой песни — пару кусков натощак легко отламываемой колбасы. И одно из колечек повиснет рыболовным крючком, но не достать его ни коту, ни крысе...

Кулинина кухня в Ушачах моего детства...

* * *

А заморозки пришли с концом октября. Снежные тротуары хрустели свежим камышом под ботинками, улицы текли синькой теней, а микрорайоны застыли юоновскими[1] картинами с жестяными столбами дыма и негнущимися тучами над кирпичными заводами.

Рассыпался вежливый снег, толстый, мягкий, близорукий. Он притушил эхо движения, и оно не докладывало о каждом шаге. Вечером фонари срезали снежную прядь, и она ссыпалась подравниваемой чёлкой на

---

[1] Юон Канстанцін Фёдаравіч (1875–1958), рускі мастак. Народны мастак СССР (1950). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1943).

парикмахерские полотенца дорог. И тишина утра была чёткой и ясной, как крик младенца…

Новый год, и твои родители спят. Босым утром первого января, когда в мире застыл немой мел сна, тихий час для взрослых, ты пробираешься в большой комнате между столом и стульями, сдирая уже съехавшую скатерть. Кричит, падая, вилка в засохшем соусе, тает свежевырыгнутое рюмкой пятно вина, пьяно качается серьгастая ёлка. Но поднимаешь тяжёлые её юбки, и чокаются шары, колет ещё сочная хвоя, и у ведра лежат пакеты в бантах — дерни за верёвочку, дверь и откроется. И ты бежишь в свою комнату, нагруженная пакетами, и в фланелевой пижаме на кровати смотришь на подарки не раскрывая, потому что хочешь продлить это детское чудо — подарок праздника, когда все взрослые спят, а ты единственная в целом тихом мире.

*****

Июнь. Минск. Немига.

Я в подъезде музыкальной школы пережидаю цыганский дождь. Переминалась рядом второклассница в белых гольфах, и букет крепдешиновых гладиолусов в длину ее платья перевешивался с одной руки на другую. Выгнутый шершавый язык переулка, коренные зубы низких домов, пусто, и над головой разбита гаммами музыка, а впереди на солнце — душевая сечка дождя празднично сверкает над банным булыжником мостовой.

Грузно поднимается по горбу переулка человек, неся руки заржавленными углами складного метра, — кажется, что он бережёт два полных стакана. Но в левой его руке дрожала, тычась сырой мордой в воздух, крыса, а в правой он сжимал пустую банку. И почему девчонка не взвизгнула, крыса не выдралась, а пьяный разбухшим утопленником донёс свой набрякший костюм до «Ясеня» — фибровой пивной на церковном фундаменте? И солнце не заходило, и плыли пузыри-царевны, и глаз не заслонило ничьё движение до тех пор, пока не сорвалась мне глосса — июньской черешней, нотой фа? Упала тишина подрубленной сосной, и из фотографии потекла кинолента: кончился дождь, качнулись гладиолусы и за спиной сцепились в рёве ступеньки с ногами сдавших экзамены.

Ночью приснилась змея в корзине черешен, она была цвета хаки, с глазами, зашитыми белой ниткой. И страшно хотелось взять из корзины эту ягоду на том пределе спелости, что ещё чуть — и последнее таяние сока станет гнилью…

* * *

Минск. Август.

Неподстриженный луг подростков. Девчонка — тугая финиковая косточка — облизывает тюльпан мороженого. Трамвай, напоенный солнцем, и негде присесть — места в горячих лужах света. Парень в чёрной майке, ангельски незагорелы его молочные плечи. На рынке женщина примеряет золотое платье — смятая фольга конфеты.

Синее немое небо — глянцевый переснимок, хочеться содрать его ногтем. Жара. Кажется, что под косой у девушки волосато-потно, как под хвостом собаки. В чашке телефонной будки, на пестике брошеной трубки висит шмель гудка.

И ныряешь в мраморную сень метро, как в бассейн, и сменяешь электричеством день на вечер, а пляж улицы — прохладой библиотечного зала.

* * *

...На низком широком подоконнике в горшках тесно-крепко разрослось алоэ. Пыль лежала на его крокодильих хвостах, и хотелось отцарапать один из крючков и куснуть горькую мякоть изнанки. Салатовый двухголовый торшер — дерни за хвостик, и мини-эстетикой вспыхнут шестидесятые и сливочник салатово-полосатый, — маме молодой отдать: видишь — я не разбивала.

Трёхногий табурет и вишнёвое круглое кресло сутуло-трёхлапое, и ультрамариновый сервиз с золотыми кружевными воротничками на чашках, и гранёные рубины рюмок. Стрекозиные этажерки и железный «Ну, погоди!» с гитарой-открывалкой. Зайчики из ракушек Крыма, болгарские танцоры, белорусские льняные куклы, литовские керамические черти-кубки. Комната-вокзал, куда согнали вещи детства. Хотелось взять их в руки, спасти беженцев памяти, устроить обратно, дав кров и тепло прежнего любопытства...

* * *

Несётся время, смывая травинки часов, камни эпох, — Ноев потоп. Но мы лопатами откидываем тысячелетия, пригоршнями меряем века и пинцетом берём золотую пыль наших дней.

Я не хочу нырять в следующий день. Харон ночи, не перевози на другой берег. Ибо я боюсь своей души, как здоровый — прокажённого. Я не хочу её, как беременная — урода. Мне тяжело, тесно с ней, как двум незнакомым на одной кровати... Но узко ложе времени — не выспаться, — скоро утро.

Жизнь, где мое детство?

«Разве я сторож времени твоему?»

* * *

Любовь — поражает, как копье, пущенное из замковой бойницы. А под рукой трава, и ты — не воин.

* * *

Гобелен лета.

Фланелевый вечер, фонари по-кошачьи расширяют зрачок. Парк. И, как в тихий час в детском саду, шушукаются ветками деревья, не спят. Стрекозы летних сумерек, и вечер спилил тени стволов под ноги — не споткнешься. Шепчешь: «Уйдём, когда звёзды докурят».

* * *

Сёння, як заўжды з 1989-га, ніколі не магу заснуць да раніцы. Кожны год я чую цябе, таму што ты нарадзілася, мая дачушка Дамініка, 5 ліпеня, каля чатырох.

Дачушка мая, мяне не будзе — ты будзешь, і ўнук мой, а потым праўнукі. Ты працяг нашага роду. Дзякуй Богу, што ты ёсць, крывіначка мая адзіная ў маім часе жыцця. Святла табе ў душы і жыцці. Да зберагуць цябе анёлы на ўсіх шляхах тваіх, Дамініка. Ты для мяне заўсёды будзеш дарам Бога, паказаўшым, што я была ў гэтым жыцці.

* * *

В каждом художнике сидит безработный бог — создать мир и населить его по образу и подобию своему. Мы пишем чертежи будущего. Но, как беременная не знает, каков будет её ребенок, и как ребёнок во чреве матери не видит её, — так и мы не знаем лицо следующего дня.

* * *

Ятаганы бананов — вспороть ими брюхо пижамному арбузу с жёлтой проплешиной, туго заплетённые головки яблок с прутиками хвостика, апельсины с лейбом на кожаной ягодице, неостывшие угли гранатов, цыплячьи тельца лимонов и новолуние лунных дынек.

Кошачье мурлыканье хурмы, чёрная икра ежевики, и горбатый урюк, и кожаная курага, инжира лепной вязкий катышек, детский фланелевый абрикос и небритые щёки персиков. Черепашья панцири грецких орехов, фундука бурундучьи щёчки, хитиновые тельца земляных древних термитов и осиные гнёзда кукурузных сот.

Сплюснутый пластилин изюма, младенческие мочки долек мандарина и устрицы молодого миндаля в зелёных бархатных коробочках скорлупы, и кольчуга сот. Ананас увядшим алое в черепичной кладке. Хочется разбить голову плешивому кокосу и выпить сок из его волосатого вымени, как кумыс.

* * *

Витебский вокзал Петербурга — камфарный запах перрона, крытые своды его нефа и огни приближающего поезда двумя свечами. Как из остывающего после выстрела ствола, поднимается сизый дым над воронёными рельсами. Отсыревшие голуби крутятся возле урн, притопнешь на них — откатятся на заводных лапках, не взлетая.

Голуби отсутствуют для неба, как каждый из мятущихся здесь людей отсутствуют для всех и все для него. Они молодо-нервозны, вдыхая неясную тревогу вокзального ветра — движения встречи.

Запах прибывающего времени — и прилив, и отлив — отягощены сладким щекочущим желанием прыжка — первых побегов зелёных веток весной, вырвавшихся из заточения стволов, — запах свободы. И у меня сердце стучит сильно и нервно, как потревоженный сосед в стенку...

* * *

Тарту. Воздух — холст в рамке стволов. Серебряная тишина опоясывает на площади кольцо длинного звука колокола. Невнимательное любопытство прохожих. Незапоминающийся цвет сосен, и дома с простыми окнами — как глаза ненакрашенных эстонок. Ленивые дорожки тартуских горок — с их верблюжьих горбов сбегают деревья, застыв у края каменной стены, — не прыгают вниз — там змейка дороги. В маленьком магазине лежат береты разноцветным веером — черный, серый, сиреневый, хаки, кирпичный, рыжий. Ранняя весна.

На вокзале так по-белорусски вздохнула старая эстонка. Вздох, смех, плач — в любой стране тебе покажутся родными, как слова твоего языка.

Тарту и улица Лай — где тихо гуляют кошки.

* * *

После лёгкого дождя — на улице девушка в голубом — мячиком в ладони вечера. Начало мая, ветки шевелят своими плавниками в белом потоке воздуха, ветер тянет за платье саженец — удрать с уроков, тот слабо сопротивляется, робко моргая молоденькими листочками.

Цветущие вишни сорят белыми фунтиками, разворачивая ягодку к лету. Мокрые вожжи колеи брошены возле небритой поляны. И утро пахнет мягко — сонным ребёнком, и кошачьим шагом ходят тени. Резиновыми игрушками попискивают на тротуарах воробьи, синицы, скворцы. Их тесное теньканье — мне — скрипом мокрой губки по стеклу или весёлых брызг.

Звон, цвет, запах мая проливаются в кожу созревающим солнцем, вдыхается воспоминанием, и, вбирая его, мы опять готовы любить лето.

*****

Тяжелорукие сады лета. Июнь.

Шафранным утром июня будит электрический звонок шмеля на веранде. Лес протягивает стеклянное ожерелье — бьются друг о друга округлые и острые камешки зова щегла, сойки, дрозда, скворца, синицы, и только жаворонок зацепился за небо — сияет утренней звездой его песня зенита.

Еще нет оттенков характера лета. Всё одинаково подростково-лохматое, и густая шерсть травы, и сумбурность отцветших садов — ровно зелено. Лес поляной щедро очертил полынью неба, сбросить ботинки — выпустить ноги из клетки — и босиком побежать по его нежной ласке.

Бабочка-капустница выдранными страницами над лугом, пена нарциссов. Бриз на листву салатовой рябью принёс ветер, он колышет волны садов прохладным шумом моря. Окунаешь голые руки в воздух, как в воду.

Небо прогнулось под ядром гула лайнера. День. Ярко. И течёт открытая нефть теней деревьев. Но небо прячет солнце за рыхлые лифы туч, как шлюха монету с картины Вермеера[1].

Сады котятами зарываются шерстью друг в друга. Вечер. Новолуния проросший росток. Свежая тишина и ревнивый сверчок точит свою пилочку всю ночь для мести: перережет траву, что скрывает его от бабочек.

*****

Тяжелорукие сады лета.

Солнце осело медной пылью в стакане дня, пятнами на заборах, листьях, боках домов. Детский смех на балконе дразнит румяным яблоком, сорвать бы его, — мой давно съеден.

Палисадники, огород — все цвета зелени с мельчайшими оттенками, уже созданное — литьё Бенвенуто Челлини[2]: виноградные листья, огуречные усы-пружинки, хвостики и бомбочки помидоров. Абсолютная жара. Ровная, горячая, как только выдернутый из-под утюга платок. Лежишь в траве, и каждая оторванная точка композиции создает движение — дисгармонию неподвижности — жизнь. Муха, золотая пылинка, сорвавшийся лист, стрекоза, кусок паутинки — движение времени в китайской гравюре. Момент мира в мире.

---

[1] Вермеер Ян Делфтскі (1632–1675), нідэрландскі мастак.

[2] Челліні Бенвенуто (1500–1571), італьянскі скульптар, ювелір, пісьменнік.

*****

Я ушла от тебя, но кажется, все шаги за спиной догоняют — твоими.

Я провожаю взглядом каждую секунду на часах в надежде, что следующая придёт с тобой. Неотрывно смотрю на часы, не чувствую разницу между делениями. Стрелки мои мертвы. И к ним, как Богу, протягиваю руки: принеси, пригони, как штормом к берегу пробку, — тебя ко мне.

Выплёвывают двери метро сотни ненужных слов. Я жду среди них одно: *люблю*, среди всех остальных — тебя.

Когда приходит тот, кого любишь, — из сердца уходит другой.

У времени любви — закон Архимеда.

Но любовь — ноги, где обута одна, а другая стирает собственную кожу, и впереди — длинная дорога.

*****

Дни младенца — блаженны, не ведают, не жаждут Времени, Успеха, Славы, Денег, Детства и Всеглазия почитания.

Не понукай судьбу, как лошадь. Она знает больше нас — мы на ней едем, убивая кнутами вопросов: «Куда! Зачем!» Падаем, сдыхая в собственной грязи со святой уверенностью, что в чужой.

Надежда — лошадь.

Безнадежность — кляча.

Отчаяние — скелет ее.

*****

Стены домов — зимой их каменные пляжи стоят обмелевшим руслом с тиной веток, и ждёшь, когда туда зелёной волной нахлынет в сезон плющ. Море прилежной ученицей перебирает хроматические гаммы по клавишам гальки и песка. Белое море с нежным дном и холодной водой. Открытые груди окошек низких домов. Вечером окунаюсь в спокойный полумрак одиночества, и вдруг рядом возникает чёткий баритон: «Мелочи нет?» Машинально ощупываю карман, — а это на первом этаже коттеджа телевизор ведёт диалог. Зато убедилась — мелочи у меня не было.

*****

Всё отдаётся моим глазам, и они — всему. Мои мысли сеются в пространстве, и оно уходит, полное мною. Я уже окрасила время, и ему не отмыться от меня.

Я — нарцисс у ручья, и каждый его стежок стекает моим отражением. И как после взгляда на небо закрытым глазам остается след золотой раны на черном — негатива солнца, так и я останусь в памяти времени. Оно меня видело.

* * *

Рэзанула па сэрцы: Васіль Сёмуха, — мір праху яго. Светлая памяць. Гэта быў надзвычайны чалавек. Яго пераклады і падручнікі. І я вучылася па іх. Ён так шчыра і пранікнёна падпісаў мне свой пераклад Бібліі, калі мы с бацькам зайшлі да яго ў госці.

Я памятаю, як Уладзімір Караткевіч, Васіль Сёмуха і мой бацька так ярка, эмацыянальна і проста, сур'ёзна і з гумарам, гаварылі ў нас дома, — гэта былі мэтры, зубры, геніі беларускай культуры, і так шкада, што не было тады дыктафонаў, бо ў сяброўскай гутарцы яны з такім хлапецкім задорам падымалі цікавейшыя пытанні. І едка без аглядкі апісвалі якую-небудзь падзею так, што я бачыла цэлы свет іх вачыма, і погляды на мову, культуру і людзей. Гумару і афарызмаў было цераз край. Караткевіч і татка былі каталізатарамі, а Сёмуха — больш павольны.

Даўно было… Прыеду, трэба дома ў кладоўку забрацца; хоць трохі, а дзённікі пісала. Там нават роспіс Караткевіча ёсць, у 78 годзе. Папрасіла, і ён мне напісаў цэлую вясёлую старонку. Мой бацька вельмі паважаў і любіў яго.

Я памятаю Васіля Сёмуху. Яго сумленнае сэрдца, сіла і шчырасць душы і талент лінгвіста. Васіль Сёмуха застанецца гонарам беларускай культуры. Светлая памяць і пакой душы.

* * *

Старики выхватывают взглядом свою касту поколения — остатки её вымершей цивилизации. Годы — вольер, в него загоняешься возрастом словленным зверем. Родник старости не страдает бесплодием, ему не грозит обмеление.

И я вспомнила, что в детстве думала, что кладбище — Кальвария в Минске, это название курорта вроде Карловых Вар. Сказать: я отдыхал на Кальварии, — да не всё ли равно — путать Кальварию с Карловыми Варами или анчоусы с ананасами, когда ты ребенок…

* * *

Іван Барадулін[1] і Майсей Манасзон[2] — мае дзяды, я іх ніколі не бачыла. Дзед Іван загінуў у партызанах, усіх сялян, якія былі кінуты на прарыў, знішчылі. Помнік стаіць. Яны — ляжаць. Майсей — Брэст, гастролі; дубальтоўкі ў руках не было, з скрыпкай узялі ў тэатры музкамедыі, як і астатніх габрэяў. У мяне няма цётак і дзядзькаў, пляменнікаў і пляменніц, і не будзе. Я ніколі не даведаюся, як гэта — мець дзеда. Якія яны былі? Нішто не апраўдвае гвалтоўнае сіроцтва. Перамагчы ВАЙНУ можна

[1] Барадулін Іван Рыгоравіч (1908–1944).
[2] Манасзон Майсей Вульфавіч (1915–1941).

толькі ўсім светам і разам. І ніколі не святкаваць ні пачатак яе, ні канец. Вайна заўсёды — галодная. Мы не павінны памяць яе пасвіць. Мы не для яе пашчы.

* * *

Сегодня день Памяти жертв Холокоста. Одна нация уничтожает другую, считая других микробами, заразой, — и тогда будут здоровыми. Холокост — это уничтожение себе подобных не в обороне за жизнь, просто: мы правильные, а все, кто не такие, — ошибка природы. Врачи человечества — фашисты, они улучшали здоровье человечества и вырезали опухоли национальностей. Евреи. Цыгане. И холокост не кончится — поэтому о нём нужно помнить. Всегда. Фашизм будет всегда голодным и будет хотеть ещё…

* * *

Смерть — единственная правда, в которую ты не веришь. Жизнь так любит нашу молодость, что выпивает залпом, и мы — проигрываем. С годами обращаемся, как ребёнок с найденным кошельком. И вот десять, двадцать, пятьдесят, семьдесят размененных лет. Что приобрёл на них и на что потратил? А время — не мама, новые не даст.

Время. Его эскалатор. В детстве летишь по ходу движения ступенек — и побыстрее их перепрыгиваешь. Потом — стоишь, подъезжая. И в старости пытаешься вернуться назад против течения хода хоть на одну ступеньку вниз, чтобы задержать его скорость.

У нашего детства время — калека, ты его обгоняешь, у нашей старости оно — подросток, не догонишь. Жизнь — просто как шаги, изнурительна, как бег, и невыносима, как стояние. И что ты можешь? Проснувшись, услышать, как хромой сторож часов ковыляет по стеклянному полу. Пожелай ему споткнуться — стрелка ушибёт ногу и пойдёт медленнее.

* * *

На часы мы смотрим, как в глаза всему живому. Это единственный предмет, у которого находим взгляд, поэтому остановившиеся часы называем мертвыми.

Поезд набирал скорость ртутью термометра, состав бряцал уздечкой вагонов. Железный галоп колёс, и ты — нерождённый жеребёнок в брюхе кобылы, тяжело несущей бока. Рыба соседа качается над головой, кадя солёным запахом моря, и ты плывёшь или едешь, куда — не важно. Просто снова чувствуешь себя часовой стрелкой своей жизни, и тиканье маятника поезда делает тебя безмятежно новой. Но как бы сладко тебя не сморило в дороге, тугую спелёнутость разорвёт проводница и выскоблит из утробы вагона на остановке купленного билета.

* * *

Жизнь равняется с мыслью.

Смерть — бесконечна. Но у нас нет времени для бесконечности и некогда её выслушать, проследить край её одежд, как проследить, куда убегает кошка, когда опаздываешь.

Мы носим тяжелый мёд времени, как пчелы в себе, — не пробуя, для какого-то пасечника… И терпим скуку неудачи. Ждём. Терпение — основание пирамиды, когда-нибудь сходится в точку конца, и ложь — что лучше поздно, чем никогда. Бывает так поздно, что получается — никогда.

Человек не знает цену времени, как стоимость билета — кошка. Загробное будущее расчерчено на невыкипаемую смолу или непрекращающуюся нирвану — с чистой детской жадностью — взаправду и навсегда.

# Змест

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Рыгор Іванавіч Барадулін

# Дзённікі і запісы

*Выпуск 11. 2007–2014*

Адказны за выпуск *А. Пашкевіч*
Рэдактар *Н. Давыдзенка*
Тэхнічны рэдактар *Я. Мальдзіс*
Набор *Н. Давыдзенка*
Камп'ютарная вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктары *Н. Давыдзенка, Н. Семашкевіч*

Падпісана ў друк 20.05.2022. Фармат 70×100 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Гарнітура Cambria. Ул.-выд. арк. 10,71.
Ум. друк. арк. 26,57 + 0,42 укл. Наклад 50 асобнікаў. Зак. 17.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя